# Маладосць

**Штомесячны
літаратурна-мастацкі
і грамадска-палітычны
ілюстраваны часопіс**

**(740) ЛІПЕНЬ, 2015**

**Выдаецца з 1953 года**

Галоўны рэдактар
**Святлана Дзмітрыеўна
ДЗЯНІСАВА**

# 7



**www.maladost.lim.by**

**В ы д а в е ц — рэдакцыйна-
выдавецкая ўстанова
«Выдавецкі дом «Звязда»**

**Дырэктар — галоўны рэдактар
КАРЛЮКЕВІЧ Аляксандр
Мікалаевіч**

## У НУМАРЫ:

***Фота і трошкі тэксту*.** Аляксей Карпюк. У працоўным кабінеце . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .3

***Ад рукі*.** Гербарый Жылібера . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .4

***ПРОЗА***

**Эмілія КОМАР.** Апавяданні. *Упершыню ў «Маладосці»* . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 5
**Яўген КАЗАРЦАЎ.** Вярнуць Галатэю. *Апавяданне. Упершыню ў «Маладосці»* . . . . . . . . . . . . . . . . . .9
**Алег ГРУШЭЦКІ.** Жаўнер і вужалка. *Апавяданне. Упершыню ў «Маладосці»* . . . . . . . . . . . . . . . . 15
**Дзмітрый ШУЛЮК.** Апавяданні . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 26
**Марыя ЦІТАРЧУК.** Келіх Гекаты. *Апавяданне* . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 30
**Айцец ЯЎСТАФІЙ (Халіманкоў).** Рымскі сплін. *Апавяданне* . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 41
**Адам ГЛОБУС.** Вільготная папера. *Апавяданне* . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 49
**Мікола КАЛЯДНЫ.** Ільвінае вока. *Аповесць (заканчэнне)* . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 59

***ПАЭЗІЯ***

**Аліна ПАЎЛОЎСКАЯ.** У сонечных праменнях забыцця. *Вершы. Упершыню ў «Маладосці»* . . . . 12
**Вікторыя СМОЛКА.** Вясна майго дзяцінства. *Вершы. Упершыню ў «Маладосці»* . . . . . . . . . . . . . 23
**Айцец ЯЎСТАФІЙ (Халіманкоў).** Беларускае галашэнне . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 47
**Рамонкавы світанак.** *Вершы* . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 53

***ПЕРАКЛАДЫ***

**O. Henry** . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 97

***КРЫТЫКА***

***Крытыка*. Руслан КАЗЛОЎСКІ.** Да скону дзён... . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .114

***Рэцэнзія*. Арцём КАВАЛЕЎСКІ.** Калейдаскопна-вітражная проза Зміцера Баяровіча . . . . . . .118

***Абставіны месца і часу*. Віктар САЯПІН.** Моладзевая субкультура Гродна 1960—1970-х . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .120

***ПУБЛІЦЫСТЫКА***

***ГістфакТ*. Алесь ПЕРАГУДАЎ, Мікіта КАРАНКЕВІЧ.** Вандроўка ў гісторыю Каложы . . . .132

***ГістфакТ*. Андрэй ВАШКЕВІЧ, Яўген МАХНАЧ.** У цішыні музейнай залы . . . . . . . . . . . . . .134

***Тэма*. Юрый ГАРДЗЕЕЎ.** Вуліцамі горада, якога няма . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .140

***Абставіны месца і часу*. Яўген ЦІШЧАНКА.** Першыя крокі міласэрнасці . . . . . . . . . . . . . . .146

***Абставіны месца і часу*. Аксана ВАРАТНІКОВА.** Матэматыка Гародні . . . . . . . . . . . . . . . . .150

***Абставіны месца і часу*. Уладзімір МАЗГО.** Вандроўка на кірмаш . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .152



*Старшыня Гродзенскага абласнога аддзялення Саюза пісьменнікаў БССР Аляксей Карпюк у рабочым кабінеце. 1980-я. Гэтае фота з архіва сям'і пісьменніка прадастаўлена гродзенскім гісторыкам Віктарам Саяпіным, артыкулы якога, прысвечаныя моладзевай субкультуры Гродна і традыцыям святкавання Новага года ў савецкі час, «М» надрукуе ў бліжэйшых нумарах.*


FES . . . . . . phenicoides · Linn · mant ·
gram · marit · spica loliacea fol · pungentibus · pluk. tab. 33 · f · 4 ·
gram · spicat · pungens oceanicum · c. b. hist ·
gram · marit · spicat · fol · mucronatis, spica secalina · c. b. pin · mag · Bot
gram · marit · acutissim · fol · pungentibus, arundinaceum · c. b. pin ·
gram · phoenic · foliis convolutis · mag · Bot · 120 · c. b. hist · 2 · 477 ·
festuca spiculis alternis & Gerard · gallo p · tab · f · 2 · pag · 93 ·
gram · spart · spicatum fol · mucronatis vel spica secalina · c. b. pin ·
ad festucas refert linnaeus · sist · nat · mantiss ·
gram · corniculatum marit · supinum spica crassiore · Tour · seguier ·


Car . . .
cirsium folio laciniato nigrius · J. B. hist · tom 3 · 43 · . .
haller 677 · n° 4 · ed. 1a
nota · ex bauhino,, synonymum bauhini pertinet ad
card · leucographum . . in morissone ad carduum
tuberosum . C. B. · seu acanthus sylvestris dolech ·
vide moriss · tom · 3 · pag · 151 n° 28 cujus descriptio quadrat.

*На вокладцы гэтага нумара намаляваны партрэт не знакамітага беларуса, а беларускага доктара з Францыі — Жана Эмануэля Жылібера. Яго Herbarium Grodnense — гэта найвыбітнейшая з прац: 2360 экзэмпляраў мхоў, лішайнікаў, водарасцяў і кветкавых раслін, сабраных у ваколіцах Гародні, размешчаны на 2356 лістах у 14 папках, падпісаны рукою самога прафесара. Вось яна — на прадстаўленых тут сканах.*

*Эмілія КОМАР*

# АПАВЯДАННІ



***Эмілія Комар нарадзілася 13 снежня 1993 года ў вёсцы Бабраўнікі Астравецкага раёна. Вучыцца на журналіста ў ГрДУ імя Янкі Купалы. Захапляецца адзінаборствамі, натхняецца падарожжамі, загартоўваецца маржаваннем.***

## ГРУШКА

Скрыўленая на бок хата стаяла адна, нібы пакінутая сіротка, на ўзлессі за некалькі соцень метраў ад невялікай вёскі. Маленькая, са старых бярвёнаў, яна дажывала свой доўгі век як пустэльніца, адна-адзінюткая. Яе гаспадыня, такая ж старая і ўсімі забытая бабуля, жыла ў ёй больш за паўсотню гадоў. Дзеці параз'язджаліся па свеце, а з былой гаспадаркі толькі і засталіся, што пара курэй ды кволы стары певень. Гарода ўжо некалькі гадоў не трымала, бо на тое не было колішніх сіл. І толькі ля самай хаціны стаяла грушка — адзіная родная душа бабулі. Яна кожнае лета давала добры ўраджай смачных пладоў. На лавачцы, каля грушкі, старая і праводзіла амаль увесь свой час, седзячы ды нешта гаворачы гэтаму дрэву. Часта паглядала на верхавіну ды цяжка ўздыхала. Грушка была для яе даражэйшай за ўсё, што толькі засталося; здавалася, што яна лавіла і разумела, кожнае слова старой, а ў адказ, часам, шапацела лісцем…

У вёсцы бабулю не іначай, як чараўніцай або вядзьмаркай не звалі; ніхто нават дакладна не памятаў яе імя. Чамусьці лічылася, што яна займаецца вядзьмарствам, рознымі чарамі, знарок накладае праклёны, наводзіць псоту… Таму ягады і грыбы мясцовыя ў тым баку не збіралі, бо лічылі іх сапсаванымі, ядавітымі. Да хаты старой ніхто не набліжаўся, а калі бабуля выходзіла да аўталаўкі, што прыязджала ў вёску два разы на тыдзень, то яе абыходзілі бокам, цураліся. І толькі адзін чалавек, прадавец аўталаўкі, вітаўся з бабуляй, гаварыў ветліва і проста. Раней, калі была яна крыху маладзейшай, аднавяскоўцы заўсёды імкнуліся яе абразіць, зневажалі, хаця і пабойваліся. Цяпер усе неяк звыкліся, не так звярталі ўвагу, проста моўчкі не любілі, а былі і такія, хто адкрыта ненавідзеў, думаючы, што прычынай усіх вясковых няшчасцяў была яна, вядзьмарка…

І ніводзін чалавек не памятаў, што быў час, калі яна ратавала хворых, дапамагала цяжарным, лячыла хатнюю скаціну, збірала травы, сушыла, рабіла з іх лекі і аддавала ўсім, хто прасіў… Не памятаў ніхто і пра тое, што на

вайне загінуў муж, што дзеці даўно выракліся роднай хаты і павыязджалі хто куды, забыўшыся на свае карані, маці, зямлю... Людзі памяталі толькі адно: нібыта яна забіла дзіця. Хаця ніхто дакладна не ведаў, як тое было, ніхто не ведаў, што дзіця памерла, не нарадзіўшыся, што мелася толькі адно выйсце: ці маці, якая павінна была нарадзіць, ці дзіця, якое мусіла нарадзіцца. Старая пакінула ў жывых жанчыну, бо ў той было яшчэ чацвёра, якіх гадавала адна, без мужа. Ніхто не ведаў, але ўсе гаварылі і праклiналі…

На пачатку восені, калі надышла пара збіраць садавіну, вясковыя дзеці залезлі на бабуліну грушку, абламалі сукі, паабтрасалі ўсё, паабіралі грушкі, зламалі лаўку, што стаяла побач, разбілі маленькае акенца ў сенцах ды паразбягаліся. Для іх гэта была забава, нядобрая, але ўсяго толькі забава. А бабуля…

У чацвер, як заўсёды, прыехала аўталаўка. Добры дзядзька Мар’ян, прадавец, не заўважыўшы старой, запытаўся пра яе ў вясковых. У адказ прагучала незадаволенае:

— Дык памерла старая, няма больш, яшчэ і грошы з нас збіралі, каб іх чэрці, на пахаванне…

Вясной грушка не зацвіла.

## АХВЯРА ЛЮБЕКА

***Заснавана на рэальных падзеях***

Любек. Прыгожа-жудасны сярэднявечны германскі горад. Цёмна-таямнічы, загадкава-прыцягальны, зачаравана-фантастычны. Вузкія звілістыя вуліцы. Пераважна чырвоныя цагляныя будынкі. Горад гэты ніколі не спіць. Найбольш яскрава выступаюць высокія замкавыя вежы і сцены. Іх так шмат! Бачная ратуша, новы сабор, выглядаюць цэрквы… Маўклівая поўня асвятляе гэтую чароўную прыгажосць і не дазваляе заплюшчыць вочы ні на імгненне. Шчымліва-боязна і неяк мітуслíва сціскаецца сэрца. Цёмнае неба з дзіўным барвовым водбліскам пасыпана зусім дробнымі, ледзь бачнымі кропкамі-зоркамі… А ў паветры вітае пах крыві. Чалавечай крыві і страху. Страху смерці і немінучага знікнення ў небыццё…

Адкуль жа ён, гэты салодкі водар смерці? Чыя кроў пралілася на заходзе сонца?

…Трыма-чатырма гадзінамі раней угору цяжкім поступам павольна ішла сямнаццацігадовая Маргарыта Грым. Звязаныя моцнымі вяроўкамі рукі, збітыя тонкія ступні, пакутны выраз твару, бяздольнае маладое цела і вялізныя вочы. Гарачыя, дзікія, нібы ў звера, але ўжо пустыя... Яна крочыла басанож, апусціўшы долу галаву, і ніхто з тых, хто ішоў вакол, больш не мог разгледзець яе былой вытанчанасці і жаночай прывабнасці. Цемра павольна ахінала Любек, складана было хоць штосьці разгледзець.

Маргарыту Грым абвінавацілі ў збыце фальшывых талераў. Было ці не было тое насамрэч, справядлівае ці не абвінавачванне — назаўсёды застанецца таямніцай гісторыі. Адным са шматлікіх сакрэтаў, пакрытых цемрай стагоддзяў.

Людзі, маўклівыя, але ўзбураныя хуткай падзеяй — катаваннем-пакараннем маладой Грым, — крочылі за ёй на лобнае месца: высокі каменны памост, а на ім — тры каменныя слупы, злучаныя наверсе папярочнымі драўлянымі бэлькамі. Гэта

месца, дзе чвартуюць, абезгалоўліваюць, вешаюць, паляць на вогнішчы і іншымі жудаснымі спосабамі пазбаўляюць людзей жыцця.

Пакутніцы быў падрыхтаваны балючы і павольны від смяротнага пакарання. Ён быў не так распаўсюджаны, як іншыя, але яго выкарыстоўвалі на працягу дзвюх тысяч гадоў. Зварванне жыўцом у кіпячай смале. Так рабілі паводле законаў Ганзы з фальшываманетчыкамі.

Яна ведала, што яе чакае. Надзеі ў чуллівым маладым сэрцы не заставалася, вочы патухлі… І гэта здарылася.

Улетку 1456 года нават жыхары ўскраін Любека чулі прынізлівы, апантаны, нечалавечы крык. Крык быццам нежывой істоты, які доўжыўся, здавалася, толькі імгненне. Крык Маргарыты Грым, зваранай у катле з кіпячай смалой. І гэта не была літасціва-жудасная смерць: дзяўчына не страціла імгнення прытомнасць ад балявога шоку. Яе, даведзеную да ўтрапёнасці, вар'яцтва, павольна апускалі ў кацёл. Падвешанае цела варылася паступова, на працягу бясконца доўгіх гадзін. Некалькі разоў яе падымалі і аблівалі халоднай вадой. Тады мяса пачало адставаць ад касцей, але яна — ужо не яна — была ўсё яшчэ жывая. Спачатку — да калена, потым — да пояса, грудзей, і, нарэшце, — да шыі. Дзясяткі пар вачэй больш за гадзіну назіралі гэтае жахлівае відовішча.

А ў паветры усё вітаў пах крыві… Чалавечай крыві і страху. Страху смерці і немінучага знікнення ў небыццё…

Адкуль жа ён, гэта салодкі водар смерці? Чыя кроў спынілася на заходзе сонца?

Кроў маладой Маргарыты Грым, над якой не злітаваўся прыгожа-жудасны сярэднявечны германскі горад. Горад Любек.

## ПАЛЯВАННЕ

Сонца ўжо зайшло.

Немалады ляснік сядзеў каля печы і выкурваў ужо якую па ліку цыгарэту, запаўняючы малы пакойчык непрыемна-едкім дымам. Ён быў сутулым, няголеным мужчынам гадоў пад сорак, з доўгімі нястрыжанымі валасамі. Знешняе аблічча надавала яму нейкай суровасці. Грозны, маўклівы, ён жыў на хутары ўжо шмат гадоў. Сёння чалавек гэты выглядаў яшчэ больш грозным, усё думаў пра нешта сваё…

Пра тое, што ўжо які дзень нехта рыў невялікі кавалачак зямлі за леснічоўкай. Ён здагадваўся, што гэта дзік, але ўсё ж не мог уцяміць, як тут магла аказацца гэтая жывёла. З пасляваеннага часу дзікі ў лесе зніклі. Так казалі ўсе.

Ён кінуў кароткі позірк на гадзіннік: амаль адзінаццаць. Узяў стрэльбу, памацаў патранташ, пастукаў кожны патрон, узяў два, набітыя ім жа самім, і ўставіў у стрэльбу. Накінуў ватоўку, абуў боты і выйшаў з хаты.

Ляснік схаваўся за куст каля гарода і пачаў чакаць. Ён не быў упэўненым, што дзік прыйдзе менавіта ў гэты час, але нейкае шостае пачуццё яму падказала, што ўсё павінна здарыцца сёння…

Гадзіны праз паўтары ляснік улавіў незразумелыя гукі, насцярожыўся. Яшчэ праз некалькі хвілін убачыў дзіка. Жывёліна набліжалася, усё мацней былі чутны гукі: ці то фырканне, ці то рохканне. Дзік падышоў да агарода і пачаў рыць.

Сэрца лесніка білася хутка, з хваляваннем і бояззю. Метры за чатыры ад яго стаяла жывёліна. Было цёмна, але сілуэт дзіка быў добра бачны. Ляснік прыцэліўся, зглытнуў і… Ба-ах!

Стрэл парушыў цішыню, лес загудзеў. Дзік заенчыў, заціх на некалькі секунд — і даўся прэч у лес.

Ляснік не быў упэўнены, што пацэліў, але за дзіком у лес ісці пабаяўся. Падумаў, што агледзіць месца раніцай.

Зранку дыхалася лёгка і прыемна. Без дай прычыны настрой быў добрым. Усё здавалася прыгожым, па-вясноваму ўтульным, родным. Хацелася жыць…

Ляснік выйшаў з леснічоўкі і накіраваўся да ўчарашняга месца «бою». Так… Вось перарытая зямля… Сляды… Далей — прытаптаная трава… Трыпутнік… На лістах — кроў… Пайшоў далей лес… І раптам ляснік убачыў між кустоў і старых сукоў дзіка… Ды не аднаго — двух.

На галлі ляжаў забіты дзік — ён паспеў прайсці па лесе метраў пяць. А над ім стаяў яшчэ адзін… У вачах лесніка з'явіўся туман. Гэта немагчыма! Дзік, які стаяў над памерлым суродзічам, падняў маленькія вочы, адчуўшы прысутнасць чалавека, і паглядзеў у вочы лесніка. Што гэта быў за позірк... На нейкую хвіліну ляснік падумаў, што сніць сон. Не можа такога быць, не можа дзікая жывёліна глядзець позіркам, напоўненым болем, гневам, адчаем.

Гэты позірк доўжыўся долі секунды, а чалавеку здалося, што ён глядзеў у вочы дзіку цэлую вечнасць…

Дзік крута развярнуўся і кінуўся ў глыб лесу.

А ляснік стаяў нерухома, як паралізаваны. Затым адважыўся падысці бліжэй… І ўжо метры за два ён зразумеў, што забіў не секача, а самку…

Закружылася галава, ногі зрабіліся ватнымі... Раптам стала вельмі няўтульна ў гэтым лесе, у гэтым жыцці. Хацелася як мага хутчэй пайсці: без розніцы — куды, толькі, каб не заставацца на гэтым дзікім, мёртвым месцы. Вочы самі падняліся ў неба. Яно стала шэрым. І жудасная цішыня, пустата запоўнілі сэрца.

«Што я нарабіў?» — пранеслася ў думках.

«Што ты нарабіў…» — прашумеў лес.

*Яўген КАЗАРЦАЎ*

# ВЯРНУЦЬ ГАЛАТЭЮ

***«Мы б ніколі нічога не зрабілі, калі б разумелі, што робім»***

Бернард Шоу, «Пігмаліён».



***Яўген Казарцаў нарадзіўся 18 лютага 1992 года ў Мінску. Скончыў Інстытут журналістыкі БДУ. Піша з дзяцінства, бо ідэі і тэмы самі прыходзяць у галаву і з імі нельга зрабіць нічога іншага, акрамя як запісаць. Любіць падарожнічаць — асабліва ў Санкт-Пецярбург, дзе і дыхаць лягчэй, і танцаваць.***

Галатэя знікла.

Мая цудоўная Галатэя, мой агонь, мой сон, захапленне і паветра. Мая шэрань на акне, мае ластаўкі, маё воблака і маё дыханне.

Спачатку было так: я лётаў у Амерыку, блукаў крывымі вуліцамі шумных гарадоў, шукаў для яе капялюшыкі, сумачкі, туфлікі, кніжкі, старыя фатаграфіі яе любімых акцёраў, сродак для паліроўкі і яе любімыя нэцкэ, якіх мая родная Галатэя называла сваімі дзецьмі. Ах, як яна лётала над імі, здзьмувала кожную пылінку, з сумневам перастаўляла з месца на месца і кожную нядзелю выстаўляла на балкон — каб яны падыхалі паветрам, паглядзелі на сонца і паслухалі спевы птушак.

І вось я вярнуўся, кінуў валізкі сабе на ногі, скуголіў ад болю і ад невыноснасці расстання, ад яшчэ большай невыноснасці таго, што секунда — і расстанне гэтае скончыцца. Адчыніў дзверы. Агледзеўся. Галатэі не было.

Дома нічога не змянілася. Спачатку я так падумаў. У куце пакоя на старых газетах — мармуровая дробка. На вокнах — цюль. Над ложкам — партрэт нейкага французскага філосафа. Прозвішча яго чымсьці нагадвае слова «Русь», але я дакладна не памятаю. Не змянілася нічога. Акрамя таго, што дома не было Галатэі. І нэцкэ зніклі. І спеваў птушак больш не было чуваць — раптам пачалася зіма, у вокны біў вецер.

Мая родная, цудоўная, любімая Галатэя! Як я кахаў яе. Як умеў: адчайна, з усіх сіл, кожным поглядам і жэстам. Дзіўна. З таго самага моманту, як сустрэў яе.

О, тады яна была толькі глыбай мармуру, халоднай і звычайнай, але па-свойму выдатнай. І гэтую глыбу, дарэчы, я таксама прывёз з Амерыкі. З ёй я ляцеў над халоднай Атлантыкай, абдымаў і лашчыў, прыціскаў да сябе і ўжо бачыў, як раблю яе, Галатэю. А да гэтага я не мог адвесці ад яе вачэй у нейкім маленькім мястэчку,

дзе чалавек па імені Джо, стары п'яніца, расхвальваў мармур. «Паглядзіце, — казаў ён, — з яго можна зрабіць і тры помнікі, ды яшчэ на вазачку для праху хопіць!»

Якое блюзнерства! Як можна было так казаць пра гэтую выдатную застылую беласць, ад якой я не мог адарвацца, якая вабіла мяне да сябе, быццам бы крычала пра тое, каб я ўзяў і павёз яе адсюль, пагрузіў на самалёт і даў прытулак у сябе, выбавіў ад долі станавіцца помнікамі, скрынямі для праху або, яшчэ горш, пліткай у холе ўніверсітэта.

Не пытайцеся ў мяне, чаму я ляцеў за блізкі свет і вярнуўся з глыбай мармуру. Я не ведаю. Можа, я ўжо тады адчуваў, што здабуду сваё адзінае і галоўнае шчасце ў гэтым свеце — сваю цудоўную Галатэю.

Сем тыдняў, дзень і ноч я працаваў над ёй. Я ўкладваў усю сваю любоў, усю магчымую пяшчоту сваіх агрубелых рук і вызваляў з гэтай груды яе. З кожнай хвілінай яна станавілася ўсё больш цудоўнай. Праступілі вялікія спакойныя вочы, пульхныя вусны, росчыркі броваў і трохі непрапарцыйны нос. У гэтым усім яна была дасканалай. І рукі яе, і ногі, і грудзі, і жорсткія валасы, і радзімка за вухам.

Неўзабаве яна ўжо сядзела побач са мной, мы гутарылі гадзінамі, днямі, тыднямі, месяцамі. Зрэдку яна кідала туманны погляд за акно, а потым зноў глядзела толькі на мяне. Часам, калі я працаваў, яна чытала, разважала пра мастацтва, спасцігала гэты свет. Ад груды, з якой я ляцеў над акіянам, не засталося і следу. Вось сядзела яна, мая родная, распавядала мне пра фільмы Гадара, карціны Урубеля і, трохі чырванеючы, пра работы Радэна.

Я хадзіў для яе ў бібліятэку і прыносіў стосы кніг: філасофія, гісторыя, мастацтва, палітыка. У іх я не разумеў нічога, але мне і не трэба было разумець. Я ведаў толькі тое, што ў мяне ёсць мая цудоўная Галатэя, і што гэта цікава мне. Значыць, так трэба. Я купляў ёй нэцкэ, прыгожае адзенне, рэдкія выданні яе любімых кніг, капялюшыкі з кветкамі, рэдкіх птушак і шакаладныя яйкі з сюрпрызамі.

З маёй Галатэяй мы жылі вось так.

А потым яна прапала.

Не памятаю, колькі бедаваў. Дзень, два, тыдзень, месяц, год — час нічога не значыць, калі яго няма з кім падзяліць. Я плакаў, біў сцены і выціраў бруднымі сурвэткамі кроў з пальцаў, шукаў яе па ўсім горадзе, прасіў птушак зноў пачаць спяваць, а снег перастаць ісці. Але не, я быў бяссільны, нічога не атрымлівалася. Ніхто мяне не слухаў, а Галатэя не знаходзілася.

Пазней я адшукаў яе запіску. Зразумела, чаму ўбачыў не адразу: яна была закладзена ў кнізе пра нейкага Атланта. Гэта была яе кніга, і яна ведала, што я да яе не адчуваю цікаўнасці, але ўсё адно паклала запіску туды. Маленькі бірузовы лісток, ледзь надарваны, і чорнымі чарнiламі: «Прабач, я больш не магу, бывай».

І ні намёку, ні слова, нават выпадковай памылкі, якія сказалі б мне, дзе мая Галатэя. Дзе ж яна? Раз я не ведаю, значыць, напэўна, яна нідзе. Або ўсюды. Таму што я ўсюды бачыў яе вобраз, кожнае імгненне ўспамінаў усмешку і цалаваў у думках бровы.

Можа быць, яна вярнулася на радзіму? Раптам яна ўспомніла пра той маленькі гарадок, пра старога п'яніцу Джо, ад якога пахла кашацінай, пра цёмны свіран, дзе калісьці стаяла. І вырашыла вярнуцца туды. І размінулася са мной самалётамі, сабрала свае любімыя лялькі, капялюшыкі і паляцела дадому? Туды, дзе была раней. Туды, дзе глыбай стаяла пасля таго, як прывезлі яе аднекуль з-пад зямлі і да таго, як я стварыў яе і назваў імем Нерэіды.

Але ў мяне была адна-адзіная Галатэя. І як у Нептуна адзіны спадарожнік — Галатэя, так і яна была маім адзіным спадарожнікам. Шчасцем, цудам, радасцю і ўсмешкай скрозь слёзы. А я быў кім?

Я думаў пра гэта і збіраў валізкі, укладваў туды свае кашулі і нататнікі. Думаў і калі ляцеў над акіянам, і калі на старым цягніку ехаў у той самы гарадок, і калі заходзіў у той самы свіран ды адчуваў пах кашаціны і таннага пойла.

Але Галатэі там не было. Уласна, як і ўсюды. Бо яна была нідзе.

Былі там толькі жудасны пах, цемра і яшчэ адна глыба мармуру. Ён быў цямнейшым, з парай трэшчынак, і ў каменнай роўнядзі яго не было святла месяца, як у той глыбе, з якой з'явілася Галатэя. Але я набыў гэты мармур. Хацеў зрабіць з яго пару помнікаў, скрыняў для праху і, можа, попельніцу для пераборлівых багатых дам. І тады я змог бы зарабіць на далейшыя пошукі сваёй Галатэі, а потым і на новыя капялюшыкі, нэцкэ, кнігі, сукенкі і партрэты філосафаў.

Вяртацца дадому з гэтым танным амерыканскім мармурам было страшна. Я амаль не спаў, а толькі глядзеў у ілюмінатары, дзе ў кожным воблаку бачыў вобраз сваёй дарогай згубы.

І вось я дома, і з абутку майго сцякае бруд у пярэднім пакоі, і на паліто растаюць сняжынкі. А я ўзяў прылады, падышоў да глыбы і пачаў працаваць. Удары былі жорсткімі, я не думаў над кожным уздыхам. Мае рукі былі скатаваны, я нічога не бачыў з-за аблокаў мармуровага пылу.

Нарэшце пыл пачаў асядаць, я апусціў скрываўленыя рукі і паглядзеў на плён сваіх доўгіх пакут.

І там была яна.

Не, не Галатэя.

Я яшчэ не спытаў імя той, што з'явілася перада мной, хоць і павінна была па задуме стаць толькі помнікамі, скрынямі і попельніцамі. Але мне адразу здалося, што вось яна — тут і цяпер. А Галатэя — гэта тады і нідзе.

І птушкі пачалі спяваць, і партрэты філосафаў паляцелі на сметнік, і патрэбны былі ёй не капялюшыкі, а я.

*Аліна* ПАЎЛОЎСКАЯ

# У СОНЕЧНЫХ ПРАМЕННЯХ ЗАБЫЦЦЯ



***Аліна Паўлоўская нарадзілася 5 кастрычніка 1995 года ў Гродне. Студэнтка 2 курса філфака ГрДУ імя Я. Купалы. Любіць услухоўвацца ў важкую ціішыню каменных будынкаў, карміць галубоў і ўяўляць сябе такой, як яны — лёгкай і бесклапотнай, вольнай да адзіноты...***

* * *

Крылом засланіўшы паветра,
Забраўшы магутнае слова,
Удалеч ляцела па ветры
Упэўненасць, першааснова.

Яна адышла нечакана,
Як людзі заўжды адыходзяць.
А мне засталіся заганы
Ды гэта нікчэмная споведзь.

Нашто маё хворае сэрца
Пакінула вера, надзея?..
Не ведаюць гэтага й чэрці...
Навокал спявае завея...

* * *

Ты пайшоў — адразу пахаладнела.
Ты пайшоў — і хутка пасыпаў снег.
Я цябе на Святы прасіла ў неба.
А нябёсы ўзнялі мяне на смех.

Ты пайшоў — і свет пераблытаў фарбы.
Ты пайшоў — і, белы, ён пачарнеў.
Ты пайшоў. А мне засталася ганьба.
І мяне заплямiў сусвету гнеў.

Ты пайшоў упэўнена, па-англійску.
За плячмі — дарогі і шмат гадоў.
Ты пайшоў. Ды вера са мною, блізка:
Нас світанак новы заручыць зноў.

## ВЯДЗЬМАРКА

Апоўначы ўзялі маланкі кросны
І бліскамі расшылі небасхіл.
А маладзік, нібыта бацька хросны,
Каханкаў пад вярбою прытуліў.

Пакуль дрыжалі зоркі з перапуду,
А дрэвы закалыхвалі лісцё,
Пяркунас, коней хлешчучы папругай,
Жагнаў на ноч паснулае жыццё.

А недзе на рацэ ў суседняй вёсцы,
Ля млына, што прасейвае ваду,
Дзяўчына расплятала чорны косы
І грэбенем вычэсвала нуду:

«Устану я, прачнуся на світанні
І выйду не варотамі ў лясок.
Няхай мяне палюбіць мой каханы,
Раб божы, ненаглядны Васілёк...

Як возера мутнее да балота
І рэкі высыхаюць без дажджоў,
Няхай яго атульвае самота
І да мяне вядзе хутчэй дамоў.

Няхай ён не знаходзіць супакою,
Хай сніць мяне штоночы назнарок,
І толькі у маіх вачах — спатоля.
І гэтым словам — ключык і замок!»

Сцішэла непрыкметна неяк бура.
Над вёскай расплываецца журба…
Твар хлопца стаў задумлівы, пахмурны,
І больш яго не вабіла вярба...

## ПАСЛЯ ПРАЧЫТАННЯ «СПОВЕДЗІ» ЛАРЫСЫ ГЕНІЮШ

*Памяці заступніцы пакутнай,*
*Маці ненароджаных сыноў,*
*На вякі Радзімаю прыкутай*
*За сваю адданую любоў!..*

Не чакай ты літасці ад мяне:
Маю абяздоленых цэлы край!
Маё сэрца цяжкае не скране
Ні малітва слёзная, ні адчай.
Не глядзі дакорліва: я раба…
Волі пераможаным не даюць.
У самоце скіне лісцё вярба…
З шапаценнем падае «Беларусь!..»

* * *

А я чакала й верыла табе.
Малілася за нас начамі зорам.
А гэта — проста грушы на вярбе,
Гвалтоўна абарваныя на сорам.

А я табе ўсё сваё жыццё
Гатовая была аддаць задарам.
Каб разам акунуцца ў небыццё.
І захлынуцца хвалямі пажару...

А я была гатовая на ўсё.
Я верыла табе. І ўсё чакала.
А ты мяне адкінуў, як рыззё.
І я рыззём ля ног тваіх упала...

* * *

Хаваюся
У вершах.
Ад жыцця.
Сцяжынай, пратаптанаю на неба,
У сонечных праменнях забыцця
Я крочу. А у жменях — луста хлеба.

І хлеб той не
Звычайны,
Не
Людскі.
Той хлеб — маё
Сумленне і пакора.
А навакол зыбучыя пяскі
Ласкаюць мае ногі шэптам мора.

Іду наверх. Ды долу — мой пагляд.
Чакае мяне што? І як сустрэнуць?
Магчыма, баль наладзяць, маскарад…
А мо па мне ўжо спяваюць трэнас?..

Іду наверх. А думкі камнем ўніз
На шыі — да
Пагрозлівага мора…
Мой сонечны прамень
Капрыз
Прывёў мяне
Да
Наваселля
Гора…

* * *

Сямёра не чакаюць аднаго.
А я свайго адзінага чакаю,
З далёкіх пераплеценых дарог,
Як жорава з самотнага выраю.

Чакаю, бы матуля-Беларусь
Чакае падарожжамі стамлёных...
І рассцілаю ранішні абрус
Ля сходаў, гаманою заімглёных.

Чакаю, як чакаюць нежывых.
З бязглуздаю, ды ўсё ж такі надзеяй,
Што некалі Усемагутны слых
Пачуе маё сплаканае: «Дзе ён?..»

* * *

Якое шчасце — сустрэць свой лёс
На ціхіх вуліц перапляценні,
Не пакідаючы нават ценю,
Кружляць над дахам сямі нябёс.

Якое шчасце цябе знайсці
Пад старым клёнам у цішы маёвай
І пад завесаю паркалёвай
Ссівелым попелам адцвісці...

Якое шчасце спазнаць жыццё
З табою побач. Сысці бясследна.
Пайсці да Адама на абедню
І захінуцца ў забыццё.

*Алег ГРУШЭЦКІ*

# ЖАЎНЕР І ВУЖАЛКА



***Алег Грушэцкі нарадзіўся 8 мая 1974 года ў Мінску. Па адукацыі менеджар-прадпрымальнік. Аўтар шэрагу літаратуразнаўчых і біяграфічных артыкулаў. Захапляецца беларускім фальклорам і генеалогіяй беларускай шляхты. Бацька траіх дзяцей. Пасля нараджэння трэцяга дзіцяці пачаў пісаць казкі і фэнтэзі.***

Вяртаецца жаўнер з вайны дадому, задаволены ідзе, шчаслівы. І цэлы-жывы застаўся, і родных хутка пабачыць. Ідзе, песню бравую напявае, медаль на грудзях блішчыць.

А дарога да роднай вёскі ляжыць праз балота. Ды гэтакае вялікае, што і за дзень не абысці. Паглядзеў ён — балота як балота, не топкае, імхом парослае. Толькі зрэдку лужынкі, як брудныя акенцы, на зямлі ляжаць. Падумаў службовец, пачухаў патыліцу, ды і пайшоў напрасткі. Амаль усё балота перайшоў, ажно бачыць — на ўскрайку дуб стаіць. Дуб сабе як дуб, ды, здаецца, нешта рухаецца на ім. Галіны — не галіны, не падобна на іх. Бы нехта сядзіць на дрэве.

Наблізіўся жаўнер, угледзеўся, бачыць — а на галінах таго дуба вужалкі-гарэзніцы паселі, хвасты свае звесілі, матляюць імі ды шчабечуць аб нечым сваім. Яго нават і не заўважаюць. Не чакаюць, пэўна, што нехта з боку балота ісці можа.

«Вось дык дзіва! — думае сабе жаўнер. — Усе, як адна, прыгажуні — даўгія валасы на ветры развяваюцца, дарагія залатыя завушніцы і шыкоўныя каралі на сонцы блішчаць, цяжкія бранзалеты на руках».

Не бачыў ён вужалак яшчэ ніколі ў жыцці, толькі байкі пра іх ад старых чуў. І так жаўнер на іх загледзеўся, што не заўважыў, як уваліўся ў багну. Ды так засмактала яго, што ногі выцягнуць не можа. Разумее, што не вылезці самому — патоне.

— Дапамажыце хто-небудзь, тану! Ратуйце! — пачаў ён зваць на дапамогу.

Убачылі яго вужалкі ды разгубіліся. А багна ўсё больш зацягвае. На яго шчасце, адна з вужалак сцяміла, што да чаго, саскочыла з дрэва ды кінулася яму на дапамогу. Падпаўзае і хвост яму працягвае. А багна ўжо да горла ўцягнула, толькі рукі ды галава і засталіся над паверхняй.

Ухапіўся ён за хвост, і пачала яго вужалка цягнуць, што ёсць моцы. Тут і сёстры яе апамяталіся ды прыйшлі на дапамогу. Каб не тая вужалка — патануў бы наш жаўнер. Вайну прайшоў, а дадому б так і не дайшоў.

Выцягнулі! Устае ён, атрасаецца і ў вочы сваёй выратавальніцы глядзіць. І як убачыў яе вочы — нікога наво-

кал адразу не стала; патануў ён не ў балоце, дык у тых вачах. Закахаўся жаўнер у вужалку з першага погляду. Падае перад ёй на калені і дзякуе за ратаванне.

— Дзякую табе, мая ратавальніца. Каб не ты — не жыць мне болей на белым свеце.

— Што ты, служака, устань. Досыць табе ўжо. Не магла цябе ў бядзе пакінуць, няправільна гэта.

Падняла яна жаўнера з кален і кажа:

— Хадзі дадому, толькі будзь больш уважлівым.

Падзякаваў ён яшчэ раз ды адправіўся ў далейшы шлях. Але бачыць: змей у траве — проста безліч. Спужаўся ён, хоць і ваяр. Ды крыкнула вужалка ім расступіцца. Паслухаліся яе змеі, далі жаўнеру дарогу. Здзівіўся ён, але пайшоў. А гэта слугі Вужынага Караля былі, дачок яго, вужалак, ахоўвалі ад няпрошаных гасцей.

Прыйшоў урэшце жаўнер дадому. Радасна яго сустрэлі, стол накрылі, адсвяткавалі. Але дзень праходзіць, другі, трэці, а не можа ён ніяк тую вужалку забыць. Так і стаіць яна ў яго перад вачыма, як насланнё. Толькі пра яе і думае дзень пры дні. Яму б жыць ды цешыцца, што дадому з вайны вярнуўся, а ён усё пра тую вужалку думае. Змучыўся і змарнеў увесь.

Урэшце не вытрымаў, набраўся адвагі ды пайшоў да Вужынага Караля рукі яго дачкі прасіць. Прыходзіць ён да таго дуба, а вужалкі на ім ніводнай няма.

— Мо я памыліўся, не той дарогаю пайшоў? — разгубіўся ён.

Але бачыць, што змей у траве так і кішыць. Туды трапіў. Недзе і вужалкі павінны быць, калі ахова іх тут.

— Зноў ты, жаўнер? — нечакана звяртаецца да яго адна са змей.

— Так, я.

— Ну і чаго на гэты раз да нас завітаў?

— Не сярдуйце, сябры мае, я ж амаль такі самы служака, як і вы.

Кранула гэта, відаць, тых ахоўнікаў. А ён і працягвае:

— Да караля я вашага, з вялікай пашанай. Просьба ў мяне да яго ёсць сардэчная.

— Як гэта — сардэчная? — не зразумелі змеі-вартаўнікі.

— Ды закахаўся я ў адну з яго дачок. Без яе мне і свет не мілы, і жыцця няма. Рукі хачу яе прасіць.

— Рукі вужалкі, дачкі самога Вужынага Караля? Ты што чалавек, з глузду з'ехаў, ці што? Дзе ты бачыў, каб чалавек з вужалкаю ажаніўся? Мы ж думалі, ты яшчэ раз падзякаваць прыйшоў. А так — прабач. Знайдзі сабе лепш якую дзеўку са сваёй вёскі ці з суседняй. За такога любая пагодзіцца пайсці.

— Ды не трэба мне нікога. Адну толькі яе кахаю.

І раптам чуе жаўнер з боку ад сябе голас важны:

— Хто гэта тут без каго не можа?! Хто гэта тут пярэпалах учыніў у маіх валадарствах?

Азіраецца жаўнер і бачыць — сам Вужыны Кароль з'явіўся. Горды, важны, самавіты. Таксама змей, але вялікі. А на галаве — карона залатая ззяе.

— Вось, Ваша Вялікасць, — рапартуе адзін з ахоўнікаў. — Прыйшоў да Вас, прасіць хоча такое, што нават язык не паварочваецца сказаць.

— Аб чым жа ты мяне гэтакім прасіць сабраўся, жаўнер, — звярнуўся Вужыны Кароль, — што нават мае служакі баяцца прамовіць?

— Ваша Вялікасць, дазвольце мне з усёй павагай да Вас звярнуцца. Выслухайце, калі ласка.

— Дык ужо слухаю. З чым завітаў да нас?

— Дачка Вашая, вужалачка, найпрыгажэйшая ў свеце, выратавала мяне нядаўна.

— Чуў я пра гэты выпадак, даклалі. За найпрыгажэйшую дзякуй, усе яны для мяне любыя. Ну, і што цябе да мяне прывяло?

— Ваша Вялікасць, не магу яе забыць, толькі пра яе і думаю. Я просты жаўнер, не знатны, не багаты. Але пакахаў усім сэрцам. Дазвольце мне, з усёй павагай да Вас, прасіць яе рукі.

Тут Вужыны Кароль нават разгубіўся і прыціх. Ён апоўз вакол жаўнера, разгледзеў яго. Не кульгавы, не плюгавы, не крывы, не руды, жаніх хоць куды. Прызадумаўся Вужыны Кароль.

— Што, і насамрэч так моцна кахаеш?

— Жыцця без яе няма. Хоць у агонь, хоць у ваду за яе гатовы.

— Што ж, гэтакая рашучасць мне даспадобы. Такі адважны ваяр можа быць вартым рукі маёй дачкі. Але ці здольны ты пацвердзіць свае словы справаю?

— Даверце мне любое выпрабаванне і я дакажу, што слоў на вецер не кідаю.

Прызадумаўся Вужыны Кароль, паразважаў ды кажа:

— Ну што ж, ёсць у мяне для цябе заданне, ды не адно, а нават тры. Калі справішся з імі і калі твая абраная не будзе супраць, то і я не запярэчу. Слова даю!

Па сэрцы прыйшліся гэтакія словы жаўнеру.

— Кажыце, Ваша Вялікасць! Якую я Вам магу саслужыць службу?

— А зрабі, жаўнер, вось што. Татары нядаўна набег на землі нашы ўчынілі. Адну з дачок маіх, нягоднікі, скралі. Адна яна пайшла гуляць, хоць я тое і не дазваляў. Ды схавацца, відаць, не паспела. Дзе яе шукаць, цяпер і не ведаю. Качэўнікі ж яны, сам разумееш, як вецер: сёння тут, заўтра там. Знойдзеш яе ды вярнуць мне здолееш — нічога для цябе не пашкадую.

— Зраблю, Ваша Вялікасць! Скрозь зямлю правалюся, але знайду яе.

Да душы прыйшліся тыя словы Вужынаму Каралю. Смела адказаў жаўнер, хоць і сам насамрэч не ведаў, дзе шукаць татараў. Ды слова трымаць трэба.

— Ды гэта не ўсё, — не спяшаўся змяіны кароль. — Злыдняў тут яшчэ развялося. Не-не ды напалохаюць маіх дачок. Гэткія шкоднікі, што ратавання ад іх няма. І дзе яны селяцца, ніяк не магу знайсці. Карацей, адшукаць іх трэба і прагнаць, каб больш маіх дачок не турбавалі.

— Паспрабуем, Ваша Вялікасць.

— І апошняе. Скралі разбойнікі ў мяне золата, і шмат — цэлы вялізны куфар! Не дагледзелі, відаць, мае вартаўнікі. Вярнуць яго трэба, а разбойнікаў пакараць, каб непанадна было.

Прызадумаўся жаўнер. Не адно — ажно тры заданні трэба выканаць. Ды якія! Нялёгкая задача. Ды што рабіць, слова не верабей. Даў слова — трымай адказ, а інакш і спраў з табою ніхто вадзіць не будзе. Падумаў жаўнер, махнуў рукою:

— Э-эх, дзе наша не прападала. І не ў такія пераплёты траплялі.

— Заданні няпростыя, але і я як след узнагароджу за стараннасць.

— Рука Вашай дачкі будзе для мяне найвялікшай узнагародай.

— А пра гэта не хвалюйся.

Развіталіся яны, ды пайшоў жаўнер дадому, у шлях збірацца. Склаў свой ранец, падмацаваўся, засунуў мяшок за пазуху, дый выправіўся ў дарогу.

Перад тым распытаў людзей, ці не ведае хто чаго пра тых татараў, разбойнікаў ці злыдняў. Дзе шукаць татараў і разбойнікаў ніхто не ведаў, а вось злыдняў... Распавялі яму мужыкі, што бачылі іх неяк акурат непадалёк ад таго балота, праз якое служылы вяртаўся, у хмызняку. Туды першым чынам ён і накіраваўся. Ідзе-брыдзе ён уздоўж балота, а хмызняку таго — безліч. Амаль усё ім і парасло. Вось і здагадайся, дзе тыя злыдні ў ім пасяліліся.

Ідзе жаўнер ды раптам чуе: шух-шух-шух, затрашчала ў кустах, нібы курапаткі прабеглі ці качкі ўзляцелі. Але ні тых, ні іншых не відаць. Насцярожыўся. Зноў чуе: шух-шух-шух. І пабег ён на той гук. Бяжыць, ажно кусты ломяцца. Урэшце заўважыў ён, як у іх нешта шмыганула. Кінуўся туды, бачыць — стаяць прад ім, скурчыўшыся, маленькія чалавечкі — твары шкодныя ды злыя, на галовах — капелюшы, на нагах — боты, але, пэўна, не па памерах вялікія.

— Злыдні? — запытаўся ён, хаця гэта і так было зразумела.

— Вядома! — задзірліва пачулася ў адказ.

— Ну, вось вы і папаліся! — смела ўсклікнуў жаўнер.

— Гэта хто яшчэ да каго папаўся?! Хапай яго! — крыкнуў адзін са злыдняў.

І тут усе яны дасталі з-за паясоў свае маленькія шабелькі і кінуліся да яго. Бачыць ён, што ледзьве не з усіх бакоў на яго нясецца цэлая зграя. Цяжка б давялося каму іншаму на яго месцы. Але служака наш не з баязлівага дзясятка. Выцягнуў з-за пазухі мех, хоп аднаго з тых злыдняў — ды ў мяшок. А трэба адзначыць, што нічога злыдні так не баяцца, як пустога меха. Бо калі пасадзіць злыдня ў мех, ён і рухацца не зможа, баіцца меха горш за агонь. А потым той мех можна звязаць і хоць у балота кінуць. А іначай з гэтымі злыднямі і не ўправіцца.

Як убачылі гэта астатнія злыдні, так і замерлі на месцы, як укопаныя.

— Памілуйце, паночак, — узмаліліся раптам яны, забыўшыся пра ўсю сваю злыднёўскую сутнасць. — Толькі не ў мех! Усё, што пажадаеце зробім, толькі прыбярыце яго.

— Ну глядзіце, калі падманеце, — прыгразіў ім служака.

— Не, не, слова даём! Не ашукаем.

І жаўнер пачаў скручваць мех назад.

— Вой, вой, пачакайце! — заверашчалі злыдні. — Вы ж нашага сябра так і не дасталі.

— А ці трэба?

— Вядома ж, трэба. Ён загіне там з перапуду.

— Выпушчу яго. Але напачатку паабяцайце, што вужалак цяпер за вярсту будзеце абыходзіць і больш не будзеце ім надакучаць.

— Слова даём!

— Але гэта яшчэ не ўсё, — казаў жаўнер, засоўваючы руку на дно меха. — Адшукаць мне сяго-таго трэба. Татараў. Мо чулі што пра іх?

— Мы ж усюды бываем, усё ведаем. Бачылі іх, распавядзём, дзе шукаць варта. А калі добра папрасіць, дык і адвядзём.

— Вось і добра, — прамовіў жаўнер, дастаўшы злыдня з меха, але пакуль не адпускаючы яго. — Але не толькі адвесці мяне туды трэба, але і вызваліць дзяўчыну адну, дачку Вужынага Караля.

— Вызваліць у татар?! Не-не, прабачце. Але так мы не дамаўляліся. Каб татары нас пасеклі?! Дзякуй.

— Тады альбо зараз я вас — у балота, альбо што-небудзь прыдумляйце! — прамовіў жаўнер і зноўку пачаў засоўваць злыдня ў мех.

— Чакайце, чакайце, — узмаліліся злыдні. — Навошта ж так адразу? Трэба пасядзець, падумаць.

— У дарозе падумаеце. Няма чаго расседжвацца, пакуль нехта ў бядзе прападае! Вядзіце туды, дзе гэтых татараў бачылі, на месцы што-небудзь прыдумаем.

Ён паставіў злыдня на зямлю, і яны кранулiся ў шлях. Доўга яны шлі, бо далёка татары паспелі адысці, звозячы з сабою здабычу і палонных. Але ўрэшце нагналі іх. Бачыць жаўнер: шатры стаяць, вазы са здабычаю, агні гараць. Люд просты вяроўкамі звязаны ды ў кайданы закаваны. А татараў так многа, што і не справіцца. Не адолець ім столькі ворагаў.

— Ну, надумалі чаго-небудзь? — звяртаецца ён да злыдняў.

— Ды можам іх звесці, гаспадарку папсаваць, коней змарыць. Але ж час на гэта патрэбны. Хутка гэтакія справы не робяцца.

— Пакуль вы іх зморыце, баюся, яны ўжо да сваіх стэпаў дойдуць.

Прысеў жаўнер на зямлю, прызадумаўся. Бачыць, побач з ім куст дурман-травы расце. Адарваў ён ліст, памяў у руках, прыгледзеўся — а побач шмат яшчэ гэтай расліны: і свежай, і высахлай, леташняй.

— Ёсць у мяне адна задума. Агонь распаліць ёсць чым?

— Падпаліць, распаліць — гэта мы можам, — са зларадпай усмешкаю прамовілі злыдні, паказваючы свае крэсівы.

— Хоць недзе вашая шкадлівасць добрай справе паслужыць. Трэба назбіраць сухой дурман-травы паболей ды раскласці яе з таго боку, з якога вецер на лагер дзьме. І як вецер будзе паболей, запаліць траву, каб дым ад яе на татар пайшоў.

— Гэта мы хутка, — прамовілі злыдні і кінуліся ўрассыпную.

Маленькія, а спрытныя. Неўзабаве яны сядзелі каля сваіх кучак назбіранай дурман-травы і чакалі загаду. Жаўнер падпільнаваў зручны момант і, калі вецер падзьмуў у кірунку лагера, скамандаваў падпальваць траву. У хуткім часе загарэлася трава, а самі адбеглі ад гэтага месца падалей, каб не атруціцца. І паплыў з ветрам едкі дым на стан татарскі.

А самі злыдні і жаўнер хутка схаваліся падалей і ад дыму, і ад качэўнікаў, якія хутка заўважылі чужыя агні і кінуліся высвятляць, што гэта было. Ды завадатаяў гэтай шкоды ўжо і след прастыў, а вось дыму татары зведалі ў поўнай меры. У татарскіх ваяроў нават не хапала моцы дабегчы да вогнішчаў. Яны гублялі прытомнасць, удыхаючы дым, і валіліся, як падкошаныя. Засыналі на хаду. А дым слаўся па зямлі ўсё далей і далей, у глыб лагера. Нават коні падалі. Ніхто не мог устаяць. Ды вось жа якая справа — паснулі і палонныя, землякі жаўнера. А іх на здзекі татарам ён пакінуць ніяк не мог.

Праз пэўны час трава згарэла, вецер развеяў атрутны дым, і жаўнер склікаў злыдняў, звярнуўся да іх з просьбай:

— Трэба абудзіць палонных і дапамагчы ім вызваліцца ад пут і кайданоў. Няправільна гэта, каб вольных людзей у рабства зводзілі.

Злыдні, хоць яны і злыдні, але з паразуменнем аднесліся да гэтага, ды зноў кінуліся ўрассыпную. Шмат было палонных: і ваяры, і просты люд, і жанчыны, і мужчыны, і старыя, і маладыя. Паспрабуй прывесці ўсіх да прытомнасці.

Але трэба заўважыць, што злыдні пры патрэбе і жаданні здольны выдаваць такі мярзотны і агідны пранізлівы віск, што ад яго толькі мёртвы не прачнецца. Злыдні падбягалі да палонных, схіляліся над імі і крычалі ім у вушы. Нават, хутчэй сказаць, — віскаталі. Ад гэтага віску людзі не тое, што прачыналіся, яны падскоквалі, як апараныя, і адразу ж ачухваліся.

А жаўнер тым часам шукаў вужалачку. Разумеў ён, што асаблівая гэта здабыча і няма сэнсу яе шукаць ні сярод звычайных палонных, ні ў простых шатрах. Паразважаўшы над гэтым, скіраваўся ён да самага вялікага і прыгожага шатра. Багаты быў, мо нават ханскі. Увайшоў жаўнер у шацёр, а знутры той яшчэ багацейшым выглядае, чым звонку. Дываны на зямлі ляжаць, посуд залаты, фрукты ды напоі заморскія ў тым посудзе. А на дыванах — хан спіць і ахова яго. Агледзеўся служылы ды бачыць — забіўшыся ў кут, вужалка звязаная ляжыць. Добра татары разумелі, што не простая гэта дзяўчына.

Падбег да яе жаўнер, развязаў, падхапіў на рукі ды вынес. Дапамаглі яму злыдні абудзіць дзяўчыну. Растлумачыў жаўнер, што гэта бацька даслаў яго на выратаванне. Узрадавалася вужалачка добрай навіне, бо і не верыла ўжо ў сваё выратаванне.

Тым часам злыдні і ўсіх астатніх палонных абудзілі. Якімі ж шчаслівымі былі людзі, калі зразумелі, што яны зноў вольныя. Гатовы былі расцалаваць ды задушыць у абдымках жаўнера і маленькіх шкоднікаў. Жаўнеру хоць і было прыемна, але ён мусіў спыніць іх. Ворагі таксама маглі пачаць прачынацца, што было вельмі недарэчы. Ён наказаў вызваленым землякам звязаць татар, пасля чаго радасна абвясціў, што яны могуць вяртацца дадому, да сваіх родных. Толькі мужчын папрасіў застацца. І ўсе мужчыны, як адзін, з задавальненнем былі гатовыя выканаць усё, што ён папросіць, у падзяку за сваё вызваленне з палону.

Частцы мужыкоў ён даверыў даставіць палонных татар да князя: няхай ён вырашае іх лёс. Некалькіх дужых ваяроў ён папрасіў праводзіць вужалачку да яе мясцін, каб яна ў цэласці і захаванасці вярнулася да свайго бацькі. А дзяўчыну папрасіў перадаць Вужынаму Каралю, што з двума заданнямі ён ужо справіўся, ідзе выконваць трэцяе. Разам з тым адпусціў ён і злыдняў, абяцаў жа. Добра дапамаглі яны, ды і вужалак абяцалі больш не турбаваць. Няхай сабе ідуць. Падзякаваў ім шчыра за дапамогу, і па-добраму з імі развітаўся.

Астатніх мужыкоў і ваяроў папрасіў жаўнер аб дапамозе. Не зладзіцца яму аднаму з праклятымі разбойнікамі.

— Вядома, мы табе дапаможам, — падтрымалі яго. — Што вінен — аддаць павінен. Ты нас вызваліў, цяпер наша чарга адплаціць табе дапамогай. Вядзі нас да разбойнікаў.

А куды весці людзей, жаўнер і не ведае, разгубіўся. Стаіць, патыліцу чухае. Раптам чуе — свіст. Азірнуўся ён — стаяць некалькі злыдняў, рука за руку, ботамі дзелавіта патупваюць.

— Што галаву чухаеш, служака? Якую думу думаеш?

Узрадаваўся ён: можа, не гэтакія ўжо тыя злыдні і шкодныя, калі з імі па-добраму.

— А вы чаму разам са сваімі не сышлі? — пытаецца ён.

— Чулі мы пра твае заданні. Цяпер разбойнікаў адшукаць трэба.

— Так, дакладна. Ды толькі дзе іх шукаць, хіба што толькі вольны вецер ведае.

— Мы не вецер, але сам ведаеш — мы ж усюды бываем, усё ведаем.

— І дапаможаце іх адшукаць?

— Напэўна ж, як мы тут.

Здзівіліся гэтаму і жаўнер, і людзі. Звычайна ад злыдняў толькі шкода адна. Як завядуцца ў доме, дык ратавання ад іх няма. Паселяцца сабе ў цяпле пад печчу — не дастаць. То сцягнуць што-небудзь — не знойдзеш, то ў кашу пяску насыплюць, то вады ў малако нальюць, то яйкі ў курэй пакрадуць. Адно спусташэнне ад іх. Як завядуцца, дык пішы прапала. І не адчэпяцца, пакуль гаспадарка зусім не збяднее. У народзе нават так і кажуць: «Упрасіліся злыдні на тры дні, а і ў тры гады не выжывеш». Але, кажуць людзі, што ёсць адзін спосаб ад іх пазбавіцца. Трэба гаспадыні прыгатаваць смачную-смачную вячэру. Ды гэтакую, якой яшчэ ніколі ў жыцці не варыла. А як злыдні залезуць у чыгунок яе каштаваць — трэба іх там хуценька вечкам закрыць і завезці як мага далей, каб і дарогі зваротнай не знайшлі. Ды і не кожная гаспадыня здольная прыгатаваць гэткую смачную кашу, каб злыдні пра ўсё забыліся. Бо асцярожныя яны, як зверы лясныя. І злыя не меней.

І вось гэтыя шкадлівыя стварэнні, ад якіх дабра ніколі не дачакаешся, самі прапануюць сваю дапамогу. Відаць, нечым зачапіў іх жаўнер, калі яны так да яго прасякнуліся. Ды і чакаць дапамогі больш не было адкуль.

— Буду шчыра ўдзячны, — узрадаваўся жаўнер нечаканай дапамозе. — Без вас мне і тут не ўправіцца, вымушаны ў гэтым прызнацца.

Па душы прыйшліся гэтакія словы злыдням.

— Тады крочым хутчэй, пакуль сонца ярчэйшае.

І злыдні ўпэўнена накіраваліся ў бок лесу. Больш імаверна, што недзе ў глыбіні ляснога гушчару логава разбойнікаў і размяшчалася. Удалечыні ад людскіх вачэй. Калі так, то знаходзіцца яно не блізка, а сустрэць цемру ў лесе ніхто не жадаў. Таму ўсе дружна рушылі за гэтымі дзіўнымі стварэннямі.

Нялёгкая была дарога, праз непралазны лес давялося прабірацца. Далёка забраліся разбойнікі. Праз нейкі час прывялі злыдні да іхняга логава, як і абяцалі. Затаіліся мужыкі з жаўнерам непадалёк, азіраюцца. Глядзяць і разумеюць, што разбойнікі, відаць па ўсім, нядаўна з чарговай здабычай вярнуліся. П'юць, ядуць, нікуды не ідуць. І настолькі ўпэўнены, што ніхто іх у такім глухім гушчары не знойдзе, што нават вартаўнічых не выставілі. Усё толькі на руку нашым героям, дай толькі час. Сядзяць яны ў засадзе і чакаюць.

А разбойнікі, падпіўшы, яшчэ і песні заспявалі, настолькі ім добра стала. Зусім пільнасць згубілі. Праходзіць яшчэ час. Наеліся яны ўдосталь, напіліся, песень накрычаліся. Стаміліся-размарыліся, на сон іх пацягнула. Ды так, што дзе хто сядзеў, там і засынаў.

А як трохі мацнейшы іх сон узяў, то выйшлі нашыя мужыкі, ды без асаблівых цяжкасцей павязалі тых разбойнікаў, на іх жа вазы і пагрузілі. А затым і нарабаваныя скарбы ў лагеры адшукалі, а з імі — куфар Вужынага Караля, набіты золатам. Нарабаваныя багацці часткова паміж сабою падзялілі, а большасць вырашылі раздаць тым, хто жыў у журбе і нястачы.

Захопленых разбойнікаў жаўнер папрасіў мужыкоў таксама даставіць да князя: ён знойдзе, як іх пакараць. А Вужыны куфар жаўнеру на воз пагрузілі, ды пажадалі поспехаў у сардэчных справах. Падзякаваў жаўнер мужыкам за дапамогу, як і яны яму — за вызваленне, сеў на воз ды паехаў сваёй дарогаю. А з сабою яшчэ і тых злыдняў-павадыроў узяў падвезці. Дый з імі весялей. А яны, як аказалася, гэткія выдумшчыкі і апавядальнікі, гэтакія жартаўнікі, што жаўнер з імі амаль нават і не заўважыў, як да балота даехаў. Злыдні яму яшчэ і дарогу бяспечную паказалі, каб гружаны воз нідзе не праваліўся і не ўвяз. Развітаўся служака з імі добрымі словамі і паехаў да Вужынага Караля з багаццямі.

Мяркуючы па ўсім, кароль ужо ведаў пра поспехі жаўнера, бо чакаў яго ва ўсёй красе. Здалёк пабачыў жаўнер ззянне яго залатой кароны каля дуба на ўскрайку балота. Пад'ехаў ён бліжэй і бачыць: на разгалістых галінах дуба вужалкі сядзяць, а пад дубам — уся світа і ахова змяіная. А на чале іх сам кароль стаіць у шыкоўнай кароне залатой, а побач з ім — вужалачка, у якую жаўнер да бяспамяцтва закахаўся. Ды не горшая за любую каралеўну — уся ў золаце: і на руках, і ў вушах, і на шыі.

Пад'язджае жаўнер, злазіць, падводзіць воз з куфрам да Вужынага Караля.

— Вітаю вас, Ваша Вялікасць! Выканаў я ўсе вашыя просьбы — і са злыднямі дамовіўся, і дачку вашую выратаваў, і золата скрадзенае вярнуў.

— Што ж, бачу я, жаўнер. Стрымаў сваё слова. За дачку маю выратаваную — асаблівая падзяка. Час і мне табе адплаціць.

Падводзіць ён дачку сваю да жаўнера, кажа:

— Такому зяцю буду толькі рады. І каб пацвердзіць гэтыя словы — на вяселле вам аддаю палову гэтага золата, — паказвае ён на куфар. — Заслужыў ты яго. Сумленна заслужыў.

Яшчэ больш узрадаваўся жаўнер. І жонка ў яго будзе любімая, і гора не будуць ведаць з гэтакімі багаццямі.

— Але, — працягвае Вужыны Кароль, — зразумей ты мяне правільна, ёсць адна перашкода вашаму шлюбу.

— Якая перашкода? — здзівіўся жаўнер.

— Даспадобы ты мне прыйшоўся, але не магу я ўсё ж такі аддаць сваю дачку за чалавека. Вось каб быў ты вужаком, ці хоць якой змяёй…

— Ваша Вялікасць, дык я ж усё зрабіў, як вы і прасілі. Але ж як я магу стаць вужаком, калі я нарадзіўся чалавекам?

— А за гэта ты не хвалюйся. Ты толькі адкажы, ці насамрэч настолькі кахаеш маю дачку, што гатовы дзеля яе стаць адным з нас?

— Ваша Вялікасць, дзеля вашай дачкі я гатовы пайсці на што заўгодна!

— На што заўгодна не прашу. Ці гатовы быць адным з нас?

— Так, Ваша Вялікасць! Толькі б быць з ёю побач.

— Ну, глядзі.

Прамовіў загадкава гэтыя словы Вужыны Кароль, перавярнуў вакол карону на галаве, шчоўкнуў па зямлі хвастом ды ўпаў на зямлю жаўнер, як падкошаны. Глядзіць на сябе і не дае веры вачам: галава, рукі, тулава яго, а замест ног — хвост з'явіўся. Такі ж самы, як у вужалак. Паспрабаваў устаць на яго, як на ногі — нічога з гэтага не атрымалася, зноў на рукі грукнуўся.

— Не пужайся, мае дочкі хутка цябе навучаць поўзаць, як мы.

— Дый і не баюся я, — не зусім упэўнена адказаў жаўнер.

— І нават цяпер не адмовішся ад сваіх слоў? Нават калі так на ўсё жыццё застанешся? Гатовы жыць у такім выглядзе з маёю дачкою?

— Толькі б быць з ёю. Да таго ж цяпер мы адно аднаму яшчэ болей падыходзім, — усміхнуўся ён.

Здзівіўся Вужыны Кароль такому адчайнаму і вернаму каханню.

— Ну што ж, жаўнер, прызнаюся — выпрабоўваў я цябе. Хацеў быць упэўненым, што ты і насамрэч настолькі моцна кахаеш маю дачку, што дзеля яе на любыя выпрабаванні гатовы.

Зноў павярнуў ён карону, шчоўкнуў хвастом, і вось табе на — стаіць жаўнер на сваіх нагах. Ды не толькі гэта — у вужалачкі яго, любай, каханай, замест хваста таксама з'явіліся ногі, як у чалавека. І стала яна настолькі прыгожай дзяўчынай, што вачэй не адвесці, яшчэ больш даспадобы жаўнеру стала.

Радасці маладых не было межаў. Жаўнер і не ведаў, як аддзякаваць свайму будучаму цесцю за гэтакае шчасце. Ад усёй душы падзякаваў ён і да зямлі пакланіўся Вужынаму Каралю.

— Адну дачку ты мне вярнуў, другую — табе аддаю, — кажа змяіны кароль. — І шчыра веру, што ў надзейныя рукі яе аддаю, бо даказаў ты гэта не на словах, а на справе, як і мае быць. І апроч багаццяў маіх, вось табе яшчэ адзін падарунак у якасці пасагу.

Адламаў Вужыны Кароль адзін ражок ад сваёй кароны залатой і працягнуў жаўнеру.

— Вось, — кажа ён. — Не просты гэта ражок, а чароўны. Бо мае ён сілу цудадзейную. Той, хто валодае такім ражком, мову звярэй, раслін і птушак разумець можа, і яд ніякі ўладальніку яго аніякай шкоды прычыніць не можа.

— Дзякую, Ваша Вялікасць, зберагу такі падарунак дарагі і незвычайны, ніколі з ім не расстануся.

Абняў маладых Вужыны Кароль і пажадаў ім шчасця. А жаўнер прывёў сваю нявесту незвычайную ў дом, ды багацці каралеўскія з сабою прывёз. Прынялі вужалачку сваякі жаўнера, як родную. І вяселле хутка зладзілі, ды такое, якіх яшчэ ніколі ва ўсёй акрузе не гралі. А на тыя багацці, што падараваў ім Вужыны Кароль на вяселле, пабудаваў жаўнер сабе з жонкаю-прыгажуняю дом новы ды прасторны. І жылі яны ў каханні і згодзе яшчэ шмат гадоў, доўга і шчасліва, ды дзяцей мелі багата.

*Вікторыя СМОЛКА*

# ВЯСНА МАЙГО ДЗЯЦІНСТВА

* * *

Калыша сонейка дня сутонне,
Схавала ветрык коўдра травіцы,
Я калыханку святую помню,
Што мне спявала мая Вясніца.

Шчыруе ў сэрцы Вясенні голас,
Калі няволіць жыццё разлука —
Я разумею цябе з паўслова,
Я разумею цябе з паўгука…

* * *

Спі, мая самотная, песня чысціні,
Ластавак сапранавых галасы прысні.
Сцежанькі няходжанай стогн пяска пачуй,
І няхай разбудзіцца сонейка ўваччу.

Ціха, мая ранняя, сэрца не нервуй,
Я з галінак-воблакаў зорачак нарву,
Сакаўных агеньчыкаў на далоні дол
Я табе насыплю з кошыка гадоў.

І спляту пялёсткамі браткавай крыві
Коўдру цёпла-сінюю, каб твой сон спавіць,
Каб да самай раніцы — да радзінаў рос
Музыка чысцюткая плакала без слёз…

* * *

Запляці ніць дзён маіх
У белы колер тваіх пальцаў,
Каб ніколі на зямлі
Мы не здолелі расстацца.

На палотнішчы ракі,
Ночкай зорнай вышываным,



***Вікторыя Смолка нарадзілася 22 сакавіка 1996 года ў Гродне. Студэнтка 2 курса філфака ГрДУ імя Я. Купалы. Называе свае вершы вершаняткамі, таму што верыць: паэтычныя радкі, нібы птушачкі, прыляцяць да сэрцаў родных людзей і заспяваюць яе песню.***

Апусці мае радкі
У човен звонкага сапрана.

Хай маленства паплыве,
Хай яго гайдаюць хвалі,
Каб на берага траве
Мае слёзы задрыжалі...

* * *

Вясніцу неба сэрцам узнаві
Нясонечнымі восеньскімі днямі,
Калі лісты, як кропелькі крыві,
Сцякаюць з дрэў, параненых вятрамі.

Вясна майго дзяцінства ападзе,
Вясна майго пачатку задажджыцца.
І крокі мары пройдуць па вадзе,
І вып'е слёзы свежая травіца...

Нябёсы не губляюць светлы твар,
Хоць сонца дзён пад вострым
змрокам рвецца.
Мая душа на скрыжаванні хмар
Бясхмарнаю на векі застанецца...

* * *

У пакоі, дзе фартэпіяна жыве,
Не гляджу на гадзіннік ніколі —
Там пад пальцамі
музыка-вечнасць плыве,
Сэрца будзяць дыезы, бемолі…

Раскідае мелодыя ў думках спакой,
Як зярняты жытнёвыя колас.
Дакрануся да клавіш цудоўных рукой —
І пачую здалёку твой голас.

І акорды заплачуць, як восень ў акне,
З той танальнасцю сумна-лірычнай…
Твой сапранавы голас абдыме мяне
У апошні дзяцінства кастрычнік…

* * *

Дзякуй табе, і даруй,
Сэрцайка-ластачанятка:
Гоніць палонных ўгару
Гора, узніклае раптам.

Гоні ад крокаў дрыжаць,
Гнуцца валошкі-надзеі,
Стомлена ў неба глядзяць
Слёзы, бы сумныя жнеі.

Сэрцайка, марам прышый
Ластачаняткаву спеўнасць,
Каб на акордах душы
Выткала музыка вернасць...

* * *

Яшчэ пабачу светлыя часы,
Завяне хмара, што мне замінае.
Пайду на Божых птушак галасы —
І глеба пад нагамі залунае.

Яшчэ мяне абдыме ўспамін,
Закружаны кастрычніцкай лістотай.
А там, дзе слёзы выпілі палын,
Усмешка пакаштуе цёплай цноты.

Яшчэ я прытулюся да сяброў
І выдыхну радочак рыфмаваны.
Каб толькі мне дажыць да тых часоў,
Калі душу акрыляць мае мары!

* * *

На скрыллях вясенняе кветкі
Праменьчык нябесны не згас —
Пад вокам руплівым паэткі
Заплакаў радкам у адказ.

Заплакаў ён сонцам вясновым
На сёння народжаны дзень,
І рытмы, і рыфмы, і мары
Зліліся з напевам надзей.

А кветка душы чула росквіт —
У званочках звінелі званы,
І вецер жагнаў ёй пялёсткі
Крылатым дыханнем вясны…

* * *

Праменне фарбуе нябесную столь
У колер святла і надзеі.
На дол майго сэрца тваю сі-бемоль
Нябесная кветачка сцеле.

Цябе абдымаю ўсім сэрцам маім,
Вяснянка-душа зоркавокая,
Каб днём непраменным табе на зямлі
Не стала зусіма дзінока.

У Гародню са мной, у бярозавы гай
Дарогі бягуць расстайныя,
Да восені летня-вясенняй бывай,
Фіялка фартапіянная…

* * *

Мне не спяваецца цяпер,
Цяпер — увесну!
Хоць і бруіцца, і жыве
У сэрцы песня.

Квітнее неба далячынь,
Як братак стужка —
І абдымаюць гэту сінь
Спяваннем птушкі.

Але пякучаю слязой
Цякуць матывы.
Што мне здаецца: песні той
Свет сумам мілы.

Яна то плача немаўлём,
Каб з думак ліцца,
То заціхае светлым днём —
Малітва быццам.

А вуснам цяжка акрыляць
Той песні ноты,
Бо гэта значыць — забіваць
Душу самотай…

* * *

**А**дкуль ў Тваім сэрцы струмень цеплыні
**Б**яздонны, як неба, як зоры,
**С**амотны, як вечарам песня зямлі,
**Т**рывожны, як серп на разоры?

**Р**асцвіў на далоні Тваёй васілёк,
**А**днойчы забіты вятрыскам.
**К**алі пагляджу я на кветку здалёк,
**Т**ы станеш мне самаю блізкай.

**Н**айроднейшай, найпрыгажэйшай
вясной
**А**дразу Твой голас успомню.
**Е**вангеллем сэрца, і явай, і сном,
**Я** буду з Табою да скону...

* * *

Не адпускай маёй рукі
З далоняў цёплых тваіх думак,
Любі дзіцячыя радкі —
Любі, як Божы Падарунак…

Няхай аддушынай табе
Яны паслужаць колькі трэба.
Заўжды малюся за цябе,
Калі дажджом спявае неба.

Прыедзь ці ў госці запрасі,
Каб разам Богу заспяваці.
І пры сустрэчы абдымі,
Як абдымае дзетак маці.

Зімой расстанні ўспамінай…
Цягнік жыццёвы вельмі хуткі —
У душы тваёй цвітуць няхай
Заўжды святыя незабудкі…

* * *

Хачу я ўзляцець у Неба вышай,
Паслухаць, як знічкі спяваюць.
Шчаслівыя вершаў не пішуць —
Шчаслівыя вершы чытаюць.

Не ведаюць, што гэта песня
Народжана болем і стомай,
Пяюць у аўтобусе цесным,
Калі сцежка кліча дадому.

Каханаму або каханай
Выконваюць «Зорку Венеру».
І, дзякую Богу, не знаюць,
Як сэрца крывіць на паперу...

Дзмітрый ШУЛЮК

# АПАВЯДАННІ



***Дзмітрый Шулюк нарадзіўся 23 лютага 1989 года ў вёсцы Сачаняты Смаргонскага раёна. Першыя свядомыя спробы пяра зрабіў у сёмым класе, але не атрымаў ніякай падтрымкі. Адзіным стымулам быў малодшы брат Саша, для якога і напісаў першыя казкі. Жадае, каб яго творы былі вечнымі і сапраўднымі, і сталі для кагосьці кавалкам чыстага неба над галавой.***

## ПАЛЁТ

Гусак марыў пра нябёсы. Марыў з самага дзяцінства. З таго далёкага дня, калі ён, задраўшы дзюбу ўверх, прыгледзеўся і яму здалося, што там, у аблоках, ляцяць роўным ланцужком гусі. Хутчэй за ўсё здалося, бо гусі не могуць лётаць. Гусі вельмі цяжкія. Другая справа — вераб'і. Маленькія шпаркія птушкі. Ім не трэба шмат сіл, каб узняцца ў паветра. Не трэба шмат сіл, каб быць у паветры. Але ж кожнаму — сваё. Адны могуць лётаць, затое другія — могуць есці ўволю. І ўсё жыццё гусаку даказвалі, што тыя, другія, больш шчаслівыя за першых. Гусак сумняваўся, гусак не мог паверыць. Ён разумеў, што яшчэ малады і таму ў яго такія думкі. Такія мары. Таму ў яго такія казачныя сны.

Сны. Астатнія гусі не бачылі сноў. І гусак не мог растлумачыць ім гэтую з'яву. Колькі б ён ні падбіраў словы, атрымоўвалася, што ён проста хворы. Што менавіта хвароба і туманіць яго розум. Менавіта яна не дае яму радавацца жыццю.

Старэйшыя гусі (не нашмат старэйшыя, бо да старасці гусі не дажывалі — знікалі кудысьці) спрабавалі дапамагчы хвораму гусаку-рамантыку. Але не спраўляліся. Яго аднагодкі смяяліся з яго. А малых гусянят да дзівака не падпускалі, каб не папсаваў. Вось так і жыццё ішло.

Пакуль аднойчы ўсё не змяніў адзін сон. Гусак зноў бачыў сябе ў небе. Ён зноў лётаў. Бачыў увесь свет інакш, увесь свет без межаў, увесь свет свабодным. Ён дыхаў гэтай свабодай, ён быў шчаслівым. Пакуль не пабачыў яе. Тую, якую кахаў. Яна не ляцела з ім. І ніколі б не паляцела. Для яе гэта было так не зразумела, так дзіка, што нават у сне гусак не ўяўляў яе побач з сабой. Да гэтага самага сну зусім не ўяўляў. А зараз уявіў. Убачыў яе, такую далёкую, бессэнсоўную белую пляму. Убачыў і спужаўся. Спужаўся, што не вернецца да яе. Спужаўся, што з кожным яго палётам адлегласць паміж імі становіцца ўсё большай. Спужаўся, што ім не быць разам. І забыўся, як лётаць. Без усякага толку махаў крыламі, але яны перасталі трымаць цяжкае гусінае цела ў паветры. Яны сталі бескарыснымі прыдаткамі па баках. Неба адмовілася ад гусака, адмовілася на карысць зямлі.

Гусак прачнуўся зусім іншым. Не такім, якім быў вечарам. Ён больш не хацеў лётаць, баяўся. Кожны дзень гэты страх адкусваў кавалкі ад былой мары, пакуль мара зусім не знікла. І гусак стаў шчаслівым. Шчаслівы ён еў уволю, гагатаў з дурных вераб'ёў. Шчаслівы падставіў шыю пад сякеру.

## ХВАЛІ

Хвалі… Хвалі… Яны засцілаюць мне вочы. Я бачу толькі хвалі. Такія несапраўдныя, але такія пяшчотныя.

— Мама, а што значыць «хвалявацца»?

— Спрасі ў учыцельніцы. Аткуда я знаю. Ты ўрокі здзелаў?

— Раблю.

Хвалі… Яны схапілі маю свядомасць. Мая свядомасць у пастцы. Мая свядомасць у хвалях. Яны засцілаюць мне вочы. Хочацца сказаць: «Я люблю цябе». Але няма каму.

— Мама, я цябе люблю.

— Што ты задумаў, нягоднік? Двойку палучыў?

— Не.

— А што?

— Нічога.

— Сразу ўжэ абідзеўся. Урокі рабі — я праверу.

Хвалі… Наперад-назад. Быццам слёзы вялізарным морам разліліся ўнутры. У галаве. Быццам слёзнае мора там. Чайкі… Ці бываюць чайкі на моры? Я быў толькі на Дняпры. Там чаек шмат. А на моры…

— Мама, а як ты праверыш?

— Што?

— Як праверыш маю работу?

— Вазьму і праверу. Думаеш, я ваабшчэ нічэво не знаю?

— Не думаю.

— Вот-вот. Так что ты тут… Не мешай.

— А што ты глядзіш?

— «Час суда».

— А навошта?

— Што?

— Нічога.

Хвалі… Час ад часу яны перастаюць быць прыемнымі. Час ад часу яны б'юць з вялікай сілай і быццам пытаюцца: «А што ты цяпер будзеш рабіць?» А я маўчу. Я слухаю іх шум. Іх песню. Чароўную песню жыцця. Яны такія жывыя. Што б ні казалі на ўроках, але гэтыя хвалі больш жывыя, чым людзі.

— Мама, а вось хвалі…

— Што?

— Хвалі… Гэта мора так дыхае?

— Што? Зусім абы-што гаворыш.

— Прабач.

Хвалі… Яны б'юць так рытмічна. Яны клічуць да сябе. Яны хочуць падзяліцца гэтай сілай. Нястрымнай сілай удараў. Яны крычаць майму сэрцу: «Біся побач з намі!» Яны крычаць мне: «Давай жыць разам!» Я не ведаю, што рабіць. Гэта пачуццё такое незвычайнае. Такое сапраўднае. Быццам пабачыў на вакзале знакамітую спявачку. І не можаш зразумець, як далей жыць з гэтым. Ты дакрануўся да далечыні,

да гарызонту, да зоркі. Ты стаіш на яе слядах. Гэта значыць, што вашы шляхі перасякліся. Гэта значыць, што вашы шляхі на адной плоскасці. Гэта значыць…

— Урокі здзелаў?!

Хвалі зніклі. Куды вы? Куды? Пачакайце. Пачакайце мяне. Пачакайце. Альбо я буду вас чакаць. Буду чакаць вас зноў. Вярніцеся. Вярніцеся калі-небудзь.

— Ты што, глухі? Аглох саўсем.

— Не, мама.

— А што?

— Я люблю цябе, мама.

Але я думаў толькі пра хвалі.

## ЗДРАДА

Мікола хацеў думаць пра работу: аналізаваць пройдзенае, планаваць, крэатывіць. Але думкі не прыходзілі. Замест іх галаву напаўнялі ўспаміны. Мікола прыгадваў сваё дзяцінства.

Аднойчы Мікола, прыйшоўшы са школы, пахваліўся маці, што падзяліўся яблыкам з суседам па парце. Магчыма, той дзень і стаў паваротнай кропкай у яго жыцці. Бо маці не зразумела. Яна пачала крычаць, плакаць, тлумачыць Міколу, што той — найгоршы сын. Што ён не шкадуе сваіх бацькоў. Яны апошняе яму аддаюць, а ён — суседу па парце. У таго свае бацькі ёсць.

Падарожнічаючы па мінулым, Мікола не заўважыў, як са школы прыйшоў сын Ванька.

— Тата! Як сёння цікава было! Мы расказвалі настаўніцы, хто якую кніжку прачытаў апошняй. А яна такая разумная. Яна іх усе ведала. І калі хто з нас прачытаў і штосьці не зразумеў, яна тлумачыла.

Мікола любіў гэтыя моманты. Любіў, калі сын дзяліўся з ім сваёй цеплынёй, сваёй дзіцячай радасцю.

— Яна і ў мяне спытала. А я сказаў, што прачытаў «Чараўнік Ізумруднага горада». І яна мяне пахваліла.

— Ну, гэта зразумела. Кніга ж немаленькая.

— Ага. І спытала, што я пра Гудвіна магу сказаць. А я і кажу, што ён быццам і маніў, але неяк па-добраму. А яна кажа мне, што кніжка гэта больш глыбокая, і яе не ўсе дарослыя зразумеюць.

— Вось як, — зацікавіўся бацька.

— Так. Сказала, што Гудвін не прыкідваўся чараўніком, ён быў чараўніком. І, нават, большым за тых, хто чарадзейныя сілы меў. Бо ён і без усялякага чарадзейства стварыў казку на зямлі.

— Так і сказала?

— Ага. Толькі я не зусім зразумеў.

— Ну, і не трэба. Малы ты яшчэ. Справа ў тым, што казкі — гэта казкі. Разумееш? А жыццё — гэта жыццё. У жыцці няма месца казкам. А казкі не раскажуць пра жыццё.

— А яшчэ сказала, што, каб горад стаў Ізумрудным, дастаткова глядзець праз зялёнае шкло акуляраў. Мы засмяяліся. А яна сказала, што растлумачыць на наступны раз больш зразумела.

— Праз акуляры, кажаш. Чамусьці яна не таму вас там вучыць. Што гэта за зялёнае шкло? Школа не павінна вучыць глядзець на свет праз зялёнае шкло. Што гэта такое? — Мікола раззлаваўся. — Яны дзяцей казкам вучаць. Дзе яны ў свеце казку бачылі?

— Можа, гэта проста як паглядзець?

— Ты рот прыкрый, будзеш тут бацьку вучыць! — крыкнуў Мікола і замоўк. Ён зноў згадаў таго малога хлапчука, якім калісьці быў. Ён успомніў агонь у вачах. Яркі, казачны агонь у дзіцячых вачах. І зразумеў, што канчаткова здрадзіў хлапчуку, які застаўся ў яго ўспамінах.

## СЛЕД У ПОЛІ

Магчыма, гэта быў проста сон. Бо ўсё пачыналася, як у сне.

Я бачыў бабулю. Не якую-небудзь агульную, а сваю бабулю. Дзецьмі мы клікалі яе «бабулька». Я бачыў яе на вялікім бульбяным полі. Яна палола. Старанна, не звяртаючы ўвагі на сонца. Такое пякучае. Не звяртала яна ўвагі і на стомленасць. Палола. Травінку за травінкай вырывалі яе старыя рукі, у якіх доўно сышоў тэрмін вартасці. Вырывалі і адкідвалі назад.

У сапраўднасці бабуля памерла. Тры гады таму. Я сам, праўда, не быў на пахаванні, але не маю прычын думаць, што мяне падмануді. Калі б сказалі, што яна ў бальніцы, тады б я сумняваўся. Але ніхто не падманвае такім чынам. Ніхто не скажа: «Бабуля памерла, вось магілка, вось тут паставім помнік адзін на дваіх, ёй з дзедам». Ніхто так не скажа проста дзеля жарту. Таму што смерць — гэта не жарт.

Мая бабуля была з таго пакалення беларускіх сялян, для якіх праца — гэта не абавязак, а патрэба. Яна не магла не працаваць. Нягледзечы на ўзрост, хваробы. І мяне з сястрой заўсёды прыцягвала да работы. Бацькі зрэдку выступалі супраць. Ім здавалася, што палова гэтай працы неабавязковая, непатрэбная. Яны не разумелі, а можа, і цяпер не разумеюць, што такое задавальненне ад працы. Вось я пішу гэта таксама без ніякай патрэбы. Пішу і захапляюся тым, як з-пад пальцаў на экран бягуць думкі, мае думкі. І на экране ператвараюцца ў апавяданне.

Вернемся да пачатку. Калі я ўбачыў бабулю, вельмі здзівіўся. І, што цікава, не таму, што яна жывая.

— Навошта, — не паздароўкаўшыся, крыкнуў я, — чужую бульбу полеш. Хай тыя полюць, каму яна належыць.

А можа, і не так сказаў. Месцамі цяжка ўспамінаецца гэты сон. Ці не сон. Памятаю толькі, як яна ўжо каля мяне стаяла і ў вочы глядзела.

— Падрос як, — сказала. — А дзяўчыну знайшоў сабе?

— Знайшоў, — кіўнуў я.

— Вось і добра.

Затым яна замаўчала, быццам штосьці забыла. Паглядзела на бульбу.

— Зусім зарасла, — сказала быццам сама сабе.

У вачах яе было столькі смутку, а ў голасе столькі маўклівага неразумення, быццам гэта штосьці зусім дзіўнае, каб у чалавека з рабочымі рукамі ды бульба зарасла.

— Сумна там, — я нават не пачуў, калі яна зноў пачала гаварыць. — Сумна. Які ж гэта рай. Які ж гэта рай, калі ежа толькі што ў рот сама не скача. Ды і непатрэбна гэта ежа. Вось… Ты не ругайся на мяне. Я ж нічога дрэннага не раблю. Бульбачку крыху хоць да дабра давяду. Каб не так страшна глядзець было. І пайду.

Напэўна, гэта быў сон. Хутчэй за ўсё — сон. Бо як гэта: не бывае, каб людзі назад да жыцця хацелі вярнуцца. Шапэнгауэр пісаў, Бродскі, што не бывае. Не можа такога быць. Ды і няўжо гэта такая асалода: проста зрабіць штосьці, хоць ненадоўга пакінуць свой след. Ён жа зарасце, знікне. Але, можа, так і патрэбна?

Марыя ЦІТАРЧУК

# КЕЛІХ ГЕКАТЫ



***Марыя Цітарчук нарадзілася 20 ліпеня 1985 года ў Гродне. Вершы піша з дзесяці гадоў. Працуе навуковым супрацоўнікам у Гродзенскім дзяржаўным гісторыка-археалагічным музеі. Захапляецца містыкай, гатычнымі раманамі, картамі Таро і мадэляваннем лялечнага адзення.***

## МЕСЯЦОВАЯ ЎВЕРЦЮРА РОСПАЧЫ

«Хельга, я заўсёды буду з табою, у радасці і ў роспачы, у здароўі і ў хваробе, пакуль сама смерць не разлучыць нас…»

Дзяўчына з голасным крыкам жаху села на ложку.

Ужо амаль год яна сніла адзін і той жа сон.

А дванаццатай гадзіне, калі на небе ззяла сумная серабрыстая поўня, яе любы прыходзіў да яе. Вядома, у мроях.

Яны бралі шлюб у маленькай утульнай зэльвенскай царкве, у якой да ўтрапёнасці знаёма з самага дзяцінства пахла ладанам і зёлкамі, а строгія твары святых на старадаўніх візантыйскіх іконах усміхаліся.

Маленькая Вольга прыходзіла туды з надзеяй, а выходзіла з цвёрдай верай у цуд.

«Раб Божы Альгерд вянчаецца рабе Божай Хельзе…»

Айцец Рыгор згадзіўся заручыць іх пад тымі імёнамі, якія далі ім яшчэ да нараджэння іх бацькі, і якія не з'явіліся ў метрыках дзякуючы надзвычайнай упартасці старшыні сельсавета.

…Раптам рознакаляровае акенца-вітраж з выявай Святой Троіцы, у гонар якой была асвечана царква, са звонам разбілася на дробныя кавалкі.

І Вольга, нема закрычаўшы, прачнулася.

Яна заўжды прачыналася ў гэты момант, але чамусьці дакладна ведала, што ўбачыць вялізнага руда-шэрага ваўка з чалавечымі, па-паганску зялёнымі, з кропелькамі іржы каля самай зрэнкі, вачыма.

## 1. ЗМРОЧНЫЯ ЦЕНІ МІНУЛАГА

— Гутэн абенд, мая чароўная Хельга!

— Яўген, што ты робіш у Гародні? — Вольга так здзівілася, што ўжо ў які раз раздумала крыўдзіцца на свайго нечаканага госця. А было за што.

Яе карабаціла ад яго недарэчных прывітанняў і асабліва ад скандынаўскага варыянту яе імя ў ягоных вуснах, хаця яна любіла нямецкую мову і валодала ёй у дасканаласці.

Так называць яе меў права толькі Алег.

— Прыехаў да цябе, — на поўным сур'ёзе, нават не міргнуўшы вокам, адказаў Яўген, і дзяўчына, не вытрымаўшы, залілася звонкім смехам.

— Праходзь, маньяк чароўнага вобраза, — нарэшце сказала яна. — Ты прамок да ніткі. Як я цябе такога ў Зэльву адпушчу?

— Ніяк. Таму я разлічваю мінімум на тваю забойную зёлкавую гарбату.

— Не дачакаешся, — дурасліва паказаўшы яму язык, Вольга паставіла на пліту чайнік і, турнуўшы Яўгена ў гасцёўню, накіравалася ў пакой бацькоў. Продкі будуць у Турцыі яшчэ два тыдні, таму пра яе маленькую «дыверсію» нават ніхто і не здагадаецца. Бацька не вельмі любіў пазычаць камусьці свае рэчы. Праўда, Пятро Уладзіміравіч часта ўлаўліваў чужыя флюіды нейкім шостым пачуццём, але дзяўчына рашуча ўзяла яго махровы халат і хатнія тапкі.

Нічога, перажыве.

Калі лепшы сябар Алега схопіць пнеўманію, яна ніколі сабе гэтага не даруе.

Хударлявы, з кволай, яшчэ зусім хлапечай шыяй, заўжды калматым цёмнакаштанавым хаерам, які ледзь даходзіў да ключыц, дробнымі рысамі твару і нечакана вялікімі вачыма-сподкамі пранізліва-зялёнага колеру з кропелькамі іржы каля зрэнак, Яўген выклікаў у яе нейкае хваравітае, шчымлівае, амаль мацярынскае пачуццё, і яна даравала яму ўсё — і «Хельгу», і сапсаваную нямецкую, і бясконцыя безнадзейныя заляцанні…

— Мяне зараз трасца забярэ! — нагадаў пра сваё існаванне госць, і Вольга, кінуўшы яму сухую вопратку, паспяшалася на кухню, дзе разбойніцкім посвістам заходзіўся чайнік, які даўным-даўно дайшоў да кандыцыі і цяпер голасна апавяшчаў пра гэта сваю гаспадыню.

Пакуль дзяўчына заварвала зёлкавы напой, старанна, з любоўю сабраны ёй яшчэ ў Зэльве паводле фамільнага рэцэпта яе бабулі Кацярыны, якая была ў свой час вядомай у раёне знахаркай і шаптухай, Яўген у сваё задавальненне плёскаўся пад душам.

Вольга ўздыхнула.

Чаму яна дазваляла Жэньку, даўно і безнадзейна закаханаму ў яе па самыя вушы, адчуваць сябе ў яе кватэры як дома, ёй і дагэтуль было невядома.

Можа таму, што Яўген быў, акрамя яе ўспамінаў, якія прыносілі невыразны пякучы боль, ледзве не адзінай нітачкай, якая звязвала яе з Алегам.

Але дзяўчына ведала: у яе з ім ніколі не будзе нічога сур'ёзнага. Прыняўшы яго першы падарунак (гэта быў пузаты флакончык з духмяным эфірным алеем, які меў нейкі дзіўны нетутэйшы пах), яна шчыра і без хітрыкаў, можа, занадта жорстка, дала яму гэта зразумець, што не спыніла яе недарэчнага зэльвенскага Рамэа.

І на яе, як з рогу багацця, пасыпаліся незвычайныя падарункі: складаныя, па-майстэрску сабраныя букеты з сухіх кветак, розныя драўляныя скрыначкі, але часцей за ўсё — маленькія флакончыкі з духмянымі вадкасцямі, якія здаваліся Вользе прываротным зеллем. Ад гэтых усіх падношанняў яна адчувала своеасаблівы пах дзікага ляснога звера. Помніцца, яна аднойчы нават пажартавала з гэтага, а Яўген, які рабіў «эліксіры кахання» і насамрэч лічыў сябе ведзьмаком, хаця яго ніхто ўсур'ёз не ўспрымаў, нават пакрыўдзіўся і, як ёй здалося, насцярожыўся.

У дзяўчыны была свая таямніца — старадаўні сярэбраны пярсцёнак у выглядзе кубка, упрыгожанага сапраўдным, пераліўна-малочным, як поўня ў сваім зеніце, адулярам, які яна, разам з зэльвенскай сядзібаю засцянковых шляхціцаў Лазарэвічаў, атрымала ў спадчыну ад бабулі Кацярыны.

Аднак чаму з трох сясцёр (сярэдняя, Таццяна, жыла з мужам у Італіі, а малодшая, Святлана, вучылася ў Мінску на ландшафтнага дызайнера і была вельмі далёкай ад вераванняў і забабонаў сваіх продкаў) баба Каця выбрала менавіта яе — для Вольгі заставалася загадкай, як і словы, якія яна паспела сказаць ёй перад самай смерцю: «Пярсцёнак належыць не табе, Волечка, а таму, хто, спазнаўшы смак спелае поўні, надзене яго аднойчы і ўжо ніколі не павінен будзе здымаць».

Але разгадаць ніводную з загадак яна так і не паспела, бо Алег знік без вестак.

…У тую ракавую ліпеньскую ноч яны святкавалі Івана Купалу ў Зэльве. Да яе шлюбу з Алегам заставалася тры дні.

Было весела. Лепшая сяброўка Вольгі, Юля, лідар клуба гістарычнай рэканструкцыі «Ярыла», наладзіла свята як мае быць, таму неабыякавых да сваіх каранёў на рэчцы Зальвянцы назбіралася шмат. На небе ззяла поўня. Палалі вогнішчы. Хлопцы і дзяўчаты скакалі праз агонь і вадзілі карагоды.

Дзяўчаты і маладыя незамужнія кабеты пускалі па вадзе вянкі з духмяных зёлак і маленькімі свечкамі, давяраючы цёплай, неабсяжнай, як Сусвет, ласкавай, як Маці-Зямля, чароўнай летняй ночы свае самыя запаветныя мары і жаданні.

«Раб Божы Альгерд вянчаецца рабе Божай Хельзе…»

Дзяўчына салодка зажмурылася і шчаслівa, ціхамірна, як хатняя котка, якую ласкава гладзяць па поўсці, замуркала, падстаўляючы свой твар жарсным, настойлівым пацалункам Алега.

Праз тры дні яны стануць мужам і жонкаю.

Шлюбная сукенка, якая ў дакладнасці паўтарала старадаўні скандынаўскі вясельны строй, ужо вісела ў шафе, і Вольга, правёўшы Алега, гадзінамі круцілася ў ім каля люстэрка.

Гэта будзе самае незвычайнае вяселле ўсіх часоў і народаў!

Замест традыцыйнага «кола пашаны» на лімузіне вакол гарадскога дома культуры яны паплывуць па Зальвянцы на сапраўднай нарвежскай ладдзі, а ў паветра замест галубоў выпусцяць ручнога сокала бацькі Алега на мянушцы Олаф…

Яе мроі перарвала купальская песня, якая даносілася з ракі праз адчыненыя вокны:

З натхненнем папараць шукаць
Там будуць да зары,
Ім будзе сыч перашкаджаць
І злыя ведзьмары.
Не знойдуць папараці той —
Яе няма нідзе.
Сярпок, заручаны з зарой,
Лунае ў вадзе…

— Воля, пойдзеш маё шчасце шукаць? — прасунула ў акенца сваю вогненнарудую галаву Юля, і дзяўчыне адразу стала сорамна, таму што яна ўспомніла, як урачыста абяцала лепшай сяброўцы схадзіць у лес па чароўную цуда-кветку.

Хлопцы пайшлі разам з імі.

…Сцежка прывяла іх у самае сэрца начнога лесу.

— Глядзі! — раптам ускрыкнула Юля, схапіўшы Вольгу за руку і яна, азірнуўшыся, віскнула ад захаплення на ўвесь гушчар, як малое дзяўчо.

Навокал, колькі хапала вачэй, раслі папараць-кветкі.

Прыгледзеўшыся, сяброўкі заўважылі, што на сцяблінах ззялі светлячкі.

— Зараз мы назбіраем, колькі ўнясём, а ноччу яны будуць свяціцца ў маім пакоі… — траскатала Юля, асцярожна зразаючы расліны ножыкам.

Яны паглыбляліся ўсе далей і далей у лес, ды, раптам схамянуўшыся, зразумелі, што Алега і Яўгена побач ужо не было, а калі выйшлі да старадаўняга, амаль разбуранага капішча, дзе, згодна з мясцовымі легендамі, і расцвітала раз на год чароўная кветка, то ўбачылі жудасную карціну.

Купы травы былі выварачаны з коранем нейкай пачварнай і сапраўды нечалавечай сілай, а паўсюль валяліся абрыўкі скрываўленай тканіны, у якіх Вольга, да свайго жаху, пазнала кашулю Алега. А, нахіліўшыся, яна падняла з зямлі камякі руда-шэрай звярынай поўсці…

Сяброўкі да самага світанку шукалі хлопцаў у лесе, роспачна крычалі на ўсе галасы, але адказам ім была толькі сонная, здрадніцкая цішыня непралазных гушчароў.

Яны амаль заблукалі, але ўсё ж здолелі выбрацца да Зальвянкі, паўжывыя ад стомы і пякучага адчаю.

І раптам Вольга ўбачыла на беразе Яўгена ў чым маці нарадзіла.

Прачнуўшыся, хлопец не змог нічога расказаць пра начную трагедыю, сведкам якой ён, безумоўна, быў, але па яго збялелым твары з шалёнымі вачыма Вольга зразумела — на паляне адбылося нешта жудаснае. З яго путанага, нелагічнага, збітага аповеду, які больш нагадваў трызненне душэўна хворага, яна зразумела толькі, што на іх напала нейкая вялізная пачвара. Потым у Жэнькі пачалася істэрыка, і яны з Юляй пабеглі па дапамогу…

А потым звыкламу жыццю прыйшоў канец.

Бясконцыя допыты і падача бязглуздых, бессэнсоўных паказанняў, паперы, апазнанні знявечаных целаў хлопцаў і маладых мужчын (у Зэльве сталі частымі напады на людзей нейкай драпежнай, няўлоўнай жывёліны, высачыць якую не ўдалося аніводнаму паляўнічаму), ніводнае з якіх, на шчасце, не належала Алегу, пераезд з бацькамі ў Гародню, далей ад жахлівых успамінаў, і… надзея.

Надзея і пякучы, нясцерпны адчай.

Боль страты быў першы час настолькі невыносным, што Вольга вымушана была хаваць усе фотаздымкі Алега, а ў яе прысутнасці забаранялася называць яго імя, бо нават самі гукі прымушалі яе нема крычаць.

Яна блытала ноч і раніцу, а яе думкі закручваліся ў клубок змей, якія несупынна атручвалі яе розум і душу.

Вольга з усіх сіл намагалася рабіць выгляд, што жыццё працягваецца і час здольны вылечыць любыя раны.

Кожны вечар, як і ў сваім іншым, шчаслівым жыцці, дзяўчына, прыклаўшы да сябе шлюбную сукенку (апрануць яе не хапала сіл), падоўгу разглядала свой адбітак у люстэрку, адкуль на яе пазірала засмучаная бялявая фея з тужлівымі, карымі вачыма-вішнямі, а, пачуўшы ў вітальні званок, дрыготкімі рукамі хавала свой вясельны ўбор, які здаваўся ёй пахавальным вэлюмам, у шафу. «Зараз. Нарэшце…»

Так праходзілі дні, тыдні і нават месяцы ўтрапёнага чакання, якое паступова ператваралася ў навязлівую ідэю…

— Хельга, ты мяне слухаеш ці не? — голас Яўгена прымусіў яе схамянуцца, і Вольга паставіла на край стала кубачак з гарбатай, які ледзь не перакуліла, таму што неўзабаве звярнула ўвагу на яго рукі з тонкімі нервовымі пальцамі музыкі. Ад запясцяў іх пакрывалі валасы дзіўнага руда-шэрага колеру. Раней Жэнькава расслінасць яе зусім не турбавала, але дзяўчына раптам злавіла сабе на думцы, што дранцвее ад нечаканага, невядомага жаху…

Пакой закруціўся перад яе вачыма, як шалёная карусель, і Вольга страціла прытомнасць.

## 2. СТАРАЯ ЛЕСНІЧОЎКА

Калі Вольга падхапілася ў ложку а палове дзясятай, то ў вокны ўжо зазірала яркае ліпеньскае сонейка.

Яўген паехаў у Зэльву яшчэ раніцай, і пакінуў, як і заўжды, свой развітальны падарунак на яе туалетным століку.

Вольга асцярожна ўзяла флакон.

Нешта ў падсвядомасці трывожна падказвала ёй схаваць бутэльку ў самы цёмны вугал шафы і больш ніколі не даставаць, але дзявочая цікаўнасць узяла верх.

— Які цуд! — яна не змагла стрымаць свайго захаплення, адкаркаваўшы «грымучую сумесь».

Салодкі, гурманскі, цяжкі ўсходне-біsквітны водар з гаркавата-вострым прысмакам спецый і вясёлымі, святочнымі акордамі экзатычнай садавіны абвалок яе сваім духмяным воблакам, які яна, не вытрымаўшы нечаканага спакушэння-наслання, нанесла некалькі кропелек на шыю і на запясці. Складаная шматслойная кампазіцыя раскрывалася і раскрывалася, пакуль у сэрцы не прагучала ўжо знаёмая Вользе звярыная нота.

І дзяўчына нечакана зразумела, як ёй хочацца зноў вярнуцца ў Зэльву.

Нядаўні роспачна-пякельны сум, які трымаў яе ў сваіх сталёвых цісках некалькі месяцаў, раптам растаў, быццам яго ніколі не было, і засталася толькі настальгічная туга па страчаным шчасці, якое ёй захацелася перажыць у сваіх успамінах.

Таму яе пальцы самі на аўтапілоце накруцілі тэлефонны дыск.

— Я рада, што ты нарэшце ўзялася за розум і вырашыла адпачыць на свежым паветры, — пахваліла яе Юля. — Сёння мы ўсе разам гуляем на Купалу. Гэта не абмяркоўваецца. Дарэчы, Жэнька, спадзяюся, таксама будзе?

— Можаш і не сумнявацца, — запэўніла яе Вольга. — Наш вядзьмар ніколі не прапускае аніводнага фэсту падобнага кшталту.

— Цудоўна! Нам якраз патрэбен чараўнік, хоць які, — узрадавалася сяброўка.

На імгненне ў Вольгі ўнутры зварухнулася нейкае нядобрае прадчуванне, аднак у Зэльву яна прыехала ў прыўзнятым, амаль святочным настроі.

Сядзіба бабулі Кацярыны пасля паўдзённай спякоты сустрэла яе прыемнай цяністай прахалодай.

А калі сонейка пачало патроху каціцца ў Зальвянку, то муж Юлі, бялявы блакітнавокі Міхал, які адразу ж нагадаў Вользе вікінга, натапіў лазню.

Дзяўчаты мыліся першымі.

«Юльцы сапраўды пашанцавала сустрэць сваё шчасце той страшнай ноччу!» — з лёгкай зайздрасцю падумала дзяўчына, паліваючы спіну сяброўкі з каўша духмяным адварам. Юля, штукарка на ўсе рукі, прыгатавала цэлую бочку «эліксіра маладосці» і цяпер яны ўдзвюх забраліся ў яе.

У зёлкавым міксе духі Яўгена раскрыліся поўнасцю.

— Прыемна пахнеш, — раптоўна сказала сяброўка, прагна пацягнуўшы носам. — Гэта ферамоны? Ці афрадызіяк?

— Ідзі ў лазню! — фыркнула Вольга і яны весела рассмяяліся.

Скончыўшы водныя працэдуры, Юля з Міхалам пачалі рыхтаваць купальскі фэст ва ўмовах строгай сакрэтнасці, а Вольга прылягла адпачыць у сваім пакоі на другім паверсе. Пасля зёлкавай ванны на яе цела навалілася цягучая, прыемная млявасць. Дзяўчына поўнасцю расслабілася. Неўзабаве вочы заплюшчыліся, і яна не заўважыла, як задрамала.

…Цёплая летняя ноч была напоўнена самотным, мігатліва-серабрыстым ззяннем спелае поўні.

«Хельга…»

Ціхі, пяшчотны, ласкавы голас Алега клікаў яе ўсё далей і далей у дрымучы гушчар, і Вольга схамянулася толькі тады, калі апошнія прыкметы чалавечага жытла і цывілізацыі зніклі, і яна зразумела, што звілістая сцежка вядзе яе ў самае сэрца лесу.

Яе адзінымі спадарожнікамі былі начная цемра і церпкі пах дзікага, драпежнага звера, які, здавалася, быў разліты паўсюль, разам з вадкімі, пераліўнымі, пульсуючымі хвалямі прывіднага месяцовага святла.

…Сцежка прывяла яе да старога капішча, якое год таму ўжо сабрала свой крывавы ўраджай.

На ахвярным камені сядзеў вялізны воўк з бліскучай чорнай поўсцю і сумнымі, цёмна-сінімі, зусім чалавечымі, вачыма, так падобнымі да Алегавых…

Вольга раптоўна прачнулася, быццам ад лёгкага штуршка, і са здзіўленнем павяла носам.

У пакоі вітаў знаёмы пах.

І ён належыў гаспадару начнога лесу.

«Які незвычайны сон!» — падумала дзяўчына, выбіраючыся з ложка. Ногі самі вынеслі яе ў калідор, а пасля — на вуліцу…

…Вольга ішла і ішла ўздоўж вуліцы Булгака, перайшла па мосце праз Зальвянку і збочыла да шырокай пасялковай дарогі, якая ўсё вужэла і танчэла, пакуль не ператварылася ў пакручастую сцежку. Але гэта была зусім не тая сцежка, па якой яна пайшла год таму шукаць папараць-кветку.

Цьмяныя промні сонца, якое было гатова скаціцца ў раку, пранізвалі непралазны гушчар зіхоткімі лёскамі-ніткамі, што кідалі свой палыновы адбітак на лісце, калматыя лапы елак і на траву, якая месцамі даходзіла да пояса.

Гэтае дзікае першабытнае хараство, як і пах звера, зачароўвала, вабіла і клікала за сабой з незразумелай, неадольнай сілай.

Сцежка перасякла старое капішча.

На ахвярным камені, скруціўшыся ў кола, спала гадзюка. Змяя выглядала ціхамірнай, спакойнай і зусім бясшкоднай, але Вольга, перасмыкнуўшыся, адчула, як па спіне прабег непрыемны халадок, і паспяшалася далей — туды, куды вёў звярыны пах.

Неўзабаве яе шлях у невядомасць абарваўся каля старога тыну, які месцамі спрахнеў і праваліўся. За ім дзяўчына ўбачыла леснічоўку.

Аднапавярховая хатка, зарослая мохам ад ганка да страхі, выглядала пакінутай, але менавіта гэтая знешняя ілюзія занядбанасці і запусцення прымусіла Вольгу адправіцца на разведку.

Каля дома месцамі буяла крапіва ледзь не ў яе поўны рост, і яна нават апяклася, аднак не звярнула на гэта ніякай увагі. «Нездарма ж я блукала па лесе, каб прыйсці сюды», — вырашыла дзяўчына, асцярожна адчыняючы старыя скрыпучыя дзверы, якія амаль саскочылі з петляў.

Мінуўшы цёмныя сені, Вольга апынулася ў пrasторным пакоі.

Электрычнасці ў леснічоўцы, вядома, не было, але вечаровага святла хапіла для таго, каб разгледзець простую, пацямнелую ад часу мэблю і печ у кутку.

На вокнах ад лёгкага скразняку калыхаліся пацёртыя шторы, якія ад свайго ўзросту даўно страцілі першапачатковы колер, а кветкі ў рознакаліберных гаршках звялі і высахлі... Але падлога была акуратна падмецена.

«Што за ліха?» — Вольга абышла ўвесь пакой і, рассеянна адчыніўшы адну з шафаў, здзіўлена ўскрыкнула, бо ўбачыла цэлы стос вымытых драўляных талерак і лыжак, а таксама свечкі ў падстаўках-падсвечніках, якімі нядаўна карысталіся.

Прысак з печы хтосьці старанна прыбраў, але камяні былі яшчэ цёплымі.

А пад столлю віселі мяцёлачкі духмяных зёлак. Яны ціха шапацелі ад ласкавага ліпеньскага ветрыку, быццам намагаючыся паведаміць ёй на сваёй кветкавай мове нейкую важную таямніцу.

Але дзяўчына адчувала толькі звярыны водар. Ён даносіўся аднекуль зблізку, і Вольга зазірнула ў суседні пакой.

Тым часам зусім звечарэла. Калі апошні промень сонейка знік у Зальвянцы, як зніч, то абрысы дзіўнага незнаёмага жытла пачалі імкліва губляцца ў аксамітавых прыцемках.

Вольга запаліла адну са свечак, і цёплы залаты агеньчык сваім трывожным зіхоткім мігценнем, як паходня, крыху разагнаў цемру. Дзяўчына неўзабаве ўбачыла ў нагах вялікага шырокага ложка драўляны куфар, акаваны масіўнымі металічнымі пласцінамі.

Яго вечка было прыадчынена і адтуль цягнула драпежнікам.

«Калі там хаваецца нейкая жывёліна, якая заблукала ў лесе і прыйшла сюды, то я проста шпурну ў яе агонь», — вырашыла Вольга, асцярожна падымаючы крышку.

Але абараняцца не давялося, таму што перад ёй ляжала старое, паношанае адзенне.

«Прыплылі! Я забралася ў самы гушчар толькі для таго, каб даведацца, што ў мясцовага лесніка небагаты гардэроб, а з густам — швах», — дзяўчына расчаравана ўздыхнула і ўжо хацела апусціць вечка, калі нешта да болю знаёмае на самым дне куфара прыцягнула яе ўвагу.

Вольга разграбла чужыя джынсы ды футболкі і выцягнула кашулю з адарваным рукавом, на якой былі бачны брудна-бурыя крывавыя плямы.

Яна належала Алегу.

Дзяўчына, не верачы сваім вачам, ашаламлёна мяла ў дрыжачых пальцах толькі што знойдзеную рэч.

Але памылкі быць не магло.

У гэтай кашулі яна ўпершыню сустрэла Алега на поплаве. І ў ёй ён быў, калі знік у тую страшную купальскую ноч.

Нечаканая надзея, амаль здагадка, прарваўшы вэлюм усходніх спецый і звярынага водару, які ўвесь гэты час ахінаў яе сваім атрутна-салодкім, цяжкім воблакам і вёў сюды, як пуцяводная зорка, асляпляльнай маланкай асвяціла яе падсвядомасць.

Жаласны, працяглы скрып за спінай прымусіў сэрца дзяўчыны шалёна закалаціцца. Аднак гэта аказалася ўсяго толькі старая шафа ва ўсю сцяну, якая адчынілася, верагодна, ад скразняку.

Яна аказалася пустой, толькі ў глыбіні яе нешта бялела.

Дзяўчына зазірнула ўнутр і, выцягнуўшы на свет сваю знаходку, убачыла, што трымае ў руках вясельны строй. «Якая прыгажосць!» — у Вольгі ад захаплення на некаторы час ажно дыханне заняло.

Ёй у галаву прыйшла нечаканая ідэя.

Скінуўшы кароткі рознакаляровы сарафан, дзяўчына асцярожна нацягнула праз галаву рэч, якая магла належаць толькі нейкай шляхетнай пані.

Сукенка ладна села па фігуры Вольгі, быццам была скроена спецыяльна дзеля яе.

Зашпіліўшы гузікі, кожны з якіх быў маленькай, выцягнутай жамчужынай, дзяўчына расправіла на спіне валасы і паглядзела на сябе ў старое авальнае люстэрка на сцяне.

І раптам зразумела, што апрануты строй дакладна паўтарае яе шлюбную сукенку.

Двайнік у Залюстэраччы здаваўся ёй мрояй-прывідам страчанага шчасця.

Шчасця, якое яна можа перажыць зноў толькі сёння.

У ноч на Івана Купалу.

## 3. КЕЛІХ ГЕКАТЫ

«Хельга…»

Тужлівы, знаёмы да болю шэпт гучаў у самым сэрцы чароўнай ночы, і дзяўчына ў доўгай белай сукенцы са свечкай-паходняй у руцэ ішла, як здань, проста на яго.

Вольга збілася са сцежкі і ўжо даўным-даўно блукала па лесе, ахінутая трывожна-трапяткімі, пульсуючымі, як месяцовае святло, якое залівала ўсё навокал, прадчуваннямі-флюідамі.

Пярсцёнак бабулі Кацярыны стаў для яе надзейным компасам.

Адуляр у аправе «прачнуўся» і, паступова наліваючыся перламутрава-вадкімі, прывабнымі пераліваімі, ззяў усё ярчэй і ярчэй па меры таго, як дзяўчына паглыблялася ў гушчар, адкуль даносіўся пах дзікага звера, які з самае раніцы пазбавіў яе спакою.

Раптам талісман згас і Вольга, спыніўшыся, разгублена азірнулася.

Шчодрае месяцовае святло, якое лілося з начных нябёсаў, каля самай зямлі рассейвалася серабрыста-шэрым, амаль празрыстым вэлюмам. Гульня святла і ценю на памежжы мроі і рэальнасці нараджала нейкі дзіўны аптычны эфект, таму дзяўчыне здавалася: то тут, то там яна бачыць высокі, стройны мужчынскі сілуэт.

«Хельга, хадзі да мяне…»

Камень у пярсцёнку зноў напоўніўся ззяннем, і Вольга, асцярожна прабіраючыся праз паваленыя дрэвы, працягнула свой шлях.

Цьмяная фігура Алега, мільгаючы ў хмызах то тут, то там, і ягоны самотны, ледзь чутны шэпт-малітва вабілі яе ўсё далей і далей у лес.

Неўзабаве калматыя елкі і высокія стромкія сосны расступіліся перад ёй.

Вольга апынулася пасярод старога капішча.

Месяц выкаціўся з-за бязважкіх аблокаў, і паляну заліло палыновае срэбра.

Слупы месяцовага святла скандэнсаваліся ў самым цэнтры ахвярнага каменя, і Вольга, зацікаўленая гэтай незвычайнай з’явай, падышла бліжэй.

Яе сукенка заіскрылася, кранутая промнямі спелай купальскай поўні, як і адуляр у пярсцёнку, які наліваўся ззяннем і з кожнай хвілінай свяціўся ўсё ярчэй і ярчэй, а месяцовыя флюіды, прымаючы форму ледзь бачных матылёў-прывідаў, вадзілі вакол яе свае карагоды, сплятаючы з лёгкіх, амаль непрыкметных рухаў свой дзівосны купальскі танец-мрою.

І пасярод хмызоў яна зноў убачыла няўлоўны цень таго, каго кахала больш за жыццё.

Раптоўна прывід выйшаў з-за дрэў на паляну, і сэрца Вольгі шалёна закалацілася, бо яна пазнала Алега такім, якім запомніла назаўжды.

Здань працягнула ёй руку.

«Хельга, не бойся. Я буду з табой у радасці і ў горы…»

— І нават смерць не разлучыць нас, — горка ўсміхнулася дзяўчына.

Але казка начнога лесу неўзабаве перарвалася, калі пад нечымі мяккімі, амаль бязгучнымі крокамі хруснула сухая галінка, і Вольга, ціха ўскрыкнуўшы, амаль

выраніла свячу, якую так і не паспела задзьмуць, але Яўген у імгненне вока злавіў яе ў палёце.

— Фу, напалохаў, вядзьмак!

— Я прыйшоў, каб развеяць беспрытульныя здані твайго мінулага, Хельга.

— Навошта ты сачыў за мной?

Замест адказу Яўген укленчыў перад ёй і схапіў за руку гарачымі, дрыготкімі пальцамі.

— Гэта яшчэ што за жарты?! — раззлавалася дзяўчына і паспрабавала вырвацца, але ў яе нічога не атрымалася, таму што ў Жэнькавых руках раптам выявілася надзвычайная, амаль звярыная сіла.

— Хельга, я кахаю цябе. Кахаў яшчэ са школы. Ты тады так і называла мяне ведзьмаком, памятаеш? Выходзь за мяне.

— Ты з глузду з'ехаў? — Вольга нервова рассмяялася.

— Хельга, бяжы прэч адсюль, пакуль не позна! — прахрыпеў Яўген.

Яго затрэсла, як у ліхаманцы, і ён з пакутлівым стогнам паваліўся на зямлю.

Тое ж самае рабілася і з Алегам.

Дзяўчына адскочыла, з жахам назіраючы, як лепшыя сябры курчацца на зямлі, пакрываючыся густой поўсцю, і губляюць чалавечае аблічча.

У гэты момант перад яе вачыма мільганула нешта вялікае і цёмнае, дзяўчына раптам зразумела, што здарылася з яе любым роўна год таму і чаму яна апынулася тут, пасярод начнога лесу.

Тым часам ваўкі ярасна сышліся ў жорсткай сутычцы, а поўня дасягнула зеніту, напаўняючы лясных драпежнікаў сваёй сілай.

Кожны з іх імкнуўся дацягнуцца да горла праціўніка.

Іх бой нагадваў нейкі незвычайны, паганскі, дзікунскі танец, складаны, прыгожы і небяспечны. Перад тым, як зрабіць чарговы напад, яны грацыёзна рухаліся адзін вакол аднаго, звужаючы свае кола.

Яўген у сваім воўчым абліччы, як і ў звычайным жыцці, быў крыху драбнейшым за Алега, але па сіле не саступаў яму.

І Вольга голасна, роспачна закрычала, клічучы на дапамогу.

Аднак людзі былі ўжо блізка, таму што ў гэтую ноч не толькі яна адна адправілася на пошукі шчасця — за дрэвамі ўжо палалі факелы-паходні.

Першым на паляну выскачыў Міхал. Юлін муж па дарозе адной левай выламаў малады дубок і кінуўся разнімаць ваўкоў.

Аднак агрэць нікога па патыліцы ён не паспеў.

Магутны ўдар махнатай лапы адкінуў яго прэч, як кацянё, і Вольга схаладзела, калі ўбачыла на яго грудзях чырвоныя сляды ад звярыных кіпцюроў.

На дапамогу да яго ўжо спяшалася Юля.

Сяброўка змянілася з твару, але ў сваёй цёмнай, балотна-зялёнай, са стальным адлівам, сукенцы, якая дзе-нідзе парвалася ад экстрэмальнага шпацыру праз увесь лес, яна неўзабаве нагадала Вользе тую самую гадзюку, якую яна бачыла днём.

— Волька, прабач, гэта я вінаватая! — загаласіла Юля. — Я ведала, што гульня з цёмнымі сіламі дабром не завершыцца, але ўсё роўна пайшла на пагадненне з імі…

— Значыць, гэта ўсё ты. І Яўген. Але навошта? — ашаломлена прагаварыла Вольга.

— Я кахала твайго Алега, але ён не заўважаў мяне, бо кахаў цябе. Я вырашыла адпомсціць і звярнулася да Яўгена. Ведала, што ён сапраўдны чараўнік. Жэнька паабяцаў мне, што Алег ніколі не будзе тваім, але я не ведала, што ён стане ваў-

калакам. Праўда, не ведала… Волька, прабач мне, прабач, калі можаш! — горка заплакала дзяўчына.

— Божа, якая ты змяя! — прашаптала Вольга і закаціла ўжо былой сяброўцы звонкую аплявуху.

Другую Юля атрымала ад Міхала, які прышоў у сябе і, усхліпваючы, пабегла прэч.

Начное рэха яшчэ доўга насіла яе плач.

Раптоўны жаласлівы, працяглы вой прымусіў іх скалануцца.

Яўген, тужліва скуголячы, пакульгаў на трох лапах у лясны гушчар — залізваць раны.

Алег нерухома ляжаў на зямлі і, здавалася, амаль не дыхаў. Вольга, роспачна ўскрыкнуўшы, кінулася да яго.

— Воля, ён можа быць небяспечным. Як і я цяпер, — Міхал паклаў ёй руку на плячо.

— Я ведаю. Але толькі не зараз, — запэўніла яго дзяўчына і, мякка вызваліўшыся, звярнулася да ўсіх: — Прашу вас, пакіньце нас адных. Калі ласка. Паверце, так трэба. Гэты воўк не зробіць мне ніякай шкоды. Лепей знайдзіце сапраўднага драпежніка.

І, параіўшыся між сабой, людзі ўсё ж такі рушылі ў пагоню…

Калі галасы паляўнічых і леснікоў, якімі кіраваў Міхал, заціхлі ўдалечыні, а на паляне не засталося аніводнага чалавека, то Вольга, адарваўшы прыпол ад сукенкі, як магла, асцярожна і беражліва, перавязала параненага пераможцу.

Воўк зусім саслабеў ад страты крыві і дзяўчына, паклаўшы яго галаву сабе на калені, з пяшчотай гладзіла яго бліскучую чорную поўсць.

— Дзякуй табе, Алег, — ціха сказала Вольга.

Поўня ўжо пакацілася да захаду, і яна зразумела, што вельмі хутка ўбачыць свайго любага ў чалавечым абліччы.

— Яўгена абавязкова знойдуць і пакараюць. Ты толькі не пакідай мяне зноў, бо я гэтага больш не перажыву, чуеш? — прыгаворвала дзяўчына, запускаючы дрыготкія пальцы ў футра ляснога гаспадара.

А зоркі ў небе гаслі адна за адной, неба на ўскрайку пачало святлець.

Поўня, якая амаль схавалася за вершалінамі дрэў, пачала губляць свае сілы, і Вользе здалося, што іх разам з месяцам губляе і Алег.

Толькі б дачакацца раніцы…

На імгненне дзяўчына заплюшчыла вочы і зарылася тварам у шаўкавістую воўчую поўсць, молячы нябёсы захаваць жыццё яе ўладальніку.

І яе гарачая малітва-роспач была пачута.

На світанку яна раптоўна прачнулася ад ціхага стогну.

Алег ачуняў.

На яго целе палалі шнары-палоскі, а ў чорных, як крыло крумкача, валасах з’явілася некалькі серабрыста-шэрых пасмачак, але бяздонныя сінія вочы глядзелі на яе з каханнем і журбой.

— Ты жывы! — узрадавалася Вольга, кранаючы яго твар у шматдзённай шчаціне.

— Мая любая Хельга… — прашаптаў хлопец патрэсканымі ад смагі вуснамі. Вольга адчула, што яму цяжка гаварыць, і прынесла ў прыгаршчы вады са сцюдзёнай крыніцы.

— Цяпер я ведаю, чаму ты не прыйшоў да мяне пасля той ночы, — з горыччу і спагадай сказала дзяўчына, прамываючы яго раны, якія гаіліся марудна і неахвотна, бо месяц у небе святлеў і губляў свае цьмяныя абрысы.

— Даруй мне, любая. Я магу толькі ўявіць, што табе давялося перажыць. Я мог бы паслаць вестку, але ты пачала б мяне шукаць. Не хацеў, каб ты бачыла, як я пераўтвараюся, і вельмі баяўся прычыніць табе шкоду. Я сачыў за Яўгенам, бо ў лесе тады мы з ім былі адны, і мне здалося, што ён ведае больш, чым расказаў. Але калі «вядзьмак» завёў цябе ў лес пры дапамозе сваіх «эліксіраў кахання», я зразумеў, чаго варты той, каго я лічыў сваім лепшым сябрам…

— Гэта ўжо няважна, — прашаптала Вольга. — Я больш не адпушчу цябе ў лес, мой любы Алег. Ніколі-ніколі…

Да ўзыходу сонца заставалася зусім нічога.

Раптам келіх Гекаты пяшчотна заззяў, быццам убіраючы ў сябе паміраючае месяцовае святло, і Вольга, неўзабаве зразумеўшы загадкавы сэнс таямнічага паслання нябожчыцы Кацярыны, дрыготкай рукой надзела яго на сярэдні палец Алега…

## ЗАМЕСТ ПАСЛЯСЛОЎЯ

Цёплы кастрычніцкі вечар блізіўся да свайго завяршэння, а ў паветры, кранутым палыновай смугой-развітаннем, кружылася рознакаляровае лісце.

У небе ўжо бялела няспелая поўня, абяцаючы доўгую ноч і кароткія, чароўныя прыцемкі.

А ў маладой пары, якая гуляла па набярэжнай Нёмана, усё толькі пачыналася. Яны зусім нядаўна ажаніліся, але прыцягвалі ўвагу выпадковых прахожых не толькі тым, што бясконца разглядалі свае шлюбныя пярсцёнкі, колькі сваёй надзвычайнай прыгажосцю.

Яны пасавалі адно аднаму, як ніхто.

Малады чалавек, апрануты стыльна, элегантна і нават старамодна, крыху прыпадаў на правую нагу, абапіраючыся на вытанчаны паліраваны кій з булавешкай у выглядзе галавы ваўка, а праз правы бок яго твару праходзіў доўгі шнар. Ён, як і бліскучыя, чорныя валасы, дзе-нідзе перасечаныя прыкметнымі серабрыста-сівымі нітачкамі-пасмамі, і задуменна-журботныя, вялізныя цёмна-сінія вочы, у якіх назаўжды застыла глыбокая горыч, надавалі яго знешнасці своеасаблівую імпазантную прывабнасць.

Вольнай рукой ён пяшчотна абдымаў бялявую, зграбную, танюткую, з такім ж, як і ў яго самога, цёмнымі вачыма-сподкамі, дзяўчыну, якая ласкава ільнула да яго і называла дзіўным, старадаўнім, амаль забытым імем — Альгерд…

І ні адзін з сустрэчных нават не здагадваўся, праз што давялося ім прайсці, каб назаўжды развітацца з мінулым і пачаць з чыстага ліста.

Рана на шчацэ і пашкоджанае сухажылле не паспелі загаіцца, калі Вольга перад самым узыходам сонца надзела на руку свайго суджанага чароўны пярсцёнак, які выратаваў яго ад праклёну ваўкалака.

І цяпер, выконваючы запавет бабулі Кацярыны, ён ніколі не здымаў яго.

Айцец ЯЎСТАФІЙ

# РЫМСКІ СПЛІН

Сяргей садзіўся ля акна, паглядаў на шэры зімовы Мінск, піў гарбату і думаў... Думаць было цяжка, але ён стараўся. У гэтым — у здольнасці думаць — быў хоць нейкі намёк на жыццё. Наогул, ён пачаў ужо паволі прызнавацца сабе ў тым, што жыццё знікала. Рэальнасць адслойвалася ад свядомасці, нібы старыя шпалеры ад сырых сцен: ён не мог зразумець нават простых рэчаў — у якім годзе жыве? Сяргей спрабаваў заняцца своеасаблівым самааналізам, адчуваў, што трэба пісаць — раней заўсёды дапамагала. Але што такое «раней»? Ён баяўся зазірнуць у гэтую бездань, якая, аказваецца, зусім не знікла, а па-сапраўднаму нават яшчэ і не з'явілася. І толькі цяпер Сяргей зразумеў, што давядзецца зноў пачынаць усё з чыстага ліста...

Ён нібыта павінен быў некаму гэтым сваім пісаннем!.. Кажуць, талент немагчыма насыціць нічым. Але, насамрэч, немагчыма нічым насыціць толькі прагу абсалютнага, а талент... Цяпер Сяргей нават не спрабаваў зразумець яго прыроду, толькі марыў пра тое, каб вызваліцца ад гэтай залежнасці; як яму некалі здавалася — высакароднай залежнасці. Ён не мог рабіць нешта непрыгожа: не мог непрыгожа жыць, хоць усё навокал і прымушала яго да гэтага пачварства.

Сяргей адчуваў, што не можа больш маўчаць: патрэба ў пісанні была падобная да абстынентнага сіндрому. Пры ўсім тым ён разумеў, што калі і пісаць, то пісаць толькі пра галоўнае. Яго, напрыклад, не цікавіла ўся гэтая *мітусня з мовай*; Сяргей даўно ўжо прывык пісаць артыкулы, весці блог ці лаяцца ў «Фэйсбуку» на трох мовах: на беларускай, рускай і англійскай… Мова для яго была другаснай справай, ён не збіраўся за яе змагацца: проста выкарыстоўваў — і ўсё. Пісаў ён больш па-беларуску толькі таму, што нарадзіўся тут, у Беларусі. Ён заўсёды пісаў толькі пра тое, што было галоўным для яго ў гэтую хвіліну. Калі па-сапраўднаму пісаў... А не па-сапраўднаму больш не мог.

Было такое адчуванне, што час спыніўся спецыяльна для яго, чакаў штосьці менавіта ад яго… Сяргею рабілася ўсё страшней, таму што (ён добра ведаў гэта) з часам не вып'еш на брудэршафт, час — гэта бязлітаснае «цік-так».



***Айцец Яўстафій нарадзіўся 20 лютага 1975 года ў Докшыцах. Скончыў Беларускі ўніверсітэт культуры па спецыяльнасці «Літаратурная работа» і Мінскую духоўную акадэмію. З 2003 года жыве ў Жыровіцкім манастыры. Выкладае ў Мінскай духоўнай семінарыі. Спрабуе «завязаць» з літаратурным мінулым — пакуль не атрымліваецца…***

Сяргей разумеў, што колькі не змяняй абставіны вакол сябе, колькі не спрабуй уцячы ад сябе, — усё ў канчатковым выніку ўпіраецца ў адзіна важныя для ўсіх людзей *адносіны*. Са знікненнем галоўнага ў яго жыцці ўтварылася такая страшная пустэча ўсярэдзіне, што з ёй немагчыма было жыць… Толькі цяпер Сяргей зразумеў, што ён — не выключэнне з правіл, і для яго, як і для многіх іншых людзей ва ўсім свеце, сэнс жыцця зводзіцца да нейкага канкрэтнага чалавека. У яго быў такі чалавек, і калі яго не стала, жыццё Сяргея, як кажуць, няўхільна пайшло пад адхон. Мо і сышло на нішто, але ён пакуль не хацеў у тое верыць…

Яго любая жонка Іра памерла паўгода таму, згарэла ад раку за некалькі месяцаў, і нічога — ні грошы, ні сувязі, якіх хапала з лішкам, ні сябры, якіх хапала тым больш, чым больш было грошай і сувязей... Карацей, нічога не дапамагло. І самае жудаснае… Сяргей быў веруючым чалавекам! Ён супрацоўнічаў адзін час з праваслаўным выдавецтвам, нават выдаў там кнігу ўласных вершаў (на «духоўныя тэмы»). Ён хадзіў у храм, хадзіў да споведзі і прычасця, меў духоўніка… Карацей кажучы, ставіўся да ўсяго гэтага вельмі сур’ёзна. І вось… *Нічога* не дапамагло яму…

Ён не мог цяпер нават пайсці і напіцца, бо гэта не толькі не змяніла б нічога, а дадало б крыху больш пустаты, якая, у сваю чаргу, дадала б крыху больш болю. Сяргей адчуваў сябе казачным персанажам, які да чаго б ні дакранаўся, усёператвараў у золата. Пэўны час яго нават забаўляла гэта, але цяпер… ад яго дотыкаў усё навакол губляла сэнс. Ён шукаў месца, дзе мог бы схавацца ад сябе. Трэба было адпачыць ад Мінска: горада, які прынёс яму столькі болю. Бо ўцячы ад яго зусім было немагчыма. З дапамогай сяброў ён хутка сабраў усе неабходныя дакументы і паляцеў у Рым.

Будучы паспяховым мінскім журналістам, Сяргей наведаў шматлікія краіны Еўропы. Больш за ўсё ён палюбіў Рым: заўсёды адчуваў радаснае здзіўленне, калі трапляў у Вечны Горад. Рым для яго заўжды быў адкрыццём — занадта шмат там назбіралася за столькі стагоддзяў... Сяргей быў знаёмы з адным калумбійцам, у якога здымаў добрую аднапакаёвую кватэрку амаль у цэнтры горада: да Калізея хвілін дзесяць пешшу. Звычайна ён прыязджаў на некалькі дзён, самае вялікае — на тыдзень, але цяпер спяшацца не было куды, грошай хапала, і Сяргей вырашыў зняць кватэру на месяц. Праз «Фэйсбук» ён звязаўся з гаспадаром. Той быў вельмі задаволены, і нават даў «сеньёру Серджыа» нейкую скідку, на якую, зрэшты, самому «сеньёру Серджыа» было напляваць…

У студзені тут дастаткова холадна. Аднак для Сяргея гэта было самае любімае надвор’е, бо чымсьці нагадвала мінскую вясну альбо «бабіна лета» восенню. Да таго ж турыстаў параўнальна мала. Ён жыў у характэрным для Рыма старым жоўтым доме, на трэцім паверсе — у гэткім жа доме (за пару кварталаў ад яго) жыў Гогаль амаль дзвесце год таму...

Яшчэ ў першы свой прыезд Сяргей аблюбаваў невялікі прыватны рэстаранчык. Тут збіраліся пераважна італьянцы, мясцовыя жыхары, што было самай лепшай рэкамендацыяй. Кожны вечар ён праводзіў тут не адну гадзіну. Звычайна замаўляў сваю любімую мацарэлу з мідыямі і бутэльку белага віна. Неяк ён падгледзеў, як выпівалі побач два сеньёры — дзве бутэлькі стаялі ў вядзерцы з лёдам. З тае пары Сяргей таксама прасіў сабе вядзерца, а на трэці ці чацвёрты раз ужо не трэба было і прасіць. Сяргею было прыемна, што гаспадары, як са старым знаёмым, віталіся з ім, выносілі па яго просьбе столік на вуліцу, заўсёды мелі для яго свежы нумар «The Guardian»... Так ён сядзеў, піў віно, нешта чытаў, часам браў з сабой ноўтбук...

Натуральна, ён жыў тут: рэстаран знаходзіўся ў суседнім пад’ездзе (ці як гэта ў іх называецца)... Сяргей кожны раз раскланьваўся з насельнікамі пад’езда:

«Банджорна, сеньёрэ». Яны ўсміхаліся ў адказ на гэтыя яго «банджорны» і «грацыі»; ён бачыў, што звычайным італьянцам падабаўся яго загадкавы вобраз: з выгляду — еўрапеец, але, вядома, ніякі ён не еўрапеец. Зрэшты, хутка ўсе здагадваліся, што гэта чалавек з Усходняй Еўропы ці нават з Расіі (пад якой яны разумелі ўсё, што знаходзіцца на ўсход ад Польшчы).

Сяргей так стаміўся ад бясконцых сваіх самакапанняў — колькі іх было ў яго ў жыцці!.. Па сутнасці, усё жыццё было нейкай бясконцай «разборкай» з самім сабой: нібыта ён хацеў нешта адсудзіць у свайго няшчаснага «я» і ніяк не мог. Сяргей спадзяваўся, што знойдзе, нарэшце, натхненне: толькі яно дапамагло б пазбавіцца ад невыноснай пустаты, якая пракралася ў самыя аддаленыя закуткі яго быцця. Як ён ні спрабаваў хавацца — пустата, быццам атрутны газ, выкурвала яго адусюль, здзекавалася з яго.

Сяргей часам разважаў над тым, ці лягчэй было б, калі б ён нарадзіўся ў іншую эпоху? Ці мог бы ён стаць знакамітым пісьменнікам? А ён верыў, што мог бы ім стаць. Калі б камусьці была патрэбна яго творчасць. Але, насамрэч, ён нават не ведаў, ці трэба гэта ўсё яму самому? Сяргею здавалася, што мастацтва служыла б яму, калі б ён сам аддаў мастацтву ўсю сваю душу. Але ён гэтага рабіць не хацеў. Таму што не меў ніякіх гарантый. Колькі ўжо графаманаў аддалі сваю душу ні за пстрычку... Сяргей не хацеў заключаць гэтае пагадненне, нават калі б яму даказалі яго ўласную геніяльнасць. Сам ён вельмі моцна сумняваўся ў тым, што зрабіў правільную стаўку, але было ўжо позна пачынаць жыццё спачатку. Таму ён нічога лепшага не мог прыдумаць, як надалей сноўдаць непрыкаяным прывідам па Вечным Горадзе. Спыняцца было нельга, і таму ён усё поўз і поўз, пакуль не заканчваўся «завод». Пакуль не падаў без сіл, як падаў калісьці, заканчваючы сваю, здавалася б, бясконцую імправізацыю Бёрд[1]. Як і Бёрда, яго гнаў той жа самы пераследнік — гуляў з ім як котка з мышкай.

«Што мне трэба ад гэтага жыцця?» — пытаўся ён у сябе і ў той жа час баяўся адказу. Таму што ўсе адказы, якія ён знаходзіў, рассыпаліся ў попел перад адзіна магчымым, пра які ён баяўся нават думаць. Наіўная спроба вярнуць душэўны спакой праз творчасць, сабраць свой унутраны стан, быццам дэталі дзіцячага канструктара, раскіданыя па пакоях вялікага дома... Ён гатовы быў прысвяціць усё жыццё такому збіранню, хацеў знайсці ў ім сэнс. І толькі апошнім часам Сяргей пачаў усведамляць, што ўсё гэта падобна да вечнага блукання ў царстве смецця. Хуткае расчараванне пазбавіла б яго ад гэтай ганьбы, перад якой ён бы рана ці позна паўстаў. Але і расчаравання Сяргей ніяк не мог ад сябе дамагчыся. Ён толькі прагна глытаў прыгажосць, якой было паўсюль у гэтым Горадзе — хоць захлыніся... Прыгажосць ва ўсім: у выдатных палацах, храмах, п'яцах, фантанах, антычных руінах; у знакамітых крамах на Віа дэль Корса, у непаўторных сваім каларытам рынках на П'яцца Кампадэ-Ф'ёрэ, ва ўсіх гэтых выдатных вінах, піцах, пастах, антыкварных букіністычных шапіках...

Але Сяргей паміраў сярод усёй гэтай прыгажосці, бо не мог яе ўжываць — яна была несапраўднай…

Часта яго ахутвала бессань: яна паступова, з веданнем справы, даводзіла яго да знямогі. Сяргей спрабаваў маліцца, аднак у адказ чуў толькі ўздыхі пустаты — уздыхі, якія наводзілі жах сваёй чорнай бяздоннай пажадлівасцю... Сяргей стараўся не заўважаць гэтага, але вельмі хутка пачынаў размывацца і знікаць сэнс малітоўных

---

[1] Псеўданім джазавай легенды Чарлі Паркера.

слоў, якія ён прамаўляў зусім механічна. Тады ён спаўзаў з ложка, доўга сядзеў на падлозе ў нейкім незразумелым забыцці, потым уставаў, уключаў святло, хадзіў па пакоі. Урэшце ўключаў які-небудзь фільм, наліваў віна...

Днём Сяргей зноўку знаходзіў сябе ў якім-небудзь «закутку». Спрабаваў супакоіцца, але зноў нізрынваўся і асуджана адрываў сябе ад століка, каб ісці ў нікуды. Нарэшце яму трапілася адна кавярня, якая крыху супакоіла. Натыкнуўся на гэтае выдатнае *Charity Cafe* ён цалкам выпадкова. Неяк ноччу ішоў наўздагад ад базілікі Санта-Марыя-Маджорэ па аднайменнай вуліцы, перасёк Віа Кавур, затым збочыў на Віа Паніспэрна... Было імжліва, амаль холадна (сапраўднага холаду ў гэтым горадзе ён яшчэ не сустракаў). Церусіў дробны дожджык, якіх тут вельмі шмат у студзені. Увогуле, надвор’е было самае што ні на ёсць блюзавае. Каб сагрэцца, Сяргей дастаў навушнікі і ўключыў «Blue Train» Джона Калтрэйна.

Віа Паніспэрна, як толькі ён туды ступіў, атуліла яго знаёмымі прывідамі. Спачатку Сяргей не мог зразумець, што здарылася, але потым убачыў, што гэта не галюцынацыя — вуліца была поўная гукаў джаза. Неўзабаве ён апынуўся перад гэтым кафэ, назва якога яму, шчыра кажучы, не спадабалася. Не спадабалася яму і барменша: пакуль Сяргей не сказаў ёй на агідным амерыканскім акцэнце «daRk beeR»[1] (старанна вымаўляючы гэтыя макаронныя «R»), барменша-італьянка ніяк не магла зразумець яго, а толькі смяялася. Падумала, напэўна, што ён замовіў нешта накшталт «качкі з мядзведзем»[2]. Сяргей не любіў «American English» і размаўляў бездакорнай лонданскай гаворкай — гэта давала яму эстэтычнае задавальненне, без якога ён англійскую мову не змог бы вывучыць, якой бы патрэбнай яна ні была.

Між тым вельмі хутка ён зразумеў, што знайшоў тое самае месца, дзе адчуваў сябе ва ўнісон з прыродай навакольных рэчаў. Напэўна, гэта можна назваць гармоніяй. Тут гучаў нядрэнны джаз і, шчыра кажучы, галоўным было тое, што тут наогул быў джаз, жывая музыка. Прыходзілі нейкія музыканты, джэмавалі. Даволі прыстойная джаз-сесія. Адзінае, што яго крыху расчароўвала кожны раз, — гэта гучнасць. Аднак пасля пары кактэйляў усё станавілася нармальным. І нават выдатным.

Публіка часта змянялася, але былі і заўсёднікі. Сяргею падабалася, што ніхто не зважаў на яго. Ён даставаў ноўтбук і спрабаваў пісаць за барнай стойкай. Часам яму нават саступалі месца ў кутку. Зрэшты, на Радзіме даўно б ужо палезлі з роспытамі, п’янымі споведзямі і паспрабуй тады не паспачуваць... Тут усё-ткі быў клубны настрой, і Сяргей вельмі хутка стаў «сваім». Людзі, вядома, бачылі па яго рэакцыі на музыку, што ён разбіраецца і любіць джаз — гэтага было дастаткова. Яго ўжо пазнавалі бармены, і праз некаторы час сталі самі наліваць яму, не пытаючыся. Гэта, як заўсёды ў такіх выпадках, лічылася своеасаблівым кампліментам: прыкладна, як атрымаць абанемент. Аднойчы Сяргей дапамог зрабіць заказ рускім маладзёнам і пасля гэтага цікавасць да яго вырасла. Італьянскія заўсёднікі крадкомківалі на яго сваім сіньярынам і гучным шэптам тлумачылі: «Guarda, questa persona strana... sembra che sia un scrittore russo...»[3]

Кожны раз, адкрываючы ноўтбук, Сяргей спадзяваўся хоць што-небудзь напісаць. Напісаць, каб вызваліцца ад невытлумачальнага болю, які ён, тым не менш, добра ведаў, які імкнуўся з кожным годам разгадаць і ніяк не мог. Сяргей разу-

[1] Цёмнае піва (*англ.*).

[2] У англійскай мове словы «dark» (цёмны) і «duck» (качка), «beer» (піва) і «bear» (мядзведзь) падобны.

[3] «Глядзі, што за дзівак… здаецца, гэта рускі пісьменнік…» (*італ.*).

меў, што яму навязалі правілы гульні, з якімі ён, відавочна, не спраўляўся. Ён жыў толькі гэтай надзеяй: разгадаць алхімію слова, якую падчапіў даўно і безнадзейна. З тых часоў гэтая алхімія блукала недзе ў закутках яго свядомасці, гуляла з ім у хованкі. Часам Сяргей даходзіў да адчаю: ганяўся за ёй, ладзіў сцэны, пагражаў, упрошваў, маліў... У рэшце рэшт, яна з'яўлялася на імгненне — асляпляльная ўспышка азарэння! — усё, што ён паспяваў запомніць, адразу запісваў. Узнаўляў, так бы мовіць, дэталі па памяці. Часам нічога не трэба было вымучваць, усё ішло як па масле, ён ледзьве паспяваў запісваць. Але бывала і так, што спатыкнешся на нейкім слове альбо нават гуку... І не факт, што знойдзеш яго потым, хоць вытрыбушы ўсю душу.

Сяргей падоўгу сядзеў над адкрытым ноўтбукам і… Яму вельмі падабалася вось так сядзець. Можа, так яно ўжо і пачыналася — яго ўласнае пекла? Усё, абсалютна ўсё, што становіцца занадта доўгім, ператвараецца ў кашмар, а тым больш, калі робіцца вечным... А ў тым, што вечнасць калі-небудзь наступіць, ён не сумняваўся. На жаль, Сяргей ведаў пра вечнасць занадта шмат: значна больш, чым хацелася б. І справа нават не ў тым, што ён быў пісьменнікам. Нармальны сучасны пісьменнік, нікому не патрэбны, як і нармальны сучасны джазавы музыкант, звычайна не зацыкліваецца на вечных пытаннях. Ці як іх там яшчэ называюць... Але яму мала было заставацца проста пісьменнікам. О, калі б ён ведаў, чаго хацеў!..

Сяргей урэшце патанаў ва ўспамінах. У кожнага чалавека ёсць такі запаветны арсенал успамінаў, які можна падключаць час ад часу, нібы штучнае дыханне…

Ён успамінаў сваю старую школу, свежы пах фарбы кожны год на першага верасня, душныя перапоўненыя класы вясной, лепшага сябра, з якім яны часта бегалі за новымі маркамі ў «Кнігалюб» на Інтэрнацыянальнай.

Ён успамінаў першую касету, якая перавярнула яго жыццё: раннія хіты «Ролінг Стоўнз»; успамінаў, як у шаснаццаць гадоў першы раз праводзіў аднакласніцу, як хацеў падарыць ёй сваю любімую кружэлку «Bags Groove» Майлса Дэвіса, выдадзеную савецкай фірмай «Мелодыя». Але дзяўчына засмяялася і сказала, што не слухае такую «муру»; а калі ён выйшаў з яе пад'езда, «жалезныя рыцары Серабранкі» разбілі яму твар і кружэлку.

Ён успамінаў, як пачаў пісаць першыя вершы, пастаянна закаханы ў каго-небудзь (потым ён, праўда, зразумеў, што не абавязкова пісаць вершы для дзяўчат); а пасля ён пачаў хадзіць у розныя рэдакцыі; і як вынік — першая публікацыя ў газеце «Знамя юнацтва». Прайшло... дваццаць пяць гадоў, Божа мой!..

А потым знакамітая тусоўка ў рэдакцыі часопіса «Ветразь», першыя канцэрты нефармалаў, тусоўкі на «Панікоўцы».

Заканчэнне школы і ўніверсітэт, тэатры, выставы, кінафэсты, літаратурныя вечарыны, спрэчкі, гулянкі...

Ён заплюшчваў вочы, седзячы за столікам у кафэ, і бачыў перад сабою Мінск свайго юнацтва. І разумеў, што нягледзячы ні на што, гэта быў самы лепшы горад на свеце. Таму што там адбыліся самыя галоўныя падзеі ў яго жыцці. А цяпер...

Сяргей памятаў, як аднойчы ў класе пятым ці шостым небяспечна захварэў, і бацькі прыносілі ў бальніцу амаль кожны дзень любімыя яго заварныя піражныя, але ён не мог нават глядзець на іх... Так упершыню ў жыцці ён спазнаў прывіднасць любой зямной радасці. Па сутнасці, Сяргей застаўся тым жа самым хворым хлопчыкам. І цяпер, куды б ён ні бег, нават у гэты самы прыгожы горад на Зямлі, нішто не магло прынесці яму радасці. Першыя дні, пакуль ён не насыціўся Рымам, усё ішло больш-менш, а потым за ім па следзе зноў пайшоў сплін…

Было і яшчэ адно... На самай справе, Сяргея заўсёды захапляла нешта канкрэтнае: нейкая думка, пачуццё — ён быў у гэтым плане імпрэсіяністам. Голас дзяўчыны на вуліцы, ці кашаль бабулькі ў чарзе па хлеб, ці стомлены погляд прадаўшчыцы перад закрыццём крамы, ці іронія прыяцеля за куфлем піва... Усё гэта дзіўным чынам рэзаніравала ў яго душы, змешвалася, нараджала новае самабытнае жыццё — сапраўднае мастацтва, якое ён толькі мусіў перанесці на паперу. Спалучэнне колераў, гукаў, пахаў, смаку альбо дотыкаў. Часам яму трэба было прымаць самы актыўны ўдзел у гэтым нараджэнні, што ён з задавальненнем і рабіў. Але не дзеля самога працэсу жыцця, а дзеля таго, каб перанесці ўсё на паперу. Па сутнасці, Сяргей ужо тады пачаў губляць тое, што людзі называюць «смак да жыцця». Таму што сабе ён нічога не пакідаў — не раздумваючы, аддаваў сябе ў натуршчыкі, і толькі цяпер пачаў разумець наступствы такога рабства. Ён успамінаў словы аднаго з пісьменнікаў, старэйшых сваіх калег, які неяк ці то жартуючы, ці то ўсур’ёз сказаў, што героі яго твораў значна больш рэальныя за навакольных людзей. Цяпер Сяргей зразумеў, што гэты пісьменнік гаварыў абсалютна сур’ёзна, але баяўся нават сабе прызнацца ў тым, наколькі.

І вось надышоў час, калі Сяргей захацеў пазбавіцца ад такога спосабу жыць. Аказваецца, ён толькі так і ўмеў жыць. Так навучыўся ў маладосці і лічыў гэта адзіна правільным. Таму што толькі такое жыццё прыносіла яму радасць — радасць сустрэчы і вызвалення ад гэтай сустрэчы. Так бывае, калі сустракаешся з чымсьці вялікім і выдатным, ад чаго перайма дух і хочацца хутчэй адысці ў цень... Таму што доўга вынесці гэта немагчыма.

Сяргей пачынаў разумець, у чым яго праблема. Праблема як мастака. Ён не бачыў больш прыгажосці вакол сябе. А без прыгажосці жыць не мог. Больш за тое, ён падазраваў, што сапраўдная прыгажосць знаходзіцца толькі ўнутры чалавека, а ісці гэтак далёка ён баяўся… Сяргей быў задаволены тым, што зразумеў прычыну сваёй хваробы, але як далей з гэтым жыць — не ведаў. Ён толькі спрабаваў уцячы ад *спліну*, які мучыў многія пакаленні мастакоў ужо не адну тысячу год…

Свабода! Неба! І Каханне! У агні такога
Бачання ты раставала, далікатная, як снег;
Яно бязмерна заглушала твае слова —
Бясконцасць позірк твой збянтэжыла навек[1].

Сяргей адчуваў, як ягоную шыю здавіла мара: мара, якую ён спрабаваў злавіць у дваццаць год і ад якой кульгаў цяпер у сорак. Яна была вельмі далікатнай і бясконца сумнай. Мара пераследавала яго сваёй невымоўнасцю і незваротнасцю. І ён кідаўся паміж рознымі яе іпастасямі, нібы загнаны звер.

Яшчэ праз некалькі дзён ён паляцеў у Парыж.



[1] Урывак з верша «Афелія» А. Рэмбо.

Айцец ЯЎСТАФІЙ

# БЕЛАРУСКАЕ ГАЛАШЭННЕ

***О вы вси идущие путем,***
***Погледьте и видьте есть ли болесть яко болесть моя...***[1]

О, Белая Русь…
Сівыя пасмы лясоў,
святая, заможная веліч
бацькі Нёмна, маткі Дзвіны…
Паўстаюць
перада мною
дзеці твае
з вякоў,
твае мудрацы, манахі, купцы,
твае гараджане, сяляне,
плошчы і рынкі, пожні, лясы,
гасцінцы, цэрквы, касцёлы,
маёнткі паноў, халупы сялян…

Дзе падзелася ўсё,
і куды
выветрылася
годнасць,
веліч твая.
Даўно адцвіла на прасторы
Ефрасіннеўскага крыжа,
украдзенага і
забытага…

Няма крыжа —
і навошта шчыт тады
твайму вечнаму эмігранту,
калі няма каго абараняць
і вяртацца няма куды…
Навошта ўся гэтая мітусня
з ВКЛамі ды БНРамі,
калі насамрэч
**галоўнага**
як не было,
так і няма…

О, Белая Русь,
такая няшчасная доля твая,
ты напаткала свой крыж
на пачатку гісторыі,
навалы ліхой, якая
то з заходу, то з усходу —
бясконца сізіфавы лёс
паспалітаму люду твайму —
адно толькі збудуеш што-небудзь,
чакай ужо новых гасцёў,
якіх не спыніць нішто —
ні званы Сафіі святой,
ні князі Наваградка,
ні Віленская дыпламатыя,
ні дрыгва палескіх балот…

Вось табе новыя падарункі —
стары-новы падман
ліюць і ліюць
на тваю здранцвелую душу —
з усходу снежны прыйшоў чалавек
з чырвонымі зоркамі замест вачэй,
пакідаючы пасля сябе
рубцы на вярсту
і чорныя дзіркі замест жывых душ.
Пакідаючы

[1] Урывак з біблійнай кнігі «Плачь Еремии» *(пераклад Францыска Скарыны, выдадзена ў Празе ў 1519 г.).*

каласы пад сярпом свайго
адзічэлага бяспамяцтва,
ні роду, ні племені, ані мовы —
нічога няма…

Ну а з захаду — о, гэтаксама
хапае табе падарункаў!..
Іншага й не чакай —
адно і тое ж наўскрозь
праз гады, чарадой —
адныя і тыя ж
паскудныя песенькі
пра свабоду «нашу і вашу»,
а насамрэч —
ў Спаскай царкве
лаянка
лацініцай
па ліках святых…
І вочы святой Ефрасінні —
апошнія сведкі
на голай зямлі тваёй.

О, Радзіма мая!..
Азірніся — мы
з табой засталіся
адны на ўсім свеце.
Спім на каленях
стагоддзямі.
Людзі кажуць,
лепей смерць, чым
такая гісторыя…
Нікому не вер —
не прадасць толькі
Бог…

Я чую —
штурхае малітва ўжо
з шэрай поўначы,
з непрагляднай сівой імжы
ў будучыню —
ці пачуеш яе ты, о, Белая Русь?
Ці пачуеш адчайны мой Трэнас,
галашэнне ў пустэчы
тваёй падманлівай чаркашкварнай
талеранцыі?
Ці бачыш ты гэты падман,
Радзіма мая?
Ці прaціснешся ты
паміж холаду
крывых шабель,
ці выблукаеш за сцяжкі
паляўнічых, якія
з усіх бакоў
чакаюць
часу свайго —
наступнай можаш быць ты,
Беларусь…

Але, штурхае малітва цябе —
гатовы прыняць Бог
тваё пакаянне, народзіны твае…
Мы можам вярнуцца дадому,
Радзіма мая,
успомні сваю прыгажосць,
сваю годнасць,
святасць сваю…

О, Беларусь,
ты зноўку маўчыш…
Радзіма мая,
Толькі жыві!..

*Адам ГЛОБУС*

# ВІЛЬГОТНАЯ ПАПЕРА

*Апавяданне пра школьныя дні*



***Адам Глобус нарадзіўся 29 верасня 1958 года ў Дзяржынску. Невялікае апавяданне было і застаецца ўлюбёнай літаратурнай формай. Большасць апавяданняў напісана пра людзей творчых і неабыякавых да нашага шматаблічнага і не заўсёды справядлівага жыцця.***

Пасля вячэры на клятчастай цыраце засталіся ляжаць жоўтыя яблыкі. З Койданава ў Мінск іх прывёз мой стрыечны брат Анатоль. Ён прывёз цэлую сетку самых розных яблыкаў, але цяпер засталося толькі тры і ўсе жоўтыя.

Мы сядзелі за прыбраным сталом і маўчалі. Глядзелі на яблыкі і маўчалі. Доўга маўчалі, ажно пакуль Анатоль не прапанаваў:

— Давай я навучу цябе пісаць акварэллю па вільготнай паперы. Нясі фарбы, пэндзлі, паперу. Пакажу, як трэба пісаць па вільготным.

У мяне было некалькі лістоў белай і шчыльнай паперы. Яны берагліся для малявання ў студыі, але для Анатоля я не пашкадаваў такога ліста. Дакладней, я пашкадаваў добрую паперу, але пераступіў праз уласную сквапнасць і паклаў дарагі ліст на цырату. Анатоль з кубка наліў на яго вады, разагнаў ваду даланёю, а потым прыбраў яе анучкай.

— Папера мусіць быць вільготнай, і вільготнасць на ёй павінна размяркоўвацца роўна. Ніякіх лужын. Запомні, роўна, без лужын.

Вялікім пэндзлем Анатоль намаляваў тры жоўтыя яблыкі. Фарба крыху расплылася.

— Расплывістасць фарбы надасць нашай акварэлі заўсёднай свежасці. Папера высахне, і ўсё адно акварэль застанецца свежай, нібыта яна ўсё яшчэ вільготная, такая, бы яе толькі што напісалі. Разумееш? — блакітныя вочы Анатоля пазіралі на мяне па-настаўніцку.

— Разумею. Зразумець лёгка, але ў мяне не хопіць майстэрства так намаляваць яблыкі, як іх малюеш ты.

— Майстэрства прыйдзе. Працуй штодня, і майстэрства абавязкова да цябе прыйдзе.

Анатоль паклаў пад жоўтыя яблыкі сінія цені. Яблыкі набылі аб'ём.

— На гэтым і спынімся, — Анатоль закрыў скрынку з акварэллю.

Раніцай я паглядзеў на братаў малюнак. Ён высах, але і сапраўды захаваў свежасць. Было такое адчуванне, што папера ўсё яшчэ вільготная. Я нават памацаў яе рукою. Ці сухая? Сухая! А выглядала вільготнай. Мяне гэты фокус страшэнна ўразіў, і я вырашыў паказаць прыём пісання

акварэллю па вільготнай паперы ў сваёй школе. Здагадваўся, што нічога добрага з майго намеру здзівіць настаўніцу і аднакласнікаў не атрымаецца, але вырашыў не адступаць.

На ўрок малявання я прынёс не толькі ліст паперы з пэндзлямі і акварэльнымі фарбамі, але і паўлітровы слоік з вадой ды анучку для прыбірання лішняй вадкасці.

Настаўніца Раіса Валер'еўна паставіла на стале нацюрморт: гліняны збанок і чырвоны парафінавы яблык. Пакуль яна выстаўляла нацюрморт, я паспеў наліць на паперу вады, разагнаць яе і прыбраць анучай лішкі вільгаці. На тым уроку я нават паспеў намаляваць на аркушы чырвоны яблык. Ён моцна расплыўся, але я спадзяваўся, што цёмна-сіні цень пад яблыкам усё ж надасць яму правільную форму і аб'ём. Цень таксама паплыў, і ў гэты момант да мяне падышла настаўніца:

— Ты што робіш?

— Пішу акварэллю па вільготным...

— Дзе твой сшытак для малявання?

— Нашто мне сшытак, калі я прынёс ліст паперы?

— Хіба я казала, каб вы прыносілі лісты паперы? Ты, вучань чацвёртага класа, мусіў прыйсці на заняткі са сшыткам для малявання і каляровымі алоўкамі. Ты не прынёс сшытак, алоўкі. Ты непадрыхтаваны да заняткаў. Таму ў твой дзённік я зраблю запіс пра непаслухмянасць.

Мне зрабілася сорамна за жорсткасць настаўніцы, за сябе, непадрыхтаванага, сорамна за малюнак, які расплыўся па вільготнай паперы іператварыўся ў дзве бляклыя плямiны — ружовую і блакітную. Яшчэ стала страшна сорамна за моцны пах вушной серы. Раіса Валер'еўна была вельмі прывабнай жанчынай. Зялёныя вочы, бландынка, вялікія грудзі. Такіх жанчын здымаюць у кіно. Яны дэманструюць модную вопратку. Такім дораць вялізныя букеты кветак і захапляюцца, ажно пакуль не пачуюць іх востры смурод вушной серы. Раіса так моцна пахла серай, што хацелася адвярнуцца. Аднойчы я праехаўся з ёй у ліфце, дык ледзь не званітаваў.

— Раіса Валер'еўна! — падаў голас мой сусед па парце Сяргей Меншакоў.

— Слухаю цябе, Меншакоў.

— Раіса Валер'еўна, вы не маеце права пісаць у дзённіку Валодзі, што ён непадрыхтаваны да ўрока. Ён падрыхтаваны і паслухмяны. Ён прынёс фарбы і пэндзлі, бо хацеў паказаць, як можна маляваць на вільготнай паперы.

— Думаеш, Меншакоў, ты разумнейшы за настаўніцу? Думаеш, што маеш права даваць настаўніцы парады? Ты, дарэчы, сам не прынёс каляровыя алоўкі і малюеш простым алоўкам, таму і ў твой дзённік я чырвонымі чарніламі напішу заўвагу.

— Пішыце! Пішыце ў мой дзённік. Вы вазьміце ва ўсіх дзённікі і напішыце кожнаму па заўвазе. Напішыце ўсім, каб усе ў нашым класе мелі па вашай разумнай парадзе, напісанай яркімі чырвонымі чарніламі...

— Меншакоў, пакладзі дзённік мне на стол і выйдзі за дзверы. Пастой там, за дзвярыма, можа, табе пашанцуе сустрэць дырэктара.

Мне зусім не хацелася атрымліваць запіс у дзённік. Не хацелася заступацца за языкатага і лупавокага Меншакова. Не хацелася ўвечары выслухоўваць папрокі ад маці, а яна абавязкова на мяне насварыцца за такі паскудны запіс. Не хацелася, але я заступіўся за свайго таварыша:

— Раіса Валер'еўна, вы несправядліва выгналі Сяргея.

— Яшчэ і ты просішся за дзверы? Думаеш, Меншакову тамака сумна? Устаў і выйшаў! Прэч з класа.

Давялося пакінуць вільготную паперу на парце і выйсці ў калідор. Меншакоў так узрадаваўся, што абняў мяне і прыціснуў да сябе моцна-моцна:

— Я ўсё чуў! Ты — сапраўдны таварыш!

Мы заганарыліся сабой, расправілі плечы, ускінулі падбароддзі і пайшлі на вуліцу. Быў цёплы вясновы дзень. Можна было хадзіць па вуліцы без курткі і не замёрзнуць. Мы падышлі да вокнаў нашага класа.

— Давай падцягнем сметніцу пад акно, узлезем на яе і паглядзім, што робіць Раіса — твар, як міса, — прапанаваў Меншакоў.

Можна было і не цягнуць сметніцу, каб адказаць на пытанне пра злосную Раісу. Мы падцягнулі сметніцу, узлезлі на яе і зазірнулі ў акно. Раіса сядзела за сталом. Аднакласнікі малявалі збанок і яблык. Меншакоў пачаў крывіць твар і выстаўляць у акно перакрыўленую морду. У класе пачалося вясёлае ажыўленне. Меншакоў умеў скрывіць і паказаць смешную морду з вырачанымі вачыма ды высалапленым доўгім і вострым языком. Я не адставаў ад Меншакова, расцягваў мезенцамі рот і вялікімі пальцамі натапырваў вушы. За дзвюмя шыбамі клас смяяўся бязгучна. Таксама бязгучна сварылася на нас Раіса.

А вось голас дырэктаркі быў гучны, знянацку ён ударыў у нашы спіны:

— Злезлі са сметніцы, паставілі яе на месца, пайшлі за мной, — рудагаловая дырэктарка зацокала языком: калі яна моцна злавалася, дык заўсёды пачынала гучна цокаць. Кепская звычка, з якой і нарадзілася мянушка — Цокалка.

У кабінет да дырэктара школьнікі трапляюць нячаста. Тым разам я патрапіў да Цокалкі ўпершыню. Мы прайшлі праз прасторную настаўніцкую і зайшлі ў цёмны кабінецік. Я думаў, што ў такога вялікага начальніка, як школьны дырэктар, мусіць быць светлы і прасторны пакой. А тут — адно акно, і тое амаль цалкам закрывае цяжкая вішнёвая штора. Стол, шафа і некалькі крэслаў. Каб не напольны шэры сейф, дык у кабінеце і разглядаць не было б чаго. Сейф мне спадабаўся. У такі сейф можна лёгка пасадзіць непаслухмянага вучня, каб ён там пасядзеў без паветра і падумаў пра свае крывыя морды. Я думаў пра вучня ў сейфе, пакуль дырэктарка сварылася і цокала языком:

— Адкуль такое нахабства і дзікунства? Настаўніца стараецца, а вы з яе здзекуецеся. Яна маладая жанчына, а вы — два бэйбусы, два хамы, два... Скажу проста... Цок-цок-цок... Дурні! Вам месца ў спецшколе. Не можаце вучыцца ў звычайнай школе, паедзеце ў спецыяльную, за краты. Хай там з вамі разбіраюцца наглядчыкі і дактары. Вам усё ясна? Цок-цок-цок... Яшчэ раз паўторыцца такое хамства, і павылятаеце з нашай школы.

Мы выходзілі з настаўніцкай, калі зазвінеў званок. Урокі скончыліся. Трэба было ісці дадому, але зусім не хацелася, бо ў нашых дзённіках чырвонымі чарніламі былі зроблены шматслоўныя запісы пра кепскія паводзіны на ўроку малявання. Добра яшчэ, што запісы не прапаноўвалі нашым бацькам прыйсці ў школу да дырэктаркі.

Мая папера з недамаляваным нацюрмортам высахла і крыху скарабацілася. Я паклаў малюнак у ранец і прапанаваў Меншакову схадзіць на пясчаную гару, за тралейбуснае кальцо:

— Менш, давай зганяем на гару, што за тралейбусным кальцом. Там высокі адхон з жоўтым пяском. Можна скакаць з гары ў мяккі пясок...

— Пайсці пайду, а скакаць не буду. Не люблю, калі ў чаравікі пясок засыпаецца. Яго потым вытрасаеш-вытрасаеш, а ўсё адно таго пяску поўна ў чаравіках.

Мы ішлі на гару праз шэры мікраараён і ўсю дарогу крыўляліся, пераказвалі дурнымі галасамі словы Цокалкі:

— Адыкюль такёе нахябства і цікуньства? — крыўляўся я.

— Насітаўніца стараецца, а ві зь яе зьцекуецеся! — крыўляўся Менш.
— Паецеце ў сіпецшколу для дэбілаў!
— Хая сь вамі расабіраюцца дахтары і санітары!
— За краты!
— За караты!
— Да дэбілоідаў!
На гары мы спыніліся і змоўклі. Скакаць у пясок я любіў, як любіў лётаць з гары на санках ці лыжах. Падабалася ляцець. Падабалася, калі ляціш так, што дух захоплівае і сэрца спыняецца.
— Ты як сабе хочаш, а я дакладна не стану скакаць, — заныў Меншакоў. — Нешта мне падказвае, што сёння скакаць не трэба. Кепскі дзень. Чорная паласа.
— Не ный. Скажы проста — баюся. Я цябе зразумею. Давай я першы скокну, а ты — за мной. Я скокну з гары, каб выскачыць з кепскага дня, з чорнай паласы.
— Можаш скакаць і выскокваць, а я спушчуся па той сцежцы, па якой падняліся, — Менш павярнуўся да мяне спінаю, пайшоў, а потым і пабег па сцежцы з гары.
Я разагнаўся, узмахнуў рукамі і паляцеў... Праляцеў няшмат — метры са два — і прызямліўся на мёрзлы і цвёрды, як камень, пясок. Левая нага падвярнулася, хруснула. Боль працяў усё цела наскрозь, ад пяткі да цемені. Уваччу сцямнела. Са зрэнак пасыпаліся дробныя белыя зорачкі. Па скамянелым пяску я ссунуўся на заасфальтаваны ходнік. Там паспрабаваў узняцца на ногі. Стаў. Нагу я не зламаў, а толькі падвярнуў, дзякуй богу.
Кульгаючы, абапіраючыся на плячо Меншакова, я дачыкільдыгаў да дому.
Нагу я падварочваў не першы раз. Ведаў, што і як з ёй трэба рабіць. У маёй цёткі Рэгіны, што некалі ў нас жыла, быў хранічны вывіх. Ад яе ў аптэчнай скрыні застаўся эластычны бінт. Я абкруціў ім нагу і прыклаў да забінтаванага месца, металічную кансароўку з памідорамі, якую дастаў з лядоўні. Холад і спакой мусілі дапамагчы. Дапамаглі. Можа, з гадзіну я пратрымаў каля нагі кансароўку. Я яе трымаў, пакуль не прыйшоў са сваёй мастацкай вучэльні Анатоль:
— Што з нагой?
— Чорная паласа ў жыцці. Няўдала скочыў з гары. Скокнуў на пясок, думаў, што пясок мяккі, а ён цвёрды, бы асфальт.
— Можа, нагу трэба доктару паказаць?
— Не трэба. Яна, лічы, ужо і не баліць. Слухай, Толь, я ў школе паспрабаваў пісаць акварэллю па вільготнай паперы, але ў мяне нічога не атрымалася.
— Паказвай...
Я прынёс на кухню партфель і дастаў з яго пакарабачаны аркуш з расплывістымі плямамі.
— Што гэта?
— Чырвоны яблык і ягоны сіні цень. Побач з яблыкам стаяў гліняны збанок.
Анатоль акуратна намачыў і разгладзіў маю няўдалую акварэль. Потым напісаў круглым пэндзлем рудое святло на гліняным збанку і чырвонае — на яблыку. Да рудога святла на збанку дадаўся зеленаваты цень. Сіні цень дадаўся да чырвонага святла на яблыку. Вакол яблыка і збанка Анатоль зрабіў спакойны шэры фон, а пад збанком і яблыкам — брунатны стол.
Сакавітую акварэль з яблыкам я падарыў Меншакову.



# РАМОНКАВЫ СВІТАНАК

*Людміла КЕБІЧ*

**СЛУХАЮЧЫ ПАРЦІТУ № 25**

***Соф'і Губайдулінай***

Віяланчэль і баян —
дзіўнае спалучэнне!
Боль незагойных ран
на залатым сячэнні.

Гукавы мікрамір —
выхад за свет паўтонаў!
Выплеск душы ў эфір
з новых зямных амбонаў.

Толькі жыццё, як грэх, —
гіне без анамалій.
Кліча-вяртае снег
нас да яго рэалій.

Сем таямнічых слоў:
Мудрасць — Ісус — Пакуты…
Рытмы халодзяць кроў
ад прадчування смуты.

Гучна сапе баян,
змоўкла аркестра світа.
Неапісальны стан:
Музыка… снег… парціта…

**І ЎСЁ Ж**

Калісьці была я каменьчыкам —
палявым шпатам,
не клянчыла і не кленчыла,
зярністая ўся, шурпатая.

Жыццё абцясала скора —
цяпер гладышом пляскатым
ляжу на дне мора гора
і шторм не лічу за свята.

І ўсё ж — скалыхне глыбіні
які карабель вялікі —
лаўлю ў зарунелай ціне
бурбалак гонкіх блікі.

**КОШЫК ЗОРАК**

Я ад зорнага святла
да цябе праз лес ішла,
поўны кошык спелых зорак
аднаму табе нясла.

Пераблытаў нешта лёс
на шляху маёй душы,
і вачэй тваіх мароз
тыя зоркі патушыў.

Я вяртаюся адна
праз кашлаты лес густы
да нябеснага радна.
Толькі кошык мой — пусты.

**СМАК ЛЯТАННЯ**

Мяне абняў чужы мужчына,
і мне не сорамна было.
Адчула раптам — за плячыма
расце крыло.

Я столькі год з адным кульгала,
акантаваўшы свет акном,
між хмар шукаючы прагала,
ды вось яно!

Ён без назоўных мудраванняў
суняў патокі доўгіх слёз,
і ціхі парастак жадання
ўва мне прарос.

Гады самотных веславанняў
у цёплых вытхнулі руках,
і я спасцігла смак лятання
на двух крылах.

**ПАЭТКАМ**

Бываюць жанчыны — жанчыны,
бываюць жанчыны — паэткі.
Жанчынам-паэткам мужчыны
трапляюцца годныя рэдка.

Навошта паэткі мужчынам,
(вядома мне з практыкі ўласнай),
калі ў іх заўжды ёсць прычына
самотнаю быць і няшчаснай.
Жанчыне звычайнай даволі
мужчыну здзіўляць пірагамі.
Паэтка ж імкнецца да волі,
вядзе дыялогі з Багамі.

Душы паэтычнай загадку
спасцігнуць амаль немагчыма,
ідуць па жыцці без аглядкі
і плачуць слязамі Айчыны.

Іх вершы самотныя льюцца
па цёмных начах без адхлання.
Яны менш за іншых смяюцца
ды больш за ўсіх — прагнуць кахання.

**Я — ЖАНЧЫНА**

Я — жанчына, у мяне
лёс мужчыны на далоні.
Захачу — і скалатне,
без пары пабеліць скроні.

Захачу — сплыве крывёй
ад кахання, жарсці, здрады
і зраўнуецца з зямлёй,
свету беламу не рады.

Захачу — у рог скручу,
адбяру імпэт і волю,
за ўсе крыўды адплачу,
прагу помстаю спатолю.

Захачу — сагну ў дугу…
Але даў Бог розум, сілы
цераз тысячы «магу»
дараваць і… латаць крылы.

**РАМОНКАВЫ СВІТАНАК**

Калі рамонкавы світанак
запаліць сонечны ліхтар,
пазбавіць вокны ад фіранак,
насустрач дню адкрые твар;

калі ружоваю расою
абудзіць нават рэшткі сноў,
яшчэ расплеценай касою
страсе з бяроз цяжар вятроў;

калі, дапітая да донца,
схавае ноч вільготны бок;
калі агромністае сонца
асвеціць кожны закуток, —

адчуўшы свой апошні ранак,
душа запросіцца не ў рай,
а ў той рамонкавы світанак,
у любы сэрцу родны край.



*Васіль ДЭБІШ*

* * *

Пытаеце, дзе я згубіўся,
чаму мяне так даўно не было,
дзе мяне насіла?
Адкажу,
што збіўся я са шляху,
спатыкнуўся аб камень,
доўга ляжаў пад снежнай коўдрай,

чакаў,
калі сыдуць снягі
і прыйдзе вясна...
Ды прамаўчу пра тое,
што я проста
закахаўся.

**НАІЎ**

Каханая!
Ты хаваешся ад мяне
ў цемрыва ночы.
Наіўная.
Хіба ты не ведаеш,
што за ноччу
абавязкова прыходзіць дзень…
Абуджаю пацалункамі
сонейкі
грудзей тваіх.

**ГУЛЬНЯ**

Ведаю — ты недзе ёсць!
Бо ёсць прастора і час,
у іх ты можаш схавацца ад мяне.
Толькі, прашу, занадта
не захапляйся гэтай гульнёй,
каб у часе тым
і не ў маёй прасторы
назаўжды
не застацца.

* * *

Вясновы сад люляе цішыню.
Пад зорным небам засынае вёска.
У полымі бялюткага агню
Кружляюць яблыняў і груш пялёсткі.

І чуецца над намі неба звон,
Плывуць аблокаў лёгкія чароды —
Мінулага міраж ці, можа, сон,
Былых пачуццяў цёплы весні подых.

І ажываюць успаміны зноў:
І ласкі маладыя, і пяшчоты.
Усё прайшло. Ляцяць пялёсткі сноў,
У прастрані знікаюць незваротна.

* * *

Цень Ваш быў на пavароце —
Праплылі, як цень, бязмоўна.
Я пазнаў Вас па самоце
І па ўсмешцы Вас успомніў.

На імгненне побач сталі —
Промнем бліснулі калені.
Вы мяне калісь кахалі —
Там, у іншым вымярэнні.

Я пазнаў Вас па пярсцёнку,
Што на мезенцы насілі.
Мужам мы былі і жонкай…
Толькі Вы аб тым забылі.

* * *

Даўно не гаварылі на змяркканні.
Не слухалі на золку салаўёў.
Ды стаў я адчуваць тваё дыханне,
Знаёмае такое, як сваё.

Нам не патрэбны словы пра каханне.
Пяшчотна гладжу рукі я твае.
І голас твой дрыготкі, і маўчанне, —
Усё ў табе каханне выдае.

* * *

Восень. Холадна і скрушна.
Снег трымціць над хатай белы.
Чарада апошніх птушак
Разам з лісцем адляцела.

Плот макруткі. Чорны воран
З крыкам у імгле знікае.
Ты была са мной учара.
Ноч адзін я сустракаю.

Дзе ты? З кім ты цноту дзеліш?
Дзе твае лунаюць крылы?..
Стыне цень твой на пасцелі,
Што паспешліва забыла.

* * *

***А помніш***
***апошні з табой наш раман?..***

Эдуард Акулін

А помніш, якой ты адчайнай была,
Якою была ты прыгожай,
Калі ўпершыню ў мой пакой увайшла
І моўчкі прысела на ложак?

Шапнула: «Нікому пра нас не кажы,
І стану табе я каханкай,
Бо мне без цябе ані дня не пражыць.
З табой застануся да ранку».

Як з плеч тваіх ціха сукенка сплыла,
Як крыкнула каня за рэчкай,
Як грэшная поўня ля ног узышла
І воскам заплакала свечка...

Храм цела твайго. Ці забыць мне калі
Стогн жарсці — гартанны, збалелы.
Як ярка на небе заранкі цвілі
І гаснуць вясна не хацела!..

* * *

Гэта ты, гэта зноўку ты.
Зазірнула пужлівай зданню
У пакой, без цябе пусты
І самотны, пакой кахання.

На агонь, нібы матылёк,
Прыляцела. І вось — знікаеш.
І дрыжыць і мярцвее крок,
І бяссільны мой крык адчаю.

Не прабіцца мне да цябе,
Бо не лямпа — душа памеркла.
Поўні кола глыбей, глыбей
Пагружаецца ў спрат люстэрка.

* * *

Чакаў я снегу, як калісь даўно
Чакаў твой ліст. А снег пайшоў сягоння.
Кружыліся карункі за акном
І падалі ў бялюткае бяздонне.

З канверта чысты аркуш я дастаў.
Ні слова там, а толькі пах парфумы.
Губ сакаўных я споведзь прачытаў,
Дрыготкіх і амаль з дзіцячым сумам.

А мне свой сум нікуды не падзець,
Бо лебедзь ты, а я — як воран чорны.
Снег сыпаў з неба шчодра цэлы дзень,
А мы так і не трапілі ва ўчора.

* * *

Прайшло каханне — той парою,
Калі з палёў сыходзіў снег;
Забрала назаўжды з сабою
Вясновы позірк твой і смех.

Прайшло каханне. Згустак болю.
Свой смутак я тушу віном.
У сэрцы пуста, бы ў касцёле,
Дзе не маліліся даўно.

## *Наталля ЦВІРКО*

* * *

Ад сонца самлелае лета
Да восені туліцца ў цень.
Свае таямніцы-сакрэты
Яно ёй раскажа цяпер.

І будзе няспешлівы дождж\u044bк
Засмяглыя краскі кранаць.
А восень нібыта не хоча
Аб нечым у лета пытаць.

І мне б да цябе прытуліцца!
Хоць кроплю чакаю цяпла…

Бо вельмі паспела статіцца,
Пакуль да цябе я ішла.

* * *

Ападае няспешна квецень
На самоту начэй маю.
Я лагодны вясновы вечар
Да халоднай шчакі тулю.

І пакуль у душы надзея
І не гасне яшчэ святло,
Усміхнуся ізноў табе я
І сваім ахіну крылом.

**РАЗВІТАЛЬНЫ ВОСЕНІ АКОРД**

Усміхнуся радасна-шчымліва,
Залаты россып навакол.
Для ўсіх, няшчасных і шчаслівых,
Развітальны восені акорд.

Побач тут і слёзы, і ўсмешкі,
Разам тут надзея і адчай.
Прыпынюся ў лета на ўзмежку.
Да вясны мяне ты не чакай.

Залаты россып, летуценні…
І так светла-светла на душы.
Урачыстай восені імгненні
Ты надзейна ў сэрцы зберажы.

* * *

Яшчэ вясны буяе квецень,
І лета ўперадзе яшчэ.
І недзе ёсць адзіны ў свеце,
Хто мае думкі апячэ.

Яшчэ высока ў небе сонца
І ясны навакол прастор.
І шлях яшчэ бяжыць бясконца
І не губляецца між зор.

Тады чаму душа ў чаканні
Зноў заціхае кожны раз?
Нібыта наша ўжо спатканне
Прайшло нябачна і без нас.

* * *

Гляджу ў тваю душу,
А ты маёй не бачыш.
Табою даражу.
У цябе ж усё іначай.

Зноў дагарае дзень,
Зноў вечар заціхае.
Я за табой, як цень,
Табе зусім чужая…

* * *

Ад маёй да тваёй вясны —
Васількова поле надзеі.
Акунаюся ў нашы сны
І на сэрцы ізноў цяплее.

Ад майго да твайго крыла —
Россып зорак у небе ясным.
Не хапае твайго святла.
Недзе золак далёкі гасне.

Ад маёй да тваёй душы —
Толькі дотык адзін нясмелы.
Ад нягод мяне беражы,
Беражы мяне, хоць няўмела.

## Антон ЯНКОЎСКІ

* * *

*Памяці матулі — Ірыны Янкоўскай*

Чакаю цябе.
Ты ні вецер —
Мяне не абдымеш
Лёгкім павевам вуснаў.

Выглядаю цябе.
Ты не сонца —
За хмарамі знікла
Вачэй глыбіня.

Кранаю цябе.
Ты насупраць —
Ды памяць хлуслівa
Скрадае цябе.

Я адзін
Крочу далей
Без цябе.

* * *

Кранаю рукою кавалачак неба,
бязважкім раблюся
і веру:
над горадам зоры
ярчэй ліхтароў —
зліваюся з поймай ракі,
імчу да аблокаў,
каб зверху
рукамі трымацца
за гмахі дамоў.

* * *

Нас заўтра не стане,
Кагосьці сёння,
Кагосьці ўчора,
А хтосьці нас пахавае —
Гэтак жыццё спланавала…
А ці беспамылкова —
Не ўдакладняла.

**СПАЗНАННЕ**

Каханне памножанае на роспач — здрада.
Ці ведае восень, навошта фарбуе лісце?
Ідучы па заснежанай дарозе —
рыфмуеш
сваё існаванне з чужым забыццём…
Клеіш размытыя фарбы адносін,
і зіме не хапае на шчокі грыму —
кожны дзень, бы Сусвету спазнанне
на паперы вершаванай прозай…

Фарба — хлуснёю размытая;
вершы — адчаем прасякнуты;
думкі — сумленнем распятыя —
спазнанне Сусвету памылковае…

* * *

На захадзе сонца Гародня згарае,
вецер дыханнем вусны марозіць —
дарэмна зіма сакавік зневажае,
ці мо гэта наш лёс? Можа…

З пrасторай гамоняць дзявочыя спевы,
ды сонца ўсё роўна за дрэвы збягае —
мы споўніць жаданні свае
не паспеем…
Гародня штовечар ад сонца згарае…

**НЕДАРЭЧНАСЦЬ**

Халодны вецер
дзьме ў плечы —
не дарэчы
збіраць у дарогу рэчы.
Аспрэчыць
жадаем вечнасць,
што між цямрэчы
не цяжка жыць па-чалавечы.
Смяецца вечнасць —
і дарэчы,
бо мы — імгненне
у Сусвеце.

*Мікола КАЛЯДНЫ*

# ІЛЬВІНАЕ ВОКА*[1]

## *Метагістарычныя эцюды*[2]

**39**

Уяўленне ў вучэльні заўсёды шанавалі і заахвочвалі. Нават конкурсы на лепшую фантазію праводзілі. Крозы пераможцаў назаўжды захоўвалі ў музеі і рэкамендавалі для шырокага скарыстання наяве. У ліку першых неаднаразова быў і Замба. Многія прарочылі яму вялікую будучыню. Але ніхто і блізка не мог падумаць, што ў сваіх марах ён зойдзе так далёка, адпрэчыць традыцыйныя і абавязковыя падыходы ў стварэнні рэальнасцей і тым самым выкліча высокае незадавальненне. Настаўнікі штораз імкнуліся павярнуць аблуднага, але ён упарціўся, спасылаючыся на сусветную практыку разнастайнасці.

— Як бог, я раблю ўсё, што захочацца, — смела выпаліў Замба, калі Альгерд зноўку паспрабаваў яго пераканаць.

— Але нашая школа не прадугледжвае бяздушны варыянт, — рашуча наступаў настаўнік.

— А хто вучыў, што ўсё навокал жывое?

— Безумоўна. Сутнасна мы ўсе аднакія і паўнавартасныя.

— Значыць, мае летуценні такія ж здатныя, як і вашыя, і маюць права на існаванне ў рэальнасці.

— Толькі не ў нашай брамфатуры.

— Неверагодна! Мяне змушаюць да эміграцыі!

— Гэта ты кажаш.

— Я жадаю рэалізавацца тут, на Радзіме! Мне горка за маіх былых суайчыннікаў — і, каб хоць штосьці змяніць, я хачу прадэманстраваць ім свой варыянт прыстойнага жыцця і змусіць іх да перамен. Яны не ўбачаць гэтага, калі я зраблю гэта па-за межамі Зямлі, у іншых сістэмах.

— Не гарачыся. Уважліва паслухай мяне. Мы — не спантанная, а паслядоўная, паэтапная цывілізацыя з вялікімі задумамі. Стрыжнем нашага развіцця з'яўляецца шырокамаштабнае ўдасканаленне шляхам рэінкарнацыі душ. На гэта мы выдаткоўваем шмат энергіі, якую зарабляем самі і калі-нікалі пазычаем. Я не буду гаварыць пра ўсё, а скажу толькі пра падрыхтоўку адэптаў. Навошта мы яе робім? Ібаоф мог бы, як і многія іншыя правадыры, абмежавацца стварэннем сваёй брамфатуры, бясконца кунежыцца ў асалодзе ды радасці, дазваляючы сабе розныя пацешкі і свавольствы, і зусім не клапаціцца пра фатум нейкіх там манадаў. Але ён з адказнасцю

---

* Працяг. Пачатак у № 5, 6.

[1] Леў (эзатэр.) — сымболь агню адважнасці, сонца і золата.

[2] Метагісторыя — метакультура[3] ў руху ўсіх яе частак.

[3] *Метакультура — шматпластавая, розных вымярэнняў прасторы і часу, сістэма альбо злучво правідэнцыйных, фізічных і дэманічных працэсаў жыццядзейнасці планеты.*

ўспрыняў Галоўную ІДЭЮ пра ўкараненне Жыцця і ўзяўся за яе рэалізацыю. Гэта каштавала яму вялікіх энергетычных выдаткаў. Каб зрабіць Жыццё ўсеабдымным і вечным, Ібаоф скарыстаў ідэі Спадчыннасці і Традыцый, для чаго разам з іншымі прынцыпамі ўвёў навучанне. У выніку найбольш развітыя душы атрымалі магчымасць росту ў межах зямной брамфатуры аж да ўзроўню багоў, а астатнія — шырокі кармічны прастор і насычанае існаванне. Канешне, ён усталяваў свой парадак і карае ўсякага, хто яго парушае альбо не захоўвае. Гэта не значыць, што наш валадар супраць свабодамыснасці. Наадварот, ён яе заахвочвае, але ў межах апрабаваных норм. Мы звыкліся з усім гэтым, і, як кажуць, не знаем цаны вадзіцы, пакуль не высахла крыніца.

— Разумею… Перад вашэцем свет, створаны выключна маімі фантазіямі без удзелу, як бы гэта далікатней выказацца, пабочных акалічнасцей. Прырода, насельнікі, з’явы, працэсы… — жыццё ў поўным аб’ёме.

— Бачу, з Матэрыяй ты ўсё-такі дамовіўся.

— Безумоўна, як жа без яе? Дзякуй ёй! Яна добрая.

— Мабыць, ты яе чымсьці крануў…

— …Дык чым жа гэтае жыццё адрозніваецца ад таго, што будуецца па стандартах Ібаофа?

— Як я ўжо казаў, адсутнасцю душы.

— Вашэць таксама спагадае і не называе іншыя адметнасці. Дзякуй! Выбачайце, як мяне вучылі, душа — несубстанцыйнае, пазаматэрыяльнае энергетычнае стварэнне, якое выяўляе бог-творца.

— Так, іншымі словамі, яна — астральны вобраз манады.

— Усе багі, у тым ліку і я, энергетычна моцныя і паўнавартасныя, каб нараджаць і падтрымліваць жыццё незалежна ад таго, якую аснову скарыстоўваюць — сваю альбо чужую. Я ўзяў сваю — і ў гэтым сэнсе нічым не адрозніваюся ад астатніх творцаў і нават Ібаофа. У маіх людзях прысутнічае мой дух, які спаўна кампенсуе адсутнасць звычайнай душы. Яны паўнавартасна жывуць і не ведаюць, што аднаразовыя як у фізічным, так і ў астральным выглядзе. Што тут дрэннага?

— А сувязь з манадай?

— Энергетычна я злучаны і з ёю, і з усімі тымі, каго стварыў, то бок разрыву касмічных энергетычных ланцугоў няма шака.

— Але ў тваёй асобе ўтвораны непажаданы трансфармацыйны вузел. Акрамя таго, парушаны нашыя традыцыі, не так скарыстоўваюцца ІДЭІ.

— А вось і не. Я ўжываю тыя ж ІДЭІ, што і іншыя, а ідэі, як і ва многіх, — собскія.

— Ты — рэдкі летуценнік, — пасля невялікае паўзы, адчуваючы шчырыя і высокія памкненні Замбы, добразычліва адцеміў Альгерд, — і змысліў неверагоднае. Мала хто адважыцца на такое: дужа рызыкоўна. З-за сваёй аднаразовасці твая сістэма няўстойлівая і досыць уразлівая, бо замыкаецца толькі на табе. Цяжка табе давядзецца. Было б лягчэй, калі б ты скарыстаў агульныя кірункі. Могуць быць санкцыі з боку кіраўніцтва. Але не дрэйфі і не збочвай. Поспехаў!

Альгерд з уздымам успрымаў усё неардынарнае і прыхільна ставіўся да ўсіх адмыслоўцаў незалежна ад іх касмічнай арыентацыі, на што неаднойчы наракалі калегі і асабліва Ібаоф, а вучні, наадварот, — заўсёды радаваліся, ухваляючы яго за смеласць і дэмакратызм. Такім становішчам Альгерд зусім не ганарыўся і ніяк не карыстаўся, бо паважаў агульныя парадкі і ведаў сваё месца на іерархічнай лесвіцы. Каб нікому не патрапляць, ён звычайна мкнуўся загасіць свой запал. Так было і цяпер: як толькі Альгерд ментальна ўспыхнуў пасля ўбачанага, утварыўшы вакол

сябе і Замбы памыснае поле, а вучань заўважыў гэта і шчыра падзякаваў яму за разуменне сітуацыі, то настаўнік паспяшаўся хутчэй суняць мыслявую хвалю, якая ўжо паімчала ў прастор.

Мабыць, тое адбылося дарэчы, бо наступная вандроўка ўскалыхнула яшчэ больш.

**40**

Многія эксперыментавалі з разлівам сваёй сутнасці, дэманструючы амбіцыі і бязмежнасць таленту, але часам выбіваліся з агульнай плыні. Лао таксама абраў гэты шлях — і апынуўся па-за традыцыямі.

— Традыцыі, продкі, нашчадкі, браты, родзічы — хто гэта прыдумаў? БОГ? Ні ў якім разе: ЁН — АДЗІНЫ! Час, Прастора? Ім не трэба: яны — вечныя і самадастатковыя! Святло, Цемра? Магчыма, але такой дробяззю яны не займаюцца. Значыць, вынайшлі ў нейкім кратным звяне Тварэння, калі пачалася недасканаласць, і, пэўна, з карыслівай мэтай. З такім жа поспехам усе гэтыя ідэйкі можна адхіліць і ўсчаць нешта **сваё**, таленавітае і годнае, — упэўнены і пераканаўчы голас, а дакладней, сэнс, бруіўся ў пласце адусюль, з усіх бакоў і без сумневу належыў Лао, суцэльнай і звыклай выявы якога зусім не было, але Альгерд адчуваў яго нябачную прысутнасць і ўздзеянне.

Выглядала гэта пракудна: настаўнік, які рыхтаваўся да стасункаў з Лао ў адноль-кавай рэальнасці, спачатку не на жарт усхваляваўся, замятушыўся, ловячы ў эфіры напрамкі і танальнасць яго гаворкі з такім выглядам, нібыта шукаў прывід. Аднак хутка прыладзіўся і стаў лёгка зносіцца з усюдыісным суразмоўцам, свабодна лунаючы ў яго прасторах.

— Няхай вашэць даруе за нязручнасць, але інакш сустрэць госця я ўжо не магу, — даносілася з горнай цясніны, дзе, было чуваць, адбывалася нейкая валтузня, якая суправаджалася адначасова смехам, плачам і стогнам.

— Мне не абвыкаць, — усміхнуўся Альгерд, думаючы пра сакральнае значэнне гукаў, якім у касмічных сферах адлюстравання адведзена адна з галоўных роляў ідэнтыфікацыі, і шчыра пажадаў: — Багатага плёну!

— Дзякуй! — грымнула з паднябесся, дзе ён увачыў чараду істот, што ляцелі.

— Ніхто не забывае мяне. Прыемна! — радасна забурапеніла рака, якую ледзь стрымлівалі скалістыя берагі. — Наведваюцца, распытваюць, здзіўляюцца. Толькі чамусьці потым многім робіцца сумна.

— Мабыць, самотна: гаспадара ж не відаць, — заўважыў Альгерд.

— Лухта. Я паўсюль. А калі добра прыглядзецца, дык і вобраз мой можна знайсці, — на ўсю моц зашумеў лес, запрашаючы да сваіх таямніц.

Настаўнік на хвіліну захапіўся гэтай чароўнай карцінай, а пасля таго, як прамчаў духам па ягоных нетрах, сапраўды стрэў, але толькі на імгненне, прыгожую выяву свайго вучня, што промеццю пранеслася побач, пакінуўшы за сабой мноства жывых асацыяцый і настрояў, якія тут жа ператварыліся ў матэрыяльныя аб'екты.

— Падабаецца? — пыталіся яны і ў радасці вонкава змяняліся.

Альгерд не хаваў свайго здзіўлення.

— Я магу асяціць каго заўгодна, было б толькі адпаведнае жаданне, маё альбо нечае, — і, дарэчы, усё гэта спраўна пажыткую, — на розныя лады гучала прастора. — Няхай вашэць зірне шырэй і глыбей.

Альгерд запаліў уяўленне — і паляцеў вольным духам. У яго свядомасць пацякла існасць наватвораў Лао — і тут настаўнік зразумеў, чаму журацца захаджалыя: іх збівае з панталыку ўсеабдымная парадаксальнасць гэтага свету, асабліва — суполь-

нае і беспраблемнае існаванне замкнёных, несумяшчальных і нават процілеглых біялагічных сістэм.

— Раю вашэці не мудрагеліць і прасцей глядзець на мае пекныя стварэнні, — любоў і замілаванне струменіліся ад статку, які пасвіўся на лузе. — Гэта толькі ў традыцыйных пластах Ібаофа скаціну ядуць. У мяне такое не здараецца. І не таму, што я добры. Проста парадкі іншыя.

Знячэўку наляцеў вецер, нагнаў на неба пульхныя аблокі, з якіх пасыпалася манна. Чарада схамянулася, узняла галовы.

— Я для іх нічога не шкадую. Яны ўсе — мае пестуны. А ім самім ніхто не патрэбны, нават я, бо ведаюць і адчуваюць яны толькі сябе. Вашэць лічыць: вунь той тур, што рыкае і шалёна матляе галавой, кагосьці заўважае і нават грозіць камусьці? Нічога падобнага! Ён бачыць адно сябе, упіваецца сваёй магутнасцю, удаласцю і тым, што ўвесь свет — толькі для яго. Між іншым, гэтая жывёліна мае мазгі не горшыя за нашыя, але працуюць яны выключна ў адным напрамку: «Я — альфа і амега».

— Нічога новага.

— Як і ўсё ў гэтым свеце.

— А што астатнія?

— Такія ж.

— А людзі?

— Без розніцы. Толькі абалонка іншая.

— І ў іх атрымліваецца гэты вышэйшы сэнс?

— Не.

— ?

— Нічога дзіўнага: яны ўсе — смяротныя, а хіба мінучае можа быць асновай? Нават прэтэндаваць смешна.

Ні стуль, ні ссюль уварвалася прамётная — і ўраз знішчыла статак. Зрабіла другі заход — і з'явіліся новыя пасяленцы, сярод якіх былі людзі, пачвары і нейкія несамавітыя, але дужа пыхлівыя, стварэнні.

— І так заўсёды? — пацікавіўся Альгерд.

— Калі мне пажадаецца. Як і ўсе, я гуляюся і гэткім чынам набліжаюся да сваёй мэты.

— Да якой?

— Я мог бы схітраваць і ўзяць за прыклад увесь Сусвет: маўляў, ЗАДУМУ БОГА ведае толькі ЁН адзін, але адкажу шчыра — жадаю праверыць свае рэальныя магчымасці: наколькі хопіць таго, што мне дадзена, без чыёй-кольвек дапамогі.

«Вось і лепшы выпуск!» — пацяшаўся Альгерд, успамінаючы колішнія прадказанні пра неафітаў, а таксама сваю ацэнку іхніх высілкаў ды ўяўляючы цяперашнія меркаванні настаўнікаў-традыцыяналістаў, і меў на тое ўсе падставы, бо разыходжанні былі значныя і хвалюючыя. Калі ягоныя намыслы падчас падарожжа ўтрываліся, дык у многіх калег наадварот — пахіснуліся і змяніліся ажно да палярных. Пра гэта яскрава сведчылі бурлівыя струмені сферы, дзе цыркулявалі думкі вышэйшай касты брамфатуры. Але паглыбляцца ў іх Альгерд пакуль не хацеў, бо вандроўка яшчэ не скончылася.

**41**

На мяжы пласта Джорджа яго стрэлі незвычайныя віхры. Шумныя, розных памераў і афарбоўкі, яны вокамгненна выдаляліся прэч, пакідаючы пасля сябе клубы шкадавання і журбы.

Альгерд памкнуўся вызначыць іх характар, але знянацку раздаўся голас Джорджа:

— Не варта чапаць гэтых прасценяў.

— Хто яны? — спыніўся Альгерд.

— Душы.

— А я вырашыў, нейкая негавіль прылучылася.

— Не, усё нармалёва.

— Ты так хутка іх скарыстаў?

— Яны мне наогул не спатрэбіліся.

— Дык ты ж іх **узяў**? — не пераставаў здзіўляцца Альгерд.

— Я памыліўся.

— ?!

— Яны збрыдзілі мне адразу.

— І чым жа?

— У іх нікчэмны розум. Гавораць, гамоняць, а не ведаюць, дзе звоняць.

— Такіх большасць.

— А мне патрэбная меншасць.

— Мы заклікаsuccessful, каб усіх удасканальваць.

— Я ведаю гэта і яшчэ — Агульны Касмічны План.

— Ты вырашаў рабіць з найвышэйшага?

— Так. А **гэтым** хай займаюцца іншыя, хто жадае. Мяне вабяць толькі ІДЭІ.

— І ты не выключэнне: балесць і цябе есць.

— Вашэць не тое кажа. Трэба: што голаў, то нораў.

— Як паглядзець, але зоркі ўсё адно не зрушыць.

— Проста ніхто не браўся. А жаданнем можна свет перавярнуць. Толькі трэба яго падмацоўваць, не распыляць, не марнаваць дробязямі.

Джордж успыхнуў іством, азарыў наваколле — і рух віхроў зрабіўся больш інтэнсіўным, масавым. Альгерд спагадліва загарэўся. З хвілю яны назіралі дзіўную эміграцыю.

— Хто ў нас зглуміў прыўкрасную ІДЭЮ жыцця і навёў столькі цену на свядомасць? — інтрыгавальна запытаў малады адэпт і пранізліва паглядзеў на настаўніка. Той адказаў такім жа позіркам.

У паветры адразу ж утварылася энергетычнае поле ўзаемнага разумення. З блізкага і далёкага касмічнага атачэння, нават з глыбінь Сусвету, на спамогу і развой пацяклі думкі, меркаванні, тлумачэнні, абгрунтаванні, высновы і такія неверагодныя спалучэнні ментальных квантаў, ад якіх пачынала гудзець у галаве. Персаніфікаванасць пытанняў і адказаў губляла ўсялякі сэнс, бо праблема зрабілася відавочнай і яснай.

— Аксіёма абвяшчае: вінаватыя тыя, хто хоць раз уздыхнуў і глытнуў сэнсу Тварэння, а гэта — увесь Сусвет.

— Для кожнага канкрэтнага выпадку гэта — не адказ, а покрыва сапраўднага вінаватага. Хто ён у нашай брамфатуры?

— Ды ўвесь агул.

— Заўсёды ёсць першы.

— Зразумела. Але і я прыклаў руку, не ведаючы праблемы поўнасцю…

— …альбо знаходзячыся пад уплывам яе ініцыятара?

Нечакана ў полі прамільгнула невыразная выява Ібаофа — і лёгкі пострах загуляў навокал. Але ён ужо не здолеў істотна змяніць дыялог творцаў. Яны толькі канфузліва ўхмыльнуліся.

— Я ні на кога не ківаю, а выказваю свой пункт гледжання. Мы так многа любім гаварыць пра свабоду, што ўжо і забыліся, якая яна.

— Не! Не забыліся! Мы не ведаем!

— А чаму?

— Таму што яе зусім няма. Свабода — выдумка калі не САМОГА БОГА, дык правадыроў рознага ўзроўню абавязкова. У Сусвеце, дзе ўсё прадугледжана, нічога свабоднага быць не можа.

— А думкі?

— Ілюзія, бо яны — таксама частка Сусвету, прычым значная, якая нагадвае сабою вечна цяжкія кайданы. Хто больш мыслюе, таго мацней забірае палон.

— Дайшоўшы да такой праўды, нялёгка тварыць.

— Так, калі ты самастойны, а калі пад уладай думак іншых — прасцей.

— Гэта значыць, калі ты — раб… І ўсё-ткі многім даспадобы свой шлях, няхай і цяжкі. Вось чаму нашчадкі ўпарцяцца, не любяць і адпрэчваюць усялякія традыцыі.

— А пасля, паблукаўшы і пасталеўшы, усё адно прыходзяць да адвечных каштоўнасцей.

— Пакуль развіццё адбываецца менавіта так. Хоць я лічу, што ёсць зусім іншыя варыянты і іх можна знайсці.

— Забыцца на спадчыну?

— Гэтага нельга зрабіць наогул, бо мы — сама спадчына, а ад сябе не адмовішся. Магчыма, варта **паглядзець інакш на нашую свядомасць**.

Джордж зноўку скіраваў пільны погляд на Альгерда, зіхнуўшы новым сэнсам. У эфіры бегма замільгацелі натхнёныя вобразы нашчадкаў, якія, як яму падалося, былі заадно з візаві.

— Якія б думкі нас ні займалі і як бы мы ні бударажылі сябе, усё адно сваёй сутнасцю будзем працягваць тое, што ўспадкавалі. Іншая практыка будзе антызямной.

— Калі пазіраеш на Зямлю з Космасу, яна здаецца нікчэмнай.

— А хіба іншыя творы Сусвету не такія?

— Ёсць усякія — і якраз гэта змушае ўспрымаць яе ў параўнанні. На Зямлі наваронана столькі ўсяго, што, мабыць, і аўтарам ужо брыдзіць.

— Так карціць з усім разабрацца як мага хутчэй — ды нельга: усё залучана такімі стасункамі, залежнасцю, пранікненнем, супольнасцю!..

— То бок, мы зрабіліся заложнікамі сваёй сістэмы. Во дзе магутнасць уздзеяння твора на творцу! Найрэдкі прыклад!

— Не самы лепшы, каб ганарыцца. А як пачыналі?.. Жадалі паспрабаваць усяго, прытуліць усіх, даць волю ўсім… Думалі, рэалізаваць БОСКУЮ ЗАДУМУ маштабамі будзе зручней і дагадней. А атрымалася, што выпеставаць у такіх умовах звышістоту вельмі складана… Пайшлі эксперыменты, доследы, выпрабаванні… Чым больш захапляліся, тым глыбей гразлі…

— Гэты працэс цяпер зразумелы і відавочны. Хоць кожны яго ўспрымае па-свойму, але ўсіх яднае адна думка: навошта было, маючы такую вялікасную касмічную мэту, закрываць перад **чалавекам** Сусвет, пазбаўляць яго правільных ведаў пра БОГА?! Нагрувасцілі столькі тайн, сакрэтаў, розных эрзацаў праўды — культаў, рэлігій, філасофій, навук. Маўляў, вось вам, знаёмцеся, вывучайце, разбірайцеся, а мы паназіраем; хто будзе старацца больш і лепш, таго возьмем да сябе, а астатніх… Што? Альбо пераробім, альбо знішчым. **І такі прынцып жыцця зрабілі на Зямлі фундаментальным!**

— Праўда яшчэ і такая, што мы разглядаем кожнага чалавека як вартага ўзняцца да вышынь шляхам рэінкарнацыі. Для гэтага мы далі яму ўсё, што мелі самі.

— Патэнцыйна, а рэальна дазволілі карыстацца толькі, можа, пяццю працэнтамі мажлівасцей.

— Астатнія пасылаем пакрысе, у залежнасці ад таго, як людзі будуюць сябе.

— І якім чынам на іх спускаецца гэтая мілата?

— Цераз вонкавыя і ўнутраныя змяненні.

— А дакладней, узрушэнні, здарэнні, катаклізмы, хваробы, немач — пакуты, якія, па нашай задуме, яны павінны ўспрымаць як радасць, але не робяць гэтага, няўдзячныя, — і атрымліваюць ад нас дадатковую порцыю мукі. Справядліва? Безумоўна! Давайце паспрабуем уявіць усё гэта асабіста! Што атрымліваецца? Звыроддзе! — вось такое жыццё мы пабудавалі на Зямлі. А як жа з прыгажосцю, якая нібыта выратуе свет? Дзе яе ўзяць? Ці мы не збіраемся яго выратоўваць? З такім і пойдзем да БОГА? І што ЁН нам скажа?

— Уражлівая карціна! Адна са шматлікіх, якія можа стварыць наш розум. Кожны бачыць і адлюстроўвае па-свойму, фенаменальна. А насамрэч, нуменальна, усё выглядае інакш — і менавіта такі вобраз будзе прадстаўлены БОГУ.

— Тады для чаго кожны з нас намагаецца?

— Каб дадаць каларыту, суцэльнасці і моцы агульнай выяве.

— І ўсё-такі мне гэтая імпрэза бачыцца іншай.

**42**

Усялякае тварэнне дасканалае толькі перад пачаткам і пасля завяршэння. У працэсе яно несуладнае, варыянтнае, няўклюднае, уразлівае. Чаму ж мы любім больш працэс, чым вынік? Можа, таму, што цягам працэсу, насычаныя, энергічныя, аддаемся, а з вынікам — спусташаемся? Што працэс — рух, а вынік — супын? Атрымліваецца, што гармонія, як канчатковая мэта ўсяго, нас зусім не вабіць і не патрэбна нам? З ёю мы сканчваемся, знікаем, паміраем. Так што сама лепшае — не спяшацца, укленчыць перад Часам і расцягнуць, падоўжыць шлях, аддацца ўсім спакусам ды зведаць як мага больш, а наогул — не думаць пра гармонію, бо яна для нас, што б мы ні рабілі на касмічных прасторах, — смерць.

Якія толькі ўяўленні не атрымліваў і не прапускаў праз сябе Мікаэль падчас касмічных вандровак! Ён спаўна карыстаўся сусветнай скарбонкай — і гэта пераварала яго, надавала ўпэўненасці, рашучасці, смеласці, узмацняла смагу жыцця.

Пласт Мікаэля палымнеў усімі жарсцямі, якія ён толькі здолеў успрыняць і прысабечыць, — і колькасць іх пастаянна ўзрастала, бо супынку памкненням не было.

Альгерд адчуў багацце гэтага руху і, як толькі паглыбіўся ў яго, — атарапеў: стваральнасці не было!

Ён ляцеў і ледзь паспяваў манеўраваць між незлічоных духаў, істот, думак, пачуццяў, з'явішчаў, якія, розныя па форме, змесце, настроі і выразнасці, імчалі насустрач і, заклапочаныя нечым сваім, зусім не зважалі на яго.

— Прэч з дарогі! — грымнула ў прасторы. — Не бянтэжце майго настаўніка!

Адразу перад Альгердам усе расступіліся, і наперадзе вынік у прыгожым залатым ззянні ўсмешлівы Мікаэль.

— Трэба было на іх раўнуць, — па-забіяцку раіў ён, шчыра радуючыся госцю. — Яны пераважна з іншых сістэм і не ведаюць нашых парадкаў. Тым больш вашаць чамусьці ніякавата выглядае.

— Дзіву даюся, што ў цябе адбываецца! Як на кірмашы!

— Праўда што: і жук, і жаба, і чорт, і баба — мне падабаецца.

— Я ўжо скмеціў, але — чаму?

— Жадаю быць цэнтрам.

— Гандлю?

— Усяго! Я досыць павандраваў і нагледзеўся. Ад шматлікасці жыцця біла ў галаву і цямнела ўваччу. Кожны ў Космасе песціць сваю думку, меціцца на рост, натужваецца, высільваецца — і ўсё гэта шырыцца, множыцца — канца і меры няма. Што стане, калі і я буду цэліцца, цягнуцца? Ці адчуе дрэва з'яўленне яшчэ аднаго лісціка? Ці заўважыць, калі я пажоўкну і ўпаду? Для чаго я быў?

— І ты вырашыў не быць?

— Так, я намысліў не тварыць, а напоўніцу скарыстоўваць тое, што ўжо ёсць — сябе, іншых, сусвет, удосталь і да знямогі стасавацца, марыць, летуценіць, а таксама прадаваць свае ідэі (я ўсё ж такі застаюся мысляром!), каб энергетычна не знясілець.

Гэтая думка запаўняла ўвесь пласт, пранізвала ўсіх, хто сюды трапляў, і смела гуляла, вабячы да сябе цікаўных і адчайных. Таму пярэчыць і процістаяць ёй не мела сэнсу. Альгерд гэта бачыў і не спрабаваў, а толькі высвятляў асаблівасці ладу:

— І які чынш ты спаганяеш?

— Вашэць заўважыў, што я нічога не забараняю, прымаю і дазваляю ўсё. Кожны, з якога б кутка Сусвету ён ні быў, атрымлівае ў мяне прытулак, пастаянны, часовы — без розніцы, але пры адной умове — ніколі не ўсчыняць канфліктаў, разборак, войнаў, якімі б супярэчлівымі і процілеглымі не былі погляды. Разумееце? Каб адпавядаць гэтаму патрабаванню, уладальнік думкі, жадае ён таго ці не, адмаўляецца ад нейкага свайго прынцыпа на карысць міру — і тым самым папаўняе мае энергетычныя скарбы.

— Я ўхваляю такі падыход. З тых, што мне вядомыя, найбольш гуманны.

— Упершыню чую ацэнку. У нас глядзяць, каб толькі быў рух, а які — добры, благі — неістотна. Дзякуй, настаўнік.

— На жаль, мы толькі зрэдзь зважаем, як свядомасць успрымае гэты рух, бо яна ў любым выпадку прымае нейкі адзін бок — адсюль і пачынаецца сапраўдны падзел свету, гульня плюсаў і мінусаў, пазітыву і негатыву.

— Хто пра гэта думае? Адзінкі! Дый тое ў вольную часіну. Я не затлумляюся… Мяне займае выключна свая справа. Менавіта яна забяспечвае майму пласту асаблівую сілу прыцягнення, якая паступова расце і захоплівае ўсё больш прасторы.

### 43

Кастусь зноў укульміўся і пусціў ментальную стралу. Ідэя, на гэты раз буйнейшая за папярэднія, не паспела ўхіліцца і, злосна зыкнуўшы ды ашчэрыўшыся, загінула. Гэткая ж доля напаткала і іншых няпрошаных гасцей.

Свой пласт ён стаў абараняць адразу, стварыўшы вельмі надзейную і няўразлівую сістэму аховы. Яна дзейнічала спраўна, без збояў і была прыкладам для многіх рупліўцаў. Але зрэдзь, каб не страціць спрыт, адэпт дазваляў сабе непасрэднае паляванне на непажаданых заблудаў ды прыбышаў. А такіх у акрузе хапала.

Асабліва даймалі блукаючыя і непрыкаяныя ідэі, якія зрабіліся такімі пасля таго, як іх адрынулі, не рэалізаваўшы, творцы. Яны бадзяліся па свеце ў спадзеве прытуліцца хоць да каго-небудзь; многія з іх ад доўгага шукання стаміліся, узлаваліся і сталі агрэсіўнымі. У дбайных будаўнікоў хапала сваіх думак, і непрадказальныя валацугі былі мала каму патрэбныя. Гэта іх разлютоўвала яшчэ больш, і яны

настырна, жывасілам лезлі да кожнага, а ў некаторых выпадках, задзіночыўшыся, — вялікай пагрозлівай навалай.

Тады рызыка павялічвалася — і жарсць ваяра ўзмацнялася. Ён адразу багацеў магчымасцямі, рабіўся суцэльным, мнагалучным, ахопліваючы сабою ўсё больш Бязмер'я і распасціраючыся як абаронны шчыт над усім сваім светам.

Барацьба захапляла і прыносіла асалоду. Асаблівае задавальненне выклікалі сутычкі з **благімі** адраснымі ідэямі, тымі, што прызначаліся акурат для Кастуся і маглі нашкодзіць, знявечыць. Ён не разбіраўся, ад каго яны пайшлі, якога зместу і аб'ёму, пагардліва, зухавата нішчыў іх, ведаючы, як балюча і млосна ад гэтага аўтару. Заслужана!

Здаволіўшыся, Кастусь супакойваўся і спачываў. Усё нутро лашчыла любаценне. Але думкі, хоць і млява, усё адно кружлялі — іх ніколі не спатоліш. Мабыць, так і трэба: павінен жа хоць хто-небудзь быць на варце!

Увогуле, яму было б хораша і пасля ходання з **добрымі** ідэямі — тут важны **працэс**. А калі глядзець далей, **на мэту**, дзеля якой адбываецца **працэс**, дык і яго афарбоўка — з асалодай ці з горыччу — таксама не мае аніякага значэння. Многія мысляры і дзеячы сцвярджаюць, што мэта апраўдвае сродкі і горда спыняюцца, здабыўшы яе. Як правіла, пад мэтай разумеюць канчатковы пункт усялякага руху. Калі б гэта было так, больш бесталковага Сусвету нельга было б і прыдумаць.

Кастусь варухнуў іством, акінуў думкаю свой свет і ўбачыў усе ўласныя адлюстраванні-здабыткі ў мностве створанага.

Менавіта за дасягненнем малых і вялікіх, блізкіх і далёкіх мэт выразна паўстае, бачыцца **галоўнае**, што складае касмічны сэнс, — **персаніфікаванасць** жыцця. Матэматыка, фізіка, хімія, біялогія, астралогія, магія ўсіх з'яў і падзей не існуюць самі па сабе і дзеля сябе. Яны заўсёды абумоўлены **неабходнасцю**, якую на розных узроўнях выяўляюць **канкрэтныя індывідуальнасці**. Ва ўсім, што ў Космасе, у першую чаргу трэба заўважаць і знаходзіць асобу, а ўжо затым усё астатняе, створанае гэтай асобай і прыснашчанае ёю да руху, існавання, — паветра, зямлю, ваду, агонь, расліны, жывёл, людзей, кантыненты, планеты, зоркі, галактыкі… Усё пачынаецца і заканчваецца асобай. Менавіта стасункі паміж асобамі, і ніщто іншае, як бы яго ні называлі і ні тлумачылі, вызначаюць характар касмічных працэсаў.

Кастусь іранічна хмыкнуў ад уцешнае думкі пра значнасць сваёй асобы ў сусветнай іерархіі, грацыёзна пацягнуўся, выпрастаўся на ўвесь свой гіганцкі рост і, убачыўшы падданых, якіх яўна асяціла ганарлівасць, гучна зарагатаў.

Ягоны рогат громам панёсся па свеце і ладна напалохаў насельнікаў. Тыя, як маглі, кінуліся бегчы-хавацца — і яшчэ больш рассмяшылі Кастуся: хіба можна наогул кудысьці дзецца ў Сусвеце? Тут усё, як на далоні!

Колькі ён пра гэта гаварыў! Якімі толькі спосабамі ні пераконваў у неабходнасці праўды і адкрытасці! І ўсё адно чалавек сумняваўся, не верыў, баяўся, утойваўся. Кастусю быў зразумелы яго вобраз мыслення, які прычынна і лагічна вымалёўваўся так:

«Усю гаму свядомасці насычалі рознакаляровыя паланіцы і маланкі бясконцай трансфармацыі. Непераўзыдзенай шчырасцю гулялі ў ёй святыя блікі

Вялікага Пачатку, ад якіх ішла надзея і кліч.

І ва ўсім гэтым лунаў дух Ібаофа.

У велічнай арміі першабудаўнікоў ён быў не самым паваротлівым і спрытным, але спраўна ішоў па этапах станаўлення, шмат дзе вярцеўся і вандраваў, назапашваў сякі-такі досвед, фарміраваў свой светапогляд. Найбольш яркім і значным у гэтай чарадзе часу стаў перыяд, калі Ібаоф замажнеў, з віхуры Тварэння вылучыў неабходны касмічны матэрыял ды пусціў яго ў свой сістэмны кругаварот — і такім

чынам замогся на ўласную планету. Падажывоцце яна стала яго гонарам і ўцехай, увабраўшы ўсе асаблівасці творцы. Ніводная **ІДЭЯ** не ўвасаблялася без апрацоўкі Ібаофа, а **ідэі** неслі толькі ягоны адбітак.

Безумоўна, душы спажывалі такі каларыт і прыстасоўваліся да любых умоў, якія рыхтаваў для іх валадар, зносілі ўсе пературбацыі. Ідучы па лесвіцы ўдасканалення, многія з іх загартаваліся, зрабіліся стойкімі, але абачлівымі.

Яны абагаўлялі Кастуся, дзякавалі яму за мажлівасць далейшай рэінкарнацыі і па-вернападданніцку слухаліся яго, толькі ніяк не маглі выкрасліць са свядомасці перажытае, якое, часам, канфліктавала з глыбінным пакладам падсвядомасці.

Усё гэта суправаджалася адпаведнымі настроямі, хваляваннямі, пакутамі і спараджала дадатковыя праблемы».

Кастусь хоць і ўлічваў іх, але ад генеральнай лініі не адхіляўся і нікога не шкадаваў.

Духам ён памчаў над сваім светам, каб у чарговы раз прымяніць судны меч. Усё наваколле працінали ягоныя ідэі, якія стукаліся ў кожнае гарачае сэрца, узбуджалі ўніклівы розум. З цікавасцю Кастусь назіраў, як па-рознаму ўспрымаюць іх людзі, як рэагуюць.

Пракацілася хваля ідэй — і насельнікі ўздымаюцца духам, ідуць у бой, сякуць галовы, знішчаюць, не літуюць анікога, змагаюцца да апошняга, кожны за сваё. Адзін супраць другога і ўсіх адначасова. Лютва на лютву...

Слава барацьбітам! Усім, хто трывала і непахісна нясе перакананасць, прынцыпы, пазіцыю.

Ганьба тым, хто не прымае аніводнага боку, гойсае і крывадушнічае, сыходзіць са шляху барацьбы.

**44**

Ібаоф адчуваў сябе як памаўзлівы вісус, якому трэба абавязкова павініцца, каб гарэзаваць далей. Ён не любіў такія моманты, бо яны калыталі яго, адбіралі энергію. Але становішча было крытычным.

Уявіць Час было няпроста нават валадару брамфатуры: той быў паўсюль, у кожнай кропцы Сусвету. Толькі шляхам адметных намаганняў і канцэнтрацыі можна было адчуць Яго эксклюзіўную прысутнасць і дыханне.

— Васпан дазваляе мне звярнуцца?

— Так.

— Клопат абцяжарвае мяне і перашкаджае майму руху.

— Я бачу тваю праблему. Ты схібіў і заплутаўся.

— Як выглядае мая правіна?

— На маім плане, у адрозненне ад твайго, відаць усе асаблівасці. Яны ўзніклі пасля таго, як ты зрабіў свой першы выбар — менавіта ён абумовіў наступныя павароты ў тваёй творчасці. Яго можна параўнаць з камлём дрэва. Твой свет, як і многія іншыя, нагадвае разложыстае дрэва — гэта пахвальна, бо адпавядае маім прынцыпам. Але плады, вецце і лісці маюць такі вычварны, нават пачварны, выгляд, што не кожная птушка Сусвету прывабіцца імі.

Параўнанні то радавалі, то засмучалі Ібаофа, ад чаго ягонае аблічча гарэла ўсімі касмічнымі фарбамі адразу. Час не зважаў на гэта і працягваў, упіваючыся ўсё новымі метафарамі:

— Мяне часта бачаць як стралу — прыблізны вобраз. Гора таму, хто ўзяў яго для рэалізацыі сваіх намыслаў — гэта тое ж самае, як будаваць свет пры асвятленні толькі аднаго сонечнага промня.

Ібаоф ярка ўспыхнуў і тут жа вінавата сумеўся, бо адчуў пільную ўвагу Часу.

— Я больш падобны да ветру, які прадзімае ўсё наўкола, прычым робіць гэта заўсёды і ўсюды незалежна ад таго, як паводзіць сябе хтосьці канкрэтна ці ўвесь свет наогул.

Час узмацніў сваё ўздзеянне на Ібаофа — і той сцяўся, напружыўся.

— Так, некаторыя лічаць, што, абраўшы адзін ці некалькі маіх напрамкаў, забяспечаць сабе прыстойнае развіццё і не будуць успрымаць астатнія. Глыбокая памылка! Яе робіць большасць касмічных творцаў. Іншыя, разумеючы гэта, аднак кіруючыся карыслівымі меркаваннямі, сягаюць аблуднасцю яшчэ далей: сабе дазваляюць адчуванне ўсіх павеваў часу, а сваім тварэнням — толькі асобных. У першым і другім выпадках адбываюцца скажэнні, непажаданыя для касмічнага парадку і вартыя пакарання. Істота, якую абмежавалі на свядомым узроўні, працягвае бессвядома атрымліваць ад Часу і Прасторы **выключна ўсё**, і, не маючы мажлівасці асэнсаваць ды зазнаць гэта, пакутуе і спараджае ўсялякія інверсіі. Каму яны на карысць?

Ібаоф яшчэ ніколі не быў так раздушаны і зняважаны. Ён нават і не падазраваў, што гэта магчыма з ім, валадаром брамфатуры, і быў перакананы: Уладар такога кшталту, як Час, **надзвычай моцны і не можа не быць усёдаравальным.** Значыць, Ібаоф памыляўся і спадзяваўся дарма. І ўсё-такі дух яго кіпеў, бунтаваў, шукаў выйсця.

— Што мяне чакае?

— Я пакажу табе канец тых, хто парушыў мае каноны.

Пра канец многіх сістэм Ібаоф ведаў толькі ў адлюстраваннях свайго ўзроўню і з відовішчам, пададзеным Часам, амаль што нуменальным, знаёміўся ўпершыню.

Вялікі Рух без канца і краю ён адчуў усім сваім іством. Не мітусяніну мікра- і макрааб'ектаў Сусвету — гэта само сабой зразумела, а непасрэдны працэс, падобна таму, як хтосьці ўбачыў бы вецер.

Наўрад ці яшчэ калі-небудзь яму надарыцца назіраць такую захапляльную з'яву.

Незлічоныя павевы Часу кранаелі літаральна ўсё існае. Іхняя разнастайнасць як па хуткасці, так і па накіраванасці ўражвала: яны імчалі і паралельна, і насустрач, і пад рознымі вугламі адно да аднаго, і з выгінамі, і ў перапляценні, і разгаліста, і віхурыста, і шпарка, і павольна… У гэтым ашаламляльным усёахопным кручэнні Ібаоф прыкмячаў, як з'яўляюцца, дужэюць, чаўрэюць і прападаюць розныя касмічныя сістэмы, прычым багата якія маланкава, імкліва — і ніхто нікому не спагадаў, не рачыў, не дапамагаў.

— Неабходнасць — рычаг руху, — патлумачыў Час і, як толькі Ібаоф падумаў пра варыянт не існаваць зусім, дадаў: — Небыццё — статыка, а гэта — не маё. Як з адпачынкам, я з ёю яшчэ міруся, а як з працяглым станам, — не. Як бы яе ні называлі — вечны спакой, сон, прымірэнне, нірвана, — яна ніколі не стане паквапнай для шукальнікаў і бунтароў.

Флюіды іншасці развеяліся адразу, і Ібаофа атачыла сфера незазнанай духоўнай чысціні.

— Я паважаю ўсялякі выбар, але найбольш — цвёрды, без хістанняў і мітусні — якраз такі і вызначае хуткасць, дынаміку руху, то бок мае асаблівасці. Усім раю спазнаць іх напоўніцу і адчуць, што значыць **паўнавартасна жыць у часе.** На жаль, многія адмаўляюцца і не ведаюць **гэтага.** Ты бачыў, як яны потым шкадуюць, калі, дасягнуўшы чагосьці ўсяго толькі на асобных маіх кірунках, ужо не маюць мажлівасцей праявіцца на астатніх і сыходзяць з плану развіцця. Можна толькі здагадвацца, якое месца прыгатавана ім на Лесвіцы Касмічнай Іерархіі. Ты б жадаў быць сярод безаблічнай масы і не адчуваць на сабе позірк **ЯГО**?

— Не.

— Так, правільна, інакш існаванне не мела б сэнсу: шлях «дзеля сябе» бесперспектыўны. **Усё — толькі для ЯГО**.

Час узмахнуў сваімі магутнымі крыламі — і яны апынуліся на іншым узроўні, дзе Ібаоф адчуў незнаёмыя подыхі.

— Менавіта таму Вечнасць дазваляе мне калі-некалі рабіць **гэта**.

І Час стаіў дыханне.

Адразу перасталі шаптацца травы з праскамі, абдымацца дрэвы і хвалявацца хмызнякі, замерла рэчка, спыніліся на лісточках кузуркі, а ў паветры птушкі, застылі жывёлы, нязрушна павіслі аблокі, залатымі струнамі нацягнуліся сонечныя промні, затрымалі свой бег планеты і зоркі, збянтэжыліся пачуцці і думкі — суняўся ўвесь Сусвет.

— Як я яго асадзіў? — радаваўся Час, праз імгненне нанова запускаючы Вечны Рухавік.

Ібаоф ад здзіўлення трымцеў усім іством і няўцямна заўважаў, якую незвычайную асалоду ад дзейства атрымліваў Час.

— А як жа! — пацвярджаў той, пакрысе набываючы ранейшую раўнавагу і самавітасць. — Гэта як аргазм у чалавека — уз'юрыцца з Вечнасцю, прабач за гэтакае грубае параўнанне, затое трапнае, бо закон адзін: як уверсе, так і ўнізе. Дык вось, такім актам перапыніўся кармічны ланцуг і трохі папраўлены Сусвет, што дазваляе кемлівым і заўзятым творцам сёе-тое падкарэктаваць без платы.

— А ім вядома пра гэта?

— На тое і творца, каб адчуваць, улоўліваць сігналы Космасу — менавіта гэтым вызначаецца яго сапраўднасць.

Час, патанаючы ў веліччы, усё-такі спраўдзіў надзеі Ібаофа і ўважыў:

— Да тых хуткасцей, што ты маеш, я дадам новую. Разам з іншымі яна паскорыць успрыманне рэальнасці і дапаможа засяродзіцца на галоўных напрамках, чымся на пабочных, але пры ўмове, каб гэта адэкватна адлюстроўвалася ў свядомасці тваіх стварэнняў, іначай не будзе назапашана належнай практыкі. Такім парадкам ты ўмацуеш сваё аблічча і не страцішся сярод безлічы.

— Стасункі з Матэрыяй зменяцца?

— Нешта адбудзецца. У мяне з Прасторай таксама бываюць розныя пертурбацыі, але паразуменне заўсёды ёсць. Матэрыя здольна на многае. Ты дамовішся з ёю, патлумачыш ёй спецыфіку — і яна знойдзе неабходныя фізічныя мажлівасці, прыдумае гожыя формы, абалонкі.

Калі тэма была вычарпана і Ібаоф памкнуўся аддзячыць, Час велічна параіў:

— Толькі не захапляйцеся фізікай спакою, мадэлямі статыкі. Усеабдымная дынаміка — вось вашая дарога.

## 45

Яны не збіраліся даўно і не шкадавалі пра гэта. Кожнага захапляла свая справа, і думаць пра нешта іншае, пабочнае, наладоўваць сябе чужымі праблемамі, марна выдаткоўваць свае сілы на нейкія там стасункі не хацелася нікому. Зрэдзь на розум набягалі асацыяцыі мінуўшчыны, але яны не краналі і ні на што не ўздзейнічалі. Гэтак, мабыць, працягвалася б вечнасць, калі б не дзіўны энергетычны штуршок з Космасу, які паўплываў на ўсіх адэптаў і варухнуў свядомасць іх стварэнняў. Ва ўсіх адначасова ўзрасла ўнутраная патрэбнасць да зносін.

— Такое ўражанне, як быццам я на нейкі міг знепрытомнеў і, калі ачомаўся, адчуў зрухі ў галаве, — першым мовіў Кастусь, як толькі багі зляцеліся. — Пакуль не магу разабрацца, што гэта, але мысленне, як мне здаецца, стала больш ясным.

— А я нечакана для сябе, хоць і цьмяна, убачыў канчатковы вынік сваіх высілкаў, — узбуджана шчырэў Генрых. — Паверце, нічога не зразумеў.

— У мяне ўзмацнілася перакананасць, што я раблю ўсё правільна, — з гонарам адзначаў Андрэй. — Мае стварэнні акрыялі духам і сталі актыўней змагацца за існаванне.

— Я прыкмеціў, як багацеюць пачуццямі мае людзі і тыя, хто наведвае мой пласт, — з задавальненнем дзяліўся сваімі ўражаннямі Жак. — Дарэчы, іх стала больш. Прабачце, самому мне заманулася распаўсюдзіць свой досвед ЛЮБОВІ і любові спачатку сярод вас, а затым і на іншыя брамфатуры.

— Які жвавы! Спачатку спытайся, ці патрэбныя іншым тваё намаганні? Думаю, што ты — не ўзор. Ёсць лепшыя за цябе, — напышліва, расцягваючы словы, гаварыў Ахмад. — Дый годзе, не пра тое зараз. Мой пласт толькі крыху калыхнуўся, што ніяк не паўплывала на маіх геніяў. Яны самадастатковыя і ў ніякіх зменах не маюць патрэбы. Ім камфортна і ўтульна ў сваёй абалонцы. А мяне, шчыра кажучы, страсенне абмінула. І пра гэта я ніколькі не шкадую.

— Мае стварэнні таксама не зведалі яго, — хваляваўся Замба. — І гэта добра: навошта ім лішнія ўзрушэнні і веды. Яны атрымліваюць усё неабходнае ад мяне і радуюцца. Толькі я адзін адчуў штуршок — гэтага дастаткова, каб падтрымліваць узаемадачыненні майго свету і супольнасцей Космасу і калі-некалі карэктаваць сёе-тое ў развіцці.

— А мой пласт здрыгануўся цалкам, — натхнёна выказваўся Лао. — Іначай і быць не магло, бо ён — гэта я. Усе ўспрынялі незвычайны імпульс — і пажадалі хутчэйшых перамен. Я не прымусіў сябе доўга чакаць і выдаліў у нябыт большасць сваіх насельнікаў, а замест іх стварыў новых, такіх, якіх на той час прагла маё іства.

— Унікальны энергетычны пасыл мяне і ўзрадаваў, і засмуціў, — глыбакадумна разважаў Джордж. — Па-першае, ён дазволіў апрастацца ад некаторых нашых кармічных недарэчнасцей — гэта добра. Па-другое, у памяці тое не захавалася і магчымы адрыг, што не абяцае лагоды. Апроч гэтага, дадатковым цяжарам леглі на насельнікаў новыя выпрабаванні. Заспакойвае толькі тое, што я атрымаў больш мажлівасцей пашырыць свабоду.

— Мяне нібыта працяў электрычны ток, — узбуджана прамаўляў Мікаэль, — і я адчуў хвалю ўнутранага ачышчэння. Крыху пазней мне адкрыліся новыя каналы спазнання — і зноўку стаў вабіць неабсяжны Сусвет, падарожжы, прыгоды… Але мой пласт, хоць у ім я нічога і не ствараю, моцна трымае ды не жадае адпускаць, бо мноства істот з усяе Галактыкі пакінулі тут свой след, спадзяюцца на мяне і жадаюць новых сустрэч. Дарэчы, я заўважыў, што і яны змяніліся, неяк павесялелі.

Раптоўна ў эфір уварваліся незнаёмыя гукі і дужа ўзбуджальныя пахі. Адразу ж перад адэптамі паўсталі Барыс і Раджыў.

— Не чакалі! — ззяў ад радасці Барыс. — Ваш злёт вылучае ў прастору такія магутныя сігналы, што не заўважыць іх немагчыма.

— Я таксама адчуў іхнюю моц, — падтрымаў яго Раджыў, — і палічыў за шчасце ўбачыцца са сваімі сябрукамі.

— А найперш у наваколлі і свядомасці адбыўся дзіўны пошуг, за якім, як мы ўбачылі, адчыніліся сусветныя каналы шчырасці і прыязнасці, — з подзівам дадаў Барыс.

— Мы таксама гэта адчулі, — за ўсіх паведаміў ім Кастусь.

Агаломшаныя адэпты кінуліся абдымаць Барыса і Раджыва, весела тармасіць іх, лопаць па плячах, наўзахваткі распытваючы.

— Дзе вы цяпер?

— Як пачуваеце сябе?

— Распавядзіце пра свае справы.

— Вашае рабенне, калі карыстацца дадзенымі сусветнага інфармацыйнага масіву, істотна адрозніваецца ад нашага, — распачаў Барыс. — Вы знаходзіцеся дома і працуеце па даўно вядомых стандартах, традыцыйна, без асаблівых узрушэнняў, згодна з агульным парадкам, які жорстка кантралюе Ібаоф. Дарэчы, нашая вышэйшая кагорта крытыкуе яго за няўдалую мадэль развіцця і архаічны стыль кіравання.

— Гэта несправядліва і антыкасмічна, — узбурыўся Андрэй. — Яны ўмешваюцца ў нашыя ўнутраныя справы. Няхай лепш разбіраюцца з сабою. Сістэма Ібаофа — адна з найлепшых у Галактыцы. Пра гэта скажа кожны, хто яе зведаў. Ці так? — звярнуўся ён да сваіх кунпаноў.

Падтрымка была слабой. Ніхто не чакаў такога павароту размовы і зусім не гарэў жаданнем выказвацца з гэтае нагоды. Утварылася некаторае замяшанне.

— Сапраўды, кожная брамфатура развіваецца паводле сваіх законаў — і на славу! Судзіць можа толькі БОГ, — разрадзіў напружанне Раджыў. — Сістэма, у якой дзеем мы з Барысам, менш матэрыяльная, за вашую, — менавіта гэтай адменнасцю можна патлумачыць асаблівасці нашай творчасці. Кармічныя цуглі ў нас не такія цяжкія і балючыя. Між іншым, сусветны штуршок, які вы толькі што абмяркоўвалі, нашай брамфатуры прынёс вялікую палёгку. Некаторыя працэсы пайшлі шпарчэй і змястоўней. Дзякуй яго аўтару. Рэінкарнацыя ў нас адбываецца не толькі па волі багоў, але і па жаданні саміх душ. Яны маюць права выбіраць пласт для далейшага жыцця, і адэпт павінен прыняць іх без пярэчанняў. У нас менш таямнічасці, больш адкрытасці, шчырасці, дабрадзейства. Багі таксама свабодныя ў выбары, не прыкаваныя да сваёй сістэмы. Могуць тварыць дзе заўгодна, у любых брамфатурах і галактыках, але частку сваёй напрацаванай энергіі абавязаны аддаваць Радзіме.

Адэпты адрэагавалі на гэты аповед узрушана і бурна.

— Дык у вас мілата!

— Самастойнасць і свабода!

— Узаемаразуменне і падтрымка!

— Цудоўныя ўмовы для творчасці!

— Не так усё спраўна і гожа, як вы думаеце, — перапыніў іхнія захапленні Барыс. — Ёсць і адмоўны бок сістэмы. Па-першае, душы большасцю выбіраюць самавітых багоў і тым самым перапаўняюць іхнія пласты. Астатнія застаюцца маланаселенымі, развіваюцца слаба — і гэта выклікае нямала наракання з боку іх гаспадароў. Некаторыя ўвасабленцы ацэньваюць сябе неадэкватна, разлічваюць на дарэмшчыну. Адэпты гэтага не прымаюць і выказваюць незадавальненне, нават пратэстуюць. Але валадар парадкі не змяняе. Па-другое, багі ўсё часцей эмігруюць, і брамфатура пусцее на спецыялістаў. А сваёй школы ў ёй нямашака, таму кіраўніцтва запрашае да сябе кадры з іншых сістэм, як, напрыклад, мяне з Раджывам. Нам, па-трэцяе, там не салодка. Калі мы, убачыўшы такія парадкі, пачалі прымяняць да душ падыходы, якім вучыліся тут, распачаўся вэрхал, валадар забараніў нам рабіць гэта і адняў у нас частку энергіі. Я не пагардлівы, але скажу, што многія адэпты-валанцёры нізкага ўзроўню падрыхтоўкі і працуюць адпаведна. Я і Раджыў пераканаліся, што як да адных, так і да іншых трэба прымяняць жорсткія меры, не шкадаваць і не цацкацца. Адно, што нам часам дапамагае — гэта сустрэчы з аднадумцамі і мудрымі калегамі з усяе Галактыкі.

— Варочайцеся назад, — прапанаваў Замба. — Упэўнены, тут для вас знойдзецца прытулак.

— Сапраўдныя багі так не робяць, — адзначыў Раджыў. — Мы павінны выканаць сваю валанцёрскую місію і кіравацьдалей, але не на радзіму, хоць яна па-ранейшаму прыцягвае, а ў вялікі Сусвет, — Раджыў крыху памаўчаў, зірнуў на зоры і бліснуў вачыма. — Пра малую радзіму, родны кут сумуюць і енчаць толькі абмежаваныя істоты. Нам, больш-менш дасканалым, нельга прыпадабняцца да іх. Памятайма, ва ўсіх нас адно паходжанне — БОГ, адна Радзіма — неабсяжны Касмічны Прасцяг. Чым больш мы яго вывучаем, спазнаем, пераўтвараем, тым хутчэй робімся бездакорнымі, гарманічнымі, вартымі свайго ТВОРЦЫ. А самы галоўны для гэтага спосаб — рух. Любы спын — радзіма, прыхільнасць, пачуццё, шкадаванне, успамін і таму падобнае — адкідвае назад, зводзіць з галоўнага напрамку, аддаляе ад БОГА. Вось таму варта не прыпыняцца, без шкадобы адпрэчваць усё на сваім шляху і імчаць удалячынь, нават не ведаючы, што там чакае.

Павучальная казань Раджыва ўзрушыла зямных багоў. Большасць палічыла яе за абразу і па-іншаму паглядзела на сваіх былых таварышаў, якіх кранула нешта кардынальнае, як ім здавалася, — адрачэнскае і здраднае, і толькі некаторыя ўбачылі ў гэтым прыкметы незнаёмага і больш высокага сэнсу.

— Вы нас прасвятлілі! — іранічна адцеміў Генрых. — І, што важна, прылічыўшы да нягеглых асобін, паказалі дарогу, па якой трэба ісці: разбурыць свае пласты, знішчыць альбо разагнаць па свеце людзей, зганодаць усю брамфатуру і зрабіцца вечнымі бадзягамі, шукаючы немаведама што.

— Так, бяздумны, апантаны рух — безадказнасць, абыякавасць да творчасці, насельнікаў свету, галактычных і зорных супольнасцей, — падтрымаў яго Жак. — Нашыя Кіраўнікі і старэйшыя браты, ахвяруючы часткаю сябе, самааддана ўзяліся за памнажэнне жыцця ў Космасе, стварэнне новых рэальнасцей, нараджэнне і выхаванне інакшых істот — для таго і існуе Сусвет.

— Да гэтага нас заўсёды заклікае Касмічная Маці, якая дапамагае і садзейнічае нам, падтрымлівае энергіяй, — палка дадаў Лао.

— Наш розум уладкаваны так, што без дзейнасці ён не можа, — здалёк пачаў Мікаэль, каб больш пераканаўча давесці свой пункт гледжання. — А для яе патрэбны не імклівы безаглядны бег, а канкрэтныя час і прастора, то бок асяроддзе, умовы, атачэнне, парадак, прынцыпы — усё гэта ў розных варыяцыях дае свой свет — творчая лабараторыя для розуму. Я шчаслівы, бо маю яе і раблю ў ёй усё, што ўздумаецца, па жаданні і натхненні.

Барыс і Раджыў, да здзіўлення ўсіх, не пярэчылі, маўчалі, тоячы ў вачах паблажлівы агеньчык мудрасці.

— Мы ўсе несмяротныя, — як бы нагадаў пасля доўгага задумення Кастусь. — І добра ведаем, што нас чакаюць бясконцыя адкрыцці і ўсё новыя ўражанні ад пазнання гэтага Вечнага Свету. Але спачатку нам трэба зрабіць сваю справу на Зямлі, каб яна і мы ўзмацнелі духам і ўпэўнена іրванулі да вышэйшых сфер.

— Барыс і Раджыў, я разумею ваш стан, ён ідзе ад больш шырокага і глыбокага ведання іншасці, — адзначыў Джордж. — Гэта добра. Паступова мы таксама дасягнем такога ўзроўню развіцця. А пакуль, я згодны з Кастусём, мы павінны дбаць пра сваю Вялікую Радзіму.

Колькі секундаў царавала маўчанне.

Нечакана ў эфіры і ў вушах багоў прыемна зазвінела. Усе адразу занепакоіліся, збянтэжана пазіраючы адно на аднаго, і ў адзін голас выгукнулі:

— Што гэта?

— Не хвалюйцеся, — прагучала ў галаве кожнага. — Гэта — Аляксандр.

Адэпты скалануліся. Такога калектыўнага эмацыйнага ўзрушэння не памятаў ніхто.

— Нарэшце я да вас прабіўся. На жаль, толькі голасам. Іншым чынам пакуль не магу. Мне дапамаглі надзейныя тубыльцы, якія таемна далі пакарыстацца міжпрасторавым каналам. Я знаходжуся ў іншым вымярэнні, куды мяне ў свой час засмакталі. Тады я выпадкова натрапіў на кратовую нару — і ўраз апынуўся ў гэтым свеце. Ён не такі, як наш, адрозніваецца па многіх параметрах. Яго засяляюць вельмі разумныя, але акрутныя пачвары, якія самі нічога не робяць, а толькі жывуць за кошт эксплуатацыі рабоў, у якіх ператварылі захопленых і выкрадзеных насельнікаў з іншых вымярэнняў. Дарэчы, яны могуць пераўвасабляцца ў розных стварэнняў, наведваць суседнія і далёкія сусветы, у тым ліку і Зямлю, з мэтай набыцця жывой сілы, прычым выявіць іх амаль не магчыма, бо па ўзроўні развіцця тутэйшая цывілізацыя намнога апярэдзіла нашую. Жыццё своеасаблівае, нязвыклае, але ніштаватае. Я абвыкаў вельмі доўга. Калі без пярэчанняў выконваць распараджэнні і загады гаспадароў, то можна карыстацца ўсімі тымі дабротамі, што і яны. Самае галоўнае — гэта адкрыты доступ да інфармацыйнага масіву Космасу, але аднабаковы, без права зносіцца з ім ці адпраўляць туды нейкія пасланні, запыты. Таму я пра вас ведаю амаль усё і тое, што вы сёння зноўку сабраліся разам. Віншую ўсіх з поспехамі, радуюся і сумую. Хачу дадому, але калі тое адбудзецца — невядома. Шанцаў усё менш, бо тут перыядычна апрацоўваюць мазгі, каб рабы забыліся на мінулае альбо бачылі яго ў скажоным і перакручаным святле… Ах, мяне, напэўна, заўважылі. Прыкра, мне не здабраваць. Бывайце.

Усталявалася цішыня. Кожны паглыбіўся ў свае думы, і яны былі невясёлыя. Канешне, было шкада Аляксандра, хацелася яму дапамагчы і падрабязней распытаць, высвятліць, дзе яго шукаць, як адтуль можна выбрацца, які лёс у рабоў, якіх асобін забіраюць з Зямлі пачвары і г. д. Дасюль упэўненыя і амбітныя, адэпты адчулі сябе раздушанымі і няздольнымі хоць што-небудзь зрабіць для сябрука. Яны ведалі, што нават настаўнікі апускалі рукі, калі справа тычылася некаторых выкручастых праяў іншасці, але ўсё адно заспакоіцца не маглі.

— Выйсце заўсёды ёсць, — рашуча заявіў Кастусь. — Толькі яго трэба шукаць.

Астатнія, хоць і без энтузіязму, пагадзіліся, моўчкі кіўнушы галовамі.

**46**

Што надае руху большую дынаміку? Што лепш паскарае хаду і ўсеабдымна ахоплівае яе ўдзельнікаў? Што садзейнічае найхуткаму прагрэсу? Канешне ж, барацьба!

Выснова бясспрэчная, і на ўзбраенні яе трэба мець заўсёды.

Ібаоф дзякаваў Часу за спамогу, думаў над мінулым, сучасным і будучым сваёй брамфатуры ды ўзважваў варыянты яе ўдасканалення. Ён не спяшаўся, бо разумеў, што ад правільнага выбару залежыць лёс яго самога, а затым ужо ўсіх астатніх, якія, прыкра было прызнацца, існавалі толькі для таго, каб забяспечыць вышэйшы ўзлёт менавіта яму, а не сабе.

Як толькі валадар выбраў найбольш здатны ход, то стаў меркаваць, як яго лепш ажыццявіць.

Метад барацьбы ён выкарыстоўваў неаднойчы, але заўсёды рэгіянальна, каб папавіць сёе-тое ў нейкім адным свеце. Патрэбы ў глабальных маштабах дасюль не было.

Цяпер жа задача з’яўлялася неардынарнай і вымагала адметных падыходаў. Калі раней Ібаоф дзейнічаў без усялякіх сантыментаў і апраўданняў, адкрыта, напрамкі, з відавочнай мэтаю пакарання ці навучання благіх і непаслухмяных, то цяпер, каб пазбегнуць масавых пратэстаў і абвінавачванняў, трэба было абавязкова схаваць-завэлюмаваць свае сапраўдныя намеры, прымяніць усе магчымыя спосабы замаскаванасці, хоць для адводу падазрэнняў сёе-тое можна і рассакрэціць.

Безумоўна, барацьба вынікае з процістаяння ды супярэчнасцей. Менавіта з іх неабходна пачынаць, паступова ўзбуджаючы абстаноўку, стасункі між багамі аж да крайняй ступені напружання, ад якой да адкрытага змагання і бітвы — адзін крок.

Ібаоф разумеў, што зрабіць гэта будзе цяжка, бо дагэтуль ніякіх унутраных катаклізмаў у брамфатуры не было дый гаспадары пластоў паважна і мірна ставіліся адно да аднаго: такое яны атрымалі выхаванне. Усведамляючы гэта, Ібаоф дваяка ўспрымаў сітуацыю: з аднаго боку яму было прыемна, што ўзгадаваў такіх годных багоў, з другога — адмаўляцца ад перамен ён не жадаў.

Каб канчаткова вызначыцца і сфарміраваць канкрэтную мадэль пераўтварэнняў, Ібаофу неабходна было стрэцца з Матэрыяй.

**47**

— Ты мяне даканаеш. Можа, досыць ужо эксперыментаваць? Няхай твораць нашчадкі, а ты б лепей адпачываў.

— Тое не для мяне, тым больш што гэтым разам справа надзвычай важная і неадкладная.

— У цябе заўсёды так. І ў які раз я ўважліва слухаю.

— Ты, як ніхто іншы, ведаеш пра мяне шмат чаго — і добрага, і благога — і, мабыць, заўважыла маё хваляванне. Так, я турбуюся, і ёсць ад чаго: курс развіцця нашай брамфатуры стаў калывацца. Трэба прызнаць: я калісьці даў маху.

— І неаднойчы, Ібаоф.

— Не трэба. І без таго дух узрушаны… Дык вось, нічога не заставалася іншага, як ісці на паклон да Часу.

— Неверагодна! Ты адважыўся на такое?

— І Ён мне дапамог. Параіў актыўней выкарыстоўваць метады дынамікі.

— Як ты сабе гэта ўяўляеш?

— Як вядома, **вышэйшым варыянтам дынамікі** сярод людзей і багоў **з’яўляецца барацьба**. Я вырашыў яё прымяніць маштабна і ўсебакова.

— Ты не змяняешся: як заўсёды, максіміліст. Ці здолееш?

— З тваёй дапамогай — абавязкова.

— Я люблю навізну, неардынарнасць, твой выпадак таксама цікавы, але выключновы: мы яшчэ ніколі не скарыстоўвалі рэфарматарства так усеахопна. Рызыка вялікая. Багоў у брамфатуры шмат; упэўнена: мала каму спадабаюцца такія рашучыя меры. Чым яны табе не дагадзілі?

— Слаба развіваюцца, дужа самастойныя, парушаюць традыцыі альбо, наогул, грэбуюць імі, прыглядаюцца да суседзяў і ўсё часцей кіруюцца ўсекасмічнымі парадкамі.

— Думаю, гэта добра, што яны такія кемныя і цікаўныя. Пазнанне Вялізнага Сусвету ўсім толькі на карысць, у тым ліку і нам з табою, хоць мы ўжо, здаецца, сваё атрымалі.

— Я — валадар брамфатуры, знаходжуся на вяршыне гэтай піраміды, і ўсё павінна адбывацца цераз мяне і з майго дазволу, інакш здарыцца разбурэнне, і нас захлісне анархія.

— Разумею, але, можа, ужыць іншыя, больш гуманныя і мірныя спосабы ўздзеяння: перамовы, рады, сходы, злёты, карэктоўка абстаноўкі, абмен досведам. Шкада нашчадкаў: будуць страты.

— Ты мяне здзіўляеш: адкуль такая чуллівасць? Ад каго ты навучылася? Як быццам не ведаеш, што жалю і спагады ў Космасе няма, як дабра і зла. Ёсць толькі **неабходнасць,** ад актуальнасці якой залежыць спосаб рабення. І яшчэ ад таго, **хто** вырашае праблему. Нішто ў Сусвеце не прападае спрэс. Пакрыўджаныя ці пацярпелыя пераходзяць у іншы стан і маюць мажлівасць крочыць далей па інкарнацыі.

— Гэта мне вядома, але галоўнае тое, што ты перапыніш справу адэптаў, засмеціш і знявечыш іх дух, пасееш сумнеў у творчасці.

— Усё кампенсуецца іншым разам — Час гэта дазваляе. Ёсць залатое правіла — **калі ідзе вышэйшае, ніжэйшае павінна супыніцца і, падпарадкаваўшыся, даць дарогу.**

**48**

Кастусь ляцеў над зямлёю і папраўляў свой свет, захапляючыся ўласным тварэннем. Яму падабаўся гэты працэс. Творчасць — вялікая асалода, і шчаслівы той, хто мае магчымасць ёю займацца, жыць натхненнем, пранікаць сваім талентам у Космас, знаходзіць там адметныя карціны Вялікага Сэнсу і па-майстэрску ўвасабляць іх перад чалавецтвам у сваёй рэальнасці.

Раптоўна яго нехта тарганула — і тут жа нутро самлела ад нясцерпнай млоснасці…

Мабыць, ён знепрытомнеў і ўпаў, бо ляжаў, млявы, на траве. Думкі бязладна мітусіліся, і ў гэтай блытаніне Кастусь адчуў чужыя мыслявыя формы, колькасць якіх павялічвалася і паступова засланяла ягоную свядомасць. Спачатку нічога нельга было разабраць, а потым усё ясней і разборлівей стала праступаць ужо вядомая і такая непажаданая іста.

«Пазнаў, воталапень? Пэўна, запамятаваў, пра што я гаварыла напачатку нашага знаёмства? Дарма, інакш гэтак крутка я б цябе не захапіла. Трэба заўсёды быць пільным і думаць пра мяне. Я дык зіркастая: цікую за табой. Пра ўсе твае справы ведаю і лічу іх кепскімі ды марнымі. Не тым займаешся. З такімі падыходамі вышэй не сягнеш, а будзеш гібець і смярдзець тут вечна. Цьфу! Што гэта я не тое прарочу? Насамрэч, твая песенка ўжо спета. З гэтага часу самастойна ты ўжо нічога не здолееш зрабіць. Усім буду распараджацца я, а ты станеш мне слугаваць. Я вельмі разлічваю на твой талент і шматлікія знаёмствы. Не думаю, што ты ў стане выказваць незадавальненне, пярэчыць мне, пратэставаць. Твая воля змарнела, гарапяка і хаўбень. Царуе толькі мая. Ха-ха-ха!»

Сапраўды, Кастусь усё разумеў, памятаў, адчуваў, але выказаць сваю нянавісць, працістаяць гэтай гідкай выяве не мог, як ні жадаў. Яму было горка і крыўдна ад таго, што яна падпарадкавала яго сабе, здзекавалася з яго, абражала, што ён так бяздарна забыўся пра яе і зусім не ўлічваў пастаянную прысутнасць гэтай брыдоты ўнутры. Мабыць, тыя цені ды відмы, якія Кастусь зрэдзь бачыў, і былі яе праявамі. Значыць, ужо тады яна вынікала і пакрывала ягоныя тварэнні сваім духам. А ён не звяртаў належнай увагі на гэта, лічыў, што прымячае спадарожныя эфекты сваёй дзейнасці, і не засяроджваўся. Недаравальна!

Чаму менавіта цяпер гэтая выява так заўзята ўсхадзілася? Што падштурхнула яе? Хіба Кастусь нешта не тое зрабіў і тым самым узбудзіў яе актыўнасць? А раптам хто іншы паклапаціўся, калі, наогул, можна ўздзейнічаць на гэтую шалудзьку

звонку? Няўжо яна здольна зносіцца са светам самастойна, незалежна, зусім не кранаючы іства Кастуся?

Як знайсці адказы на шматлікія пытанні, калі скаваны амаль усе твае мажлівасці і значэнні? Нават перамовіцца ні з кім нельга. А трэба было б, ох, як трэба!

«Ты не дужа расцякайся думкамі і не захапляйся, гламазда. За абразы, упартасць і нязгоду буду караць. Як? Напрыклад, вось так!»

Тут жа Кастусь адчуў рэзкі боль у баку і гучна войкнуў. Праз імгненне колка прайшла, і ён зразумеў, што нечысць сапраўды мае неабмежаваную ўладу над ім і, каб цалкам сябе не загубіць, пакуль лепш ёй падпарадкоўвацца.

«Ты ў мяне малайчына. Кемлівы. Я так і меркавала, што між намі будзе згода. А стрэцца з кім-небудзь патрэбна — гэта ўваходзіць і ў мае планы. Пачнём з тваіх кунпаноў».

Такое рашэнне ўзрадавала Кастуся, абнадзеіла: сябрукі заўважаць, у якім ён стане і, канешне, дапамогуць.

Усё наваколле нечакана завагалася, паплыло, і звыклыя малюнкі свету Кастуся сталі змяняцца, трансфармавацца ў незнаёмыя выродлівыя формы, якія выклікалі агіду і жудасць. Залатое святло і чысты блакіт раталі; густы сіні змрок зацягнуў увесь небасхіл. Дзе-нідзе ўспыхвалі паланіцы і грукатала.

Кастусь сцепануўся ад такой абстаноўкі і нема застагнаў, адчуваючы бяду.

«Ха-ха-ха! Даўбяла, ці то яшчэ будзе!»

Нечакана перад ім выніклі іншыя багі, яго дружбакі. Усе збянтэжана пазіралі вакол і не маглі даўмецца, дзе яны і што з імі адбываецца. Кастусь убачыў, што і іх захапіла такая ж самая зараза. Ягоныя надзеі адразу абваліліся, і яму зрабілася горка.

Адэпты хоць і пазналі адно аднаго, але выказацца, абмяняцца думкамі аніяк не маглі. Яны паспрабавалі зносіцца тэлепатычна, на ментальным узроўні, але адразу ўпэўніліся, што і гэта немагчама: каналы былі заблакаваны.

У кожным сядзела па пачвары, а то і па некалькі, — і ўсе па чарзе, а часцей у адзін голас рэзанёрствавалі, выкладаючы новыя правілы:

«Не высільвайцеся, бязглуздыя. Нічога ў вас не атрымаецца. Такія ёлупні, як вы, заўсёды дрэнна заканчваюць. Падобных прыкладаў у Сусвеце процьма. Вырашылі жыццё будаваць па-райску, а па-пякельнаму хто будзе? Няўжо за час навучання і доўгага чалавекабудаўніцтва вы не ўцямілі, што ў матэрыяльным свеце пазітыў без негатыву не існуе, што станоўчае павінна ўраўнаважваць адмоўнае. Адным дабром прагрэс не пасунеш. Трэба, каб у запрэжцы было і зло. Усё роўна, пакутуе хтосьці ці радуецца — у любым выпадку ён рухаецца. А калі зведвае толькі адзін бок — ход замаруджваецца да таго, што можа зусім прыпыніцца. Заўсёды павінна быць узварушэнне. Таму для вас — мы, а для нас — вы. Калі мы ўпершыню з'явіліся перад вамі, вы нічога не ўшалопілі, напалохаліся і не прызналі нас. А трэба было крыху памазгаваць і наладзіць з намі прыстойныя стасункі. Тады б справа пайшла інакш, шпарчэй. Дарэчы, у іншых брамфатурах вашыя равеснікі далёка наперадзе, бо жывуць у згодзе са сваімі ўнутранымі істотамі».

Багі праглі ўварвацца ў гэтую агідную балбатню, спыніць шквал брыдкаслоўя, жорсткасці і цынізму, але толькі лыпалі вачыма, адчайна круцілі галовамі, чырванелі і бязмоўна енчылі.

«Як захваляваліся, гарапякі! Не падабаецца? Ай-ай-ай! Замест таго, каб хоць цяпер асэнсаваць нашую ролю і прыблізіцца да праўды, вы па-ранейшаму ўпарцiцеся і ненавідзіце нас. Тым прасцей нам будзе выконваць сваю задачу. Безумоўна, вы не так прамалінейна кіраваліся агульнымі наладамі, нешта спрабавалі змяніць,

мадэрнізаваць, нават парушалі традыцыі, процідзейнічалі Ібаофу і на нейкіх этапах ужывалі нашыя метады, але тое было хутчэй выпадкова, чым свядома. У нас была надзея, але яна з кожным разам марнела. За доўгія мільёны гадоў вы не здолелі апраўдаць давер настаўнікаў і вышэйшых сіл. Прыхільная да вас вялікая майстрыха Матэрыя стамілася ад аднастайных і бяздарных падыходаў, бязглуздасці многіх багоў. Вашыя пласты — узоры эгаістычных высілкаў. Карысць для брамфатуры ад іх мізэрная. Пры такіх падыходах уся сістэма Зямлі можа апынуцца ў забоччы касмічнага руху. Але мы, сапраўдныя носьбіты вялікага Сэнсу і патрыёты, не дамо развіцца такому варыянту».

Адэптам было балюча. Хто б мог падумаць, што ўсё так павернецца і на ўвесь край надыдзе гмур.

Чаму так атрымалася? Што паспрыяла актыўнасці ўнутраных істот? Творчыя промахі, арганізацыйныя памылкі? Наўрад ці, бо багі імкнуліся кіравацца касмічнымі законамі, сістэмнымі традыцыямі і прыўносіць у агульную карціну свой каларыт, які не скажаў яе, наадварот, узбагачаў. Тым больш ніякіх істотных заўваг і папярэджанняў з боку настаўнікаў, суседзяў, гасцей не паступала, колькі б тыя не наведвалі іхнія пласты.

Няўжо гэтыя пачвары ўзбунтаваліся па натхненні? Але такія адначасовыя групавыя ўчынкі адбываюцца толькі па дамоўленасці. Хіба яны могуць стасавацца? Калі гэта так, то чаму адэпты нічога не адчулі: яны ж у адной выяве?.. А што выява? Яна — толькі абалонка, у якой можа змяшчацца некалькі сутнасцей: чый розум спрытней, той ёю і кіруе. Дасюль яна падпарадкоўвалася адэптам, цяпер — гэтаму паскуддзю. Справа не ў ёй, а, хутчэй за ўсё, у астральных і ментальных каналах зносін з Сусветам: калі на агульных адэпты нічога падазронага не заўважылі, значыць, інфармацыйны абмен адбываўся па індывідуальных. І ўсё адно, каб абудзіцца, дрымотнай свядомасці патрэбны вонкавы і досыць моцны штуршок, а аб'яднацца з сабе падобнымі ды яшчэ для агрэсіі — тым больш. Хто гэта зрабіў?

Багі, калі слухалі сваіх занявольнікаў, улоўлівалі ў іх гаворках дужа знаёмыя матывы. Асацыяцыі блыталіся, і канкрэтны ініцыятар узрушэнняў доўга не вынікаў. Толькі праз колькі часу нарэшце паўстаў вобраз, слынны і выбітны. Кунпаны жахнуліся, роспачна гледзячы адно на аднаго.

**49**

— Гэта толькі твая думка, Альгерд, ці чыя яшчэ?

— Вашая імасць, так лічаць некаторыя настаўнікі. Можаце праверыць цераз інфармацыйнае поле планеты.

— Шмат мітусні: я веру табе, дый твая аўра сведчыць, што ты кажаш праўду. Такое становішча мяне не здзіўляе, бо я ведаю свае кадры і шчыра радуюся, што яны маюць уласнае меркаванне і не баяцца яго выказваць. Толькі ахоплівае сум, што нават вышэйшая каста багоў не разумее маіх пераўтварэнняў і не бачыць у іх касмічнай неабходнасці ды заканамернасці.

— Мы часта наведваем сваіх былых выхаванцаў, назіраем, як яны працуюць і, шчыра кажучы, не сумняваемся ў іхніх здольнасцях, вернасці традыцыям, імкненнях умацаваць брамфатуру. Здараюцца асобныя промахі, але яны не сутнасныя і на агульную справу амаль не ўплываюць. Дый у каго іх няма?.. Бярэ горкасць, калі творцаў незаслужана крыўдзяць.

— Я паважаю цябе, Альгерд, і ўпэўнены, што без тваіх высілкаў многае выглядала б інакш і, напэўна, горш. Але і ты не ўлічваеш рэальных, іншым разам супярэ-

члівых і канфліктных, стасункаў паміж Часам і Пр асторай, Мною і Матэрыяй, якія ўплываюць на мае намыслы, планы і нярэдка іх скажаюць. Каб дабіцца свайго, я неймаверна напружваюся, манеўрую, робячы зрэдзь не ва ўгоду сабе. Мабыць, табе гэта невядома, таму што не трэба. Разумею, у кожнага свае інтарэсы.

— І сваё поле дзейнасці, вашая імасць.

— Безумоўна. Таму з вышыні майго палёту відаць значна больш і лепш. Я стварыў гэтую брамфатуру і ведаю пра яе да макулінкі. Варта толькі пажадаць — і ўсё перада мной як на далоні. Каму, як не аўтару, пераўтвараць і ўдасканальваць свой твор, захоўваць у ім зададзеную кампазіцыю і адлюстроўваць уласны светапогляд? Ці, можа, ты, шаноўны Альгерд, памятаеш прыклады неаўтарскага рабення рэчаіснасці?

— Так, шляхам плагіяту і кампіляцыі, урэшце рэшт — гвалту і захопніцтва.

— Я лічу інакш: злыдні і заваёўнікі таксама маюць арыгінальны аўтарскі почырк, але набываюць яго толькі пасля таго, як ажыццявілі сваю агідную справу, бо ў далейшым чужы твор ужо знаходзіцца пад іх разумовым уздзеяннем. А абрабаваны і пакораны аўтар застаецца са сваім варыянтам і таксама можа працягваць яго па сваім меркаванні і таленце. І ніхто нічыіх думак, асабліва творчых, не спыніць. Як бы гэта дзіўна ні гучала, але ў выніку такіх ліхтугаў атрымліваюцца розныя аўтарскія творы, няхай чымсьці і падобныя.

— Цікавая версія.

— Яна адпавядае нашым стваральніцкім мэтам: здзейсніць ідэі, якімі б сродкамі яны ні дасягаліся.

— А ІДЭІ?

— Таксама, хоць, па-мойму, клапаціцца пра іх асабліва не трэба, бо яны ўсемагутныя і праб’юцца самі… Досыць! Разважаць мы мастакі, а вось дзеяць, энергічна, імкліва, адпаведна майму парадку — не заўсёды. У гэтым я пераканаўся, калі прааналізаваў абстаноўку ў сваіх уладаннях. Па праўдзе, яна — несуладная і патрабуе майго неадкладнага ўмяшальніцтва. Я — рашучы і ў такіх выпадках ні на якія сантыменты, апраўданні, угаворванні не зважаю. Ты кажаш пра крыўду — гэта не пра мяне. Між іншым, такія абвінавачванні — абразлівыя; на першы раз дарую і раю больш іх не паўтараць. Я дапамагаю багам і даю ім урокі вышэйшага майстэрства ды светабудаўніцтва як лагодным, так і жорсткім шляхам — хай абвыкаюць. Каб шмат не балакаць, прадэманструю табе красамоўныя прыклады з найвышэйшых інфармацыйных сфер.

Ібаоф замёр і бліснуў вачыма. Перад імі стала раскручвацца маляўнічая лента касмічнага жыцця.

Увесь Сусвет няспынна рухаўся. У розныя бакі і, на першы погляд, хаатычна, абсурдна. Толькі ўзерыўшыся, можна было заўважыць і адчуць сістэму, упарадкаваную і абумоўленую Вялікім Сэнсам. Кожны аб’ект быў адметным, меў сваю хуткасць, некаторыя, імкнучыся наперад, сутыкаліся з іншымі, знішчалі іх альбо гінулі самі. І толькі глыбокае веданне касмічных формул развіцця давала разуменне, чаму яны паводзілі сябе менавіта так, а не інакш. Узровень мыслення Альгерда збольшага дазваляў гэта рабіць, для чаго неабходна было засяродзіцца на канкрэтным тварэнні. Канешне, у гэтым ашаламляльным масавым вярчэнні ён шукаў сваю Зямлю. І, нібы адгадваючы ягонае жаданне, невядомы апаратар пачаў пераходзіць з агульнага плана да буйнага аж пакуль не выхапіў з процьмы зорак ягоную планету. Падчас гэтага дзейства Альгерд заўважыў, што Зямля некалькі адстае ад сваіх сясцёр у руху і, як яму падалося, некалькі замаруджвае ход. Атмасфера выглядала неаднастайнай і нагадвала бруднае, пашматанае покрыва. З такімі асаблівасцямі планета мела ўсе

шансы стаць лёгкай здабычай для вонкавых драпежнікаў альбо пацярпець паразу пры сутыкненні.

Кадры змяняліся, і жыццё шматлікіх пластоў паўставала ў нязвыклым ракурсе. Нягледзячы на адметнасць, іх гаспадары мелі агульныя рысы — задаволенасць сабой, імкненне да ізаляцыі, супакаенне. А насельнікі большасцю былі абмежаваны ў свядомасці, застыглыя ў развіцці, небагатыя і непатрабавальныя ў памкненнях.

Відовішча пакінула ў Альгерда сум. Сапраўды, брамфатура развівалася марудна і скажона. Па якой прычыне? Калі гэта пачалося?

Не адзін ён задаваўся такімі пытаннямі. Многія свабодныя духам і кемлівыя, усё часцей сутыкаючыся з недарэчнасцямі быцця, мыслявалі пра законы і рэаліі светабудовы, зазіралі ў глыбіню гісторыі, параўноўвалі сваю брамфатуру з іншымі. І, як правіла, прыходзілі да высновы пра супярэчлівасць і нават недасканаласць асобных зорных сістэм, на чале якіх стаялі не зусім празорлівыя і здольныя творцы. Некаторыя да такіх прылічалі і Ібаофа. Хоць ніхто з атачэння адкрыта яго не абвінавачваў, ён ведаў пра вальнадумства і апазіцыю, адчуваючы, як нарастае агульнае напружанне. Мудры валадар, Ібаоф доўга і цярпліва чакаў, нічога не прымаў, затое цяпер, заручыўшыся падтрымкай Часу і згодай Матэрыі, намерваўся адным скокам разабрацца з усімі, хто нейкім чынам замінаў на дарозе.

Альгерд быў незалежных поглядаў і разумеў, што, калі зараз ён цалкам не выкажа сваю пазіцыю і не заступіцца за більёны душ, іншага разу ў яго не будзе, бо гаспадар брамфатуры, які адрозніваўся непераўзыдзенай магутнасцю і рызыкоўнасцю, падняўшы свой каральны меч, ужо не спыніцца і нікога да сябе не падпусціць аж пакуль не даб'ецца свайго.

— Чаго маўчыш, Альгерд? Пераварваеш? Разумею, карціна сумная.

— У любым выпадку яна — адметная, у Бясконцасці **адна такая**… Мяне заўсёды цікавіла: чаму цяпер усе розныя, калі ў першае імгненне Вялікага Выдыху былі аднолькавымі?

— Вунь як ты пазіраеш! Я заўсёды захапляўся глыбінёю тваіх разважанняў, але не думаў, што ты не ведаеш адказу на такое простае пытанне. Ці гэта — тактычны ход, манеўр перад сур'ёзнай атакай? Добра. Кешкацца ў тваім ментальным полі не буду: мыслюй і выказвайся як пажадаеш — пакуль я ўсё дазваляю. А тлумачэнне ўсё-такі дам.

— Калі ласка, вашая імасць.

— Многія памыляюцца, лічачы ўсіх раўнасільнымі пры нараджэнні Космасу. Ужо напачатку Вялікага Выдыху манады няроўныя: адна вылятае раней, другая — пазней. Менавіта адсюль стартуюць рознасць і адмысловасць. Таму і няма ў Сусвеце аднакіх аб'ектаў, асобін — у гэтым сэнс Адвечнага Руху. Хоць логіка змушае лічыць усе манады першапачаткова раўнацэннымі, адна ў адну. Але калі б так адбывалася, то руху і жыцця наогул не існавала б, бо аднолькавыя стварэнні не процістаяць, не супярэчаць, не змагаюцца, то бок, не ўздымаюць рух. Але ёсць этап, калі манады аднастайныя, — да Вялікага Пачатку, унутры Бога.

— Але не толькі гэта паясняе, чаму кожны з нас развіваецца іменна так, а не па-іншаму.

— Канешне. Мы трапляем пад уладу асяроддзя, якое нас фарміруе і пераўтварае бясконцае мноства разоў... Альгерд, я разумею, куды ты хіліш, як ведаю меркаванні і настроі тваіх аднадумцаў. Што ж, давай больш грунтоўна і шчыра абмяркуем тое, з чаго пачалася нашая гутарка. Дарэчы, няхай яна будзе даступнай для ўсіх, хто пажадае слухаць.

— Вельмі ўдзячны за вашую міласць.

Ібаоф засяродзіўся, высока ўзняў бровы — і адкрыліся каналы сувязяў з багамі.

— Вы вінаваціце ва ўсім мяне, зусім не ўлічваючы адрознасць манадаў, вонкавыя фактары ўздзеяння, індывідуальныя асаблівасці кожнага творцы і насельніка, нават кузуркі і атама, — а гэта незлічоныя адметныя часцінкі, з якіх фарміруецца нашая брамфатура і якія не заўсёды дзейнічаюць паводле маіх правіл. Можаце ўявіць такі складаны і недарэчны арганізм, дзе сыходзіцца мноства несумяшчальнасцей? Цяжка? А як мне — валадару — вытрымліваць гэткія не фантазіі, а рэаліі? Я адказны перад Сусветам за сваё тварэнне і павінен пастаянна яго карэктаваць, каб пазбегнуць хаосу і трымаць адзіны, даўно ўсталяваны парадак; іншага я не прымаю, ды яго і не будзе.

— Кармічны цяжар усё павялічваецца — і свядомасць губляецца-скажаецца, расце колькасць душ, якія збіваюцца са шляху.

— Кожны — гаспадар свайго лёсу. Выбар заўсёды ёсць. Я нікога не прымушаю, а толькі ствараю ўмовы для рэалізацыі, між іншым, шырэйшыя за дылемныя. Няхай яны больш мазгуюць, змагаюцца — ніводзін высілак не знікне, усё будзе заўважана і ацэнена. Менш смутку, скрухі, больш радасці, аптымізму. І хай часцей дзякуюць мне, што я іх пусціў у свае ўладанні альбо стварыў.

— Удзячнасць усіх да вашай імасці бязмерная. І ніхто не наракае на разнастайнае жыццё і магчымасць дзеяць, але многіх не задавольвае практыка перыядычных катаклізмаў, селекцыі і знішчэнняў.

— Якія пестуны! Узрушэнні і турбацыі ім не падабаюцца! Шмат пакутуюць! Ладна, людзі — абмежаваныя істоты, а багі? Як быццам ім невядомы касмічныя законы, памкненні Духу, этапы Вечнасці! Сорам!

— Пра гэта мы ведаем, а вось людзі, як адзначыла вашая імасць, — абмежаваныя. Шмат невядомасці, тайн — адсюль і крайнасці.

— Дык тлумачце ім, выхоўвайце іх, пашырайце свядомасць і пакрысе адкрывайце засланкі Праўды! Няўжо ўсё павінен рабіць я?..

— …

— Альгерд, тваё маўчанне больш красамоўнае за іншыя словы і думкі… Так, ключы знаходзяцца толькі ў мяне. І я вырашыў часткова разблакаваць ячкі свядомасці людзей і ўсіх астатніх істот брамфатуры, даць ім больш ведаў пра Сусвет, хоць у матэрыяльных умовах гэта зрабіць складана.

— А чаму не цалкам, дазвольце пацікавіцца?

— Мудрыя творцы! Слухайце мяне ўважліва ўсе! Я зносіўся з Часам, і Ён параіў мне зрабіць менавіта так, каб паправіць нашае агульнае становішча. Вам вядома, як развіваюцца вашыя падапечныя. Многія більёны гадоў вы клапоціцеся пра іх, ствараеце неабходныя ўмовы для ўдасканалення, эксперыментуеце, літуеце і караеце. Я неаднойчы раіў-дапамагаў вам, часам рабіў гэта катэгарычна і настойліва, бо абстаноўка вымагала… Шчыра кажучы, мы крыху збочылі з магістралі, і іншыя брамфатуры апярэдзілі нас. Нашыя патэнцыі вялікія, і можна ірвануць. Толькі што з гэтага будзе? Уявіце, якая духоўная катастрофа адбудзецца, калі адразу, бесперашкодна ў свядомасць людзей лінуць усе касмічныя плыні. Вар'яцтва і страты будуць самыя велізарныя. Матэрыяльная частка нашай брамфатуры можа не вытрымаць і выбухнуць. Таму я вырашыў усё ж такі **паступова** падымаць людзей на новы ўзровень, няхай і за кошт сваіх сіл. Многім у Сусвеце гэта не спадабаецца, але вы павінны мяне зразумець і дапамагчы; толькі ведайце, што не ўсе дойдуць да канца, некаторыя застануцца на дарозе.

— Вашая імасць, перспектыва не самая лепшая, мы ўсхваляваліся і жадаем спытаць, якім чынам будуць адбывацца змены?

**— Усё, што творыцца ў Сусвеце, дагоднае ЯМУ.** Мае намыслы і меры вынікаюць іменна з гэтага пастулата. Таму раю правільна ўспрыняць тое, што я буду рабіць.

**50**

Ужо ніхто не ведаў, дзе знаходзіцца і колькі ўсё доўжыцца.

Імгла зацягнула ўвесь край — і згубіліся адметныя рысы пластоў, разнастайнасць жыцця, своеасаблівасць характараў. Мірнасць і спакой адышлі ў нябыт. Усё і ўсіх падначаліла **барацьба,** жорсткая, бязлітасная, няўрымслівая. Брамфатура набыла выгляд вялізнага і дзіўнага змагарнага поля, на якім сышліся і вялі нястомную бітву **негатыўныя формы** ментальных, эмацыйных і фізічных якасцей жывых істот. У гэтай шалёнай куламесе багі, людзі, жывёлы, насякомыя, клетачныя арганізмы страцілі альбо прыгасілі сваю ранейшую індувідуальнасць, вонкава нічога не значылі і былі толькі рухавымі носьбітамі празмерна ўзбуджанага скрыўленага духу. Таму староннi назіральнік адзначаў у першую чаргу не аблічча ваяра, а ягоны настрой, які ўвасабляў **ІДЭІ і ідэі ў іх адмоўным значэнні.**

Калі напачатку барацьбы карціна была імправізаванай і сюррэалістычнай, то з цягам часу яна стала набываць усё больш арганізаваны і строгі класічны стыль. Пачалі ўтварацца ячкі, гуртоўкі, задзіночанні, прычым аб'ядноўваліся не паводле біялагічных асаблівасцей, а паводле падабенства і ступені праяўлення негатыву. Таму ў звязы ўваходзілі багі, людзі, жывёлы і розныя кузуркі. Гэткая лучнасць нікога не здзіўляла, не абурала, а, наадварот, усімі віталася, заахвочвалася, бо дапамагала выжыванню.

І ўсё адно ахвяр была цьма, іх колькасць кажначасна ўзрастала, асабліва сярод матэрыяльных і смяротных стварэнняў, якія зведвалі **бяду** спаўна. **Гэтая** спачатку падступала і ўражвала-скажала свядомасць, затым забірала-ахутвала пачуцці і напрыканцы, насыціўшыся перажываннямі і пакутамі, здзекавалася і мучыла цела да апошняй іскрынкі жыцця. Раней смерць выглядала натуральнай, цяпер жа яна была змушанай, насільнай і перакручанай. Спачатку, як і заўсёды, многія насельнікі верылі, што пасля пагібелі будуць працягваць сваё існаванне ў іншай якасці згодна схеме рэінкарнацыі, таму, хоць і зазнавалі гора, пакідалі гэты свет без асаблівага шкадавання і страху. Затым яны пераканаліся, што з-за ўсеахопнага катаклізму ўсе зямныя пласты разбураюцца, належныя замагільныя ўмовы знікаюць і душам няма дзе прытуліцца, а на іншыя брамфатуры разлічваць дарэмна, бо тым не патрэбен дадатковы і недасканалы матэрыял. Ад гэтага спадзяванні згасалі і ў чаканні поўнай ды вечнай замсты ўсіх ахутваў небывалы адчай і жах. Гаротныя звярталіся па дапамогу да багоў, але тыя былі адчужаны.

Над багамі, як найбольш развітымі, асвечанамі і ўплывовымі, пачвары шчыралі больш за ўсё, зацямняючы іх свядомасць і розум. Адчуваючы высокую падтрымку, яны захапілі ўсе жывадзейныя каналы і пераарыентавалі іх выключна на злавесныя мэты — і ад колішняй дабрароднасці, міласэрнасці ў брамфатуры не засталося і следу. Гаспадары пластоў, хоць вонкава выглядалі па-ранейшаму, сталі агрэсіўнымі, жорсткімі, акрутнымі. Іх дзікі нораў быў неўтаймаваным і ўвесь час патрабаваў разбурэнняў, знішчэнняў, крыві.

**51**

Кастусь не адчуваў знушчэнняў нечысці над сабой і лічыў усе метамарфозы натуральнымі. Разам з іншымі багамі ён жыў у сілком навязанай ілюзіі і запамятаваў, як скавалі яго волю, як змянілі арыенціры і каштоўнасці, як кінулі ў вір напружанага і бязлітаснага змагання. Яму здавалася, што бязмежны змрочны свет, дзе неймаверна кіпелі жарсці, шмыгалі апраметныя думкі і адбываліся няспынныя пагібельныя сутычкі і войны, існаваў заўсёды і паўсюль.

Апрануўшы ахоўную мантыю і ўзброіўшыся, Кастусь ляцеў над зямлёй і вышукваў, дзе лепш спусціцца, каб натрапіць на найбольшую здабычу. На яго рахунку было шмат перамог і заваёваў. Досвед і майстэрства ваяра ён здабываў у нялёгкіх бітвах на працягу доўгага часу.

…Першыя поспехі прыйшлі, калі яшчэ існаваў ягоны пласт.

Аглядаючы свае абшары і назіраючы людзей, Кастусь ніяк не мог нарадавацца, якіх лютых байцоў узгадаваў. Яны да скону біліся між сабой і апошні ўмольны позірк кідалі менавіта ўгору, дзе натхнёна лунаў ён — іхні шматаблічны Спадар, які мужнымі вобразамі прысутнічаў паўсюдна. Яму не падабалася, калі войкалі, стагналі, енчылі і прасілі літасці. Тады ён ужываў свой вогненны меч — і слабыя, лядашчыя імгненна адпраўляліся ў небыццё. Яго зусім не цікавіла, што з імі адбываецца потым, — гэта быў клопат найвышэйшай касты творцаў. Галоўнае — Кастусь смела і самааддана выконваў сваю касмічную ролю: даваў душам чарговае жыццё, няхай нядоўгае, затое небяспечнае і змагарнае. Самых мужных, калі яны гінулі, ён адпраўляў на судны лан — з іх вырасталі на зайдрасць і пострах ворагаў магутныя стромыя горы, якія пікамі ірваліся ўвысь і, здавалася, выклікалі на бітву ўвесь Космас.

Менавіта тады Кастусь упершыню зведаў міжпластавы бой і распачаў асабовае лічэнне важных, этапных перамог.

На яго знянацку напаў Ахмад.

Першы ўдар быў нанесены на ментальным узроўні: свядомасць скаланулася, думкі пераблыталіся — і нябачная хваля страсення рынула ўніз, на ўсё жывое. Міжусобная разня спынілася і ўсталявалася нязвыклая цішыня, цікаўныя погляды змагароў памкнуліся ўвышыню. Затым адчувальны штуршок атрымала эмацыйная сфера — уражаны, Кастусь на імгненне зніякавеў, а перапалоханнае людства зноўку ўсхадзілася. Ад фізічнай поўхі ён ладна пахіснуўся, выклікаўшы ў натоўпе шквал жаху.

Усё гэта надта разгнявіла-раз’юшыла яго, і ён зверам напаў на крыўдніка, зразумеўшы, што перад ім не жартаўнік і не забаўнік, а вораг, які палаў злосцю і прагнуў крыві.

У наваколлі адразу забліскацелі маланкі, заляскатаў гром.

Хоць усё іства і забірала барацьба, усё адно ў свядомасці Кастуся ад агульнага напружання адчыняліся ячкі, дзе бурлілі-пеніліся ўражанні і водгаласы розных часоў.

Ахмад не падабаўся многім яшчэ ў вучэльні. Жорсткі, нязгодлівы, завадны, ён паважаў толькі сябе, ні з кім стала не сябраваў, часта канфліктаваў, усчыняў бойкі. Але пры выкананні заданняў быў смелым, уніклівым, мог пайсці на рызыку, пагрэбаваць забаронай. Усім была вядомая ягоная празмерная настальгія па гістарычнай айчыне, нязгасная любоў да продкаў. Настаўнікі доўга працавалі над ім, але ніяк не маглі патушыць такія анахранічныя пачуцці, у рэшце рэшт махнулі рукой і вырашылі паназіраць, што з гэтага атрымаецца. Пры стварэнні свайго пласта Ахмад, на здзіўленне многіх, усталяваў прыязныя стасункі з Матэрыяй і з яе дапамогай ажыццявіў запаветныя мары, неверагодная злавеснасць якіх выявілася даволі хутка.

Ад былых суайчыннікаў, з якімі ён умацаваў рэальную сувязь, пагрозліва пацяклі струмені глуму, псоты, бязладдзя. Яны намнога пераўзыходзілі тыя, што нараджалі багі самастойна, — і ад гэтага Ахмада аж распірала ганарыстасць. Трохі пачакаўшы і ацаніўшы абстаноўку, ён стаў напоўніцу скарыстоўваць усе нялюдскія сродкі барацьбы, якімі адрознівалася ягоная былая радзіма, — і на нейкі час атрымаў перавагу над кунпанамі. Але і тыя не драмалі і ў адказ спешна вынайшлі новыя прылады смерці.

Такая няўмольная канкурэнцыя, паводле абыходкавага меркавання, была ўгожай, прымальнай і паскарала рух брамфатуры.

І усё-такі ў душы кожны змагаўся не за агульныя інтарэсы, а за сваё першынство, за абсалютную ўладу.

Менавіта з такім зарадам Кастусь і Ахмад нястомна латашылі адно аднаго, спадзеючыся назаўсёды знясіліць і зламаць супара. Але верх доўга ніхто не браў. Ужо спрэс вытхнуліся народы, паклаўшы мільёны галоў, ужо ліквідаваліся межы, злучыўшыся ў адзіны бяздольны край, ужо знемагліся Час і Прастора, чакаючы выніку, — а яны ўсё грызліся.

Нарэшце Кастусь злаўчыўся і паласнуў агнявой дзідай так, што Ахмад загарэўся і нема заекатаў. Бессмяротны, ён не мог пакінуць гэты свет, а, памучыўшыся і знепрытомнеўшы, павінен быў страціць многія свае якасці і адысці на доўгі спакой у Нулявую Сферу аж пакуль яго не запатрабуе які-небудзь касмічны валадар.

Кастусь з хваляваннем чакаў такога пераўтварэння, як раптам над імі мільганула нечы цень — і Ахмад ачуўся, няўцямна паглядзеў навокал, спыніў погляд на Кастусю, пагардліва ўсміхнуўся і, узняўшыся ў неба, увачавідкі прапаў. Адразу Кастусь ніяк не мог гэта растлумачыць.

І вось малады ястраб узерыў прыдатны аб’ект — і каменем упаў уніз.

Юныя азвярэлыя багі збіліся ля скалы ў крывавы клубок і без разбору калашмацілі-ірвалі адно аднаго. Відаць, калатнеча пачалася даўно, бо побач ляжала шмат знявечаных і пашматаных цел. Боль, крыкі, стогны вырываліся з душ і скалыналі эфір.

Кастусь глыбока адчуваў гэтыя токі, і яго сэрца налівалася прагай знішчэння. Трохі памарудзіўшы і зарадзіўшыся відовішчам, ён адважна кінуўся ў бой.

Скопішча заўважыла новага ваюна і адразу ацаніла ягоныя сілы. Ён падаўся магутным, спрактыкаваным, грозным, таму яно, не марудзячы, агульнай моцай абрынулася супраць яго аднаго.

Гэта яшчэ больш узбудзіла і падахвоціла Кастуся. Люта і вёртка варочаў ён сваёй зброяй — і адзін за адным адляталі ўбок пераможаныя. Некалькі фізічных і эмацыйных драпін дасталася і яму, але тыя не дужа паўплывалі на ягоную рэакцыю і баявы дух.

Гнеўныя і ненавісцніцкія пасылы-ўдары ляцелі з розных бакоў, і ад іх колькасці Кастусь прыходзіў у захапленне: даўно ён так апантана не змагаўся і так моцна не нагружаў сваё іства. Герой прадчуваў, што трыумф недалёка.

Але знянацку ён заўважыў збоку своеасаблівы пагражальны прамень, у якім было нешта знаёмае і зведанае. Кастусь рэзка павярнуўся, па інэрцыі засланіўся шчытом — і спаймаў жудасны позірк былога аднакласніка.

**52**

Генрых у чарговы раз пераканаўся, што ягоныя думкі і, натуральна, ідэі, дужэйшыя за тыя, што спараджаюць іншыя багі. Колькі б ні ўжываў іх на вайне, яны перамагалі і ўшчэнт разбівалі варожыя. Значыць, у шэрагу касмічных індывідуальнасцей ён паперадзе сваіх канашоў і ягоны шлях больш прыдатны Вышэйшым Сілам.

Гэта ўзвышала яго, дадавала моцы, гонару, але ніколі не кружыла галаву. У сваіх памкненнях ён сапраўды апярэджваў многіх, нават папярэднікаў-старцаў, і ажыццяўляў самыя неверагодныя праекты.

Імкнучыся да канчатковай мэты, малады эксперыментатар пераканаўся, што тэмп развіцця значна паскараецца ад максімальнага ўжывання фізічнага складніка Сусвету. Таму, скарыстоўваючы ўсемагчымыя метады і смелыя магічныя прыёмы, ён удала падкаціўся з залётамі да Матэрыі, колькі часу ласіўся-кунежыўся з ёю — і ў выніку атрымаў магчымасць ператварэнняў, якія былі нехарактэрнымі для зямной брамфатуры.

Так, Генрых увасабляў у адным целе дзве, тры і больш душ, роднасных альбо чужых па існасці, надзяляў людзей некалькімі аднолькавымі органамі, напрыклад, галовамі, рукамі, нагамі, страўнікамі, пашыраў псіхічныя засмучэнні і эксцэсы, практыкаваў суседства і блізкасць разумова ды эмацыйна розных асобін, укараняў іншыя скажоныя ды пачварныя формы. Усё гэта ён разглядаў як сродак для прыспешанага руху, дасягнення лідарства і ўсемагутнасці.

На ратным полі, у паўсядзённым жыцці ягоныя людзі былі жорсткімі, бязлітаснымі і адважнымі барацьбітамі, а калі гінулі, то паводле закладзенай праграмы вылучалі энергію выключна на карысць свайго гаспадара, што супярэчыла агульным правілам, але ён, кіруючыся ўласнымі амбіцыямі, не звяртаў на гэта ўвагі і быў перакананы, што дзее ў адпаведнасці з ІДЭЯМІ.

У мітусяніне часоў і падзей Генрых спасобіўся ігнараваць даўніну, досвед іншых.

«Якая мне ад іх карысць? — разважаў ён пра сябе. — Толькі тармозяць рух ды адцягваюць. Справу трэба браць такую, каб вучыла адно барацьбе і асабістым перамогам. Калі іншаму — яе трэба адпрэчваць. Дзякуй за такую навуку касмічнай вучэльні — менавіта тут я ўзмужнеў, навучыўся змагацца, ненавідзець, знішчаць. Каго толькі не зняважыў! З каго не паздзекаваўся! Колькі фанабэрыстых і задзірлівых равеснікаў, старэйшых шкаляроў адлупцаваў ды ўгамаваў! Якіх зласліўцаў і ворагаў займеў! Адна асалода зараз з імі дужацца і ваяваць!»

— Упіваешся сваёй веліччу, — нібы адгадаў ягоныя думкі Замба, які вынік перад ім невядома адкуль.

— Зусім не, — здрыгануўся Генрых і раззлаваўся, што гэта заўважыў непрыяцель. — Думаю, каго б гэта яшчэ прыбраць з дарогі.

— А, можа, хто цябе прыбярэ? — працягваў кпіць Замба.

— Ва ўсім Сусвеце няма такога, — гнеўна і катэгарычна заявіў Генрых.

— Гардзірон! Далей за свой нос не бачыш, а ўраўноўваешся з Сусветам.

— Нікчэмнасць! Што ты разумееш пра Космас?! Вартага пласта не здолееў стварыць, а ўяўляеш сябе хватам.

— Я такім і з’яўляюся. Пераможца!

— Ха-ха-ха! Зух супраць мух! Ты пакуль не страчаўся з сапраўднымі героямі. Адзін з іх перад табой. Хоць недарэк накшталт цябе я прапускаю, аддаю іншым, але ты мне даўно ўеўся і мазоліш вочы, таму згінь, падла!

Генрых усмешліва, нібы на пацеху, запусціў агністую стралу і нямала здзівіўся, калі Замба імпэтна і вёртка ўхіліўся ды, не марудзячы, нанёс зваротны ўдар. Бітва разгарэлася — і клубы знішчальных жарсцей пакаціліся па наваколлі.

У смяротнай сутычцы сышліся і народы барацьбітоў. Напачатку сілы былі роўныя, людзі, як снапы, падалі і з аднаго, і з другога боку, але праз колькі часу перавагу ўзялі воі Генрыха. Калі ў фізічнай праекцыі гэта выглядала звыкла, то ў астральнай і ментальнай — небывала: сілы Генрыха бесперашкодна, шырокай ракою цяклі па

прасторах Замбы, цалкам паглынаючы невялікія выступы і валуны — гэных наогул магло і не быць, як не існавала душ у ягоных насельнікаў.

— Так табе і трэба! — крыкнуў Генрых і ў апошні раз кінуў у праціўніка агнём. — Гамункулусы — смецце, якое неабходна спальваць.

Замба ўпаў і застагнаў. Праз хвіліну-другую павярнуў галаву, прагна паглядзеў у нябёсы і, заплюшчыўшы вочы, хутка знік. На тым месцы, дзе ён ляжаў, бліснула і, разразаючы морак, імгненна ўзнялася ўгору іскрынка.

Генрых грэбліва хмыкнуў і, радасны, паляцеў.

**53**

Мікаэль верыў у сваю планіду і быў перакананы, што яго хопіць надоўга, а мо да скону вякоў, бо гладыятараў у Сусвеце процьма. Гэта брамфатура знясілела і збяднела на рызыкоўных ды адчайных, а на зорах іх да халеры. Які герой дазнаўся, што Зямля замешана на жорсткасці, барацьбе і крыві, той са скуры вылузнецца, апошняе аддасць, а сюды трапіць, няхай і знаходзіцца на краі свету. І вядома ж, у першую чаргу яго прывабіць незвычайны пласт Мікаэля, хоць ад таго мала што і засталося: у апошні час межы паразмывала і ўтварылася суцэльная ваяўнічая тэрыторыя.

Уладанні Мікаэля адчуваліся, як ні што іншае, бо праменілі баявы і злы настрой, патыхалі адмысловымі галавакружнымі водарамі. Усё гэта дасягалася неймавернымі высілкамі. Каб выжыць, гаспадар інтэнсіўна прымяняў адвечную тактыку, якая ўвабрала ў сябе і хітрасць, і падман, і шахрайства, і вядзьмарства, і спакусу… — усё, ад чаго млелі жывыя. Але галоўнае — ад кожнага, хто жадаў прайсці мясасечку, Мікаэль атрымліваў энергетычны эквівалент і тым самым павялічваў сваю моц. Гэта дапамагала яму адбівацца ад ворагаў, зласліўцаў і налётчыкаў.

Была яшчэ адна, вельмі істотная прычына ягонай папулярнасці і непахіснасці.

Даўно, акурат пасля вучэльні, ён змушаны быў пайсці на беспрэцэдэнтны крок і заключыць з Жакам дамову аб супрацоўніцтве і ўзаемнай дапамозе — і гэта ў той час, калі ўсе неафіты, навучаныя майстэрству эгаізму, нянавісці і знішчэння, рынуліся на заваёвы Сусвету і распачалі доўгую бязлітасную ды бескампрамісную барацьбу. Тады Мікаэль і Жак сутыкнуліся на вузкай сцяжынцы і, як і ўсе ў такіх выпадках, сталі змагацца. Бойка зацягнулася — і ў нейкі момант абодва зразумелі, што ніхто не пераможа, бо іхнія інтарэсы ды ідэі супадаюць і ці не лепш вырашыць праблему іначай. Але як? Іх гэтаму не вучылі дый у гісторыі не захавалася прыдатных прыкладаў.

На імгненне ўбачыўшы перад сабой выявы Альгерда і Плутарха, адэпты ледзь не разам крыкнулі: «Ведаю!» — і вырашылі пагадніцца ды задзіночыцца. Кожны, унутрана абураючыся і пратэстуючы, як мог стрымліваўся і не даваў выліцца ўсёй гэтай каламуці. Абодвух заспакоіла, што іхнія сілы падвоіліся і разам яны змогуць расправіцца з любым ворагам.

Так яно і сталася, хоць і Мікаэль, і Жак падчас бітваў многа зносілі, атрымлівалі раны, пакутавалі, але ў Нулявую Сферу адпраўляліся ўсё-ткі не яны, а непрыяцелі. І гэта іх радавала.

Мінаў час, змяняліся эпохі — і маладыя багі няблага адпрацавалі механізм узаемадзеяння, звыкліся адзін з адным, толькі ўсё адно глыбока ўнутры нешта бурліла і зрэдзь падбухторвала іх да канфліктаў між сабою. Гэныя хутка заціхалі, бо верх браў розум. Для непарушнай згоды была яшчэ адна, глыбока таемная, прычына, пра якую абодва ніколі не гаварылі, але заўсёды мелі на ўвазе: і Мікаэль, і Жак сумай сваіх высілкаў разлічвалі стварыць такі адметны энергетычны партал, які б дазволіў ім дабрацца да запаветнай мяжы і ўбачыць Злыдня злыдняў.

Дзівакоў абражалі, называючы вырадкамі, адшчапенцамі, але прызнавалі рэальную моц хаўрусу і пазбягалі гарачых сутыкненняў з ім. Многіх ад агрэсіі стрымлівала і рэдкая магчымасць атрымаць незвычайную асалоду ў якасці гладыятараў ці гасцей.

Справа ў тым, што парадак прадугледжваў адразу завітаць да Жака, які максімальна ўзбагачаў наведвальнікаў ІДЭЯМІ і ідэямі нянавісці ды пагарды. Яны спаўна зараджаліся энергіяй непрыязні, наталяліся негатывам, узбуджалі знішчальны імпэт, то бок набывалі стан, неабходны для паспяховага вядзення бою.

Апроч таго, пласт Жака прыцягваў вар'яцкім разгулам блудадзейства і бязульства, тым больш, што многія лічылі гэты бок жыцця таксама барацьбой, але ўнутранай, у жарсці якой, разгараючыся да максімуму, імкнуліся перамагчы розум і цалкам авалодаць асобай. Гэтае змаганне, наогул, было іманентным кожнай істоце і пераважна вызначала характар руху ў выяўленым свеце, але ў Жака яно было гіпертрафаваным і мела асаблівы цымус: розум, трапіўшы ў ягоны пласт, адразу рабіўся млявым і сам прагнуў паразы; затое жарсці, адчуваючы такі настрой супара, тут жа разнявольваліся, ірміліся і верхаводзілі, паступова дасягаючы найвышэйшага ўзбуджэння. Усхадзіўшыся, яны раздзіралі розум да ашалеласці, нават поблуду і непрытомнасці, але ніколі — да смерці, і маглі гэтак цешыцца аж пакуль не насычаліся, што дзіўна, бо ў адрозненне ад іншых крайніх форм барацьбы кат не знішчаў сваю ахвяру, а даваў ёй магчымасць ачуцца і агоўтацца, пасля чаго тая, узбадзёраная ды шчаслівая, выказвала задавальненне пакутамі, дзякавала крыўдніку за асалоду ад здзекаў.

Большасць багоў, удосталь зведаўшы гэтыя адчуванні і заплаціўшы за іх аброк, адмаўлялася ад ваяўнічых намераў супраць хаўруснікаў. Але знаходзіліся адшчапенцы, якія выказвалі незадавальненне, пераступалі цераз усе прынцыпы і з вялікай лютасцю кідаліся на Мікаэля і Жака. Дарэчы, такія натуры былі ў пашане і выклікалі зайдрасць.

## 54

Адным з іх быў Андрэй.

— Прэч з дарогі, благата! — скалынаў ён наваколле грымотным голасам, агазліва распіхваючы і топчучы паломнікаў, што згрудзіліся ля пласта Жака. — Я пражэрлівы і магу праглынуць усіх адразу! Ха-ха-ха!

Гурба пакорна расступалася, з захапленнем гледзячы на слыннага героя, які ўвасабляў іх летуценні і мроі пра непераўзыдзенае ліхадзейства. Усе ведалі, што пярэчыць яму не мела сэнсу, бо любы рух нязгоды кідаў сваволніка ў апраметную. Але ўсё адно насустрач яму са звар'яцелым позіркам імкнуліся апантаныя, якія толькі таго і прагнулі, каб спусціць дух ад ягонай рукі. Бальшынёю гэта былі смяротныя, але траплялiся і фанатычныя багі. Многія здзіўляліся: адкуль за Андрэем такая слава, бо нічога звышнатуральнага ён не зрабіў? І толькі некаторыя ведалі, **хто** ягоны пакрыўца і натхняльнік.

— Якога ліха гэтай шаці трэба? — спытаў Андрэй, калі Жак выйшаў яму насустрач.

— Яны таксама жадаюць натхнення і барацьбы, а нашыя дзверы адчынены для кожнага, — паважліва і цвёрда патлумачыў гаспадар.

— Якія з іх барацьбіты? Мне дастаткова дзьмухнуць, каб яны рассыпаліся.

— Канешне, перамагае мацнейшы, але гэта не значыць, што ў іх няма годнасці і правоў.

— У іх ёсць толькі тое, што мне на карысць. Вось я падзараджуся ў цябе, выйду на ратнае поле Мікаэля ды пабачу, хто з гэтай халібы мяне больш пацешыць і ўмацуе.

Андрэй кінуў напышлівы погляд паўзверх натоўпу, усміхнуўся.

— Чаго пажадаеш на гэты раз? — Жак паспрабаваў хутчэй яго заняць.

— Колькі іх прайшло праз мяне! — разважаў госць, не чуючы Жака. — Я ім ўсё дазваляў, нікога не стрымліваў — і яны раскрываліся. Ды яшчэ як! Дзіваваў ад іх зламыснасці і ліхадзейства. Спачатку мяне гэта радавала, але затым занепакоіла: знішчаючы адно аднаго, яны ўсё здабытае спажывалі выключна самі, а пра мяне, свайго ўладара, забыліся. І я вырашыў іх пакараць. Розум не адымаў. Даў ім ляноту і асалоду ад яе. Хутка яны закарэлі, засмярдзелі і — самае галоўнае — пераасталі кудысьці імкнуцца, духам застаўшыся ў маім свеце назаўсёды. А калі здыхалі фізічна, уся іхняя энергія не ператваралася ў іншых асобін, а цалкам пераходзіла да мяне. Такі ж лёс выпадаў і новым увасабленцам. У выніку мае сілы кажначасна павялічваліся.

Ён спыніўся, яшчэ вышэй узняў галаў і як бы загадаў:

— Ленасці не трэба: надакучыла! Прагну актыўнага, бурнага, жорсткага, змуслівага, панадлівага, дзіклівага, распуснага. Няхай мой дух зведае максімум жарсцей свету!

— З удзелам людзей і іншых істот — гэта безумоўна, — удакладніў Жак. — А як наконт багоў?

— Я ведаю, што гэныя здольны на адмысловы пералюб і выдатна ўмеюць граць на валасянцы. Запрасі як мага больш з былых шкаляроў, у тым ліку і з майго выпуску. Даўно мы не любаблудднічалі разам.

Жак на міг укульміўся, распаліўся і шугануў моцным агнём у прастору.

Усюдыісныя токі ўраз дасягнулі выбраных і ўзбуджальна казытнулі іх.

Яшчэ прокмець — і на кліканне зляцеліся ўсемагчымая стварэнні. Яны птушма кружылі над пластам Жака і з цікавасцю ўзіраліся ў захапляльную мітусяніну цел і душ. Тыя, хто ірміўся больш, не вытрымлівалі і пікавалі ўніз, далучаючыся да бяздумнага і разбэшчанага балявання.

Хоць гаспадар і палымнеў радасцю, некаторыя адчувалі імпульсы падступства ды падману і не спяшаліся ў юрлівае пекла. Хто зусім не верыў і адпрэчваў спакусу, не марудзячы адлятаў прэч.

Гэтак зрабіў і Джордж. Яму даўно ачамярэла бясконцая і недарэчная ваджаніна, якая захапіла ўсю брамфатуру, і ў якой кожны імкнуўся зацвердзіць менавіта за сабой права на першынство. А яно, безумоўна, магло дастацца толькі наймацнейшаму і адзінаму. За гэтае адзінства ішла няспынная знішчальная барацьба, але здабыць перамогу ў ёй ніхто не мог, бо немагчыма было спыніць працэс рэінкарнацыі, нараджэння новых змагароў: ён быў сусветным. Гэта ўсе разумелі, але перайначыцца не маглі — не дазвалялі звычаі і ганарыстасць.

«Arrogantia facit stultum»[1] — гэтая старажытная мудрасць выплывала заўсёды, калі Джордж назіраў дрымучы аблуд. Акурат цяпер і была такая нагода для прымаўкі, якая, дарэчы, прагучала так выразна, што завагаўся эфір і здрыганулася атачэнне: адны спужаліся, другія насцярожыліся, трэція зацікавіліся…

— Ты прачытаў мае думкі, — нечакана пачуў Джордж і стаў азірацца, шукаючы аўтара. Хоць навокал і было шмат багоў, ніводзін з іх не пацвердзіў сваё жаданне

[1] Arrogantia facit stultum (*лац.*) — ганарыстасць робіць дурным.

размаўляць з ім. Побач пранёсся віхар — і аднекуль вынікла жвавая аблачынка. Джордж міжволі спыніў на ёй свой пагляд.

— Правільна! Гэта я! — забаўна вуркатала яна, ператвараючыся ў вялікія вузкія вочы.

— Хто — ты? — не пазнаў Джордж.

— Лао!

— Дзіва! А чаму ў такім выглядзе?

— Магу і ў іншым, — адказаў Лао і стаў дажджом, затым — туманам і ўрэшце — скалой. — Сядай на мяне! Пагутарым.

Джордж насцярожыўся і нацягнуўся як струна: а раптам гэта падвох, пастка?

— Усё магчыма, — заўважыў Лао на яго апаслівасць. — Я таксама — барацьбіт і, між іншым, нядрэнны, інакш перад табой мяне не было б. Але глузд яшчэ не страціў і ведаю, хто ёсць хто.

Джордж адчуў хвалю прыязнасці, але, шмат разоў зведаўшы разнастайнасць падману, не спяшаўся з адпаведным водгукам.

— Я таксама навучаны горкім дазнаннем, — адгадваў ягоны стан Лао. — Прапаную вылучыць нашыя ваяўнічыя вобразы, адправіць іх барукацца, а нам тым часам спакойна, без паспешнасці перамовіцца.

Джордж зрэдзь ужываў такі спосаб высвятлення адносінаў, лічачы яго малаэфектыўным, але ў дадзеным выпадку быў заінтрыгаваны Лао і згадзіўся. Як толькі ён прызямліўся, той стаў тлумачыць:

— Безумоўна, ты зразумеў, што я разліваюся сутнасцю і іншым чынам не існую. Уяві, як нялёгка са мною змагацца. Яшчэ ніхто мяне не падужаў. Спадзяюся, і надалей так будзе.

— Не зазнавайся, дасціпных шмат. У мяне, напрыклад, ёсць свае сакрэты і напрацоўкі, з дапамогай якіх я палажыў на лапаткі не аднаго зуха.

— Я не гардун і не перабольшваю свае магчымасці, як і не сумняваюся ў тваёй моцы ды спрытнасці, але гаворка не пра гэта.

— А пра што?

Нечакана скала загудзела, здрыганулася — і ад яе адкалоўся вялікі камень, што з грукатам упаў уніз. На зямлі ён узняў клуб пылу, які абрысамі хутка стаў нагадваць нечую постаць.

— Пазнаеш? — спытаў Лао.

— Так, — адказаў Джордж пасля ўважлівага разгляду.

— Я так захапіўся ўласнай творчасцю, што доўга не заўважаў іншароднай разбуральнай сілы. Лічыў, што мае ўвасабленцы і ўласныя творы, маючы свой розум, па-ўсялякаму разбіраюцца між сабой, знішчаюць — і цешыўся ад гэтага. Думаў, няхай загартоўваюць змагарны дух, вылучаюць са сваіх шэрагаў як мага больш звыш-істот — і такім чынам дапамагаюць мне ў барацьбе з ворагамі.

— Я ведаю твой спосаб пабудовы пласта — злучэнне незлучальнага, сумяшчэнне несумяшчальнага.

— Альбо — імпрэза парадоксаў. Менавіта такі падыход дазволіў мне наблізіцца да сусветных узораў тварэння, укараніць хуткія і эфектыўныя формы ваяўнічага, знішчальнагу руху. Але неяк я прыкмеціў, што мае барацьбіты пакрысе сталі гуртавацца, грэбуючы асноўным прынцыпам узыходжання — крайнім, бескапрамісным індывідуалізмам. Адкуль гэта ўзялося? Хто ім параіў?

— Нас усіх вядзе ненавісцніцкая ІДЭЯ, таму няцяжка здагадацца: вораг той, хто жадае цябе знішчыць, а хто канкрэтна — трэба вылічыць.

— І я так меркаваў. Таму і пачаў шукаць сярод свайго атачэння багоў. Адпаведна наладзіўся і абшнарыў усе даступныя інфармацыйныя масівы. Толькі ўсё было марна: не знайшоў нават і намёку. Тады я пашырыў пошук — і адчуў матывы ўплыву **яго**.

Зваліўся яшчэ адзін камень — і ўтварылася тая ж сцень, як і раней.

— Мэту ён замаскаваў. Я збянтэжыўся і не ведаў, што рабіць. Спакваля мой свет стаў змяняцца і арыентавацца выключна на ўнутраную барацьбу, адпрэчваць вонкавыя намыслы і гадаванне звыш-істот — мая глабальная ідэя, усе высілкі пайшлі ў глум. Я стаў пратэставаць, ствараць абаронныя пазіцыі, але што ні ўчыняў — нічога не праходзіла: **яго** энергетычнае ўздзеянне было мацнейшае за маё. Тады я вырашыў звярнуцца за дапамогай да кунпаноў, старцаў.

— Рассмяшыў, хіба можна чакаць помачы ад ворагаў? Яны толькі таго і жадаюць, каб загубіць бліжняга!

— Я хацеў ім усё растлумачыць, паказаць, адкуль ідзе сапраўдная пагроза, пераканаць.

— І як — атрымалася? — саркастычна спытаў Джордж.

— Не. Ніхто не ўспрыняў мае намаганні як папярэджанне пра ўсеагульную катастрофу. Як і ты, усе думалі, што я хітрую, завабліваю ў капкан. А Андрэй і Ахмад нават абвінавацілі мяне ў адступніцтве, апраўдвалі і баранілі яго.

— Хутчэй за ўсё, у гэтай чарзе ты першы і за табой мімаволі апынуцца іншыя, бо многія эксперыментуюць, парушаюць традыцыі, зашмат сваволяць. Увогуле, гэта — больш маштабная дзейнасць, чым камусьці ўяўляецца. І накіравана яна, як ні круці, супраць парадку, усталяванага **ім**.

— А якая твая пазіцыя?

Адказаць Джордж не паспеў.

Знянацку прастору скалануў неверагодны выбух эмоцый.

Адтуль, дзе распуснічаў Андрэй, валам павалілі багі. Гарачыя і ўзрушаныя, яны са скогатам і енкам кінуліся ўрассыпную, прычым так, што нельга было дагнаць і позіркам.

Джорджа і Лао гэта здзівіла ды пацешыла. Ім закарцела даведацца, што адбылося. Толькі затрымаць кагосьці з уцекачоў было немагчыма, таму яны звярнуліся да прасторава-часавых хваль.

Высветлілася, што не так сталася, як гадалася. Калі вакханалія была ў разгары, Жак і Мікаэль па патрабаванні Андрэя напусцілі зёлу на гасцей, якія ў тлуме і ў замарачэнні не разбіраліся, што да чаго, і на любыя ягоныя прапановы адказвалі згодай. У выніку гэты мантач шляхам розных хітрыкаў і словаблудства дабіўся ад іх згоды на смяротную сутычку.

Як толькі Андрэй распачаў сваю справу, многія агоўталіся і зразумелі, што прыляцелі не на баль, а на бойню. Адны супрацівіліся і давалі варты адпор, другія разгубіліся і не цямілі, што адбываецца, трэція зазналі сполах — такіх была большасць — і мігам рынулі вонкі.

— А дзе ваш гонар? — крычаў ім наўздагон Джордж.

— Яны абмянялі яго на ганьбу, — сумна зазначыў Лао. — Якраз такія і патрэбны **яму.**

— Страх барацьбе не таварыш. Калі я вандраваў па Бязмежжы, то бачыў, што ён існуе на ўсіх узроўнях, толькі розніцца ступенню. Але ёсць сусветы і зусім без яго. Што характэрна, у месцах, дзе пануе страх, змагання менш, чым у бясстрашных, і замаруджваецца развіццё.

— Канешне, адважных, баявых, рашучых заўсёды вядзе барацьба. Баязлівец не любіць біцца.

— Чаму існуе такая заканамернасць? — безуважліва пачаў разважаць Джордж. — Адкуль яна пайшла? Адказ паэтапны. Першае, большасць разумее барацьбу як вонкавы спосаб дасягнення мэт. А гэта — унутраны працэс, іство кожнай разумнай істоты. Спярша трэба ваяваць з сабой, са сваёй недасканаласцю. Другое, за такім разборам, аналізам барацьбы стаіць свядомасць. Менавіта яна пачынае пераварваць усё, што ідзе да мыслячых стварэнняў, фарміруе асобу, распрацоўвае жыццёвы код і правілы зносін.

— Згодны! Яна — адначасова і рухавік, і генератар, і непераўзыдзены працоўны механізм, і — самае галоўнае — творчая лабараторыя.

— Для замкнёнай сістэмы, якой, напрыклад, з'яўляецца нашая брамфатура, гэта, безумоўна, правільна, а для Касмічнай Бязмежнасці свядомасць — тармазная прылада.

— Я запярэчу. На свядомасці трымаецца ўвесь Сусвет. Яна — прыкмета Боскасці жыцця.

— Тое, што ты сказаў, у пэўнай ступені пацвярджае маю выснову. Толькі я ўдакладню. Сусвет трымаецца выключна на СВЯДОМАСЦІ БОГА, а не на свядомасці тых, хто ніжэйшы за ЯГО, бо яны — вытворныя, выяўленыя — і, значыць, недасканалыя, няздольны самастойна рухацца ў правільным накірунку. **Толькі з ІМ!** Таму ўсе нашыя разумовыя высілкі стаяць на шляху СВЯДОМАСЦІ, пераламляюць ЯЕ і, такім чынам, па-рознаму замаруджваюць Агульны Ход, а калі паглядзець на Космас усеабдымна, то яны ўтвараюць такі неверагодны, заблытаны каўтун, які лепш не расчэсваць, а выразаць.

— Значыць, лягчэй і богаўгодней існаваць несвядома?

— Так! І менавіта гэтак будаваць касмічныя структуры. Тады ўсталюецца Сапраўдны Парадак. А пакуль нашае жыццё — хаос.

— Твае меркаванні, развагі не бездакорныя. Іх трэба карэктаваць, дапаўняць, а асноўнае — даводзіць да іншых, каб высвятліць іхнюю моц. Але цяпер мяне займае не гэтая глабальнасць, а выснова канкрэтна нашай брамфатуры. Вынікам ты сцвярджаеш акурат тое, за што я пацярпеў: **ён** стварыў негарманічную, заганную сістэму, якую імкнецца мадэрнізаваць.

— Правільна. **Ён** даў свядомасць, каб адгарадзіцца ад Сусвету.

— Крамольная думка, хоць яна і тлумачыць многія завады, ненармальнасці Зямлі. Нас могуць за гэта пакараць і вельмі акрутна.

— Калі даведаюцца, — двухсэнсоўна адзначыў Джордж.

— Пэўна, так і будзе: схаваць нічога нельга. Толькі я ўжо нічога не баюся.

— Можна.

— Не жартуй. Як?

— Я пакажу.

Джордж зрабіў маніпуляцыі, якім калісьці яго навучыў Барыс.

— Ты мяне агаломшыў! — уразіўся Лао. — Няўжо такое магчыма? Цуд! Растлумач.

— Пасля. Цяпер неабходна сабраць нашых.

— Чакай! Любая сходка выкліча падазрон. Можа...

— Не турбуйся. У мяне ёсць спосаб.

Багата здзівіўшы Лао, Джордж зноўку прымяніў свае тайныя веды і крануў струны, якія ў далёкай пракаветнасці нацягнуў паміж сабою і сябрукамі.

Загучалі зазыўныя акорды — і толькі тыя, каму яны прызначаліся, пачулі іх.

Не ведаючы, што гэта, архаты страпянуліся і паімчалі на покліч з розных куткоў свету.

Зляцеўшыся ў азначанае месца і ўбачыўшы кунпаноў, яны атарапелі, па звычцы зайшліся гневам і кінуліся адно на аднаго, як іх асадзіў Джордж:

— Спыніцеся! Нам разам трэба вырашыць вельмі важную задачу. Але спярша паведамлю вось што. Даўным даўно, на золку нашае творчасці, я зрабіў вынятковы крок і без вашага ведама злучыў усіх нас.

**55**

Ён, хоць і меў бяспрыкладны досвед космабудаўніцтва, усё адно не мог пэўна сказаць, які клопат больш садзейнічаў справе — твой пра іншых альбо чыйсьці пра цябе? Заўсёды ўпачатку размоў з'яўлялася думка пра сябе, якая зазвычай ніколі ні з кім не лічылася, — і пытанне адразу нікла. За ёю непазбежнаю яваю паўставала бясконцая разнастайнасць і шматаблічнасць творцы.

«Так і трэба! — ухваляў вынік Ібаоф-эгаіст. — Лішнія турбацыі нагрувашчваюць шмат блытаніны і адцягваюць ад рэалій, а такое самадастатковаму, амбітнаму розуму залішне».

«Ну і дарма! — не згаджаўся Ібаоф-альтруіст. — Нельга ўвесь час патураць ганарыстасці і самалюбству, гэтым самым разбэшчваючы ды ганьбячы свой геній. Трэба даваць шырокую дарогу ўсеахопным турботам».

«То бок, скарыстоўваць усе магчымасці, што ёсць у Космасе», — заўважаў Ібаоф-знаўца.

«Непамерная ноша. Трэба браць па сілах і толькі тыя, што працуюць на задуму», — удакладняў рацыяналіст.

«Мэты могуць быць розныя. Калі фантазіруеш, лунаеш у эмпірэях — усё падыходзіць», — захапляўся летуценнік.

«Марнатраўства, уласцівае смяротным!» — ацэньваў мроі прагматык.

«Не трэба нікога крыўдзіць, — нясмела падаваў голас справядліўца. — Усе годныя і вартыя».

«Недарэчнае глупства! — абураўся рэаліст. — Роўнасць ніколі не дае руху, а тым больш барацьбы».

«Можна і без змагання», — радзіў канфарміст.

«Яшчэ адна дурнота!» — выбухаў задзірака.

«Усё пакрысе знікае», — нагадваў пра непазбежнае песіміст.

«І зноўку з'яўляецца!» — радаваўся аптыміст.

«Толькі ўсе вы да нудоты нязменныя і ўпартыя, — абагульняў мудрэц. — Няўжо ў вечнасці такія ідэалы?»

«Каб вас пранцы елі!» — злаваў руплівец, жадаючы ад усіх адкараскацца.

Ды дзе там, да размовы, спрэчак абуджалася-спаромілася ўсё больш ахвочых — і не было ім канца.

З усіх вымярэнняў прасторы і часу, што змяшчала брамфатура, выпікалі-паўставалі шматлікія стварэнні і сутнасці, прабацькам і натхняльнікам якіх быў Ібаоф. Яны не маглі прапусціць такую выдатную нагоду, калі можна было без намаганняў, спраўна выпаўзці на ўсеагульны агляд, прадэманстраваць сябе, гучна заявіць пра сваю значнасць і важнасць.

Першыя нясмелыя і недарэчныя думкаформы, пачуццёвыя эманацыі, фізічныя мадэлі, духі варыянтных жартаўліва-гульнёвых кампазіцый, пластоў, вымярэнняў, наступныя больш трывалыя і адаптаваныя вобразы, шматлікія шаблонныя і адмысловыя арганізмы, што ўзнікалі з неверагодных энергетычных сумесяў і плазмаў,

гаспадары далейшых эксперыментальных узораў жыцця і краявідаў, камбінаваных сусветаў, мікра- і макраўтварэнні апрабаваных, устойлівых, а таксама адкінутых стандартаў, багі, многія з якіх ужо лічыліся старцамі, неафіты, адэпты, прадстаўнікі і госці з іншых касмічных сістэм, незлічоныя народы і жыхары, розная жыўнасць з усіх куткоў зямной брамфатуры — усё гэта нагадвала вар'яцкі і жахлівы канец свету, якім пастаянна трылудзіла чалавецтва, бо менавіта такім спосабам паўней можна было азірнуць усе ўладанні. Насамрэч падзея адбывалася ў адметным вымярэнні Ібаофа, дзе прысутнічалі толькі фантомы-копіі рэальных стварэнняў, якія, дарэчы, пра гэта нічога не ведалі.

Так дэталёва ў жывых творах і вобразах валадар паўставаў рэдка, звычайна падчас этапных пераўтварэнняў, карэктоўкі курсу. Як правіла, ён ставіў пэўную задачу, адкідваў непатрэбныя на гэты момант характарыстыкі герояў, правяраў іх на годнасць — і такім чынам атрымліваў сапраўдную і галоўную карціну свайго свету.

На гэты раз мэтаю было выяўленне самых адданых, здольных на беспярэчнае падначаленне і выняткова ўчынкі.

Ібаоф усё мацней пранікаўся ідэяй, збіраўся ў адзіны сэнс, рашуча і бязлітасна адсейваючы ўсё лішняе.

А відовішча ўвачавідкі ператваралася ў гармідар, надакучлівую бязглуздую гаварню, часам, звягу. У большасці ўдзельнікаў адсутнічала неабходнае адэкватнае ўяўленне пра сітуацыю. Кожны на розныя лады балбатаў-далдоніў выключна пра сябе і пераважна ўсё самае годнае, а на атачэнне зважаў толькі тады, калі нешта закранала яго асабіста. Такая адлучанасць гэтак яўна праказалася ўпершыню і Ібаофу не спадабалася.

А калі стала відавочнай мізэрнасць іхніх думак пра яго, стваральніка брамфатуры, нарадзілася і ўсё выразней пачало афармляцца канчатковае рашэнне.

«Творы не могуць існаваць без мысляванняў пра свайго творца».

«Да цэнтру павінны цягнуцца ўсе».

«Адасабленне і незалежнасць вядуць да хаосу».

Наогул, небесстароннасць і руплівасць чамусьці не пакідалі Ібаофа, як ён ні імкнуўся быць аб'ектыўным, памяркоўным. Усё існае ў ягоным успрыманні неяк дзялілася, набывала афарбоўку, палярнасць, ступені, ацэнку, што кранала самалюбства, бо не адпавядала духоўнаму рангу валадара брамфатуры.

«Набраўся ад ніжэйшых, — дакараў сябе яшчэ фенаменальны Ібаоф. — І навошта мне быць такім уніклівым, дападным ды гэтак кантраляваць працэс? Вунь іншыя — ствараюць мадэль жыцця, асноўныя тыпы, схемы і даручаюць іх багам. А тыя карыстаюцца імі як уздумаецца, па сваім меркаванні, здольнасцям, таленце. Разбіраюць, дэталізуюць, злучаюць, камбінуюць, сінтэзуюць — адным словам, дзеюць. І ніякай залішняй апекі, дакучлівага ўмяшальніцтва не адчуваюць. Іхнія валадары спачываюць на лаўрах, многа дбаюць пра свой статус і толькі зрэдзь кідаюць погляд уніз. А я апантана пільную за ўсімі, да кожнай травінкі даходжу».

Паступова ў роздумах ён выслабаняўся ад усяго іншароднага, набываў суцэльны нуменальны выгляд.

«Я — уладар і ўсё раблю правільна. Як пажадаю, так і будзе. Кожная мая думка, клопат дапамагаюць справе, рухаюць яе, няхай часам і рознымі тэмпамі. А вось руплівасць іншых, у тым ліку і тых, каго я спарадзіў, далёка не заўсёды, а дакладней — зрэдзь. Такі вынік маіх намаганняў. Яшчэ адзін досвед у скарбонку! У наступны раз будзе іншы. Колькі іх у мяне ўжо? Шмат! Наперадзе — значна больш. Я — вечны! Галоўнае — моцы ў мяне стае. І **ідэй** — безліч: сабе хапае дый іншым перападае. А цяпер трэба пачысціцца. Лягчэй будзе ісці».

Рабіў гэта Ібаоф з задавальненнем. Спачатку разбіраўся са сваім адметным вымярэннем, выпісваў у ім пажаданы малюнак, а затым, як узор, накладваў яго на ўсю брамфатуру. У сакральнай формуле, якую пры гэтым ужываў і якая ажыццяўлялася цераз палкае жаданне і разумовы вырак, прысутнічалі лічбавыя абазначэнні і коды ўсіх з'яў ды стварэнняў ягонага свету аж да самай драбнюткай. У залежнасці ад дзеянняў — найпрасцейшымі былі складанне, адыманне, множанне, дзяленне — адны знікалі з плана жыцця, другія заставаліся існаваць і развівацца.

Падрыхтоўка магла быць працяглай ці кароткай, але сам акт адбываўся імгненна на ўсіх узроўнях, і заўсёды прыносіў аўтару неймаверную радасць, якая пакрывала творчым натхненнем усю брамфатуру на доўгія більёны гадоў да наступнага эону[1].

Для стварэнняў трансфармацыя была безвыходнай; адчувалі яны яе па-рознаму, адпаведна ўзроўню свядомасці і месца знаходжання ў тым ці іншым пласце.

Гэтым разам Ібаоф не спяшаўся, імкнучыся напружыць працэс чакання да максімуму, каб больш усмакавацца.

Ён ахопліваў розумам усе сферы — ментальную, эмацыйную, фізічную — і прапускаў-прасейваў іх праз сябе: з усяго выгадаванага збожжа адбіралася самае лепшае і выдалялася горшае.

Як бы сумбурна і нярадна гэта ні выглядала, ніхто нікому не перашкаджаў.

Зярняткі хоць і мітусіліся, але, кіруючыся ўнутранай цягай, азначанай Ібаофам, займалі сваё месца ў Сусвеце: адны — у славутым быцці, другія — у выклятай замсце.

Неяк па-асабліваму, уважліва і сабрана, успрымаў Ібаоф праход маладых багоў і іхніх пестуноў, бо яны непажадана ўскалыхнулі эон.

Апошняе пакаленне толькі збольшага апраўдала ягоныя надзеі. Дужа самастойным і незалежным паказала яно сябе, не поўнасцю выявіла ўвагу і пашаноты да кіраўніцтва, неабдумана перакасавала многія традыцыі. І самае галоўнае, усё гэта ўчыніла свядома. З гісторыі Ібаоф ведаў, што такое становішча звычайна папярэднічала крутым пераменам, этапным перабудовам, таму самаздаволена запыхцеў, што чыстку зрабіў своечасова і дарэчы. Засталося толькі шчыра раздаць усім па заслугах.

З усяе каманды ён ухваляў Андрэя і Ахмада, дакараў Кастуся, Джорджа і Лао, лічыў не сваімі Барыса і Раджыва, не верыў Аляксандру. Астатніх прымаў за баласт і намерваўся пасля спецыяльных энергетычных ін'екцый наблізіць.

Як толькі форма была гатова, валадар самадастаткова ўздыхнуў і загадаў ёй распаўсюдзіцца па ўсёй зямной брамфатуры. Ён ужо амаль стаяў на чарговай прыступцы касмічнага шчасця, калі рэальнасць апошняга эона багата дзе страпянулася, заўпарцілася і не пажадала прыняць шаблон.

«Хто супраць майго рашэння?»

Дух Ібаофа скалануўся-ўзрушыўся і паімчаў да анамаліі. Як жа ён сканфузіўся, калі нікога не знайшоў на месцы.

Уладарыла ашаламляльная пустэча, як быццам гэтую частку Сусвету ніколі не наведвалі і не скарыстоўвалі, хоць усяму атачэнню яна была вядома сваёй густанаселенасцю і творчай актыўнасцю.

«Куды падзеліся цэлыя сусветы з насельнікамі? А дзе самі багі? Што іх паглынула?

Хто тут гаспадарыў?

Суседзі дзівачылі? Ім дапамагалі Барыс ды Раджыў!?

---

[1] Эоны — надзвычай вялікія перыяды касмічнага развіцця матэрыяльнасці.

Іншасць уварвалася? Цераз Аляксандра!?

Свае дадумаліся?

Чаму няма адлюстраванняў на агульным плане?»

Ібаоф перабіраў магчымыя версіі і не знаходзіў патрэбнай. Такога ў ягонай практыцы яшчэ не было.

Ён быў упэўнены, што знойдзе прычыну. Дастаткова толькі звярнуцца да Сусветнага Інфармацыйнага Поля, дзе фіксуюцца ўсе пературбацыі з Зямлёю. Але мудрасць падказвала крыху памарудзіць. Ведаючы цану моманту і шматварыянтнасць дойснасці, Ібаоф вырашыў пагартаць яе пакуль самастойна, без касмічнай дапамогі, каб адшукаць патрэбныя, у тым ліку і скрытныя, выявы ды аднавіць падзеі. Тым больш неабходна было належным чынам узважыць сітуацыю і мабілізаваць-нацэліць усе ўнутраныя рэсурсы.

Нечакана шугануў моцны светлавы выбліск — і нанава праказалася зніклая часць брамфатуры.

Доблеснай раццю стаялі перад Ібаофам нашчадкі, гаспадары самых новых пластоў. Велічны дух згоды, еднасці, мужнасці лунаў над стройнымі шэрагамі. І ніякіх звад, знішчэння, забіцця, што так ініцыяваў апошнім часам валадар брамфатуры, не было і блізка.

На чале знаходзіліся Кастусь, Джордж, Лао.

На грудзях Кастуся слепка зіхацеў амулет.

З’явішча было ўражлівае.

Ібаоф усё зразумеў і, ухваліўшы сябе за тактычны прыём, дадаў да свайго рашэння новыя каральныя меры.

Пагадзіцца яму не дазваляў ні сан, ні майстат. Ён паграджальна сканцэнтраваўся, павялічыўся да велізарных памераў і, кінуўшы апошні погляд на супарат, спасобіўся іх сускраміць.

**56**

Іншых БОСКІХ шляхоў, акрамя нявызнаных, няма — гэта альфа і амега існавання.

Ахопленыя супрацьстаяннем, бакі не адразу заўважылі іншародную хвалю, якая бесперашкодна кацілася звонку і ўражвала магутнасцю. Усе ўмомант насцярожыліся і зліліся ў адным палкім жаданні даведацца, што гэта. Але як ні высільваліся, распазнаць незнаёмку пакуль не маглі.

Засланяцца-абараняцца ад яе, а тым больш процідзейнічаць ёй, не мела сэнсу, бо тая ў мноства разоў пераўзыходзіла іхнія разам узятыя энергетычныя рэсурсы.

Цікавасць пераважыла іншыя настроі і намеры, і героі, забыўшыся на супярэчнасці, таропка злучыліся ў адзін імклівы парыў, які сваёю моцай працяў прастору і адчувальна крануў хвалю.

Тая толькі таго і чакала. Заззяўшы мноствам значэнняў, яна маштабна паказала сваю галоўную мэту.

Вяха, пра якую заўсёды сігналіла Вечнасць, нарэшце прыйшла. І тады брамфатура знямела, адразу пазнаўшы і прыняўшы яе.

Вястун БОГА, Усекасмічны Логас, ступаў на Зямлю. Усё жывое, дзе б ні было, супынілася і духам памкнулася да Яго. Ён ведаў усіх, ацэньваў Праўдай і вызначаў кожнага па свядомасці.

Свет ператвараўся, набываў сапраўднае аблічча. Прастора дыхала і гучала БОСКІМ волевыяўленнем.

Адным давалася, у другіх адымалася.

Перажыванняў сыпалася ўдосталь.

Нехта радаваўся, хтосьці сумаваў.

І нельга было разабраць, колькі часу прайшло, бо ў кожнага ён быў свой, але ўключаў абавязковы для ўсіх момант — апошні выбар.

Надыходзіў ён своеасабліва: свядомасць так насычалася БОЖАЙ СПРАВЯДЛІВАСЦЮ, што, знаходзячыся перад апошняй альтэрнатывай — Светлай і Цёмнай Сферамі, канчатковы вырак сабе выносіла самастойна, па натхненні.

У выніку ўсё існае дзялілася на дзве вялікія плыні.

Сярод безлічы адметнасцей, уласцівых працэсу зліцця, асабліва моцнай была ўспышка залатога кудменя Кастуся. Яна дадала вышэйшага вызначальнага святла абраннікам.

Абедзве Сферы сталі вярцецца, зіхацець і гучаць на адмысловы манер. Імклівасць узрастала — і яны, сціскаючыся, набывалі выгляд Белага і Чорнага Сонцаў.

Кастуся прыцягнуў і захапіў Светлы Гігант.

Калі бог імчаў у бурлівым і іскрыстым струмені да яго, то заўважаў побач і воддаль сваіх дружбакоў, адчуваў незвычайную радасць, якая ўсё нарастала.

Розум ахопліваў цалкам усё дзейства і на іншых напрамках таксама знаходзіў насельнікаў свайго свету. Ад астатніх планетарных брамфатур цягнуліся такія ж багатыя раўчукі.

Аналагічным чынам збіралася і Чорная Зорка.

## ЭПІЛОГ

Вялізнымі агністымі вачыма глядзеў Залаты Леў перад сабой. Яго атачаў Сусвет з Агню, у якім жылі і палымнелі Багі, творачы Вялікі Сэнс Жыцця.

Час ад часу Яны ўзіраліся зоркамі-сонцамі ў праяўлены Космас, гарэлі думкамі і сыходзілі да Матэрыі, каб увасобіцца, набыць фізічнае аблічча, узбагаціць і пашырыць свет форм. І вялікім дасягненнем лічылі набыццё другога вока-сонца ў планетарнай сістэме, дзе валадарылі, з ліку лепшых выпеставаных насельнікаў. Тады намнога паскараліся і ўзбачаліся магчымасці ўсеагульнага ўдасканалення.

У полі зроку Льва знаходзілася суквецце планет, якія толькі што апрасталіся ад чарговага глуму і тла ды спасобіліся на больш самавітую ілюзію. З'явы і стварэнні звыкла мітусіліся, змагаліся, праглі лепшае долі і рваліся ўвышыню, да нязведанае тайны.

Ягоныя вочы былі шырока расплюшчаны, праменілі Святло і азаралі надзеяй. У такія імгненні Вечнасць расхіналася і прымала годных. Але як толькі Ён маргаў альбо даўжэй змружваў павекі, наставаў гмур і дзверы зачыняліся.

Яшчэ ніколі не было такога, каб разам паспявалі ўсе.

*Жнівень 2009 г. — чэрвень 2013 г.,*
*Віцебск*

О. ГЕНРЫ

Рубрыка Мінскага дзяржаўнага лінгвістычнага ўніверсітэта

# АПАВЯДАННІ

## ЗЯЛЁНЫЯ ДЗВЕРЫ



Уявім, вы шпацыруеце па Брадвеі пасля абеду, каб выкурыць цыгарэтку і выбраць, на якую п'есу схадзіць, — на нешта захапляльна-сумнае ці больш сур'ёзнае, напрыклад, вадэвіль. Раптам хтосьці кладзе вам на плячо руку. Вы абарочваецеся і бачыце спалоханыя вочы прыгожай незнаёмкі, на якой дарагія брыльянты і футра. Яна кладзе вам у руку вельмі гарачую булку, вымае з сумкі нажніцы, зразае гузік з вашага паліто, ускрыквае слова «паралелаграм!» і хутка, азіраючыся, уцякае.

Гэта была б чыстай вады прыгода. Маглі б такое дапусціць? Не, толькі не вы. Вы б пачырванелі ад сораму, выкінулі б гэтую булку і працягнулі свой шпацыр, кранаючы месца згубленага гузіка на паліто. Але калі б у вас была хоць кропля авантурызму, усё было б інакш.

Сапраўдных шукальнікаў прыгод не так ужо і шмат. Пра іх пішуць у газетах, але часцей за ўсё гэта дзелавыя мужчыны, якія выкарыстоўваюць новыя вынаходкі. Яны хацелі дамагчыся ўсяго, ад прыгожых жанчын да рэдкіх скарбаў. А вось сапраўдны авантурыст не ставіць перад сабой ніякіх мэт, а проста ідзе ў невядомасць. Блудны Сын з Бібліі — выдатны прыклад.

Адважных і выбітных хлопчыкаў таксама хапала. У гісторыі і мастацкай літаратуры досыць такіх персанажаў. Але ў кожнага з іх была мэта: няхай гэта ўзнагарода, якую трэба выйграць, ці бык, якога трэба асядлаць, і гэтак далей. Таму іх не назавеш сапраўднымі шукальнікамі прыгод.

У вялікіх гарадах два роднасныя духі, такія як Рамантыка і Авантурызм, заўсёды ў пошуках сваіх прыхільнікаў. А ў той час, калі мы шпацыруем па вулачках, яны кідаюць на нас хітрыя позіркі, пры гэтым спрабуючы праверыць нас рознымі спосабамі. Беспадстаўна мы падымаем павекі і нечакана заўважаем твар у акне, які здаецца нам такім знаёмым. На шырокай вуліцы, дзе звычайна ўсё спакойна, мы чуем пранізлівы крык, які даносіцца з пустой зачыненай хаты. Вадзіцель таксоўкі высаджвае нас не каля нашай хаты, а насупраць дзіўных дзвярэй, з якіх вызірквае незнаёмец, усміхаючыся, адчыняе іх і запрашае. Лісток паперы, на якім было нешта напісана,

падае нам пад ногі, быццам з неба. З мінакамі, якія кудысьці спяшаюцца, мы абменьваемся поглядамі мімалётнай нянавісці, сімпатыі і нейкага страху. Раптам пачынаецца дождж і ваш парасон становіцца сховішчам для дачкі поўні і кузена зорнай сістэмы. На кожным кроку падаюць насоўкі, кожная кудысьці вабіць, вочы глядзяць адусюль, і страчаныя, містычныя, бліскучыя і небяспечныя падказкі завабліваюць вас у свет прыгод. Але толькі некаторыя змогуць разгадаць іх. Жывём сабе, жывём і аднойчы ўсё нашае бессэнсоўнае жыццё падыдзе да канца, і мы зразумеем, што ўсё рамантычнае, што ў нас было, — гэта адзін ці два шлюбы, атласная ружа, што завалялася ў далёкім куце шафы, і бессэнсоўная варожасць да радыятараў.

А вось Рудольф Штайнер быў сапраўдным шукальнікам прыгод. Ён рэдка заставаўся дома, бо заўсёды імкнуўся знайсці для сябе што-небудзь абуральна-нечаканае. Як ён лічыў, самае цікавае ў жыцці можна сустрэць дзе-небудзь паблізу. Часам яго гатоўнасць выпрабаваць лёс прыводзіла яго незразумела куды. Ён двойчы начаваў у пастарунку. Зноў і зноў яго падманвалі ашуканцы, аднойчы абакралі. Але ён, усё яшчэ з нязгасным запалам, працягваў папаўняць спіс вясёлых прыгод.

Аднойчы ўвечары Рудольф крочыў па вулачцы ў старадаўняй цэнтральнай частцы горада. Два патокі людзей ішлі па ходніках — тыя, хто спяшаўся дадому, і тыя, хто пакідаў яго, каб атрымаць асалоду ад комплекснай вячэры ў прыемнай атмасферы. Малады авантурыст ішоў наперад і назіраў за ўсім, што адбывалася вакол. Удзень ён быў прадаўцом у музычным магазіне. Ён старанна завязваў гальштук, фіксуючы яго замест звычайнай шпількі кальцом з тапазам. Яшчэ ён аднойчы напісаў рэдактару часопіса, што кніга Міс Лібі — «Праверка на Каханне» — незваротна і канчаткова змяніла яго жыццё.

Падчас прагулкі яго ўвагу прыцягнуў жудасны лязгат зубоў, які даносіўся з шыльдаў, што віселі ўздоўж вулачак, але потым ён заўважыў, што над рэстаранам, дзе ён і пачуў дзіўны гук, месціцца стаматалогія. Высокі цемнаскуры мужчына, убраны ў чырвонае, з узорамі, паліто, жоўтыя штаны і ваенную кепку, раздаваў лістоўкі тым, хто жадаў іх браць.

Рудольфу былі знаёмыя такія рэкламныя крокі. Звычайна ён праходзіў міма, не звяртаючы ўвагі на лістоўкі з рэкламай усялякіх стаматалогій, але сёння таму цемнаскураму чалавеку ўдалося ўсунуць яму ў рукі паперку.

Прайшоўшы некалькі метраў, ён абыякава зірнуў на рэкламку, але, перавярнуўшы яе, зацікавіўся надпісам. Там было ўсяго два словы: «Зялёныя Дзверы». Тут Рудольф заўважыў, як адзін мужчына кінуў на зямлю такую ж паперку. Рудольф падняў яе і ўбачыў, што там было напісана прозвішча доктара, расклад прыёмаў і абяцанне «лёгкіх» працэдур.

Цікаўны прадавец музычных інструментаў завярнуў за рог і спыніўся. Потым ён перайшоў дарогу, абышоў квартал, вярнуўся на тое ж месца, але ўжо з іншага боку, зноў прайшоўся каля таго цемнаскурага мужчыны і ўзяў лістоўку, якую той працягнуў. Зрабіўшы некалькі крокаў наперад, ён прагледзеў гэтую паперку, але там быў той жа надпіс — «Зялёныя Дзверы». Яшчэ тры ці чатыры лістоўкі ўпалі на зямлю. Падняўшы іх Рудольф, выявіў, што і там было напісана тое ж самае.

Ён вырашыў зноў абысці вакол квартала і вярнуцца да таго мужчыны, які раздаваў лістоўкі каля дзвярэй, з-за якіх даносіўся лязгат зубоў. Але на гэты раз яму не далі паперкі. Эфіоп у дзіўнай вопратцы паўтараў адну і тую ж рэкламную фразу і, як здалося нашаму герою, не проста яго праігнараваў, але яшчэ і зірнуў з нейкай пагардай.

Гэта яго крыху закранула. З'явілася адчуванне, што ад яго нечага чакалі, але ён гэтага не зразумеў. Што б ні значылі тыя словы пра дзверы, Эфіоп

двойчы вылучыў яго з натоўпу, каб перадаць пасланне, а зараз, здавалася, лічыў яго недалёкім і няздольным разгадаць загадку.

Пастаяўшы трохі ўбаку, малады прадавец акінуў поглядам будынак, у якім, як ён меркаваў, яго чакала нешта цікавае. Будынак быў вышынёй у пяць паверхаў, а на цокальным размяшчаўся рэстаранчык.

Першы паверх, на жаль, быў зачынены і хутчэй за ўсё там была крама капялюшаў ці футра. На другім паверсе, з мігатлівай шыльдай, знаходзілася стаматалогія. Трохі вышэй шыльды паказвалі, дзе знаходзяцца хіраманты, краўцы, музыкі і розныя лекары. Ну, а яшчэ вышэй было відаць, што месцяцца жылыя памяшканні, пра гэта сведчылі фіранкі і бутэлькі з малаком, якія стаялі на падаконніках.

Падумаўшы, Рудольф узбег па каменных прыступках у будынак, падняўся на другі паверх па лесвіцы, засцеленай дыванам, і спыніўся. Асвятленне ў калідоры было слабым, з аднаго боку яго асвятляла адна газавая лямпа, з другога — другая. Скрозь цьмянае святло ён убачыў зялёныя дзверы. Спачатку засумняваўся, але потым, прыгадаўшы абразлівую ўсмешку чарнаскурага, наважыўся і пастукаў.

Затаіўшы дыханне, ён чакаў адказу на свой стук. Гэта і было сапраўднай прыгодай. За гэтымі дзвярыма можа дзеецца што заўгодна! Картачныя гульні або нейкія шулерскія махінацыі. Небяспека, смерць, каханне, расчараванне ці насмешка — усё, што заўгодна!

Ён пачуў слабы шолах унутры пакоя, і дзверы павольна адчыніліся. Дзяўчына, якой на выгляд не было і дваццаці гадоў, стаяла перад ім з пабялелым тварам і трохі хісталася. Яе рука саслізнула з дзвярной ручкі, і яна, хіснуўшыся, шукала, на што абаперціся. Рудольф падхапіў дзяўчыну і пасадзіў яе ў крэсла ля сцяны. Ён зачыніў дзверы і агледзеў залу, якая таксама была цьмянай. Пакой быў чыстым, але па ўсім была відна сапраўдная беднасць.

Дзяўчына ўсё яшчэ не апрытомнела. Рудольф агледзеў пакой, спрабуючы знайсці што-небудзь цыліндрычнае, таму што непрытомных трэба класці набок... Не, гэта для тых, хто патануў. Ён пачаў махаць перад ёй капелюшом. Гэта, мабыць, дапамагло, бо калі ён крануў яе нос абадком капелюша, яна расплюшчыла вочы. Як толькі ён убачыў яе твар, адразу зразумеў, што менавіта гэтай асобы не хапала ў яго сэрцы. Сумленныя, шэрыя вочы, маленькі, крыху кірпаты носік, валасы каштанавага колеру, якія віліся, як галінкі гарохавай лазы, — усё гэта як узнагарода для яго. Але твар быў надзвычай худым і бледным.

Дзяўчына зірнула на яго спакойным позіркам і ўсміхнулася.

— Я страціла прытомнасць, так? — пацікавілася яна дрыготкім галаском. — Але хто б на маім месцы вытрымаў? Паспрабуйце не есці тры дні і паглядзім, што з вамі здарыцца!

«Нічога сабе!» — здзівіўся Рудольф.

— Пачакайце хвілінку, — сказаў ён і рвануў з месца.

Ён выбег з пакоя і спусціўся па лесвіцы. Праз дваццаць хвілін вярнуўся, трымаючы ў абедзвюх руках пакункі з бакалеі і рэстарана. Ён паклаў на стол бутэрброд з маслам, каўбасу, пірожныя, піражкі, салёныя агуркі, вустрыцы, смажанае кураня, паставіў бутэльку малака і гарачы чай.

— Гэта недапушчальна, нельга галадаць, — сказаў Рудольф. — Больш нават не спрабуйце! Вячэра на стале.

Ён дапамог ёй дабрацца да крэсла, якое стаяла каля стала, і спытаў:

— Дзе ў вас тут кубак, каб наліць гарбаты?

— У шафе, ля акна, — адказала дзяўчына.

Калі ён павярнуўся зноў, убачыў, як яе вочы блішчалі ад захаплення, калі яна вымала салёны гурок з абгортачнай паперы. Ён, усміхаючыся, забраў гурок і наліў ёй поўную шклянку малака.

— Спачатку выпіце гэта, — сказаў ён. — А потым выпіце гарбату, разам з куранём, а агурок пакіньце на заўтра. Ну а зараз, калі вы дазволіце, давайце павячэраем.

Ён сеў на крэсла побач. Ад гарбаты вочы дзяўчыны сталі больш яснымі, а шчокі паружавелі. Яна прагна адкусвала кавалкі ежы, быццам дзікі звер. Здавалася, яна прымала яго дапамогу, як і яго самога, як нешта звычайнае. Стрэс, які яна перажыла, даваў ёй такія прывілеі. Але паступова манеры пачалі вяртацца, і яна распавяла нашаму герою сваю гісторыю. Такіх гісторый у горадзе было шмат. Гісторыя пра дзяўчыну-прадаўца, якая зарабляла капейкі, зарплату пастаянна скарачалі так званымі «штрафамі», каб павялічыць прыбытак крамы. Хвароба, страта працы, надзеі і раптам — стук незнаёмца ў зялёныя дзверы.

Але для Рудольфа гэта гісторыя гучала як «Іліяда», ці пераломны момант яго любімага рамана «Праверка на Каханне».

— Як ты гэта перажыла! — усклікнуў Рудольф.

— Так, было вельмі цяжка, — адказала дзяўчына з ноткай суму ў голасе.

— І ў цябе няма ні сваякоў, ні сяброў у гэтым горадзе?

— Нікога.

— Я таксама зусім адзін у свеце, — прамовіў Рудольф пасля паўзы.

— Я рада, што гэта так, — зараз жа сказала дзяўчына. І чамусьці юнаку стала вельмі прыемна з-за таго, што яна ўхваляе яго становішча.

Раптоўна яе павекі пацяжэлі, і яна глыбока ўздыхнула.

— Я так хачу спаць, — казала яна. — Але мне так добра.

Тады Рудольф падняўся і ўзяў свой капялюш.

— Я мушу развітацца, а табе добры сон пойдзе толькі на карысць.

Ён працягнуў руку, яна пацiснула яе і пажадала добрай ночы. Але ў вачах яе было пытанне — такое выразнае, шчырае і жаласлівае, што ён адказаў уголас.

— Я зазірну заўтра, каб даведацца, як ты тут спраўляешся. Ад мяне ты так проста не пазбавішся.

Потым, каля дзвярэй, як быццам мэта яго прыходу была значна менш важнай, чым сам факт таго, што ён прыйшоў, яна спытала:

— А чаму ты ўвогуле пастукаў у мае дзверы?

Момант ён глядзеў на яе, згадваючы карты, і пачуў раптоўны ўкол зайздрасці. Што, калі б яны апынуліся ў іншых руках, такіх жа авантурных, як і ў яго? Ён зараз жа вырашыў, што яна ніколі не павінна ведаць праўду. Ён ніколі не скажа, якім выпадковым спосабам яна, не ведаючы таго, яму дасталася.

— Адзін з нашых настройшчыкаў фартэпіяна жыве ў гэтым доме, — адказаў ён. — Я пастукаў па памылцы.

Апошняе, што ён убачыў перад тым, як зачыніліся зялёныя дзверы, была яе ўсмешка.

Ён спыніўся на лесвіцы і з цікавасцю агледзеўся. Потым прайшоў па калідоры ў другі канец, спусціўся на паверх ніжэй і там працягнуў свае даследаванні. Усе дзверы, якія ён бачыў у гэтым доме, былі зялёныя.

Здзіўлены, ён спусціўся на вуліцу. Той фантастычны Эфіоп усё яшчэ быў там. Рудольф падышоў да яго, паказваючы дзве свае паперкі.

— Не скажаш, чаму ты даў іх мне і што яны азначаюць? — спытаў ён.

Шырокая лагодная ўсмешка негра была выдатнай рэкламай прафесіі яго гаспадара.

— Яно вунь там, бос, — адказаў ён, указваючы ўніз па вуліцы. — Але мне здаецца, вы трохі спазняецеся на першы акт.

Рудольф паглядзеў у тым напрамку, і над уваходам у тэатр убачыў яскравую электрычную шыльду новай п’есы «Зялёныя дзверы».

— Мне сказалі, гэта першакласнае шоу, сэр, — сказаў негр. — Агент, які яго прадстаўляе, даў мне долар, сэр, каб я раздаў некалькі яго картак разам з карткамі дохтара. Магу я прапанаваць вам картку дохтара, сэр?

На рагу дома, дзе жыў, Рудольф спыніўся, каб выпіць келіх піва і закурыць. З цыгарэтай у руцэ ён выйшаў, зашпіліў паліто, ссунуў капялюш на патыліцу і сказаў упарта ліхтару на вуліцы:

— Усё роўна я веру, што гэта Лёс сваёй рукой указаў мне шлях да яе.

Такім чынам, прыняўшы да ўвагі ўсе абставіны, залічваем Рудольфа Штайнера да шэрагу сапраўдных паслядоўнікаў Рамантыкі і Авантурызму.

## ЗІМОВЫЯ СВЯТЫ

Пра Каляды ўжо няма чаго пісаць. Літаратура паабнішчала, газетныя артыкулы — першае з лепшага, што было, — зараз пішуць маладыя журналісты, якія толькі-толькі ажаніліся, а ўжо бачаць жыццё праз прызму песімізму. Таму дзеля прыемнага баўлення часу нам засталіся толькі вельмі сумнiўныя крыніцы — факты ды філасофія. Бадай, зараз і пачнём, а вы потым называйце гэта ўсё, як хочаце.

Дзеці — гэта раздражняльныя маленькія істоты, з якімі даводзіцца спраўляцца ў любых абставінах. Асабліва паспяхова даводзяць да крайнасці дзіцячыя крыкі і плач: цярплівасці на заспакойванне ўжо не хапае, мы шлёпаем іх па мяккім месцы, і яны, хаця і хлюпаюць носам, але ідуць спаць. А мы пытаем у Бога, як апынуліся ў гэтай пастцы. Дзяцей увогуле разумеюць толькі векавухі, гарбуны ды сабакі.

Цяпер трэба перайсці да нашых фактаў — да Анучнай Лялькі, Абадранца і Дваццаць пятага снежня.

Дзясятага снежня Дачка Мільянера недзе згубіла сваю ляльку. Служкі і слугі, якіх у хаце Мільянера была незлічоная колькасць, абшукалі ўсё, што толькі можна, але згублены скарб не знайшлі. Дзяўчынцы было пяць, і яна была з тых маленькіх стварэнняў, якія заўсёды раняць пачуцці бацькоўбагацеяў, калі замест дарагіх фаэтонаў і машын, нібыта абсыпаных алмазамі, выбіраюць танную цацку.

Гора Дзіцяці было сапраўдным і абсалютным, што цяжка было зразумець яе бацькам: Мільянеру літаральна не было ніякай справы да лялек, а маці ўвогуле да ўсяго ставілася з боку этыкету — ну, амаль да ўсяго, як вы потым пабачыце.

Дзіця плакала няўцешна, вочкі напухлі, каленкі дрыжалі — дзяўчынка літаральна расклеілася. Мільянер пасміхаўся ды ўпэўнена паляпваў па гаманцы. Найлепшыя цацкі з Германіі і Францыі спецыяльнай дастаўкай прывезлі ў асабняк, але Рэйчал не супакойвалася. Яна не хацела бачыць ніякіх замежных цацак, толькі жадала, каб яе лялечка вярнулася да яе. Былі выкліканы найлепшыя ўрачы з найноўшымі хранометрамі, адзін за адным яны бессэнсоўна распявадалі пра нейкае марганцава-кіслае жалеза, марскія вандроўкі і гіпафасфацыт, пакуль хранометры не нагадвалі ім, што містар Багацей чакае адказу. Потым, як простыя мужыкі, яны раілі знайсці ляльку і як мага хутчэй аддаць яе дзяўчынцы. Дзіця на ўсіх гэтых экскулапаў толькі хмыкала, смактала палец ды зноў раўло.

Увесь гэты час няспынна прыходзілі тэлеграмы ад Санта Клауса, які абяцаў хутка прыехаць і заклікаў пакінуць біяльярдныя ды палітычныя справы на нейкі час, знайсці сапраўдны хрысціянскі дух і сустрэць Санту як належыць. Калядны дух лунаў у паветры. Банкі не давалі пазыкі, колькасць ліхвяраў пабольшала, на вуліцах раз-пораз сутыкаліся чырвоныя санкі, у вокнах крам былі відаць вянкі амялы, людзі нацягвалі футры. Некаторыя заходзілі і замаўлялі ў пабах добры віскі, набывалі ў крамах нафталінавыя шарыкі, дзеці гулялі ў снежкі — іншымі словамі, не той быў час, каб губляць ляльку, якой належала тваё сэрца.

Калі б да разглядання гэтай справы прыцягнулі геніяльнага сябра доктара Ватсана, то ён, мабыць, заўважыў бы на сцяне ў хаце Мільянера рэпрадукцыю «Вампіра».

— Ануча, косткі і пасма валасоў, — метадам індукцыі хутка вызначыў бы ён. — Фліп.

Шатландскі тэр'ер Фліп, які ў сэрцы дзяўчынкі займаў месца адразу за лялькай, прашмыгнуў праз пакой.

Пасма валасоў! Ага! X — невядомая велічыня — гэта лялька. Аднак што за костка? Добра, калі сабака знаходзіць костку, ён… Вось яно! Няма нічога лягчэйшага за просты агляд пярэдніх лап Фліпа.

— Паглядзіце, Ватсан! Зямля! Сухая зямля пад кіпцюрамі. Канешне, гэта сабака!

Але Шэрлака там не было. Таму справа на гэтым не скончылася. А нам трэба звярнуцца да месцазнаходжання і планіроўкі.

Дом Мільянера займаў агромністую плошчу. Панадворак як поплаў, трава на якім была падстрыжана так кароценька, што нагадвала больш двухдзённае шчаціннe. З аднаго боку, фасадам на другую вуліцу, быў разбіты сад, знаходзіліся гараж ды стайні. Шатландскі тэр'ер выкраў ляльку з дзіцячага пакоя, дацягнуў яе да краю поплава, выкапаў яму і пахаваў яе там, як нядбайны трунар. Вось і ўся адгадка містычнай гісторыі, і не трэба падпісваць чэк для нейкага неіснуючага чарадзея ці даваць пяцёрку паліцэйскаму. Запеўка скончылася, мой любы чытач, звернемся цяпер да цэнтра гісторыі — Каляднага.

Фазі быў п'яны. Не, ён не быў бездапаможна п'яны, не лямантаваў і не рабіў бязладдзя, як гэта можа здарыцца з намі, калі вып'ем, ён быў добра, грунтоўна п'яны, як джэнтльмен, якому здрадзіла шчасце.

Фазі быў рыцарам няўдачы. Шаша, стог сена, лаўка ў парку, кухонныя дзверы, гарката ложкаў для валацуг, дробныя знаходкі і вялізныя, але зневажальныя шчадроты вялікага горада — вось такімі былі главы яго гісторыі.

Фазі ішоў па вуліцы міма асабняка Мільянера, калі заўважыў нагу Бэтсі — згубленай анучнай лялькі, — якая тырчала з яе труны, як ключ да таямніцы нейкага забойства ў Ліліпуціі. Ён выцягнуў пакрыўджаную Бэтсі і, засунуўшы яе пад паху, пайшоў далей, замармытаўшы сабе пад нос песеньку, якую ніводная выхаваная дзяўчынка ніколі не павінна чуць. Дарэчы, Бэтсі пашанцавала, што ў яе няма вушэй. Таксама ёй пашанцавала не мець і вачэй, бо твары Фазі і тэр'ера былі падобныя, а ніводная анучная лялька не вытрымала б падвойны палон у такіх страшэнных монстраў.

Трэба сказаць, што карчма Грогана знаходзілася ў канцы вуліцы на беразе ракі, па якім у той час ішоў Фазі, і калядныя святкаванні там былі ў разгары.

Фазі ўвайшоў у карчму разам з лялькай. Ён вырашыў, што калі стане на некаторы час удзельнікам каляднай пантамімы на гэтых сатурналіях, то, мабыць, і яму застанецца некалькі кропель пушну.

Пасадзіўшы Бэтсі на барную стойку, ён пачаў гучна і з весялосцю размаўляць з ёй, прыпраўляючы размову дасціпнымі выразамі ды кампліментамі, нібы сапраўдны кавалер. П'яніцы жарт зразумелі і зарагаталі, а бармен наліў Фазі чарку. Чаму не?

— А даме? — нахабна ўсклікнуў Фазі. А потым глынуў і другую — за Мастацтва.

Бэтсі раскрылася перад ім з іншага боку: яе прэм'ера мела які-ніякі поспех, і Фазі ўжо прадчуваў турнэ па корчмах горада.

Каля грубкі сядзелі Птах МакКарці, Чорны Райлі і Аднавухі Майк, якія мелі кепскую рэпутацыю нават сярод хуліганаў на левым беразе ракі. Яны перадавалі адно другому газету, бесперапынна тыкаючы пальцамі ў аб'яву з загалоўкам: «Узнагарода — сто долараў». Каб атрымаць яе, трэба знайсці згубленую або скрадзеную ў Мільянерскай дачкі анучную ляльку. Відаць, гора так і не адпусціла занадта адданага Дзіцяці. Тэр'ер Фліп гарэзнічаў і торкаўся ёй у твар сваім халодным носам і смешнымі вусамі, але не здолеў адцягнуць увагу. Дзяўчынка аплаквала сваю страту шчыра, не зважаючы на французскіх Віялет і Мабэйе, якія маглі хадзіць, гаварыць «мама» і лыпаць вачамі. Аб'ява была апошнім шанцам на ратаванне.

Чорны Райлі выйшаў з-за грубкі і сваёй звычайнай кульгавай паходкай падышоў да Фазі.

Калядны акцёр, акрылены сваім поспехам, зноў узяў Бэтсі пад паху і ўжо збіраўся ісці імправізаваць у іншае, больш пажыўнае месца.

— Э, шаноўны, — Чорны Райлі перагарадзіў яму дарогу, — а дзе ты надыбаў гэтую ляльку?

— Гэтую? — спытаўся Фазі, паказваючы на Бэтсі пальцам, каб дакладна ведаць, што гутарка ідзе пра яе. — Яе мне падараваў імператар Белучыстана. Дома ў Ньюпарце ў мяне яшчэ семсот такіх. Гэтая лялька…

— Канчай лухту гнаць, — сказаў Райлі. — Ты ўмыкнуў ці падабраў яе ў тым асабняку на гары… Зрэшты, гэта ўжо не мае значэння. Я дам табе паўдолара за гэтую анучу, хочаш? Малая майго брата будзе радая з такой пагуляцца. Ну, як?

Ён дастаў манетку.

Фазі засмяяўся яму ў твар хрыплым, п'яным смехам. Калі пойдзеце да менеджара Сары Бернар ды прапануеце яму адмяніць яе выступленне, каб прыняць удзел у літаратурным вечары ліцэістаў, то, напэўна, пачуеце такі ж самы смех.

Чорны Райлі хутка, як прафесійны рэстлер, агледзеў Фазі сваімі чарнічнымі вачыма. Рукі ў яго засвярбілі ад жадання згуляць у рыцара і выратаваць анучную прынцэсу з палону шута-імправізатара. Але ён стрымаў сябе. Фазі быў тоўстым, добра збітым і высокім. Паміж яго камізэлькай і штанамі вылучаліся тры цалі ўкормленага цела, абароненага ад зімовага ветру бруднымі споднікамі. Безліч маленькіх зморшчынак на яго рукавах і каленях падказвалі, што ў яго ёсць цяглiцы. Яго маленькія, затуманеныя алкаголем, блакітныя вочкі глядзелі лагодна, але без баязлівасці. Ён быў валасаты, п'янаваты і выглядаў даволі грозна, таму Райлі марудзіў.

— Тады што возьмеш за яе? — спытаўся ён.

— За грошы яе не набыць, — цвёрда адказаў Фазі.

Ён быў ап'янёны першым поспехам. Пасадзіць аблезлую, запэцканую ў зямлі ляльку на стойку, разыграць з ёй пантаміму, атрымаць задавальненне ад прызнання гледачоў і бясплатнай выпіўкі ў яго гонар — няўжо грошы могуць быць лепш за гэта? Прызнайцеся, што вы таксама лічыце Фазі тэмпераментным.

Паходкай вучонага маржа Фазі выйшаў з карчмы ў пошуках іншых піцейных устаноў.

Было яшчэ не вельмі цёмна, але ліхтары ўжо запалілі, нібыта ўзарваліся жоўтыя поп-корнінкі. Калядны Вечар, якога так чакалі, набліжаўся з кожнай хвілінай. Мільёны падрыхтаваліся да святкавання, гарады размалявалі чырвоным. Вы ўжо чулі гукі труб і перабягалі на другі бок вуліцы, каб вас не ўцягнулі ў пляскі сатурналій.

Птах МакКарці, Чорны Райлі і Аднавухі Майк ладзілі хуткія перамовы на вуліцы перад карчмой Грогана. Усе яны былі худымі, бледнымі юнакамі: зусім не байцы ў адкрытую, але па сваіх баявых прыёмах — небяспечней за самага страшэннага з туркаў. У баі па правілах Фазі пабіў бы ўсіх, але ў баі пад назвай «хто як можа», ён быў бы пераможаны.

Яны дагналі Фазі тады, калі ён уваходзіў у казіно Касцігана, і, спыніўшы яго, сунулі пад нос газету.

— Хлопцы, — прамовіў ён, прачытаўшы аб'яву, — вы, безумоўна, добрыя сябры. Дайце мне тыдзень, каб абмеркаваць усё.

Душа сапраўднага артыста апынулася ў цяжкаватым становішчы.

Хлопцы асцярожна растлумачылі яму, што аб'явы душы не маюць, таму лепш сініца ў руках, чым журавель у небе.

— Сотня чыстымі, — нарэшце вырашыў Фазі. — Хлопцы, вы сапраўды добрыя сябры. Я пайду і атрымаю сваю ўзнагароду. Тэатральныя справы мне надакучылі.

На вуліцы цямнела. Птах, Чорны і Аднавухі ішлі следам за ім да ўзгорка, на якім стаяў асабняк Мільянера. Потым Фазі злосна звярнуўся да іх.

— Вы, зграя беламордых сабак, прэч адгэтуль!

Яны адышлі, але толькі на некалькі крокаў.

У Птаха МакКарці ў кішэні быў кусок газавай трубы, з аднаго боку заліты свінцом. Чорны Райлі, як сапраўдны хуліган, заўсёды давяраў цяжкаму металічнаму шару на ланцужку, які заўсёды насіў з сабой. Аднавухі Майк разлічваў на сваю фамільную каштоўнасць — кастэты.

— Навошта нам ісці да гары, — спытаў Чорны Райлі, — калі нехта зробіць гэта за нас? Няхай ён прынясе нам грошы. Як лічыце?

— А давайце прычэпім да яго ног камень ды кінем у ваду, — прапанаваў Птах МакКарці.

— Вы мне ўжо галаву задурылі, — з уздыхам сказаў Аднавухі Майк. — У якім вы стагоддзі жывяце? Абліце яго бензінам ды вышпурніце на дарогу.

Фазі мінуў вароты перад асабняком Мільянера і, пахістваючыся, накіраваўся да дзвярэй параднага ўвахода, ад якога ішло мяккае святло. Задзіры падышлі да варот ды спыніліся — двое з іх сталі па баках ад варот, а трэці застаўся на дарозе. Яны пагладжвалі сваю зброю, упэўненыя, што іх задума завершыцца поспехам.

З твара Фазі не сыходзіла летуценная і дурнаватая ўсмешка, калі ён пазваніў у дзверы. Інстынктыўна ён пацягнуўся да месца на правай руцэ, дзе звычайна знаходзіцца гузік на пальчатцы. Аднак пальчатак ён не насіў, таму збянтэжана апусціў руку.

Служка, які звык вітаць багацеяў, прыбраных у шаўкі і фальбоны, спачатку адскочыў ад Фазі. Але потым заўважыў пашпарт бадзягі, яго ўваходны квіток, гарантыю на цёплы прыём — згубленую маленькай гаспадыняй анучную ляльку, што матлялася пад пахай.

Фазі запрасілі ў вялікую залу, цьмяна асветленую непрыкметнымі лямпамі. Слуга ненадоўга адышоў і вярнуўся разам з дзіцем, якое ішло за пакаёў-

кай. Ляльку адразу вярнулі пакутніцы. Тая прыціснула даражэнькую страту да сэрца; потым з усім сваім бязладным эгаізмам і дзіцячай шчырасцю дзяўчынка тупнула нагой ды выглядам выказала нянавісць і страх у адносінах да той агіднай істоты, якая пазбавіла яе ад роспачы, што раздзірала кіпцюрамі, і неадольнага смутку. Фазі напусціў на твар ліслівую ідыёцкую ўсмешку і распачаў пустое сюсюканне ў надзеі схіліць да сябе парасткі інтэлекту дзіцяці. Але ў адказ яно толькі завыла. Дзяўчынку, якая не выпускала з рук сваю цацку, адцягнулі ад крыўдніка.

Потым увайшоў асістэнт, арыстакратычна бледны, стрыманы, вылізаны ды апрануты з голкі, коўзаючы на мяккіх падэшвах, — адразу бачна, што абагаўляе раскошу і цырымоннасць. Ён працягнуў Фазі дзесяць купюр па дзесяць долараў, паглядзеў на Джэймса, вартаўніка, паказаў на надакучлівага ўзнагароджанага і дазволіў башмакам несці яго назад, у свае валадарствы.

Джэймс кінуў на Фазі ўладны позірк і кіўнуў убок уваходных дзвярэй.

Калі грошы крануліся брудных далоняў Фазі, больш за ўсё яму захацелася пусціцца наўцёкі, але ў наступны момант ён узяў сябе ў рукі і вырашыў не парушаць правіл этыкету. Грошы былі ягоныя, яны трапілі ў рукі чэсным шляхам. Фантазія намалявала перад зрокам Фазі сапраўдны рай! Ён быў на самым дне, ён быў галодным, змерзлым, апранутым у ашмоцце, у яго не было ні хаты, ні сяброў, ён заставаўся самотным вандраўнікам. Але зараз гэты вандраўнік трымаў ключы ад таго раю, па якім так сумаваў. Чароўная лялька памахала палачкай у набітай анучамі руцэ. Куды б ён ні пайшоў, замкі з мяккімі пуфікамі ды зіхатлівымі куфлямі з пераліўнай чароўнай вадкасцю для яго будуць адчынены.

Фазі рушыў да дзвярэй услед за Джэймсам.

Ён прыпыніўся, калі слуга адчыніў цяжкія дзверы з чырвонага дрэва, якія вялі ў вестыбюль.

За каванымі жалезнымі варотамі па цёмнай дарозе снавала банда Райлі. Яны нецярпліва пагладжвалі схаваную пад плашчамі зброю, якой наканавана было зрабіць бандзюкоў новымі ўладарамі ўзнагароды за анучную ляльку.

Фазі спыніўся перад дзвярыма Мільянера і задумаўся. Быццам новыя маленькія парасткі амялы на змярцвелым дрэве, разумныя думкі і свежыя ўспаміны пачалі завязвацца ў яго запаленых мазгах. Да таго ж ён быў даволі п'яны, і рэальнасць паступова ўвільвала. Вастралістыя вянкі ды гірлянды, пунсовыя ягады на іх, якія ўпрыгожваюць вялікую залу, — дзе ён раней мог усё гэта бачыць? Аднекуль яму былі знаёмыя і наглянцаваная падлога, і водар свежых кветак узімку, а ў доме хтосьці спяваў песню, якую, як яму здавалася, ён ужо чуў. Хтосьці спяваў і адначасова граў на арфе. Зразумела, былі Каляды — уявіце сябе, якім п'яным быў Фазі, каб не заўважыць гэтага.

Потым ён пакінуў межы нашай рэальнасці, і з глыбінь немагчымага, незваротнага мінулага, да яго звярнуўся невялічкі, няўлоўны, забыты прывід — дух абавязкаў становішча. Некаторыя рэчы джэнтльмены рабіць павінны.

Джэймс адчыніў уваходныя дзверы, і прамень святла ўпаў на сцежку, пасыпаную жвірам да жалезных варот. Чорны Райлі, МакКарці і Аднавухі Майк паграмжальна падступілі бліжэй.

З такім вялікасным жэстам, які гаспадару Джэймса нават і не сніўся, Фазі загадаў лакею зачыніць дзверы. Некаторыя рэчы джэнтльмены рабіць павінны. Асабліва на Каляды.

— Так з-заведзена, — запінаючыся, сказаў ён Джэймсу, — што джэнтльмен абавязкова павінен наведаць і павіншаваць даму са святам. Зразумеў? Я ні на крок не ссунуся з месца, пакуль не павіншую даму. Чуеш?

У доўгай спрэчцы прайграў Джэймс. Фазі падвысіў голас, які непрыемна разнёсся па ўсім доме. Я не сцвярджаю, што ён быў джэнтльменам. Ён быў усяго толькі валацугам, якога раптам наведаў асаблівы дух.

Празвінеў срэбны званочак. Джэймс пайшоў па загад і пакінуў Фазі ў холе. Бадзяга чуў, як лакей пачаў штосьці камусьці тлумачыць.

Праз некаторы час прыйшоў Джэймс і правёў Фазі да бібліятэкі.

У наступны момант увайшла жанчына. Сваёй прыгажосцю яна перасягнула ўсе карціны мастакоў, якія Фазі даводзілася бачыць. Яна ўсміхнулася і штосьці сказала пра ляльку, але ён нічога не зразумеў; бо на лялльку ўжо паспеў забыцца.

Лакей прынёс два маленькія куфлі віна на срэбным падносе. Адзін узяла жанчына, другі працягнулі Фазі.

Калі яго пальцы абвілі тонкую ножку куфля, на кароткае імгненне яго бездапаможнасць знікла. Ён выпрастаўся, і такі няўмольны да большасці з нас Час стаў на бок Фазі: вярнуўся назад.

Забытыя прывіды Каляд, бялейшыя за бароды самых напышлівых Санта-Клаусаў, луналі ў парах гроганскага віскі. Што такое асабняк Мільянера ў параўнанні з абітым дрэвам доўгім холам у Вірджыніі, дзе група мужчын згрудзілася вакол срэбнай місы з пуншам і па чарзе кажа старажытны радавы тост? І чаму павінен стук капытоў па заінелай вуліцы мець дачыненне да паляўнічых коней, якія тупаюць пад шатамі веранды? І наогул, пры чым тут Фазі?

Спагадная ўсмешка кабеты, якая глядзела на яго паўзверх куфля, згасла, як мімалётны світанак. У вачах з'явіліся сур'ёзныя іскры. За лахманамі і раслінасцю на твары хавалася штосьці, чаго яна не магла зразумець. Але гэта не мела ніякага значэння.

Фазі падняў куфаль і разгублена ўсміхнуўся.

— Прабачце, мадам, — сказаў ён, — але я не мог не павіншаваць гаспадыню са святам і пакінуць яе хату. Неяк не па-джэнтльменску выйшла б.

Потым ён пачаў прамаўляць даўняе вітанне, якое было модна тады, калі мужчыны пудрыліся і насілі карункі.

— Дабраслаўленне надыходзячага года… — памяць падвяла Фазі.

Жанчына падказала:

— Заўсёды прыбывай ля хатняга агменю.

— З госцем… — запнуўся Фазі.

— І з той, хто… — працягвала жанчына.

— Ай, хопіць, — рэзка перапыніў Фазі. — Не магу ўспомніць. Да дна.

Фазі сказаў сваё слова. Яны зрабілі па глытку. Жанчына зноў усміхнулася ўласцівай свайму грамадству ўсмешкай. Джэймс абняў Фазі і правёў яго да дзвярэй. Гукі арфы ўсё яшчэ разносіліся па доме.

На вуліцы Чорны Райлі дыхаў на свае змерзлыя рукі.

— Цікава, — задуменна прамовіла жанчына. — Што для іх памяць пасля таго, як яны апусціліся так нізка — праклён ці мілата?

Фазі ўжо амаль падышоў да варот, калі жанчына крыкнула: «Джэймс!»

Джэймс паслухмяна вярнуўся назад, пакінуўшы Фазі ў нерашучым чаканні. Агеньчык у ім ужо згас.

Чорны Райлі тупаў адубелымі нагамі і моцна сціснуў кавалак трубы.

— Праводзьце гэтага джэнтльмена да дзвярэй, — загадала дама. — Потым скажыце Луі адвезці яго туды, куды загадае.

## ПЯТАЕ КОЛА

Мароз прабіраў да костак, таму бяздомныя бліжэй прысунуліся адзін да аднаго. Яны былі адарваныя ад той плыні жыцця, што бурліла на скрыжаванні Пятай авеню і Брадвея. Людзі падскоквалі на адубелых нагах, глядзелі на пустыя лавы на Мэдзісан-сквер, адкуль іх высяліў спадар Мароз, і мармыталі сабе штосьці на розных мовах. Будынак у форме праса, з яго абуральнай для гарызонту архітэктурай, узвышаўся над імі і мог быць прыняты за Вавілонскую вежу, з якой Божы анёл зрынуў усіх тых гультаёў, што не жадалі вывучаць мовы.

Прапаведнік быў такі нізкі, што, стоячы на хваёвай скрыні, толькі на галаву ўзвышаўся над сваім статкам коз. Ён вяшчаў нясталаму і качэўнаму натоўпу ўсё, што нашэптваў яму паўночны вецер. На біржы працы можна было за пятнаццаць цэнтаў займець нават раба. А калі вы перадавалі яго ў абдымкі Марфея, на нябёсах гэта залічвалася за богаўгодную справу.

Прапаведнік быў нястомным і горача бараніў свае ідэі. Ён прагледзеў спіс спраў, якія можна зрабіць для бліжняга, і вырашыў, што будзе даваць начлег усім, хто прыходзіў па дапамогу да ягонай скрыні. Такім чынам, заставалася пяць дзён, і калі знойдуцца іншыя філантропы, то гэты грахоўны горад можа ператварыцца ў райскія спальныя пакоі, у якіх можна мірна пасопваць і забыцца пра плату за арэнду, ды і справы ўсе паслаць да чорта.

Зусім нядаўна прабіла восем гадзін; людзей было няшмат. Раз-пораз хто бянтэжачыся, хто нядбайна, хто напаказ, а хто са скрупулёзнай акуратнасцю кідаў дробныя купюры ці манеткі за блаславёны начлег. І тады лейтэнант, апрануты ў форму скандынаўскай арміі, ад якога ішла ўласцівая паўночнікам адданасць мэце, вёў групу вызваленых у адведзены ім пакой. Увесь час прапаведнік казаў сваю прамову, дзівосна пазбытую красамоўства, але выдатную ў сваёй нязграбнай манатоннай праўдзе. Перад тым, як мы пакінем гэтых няшчасных бадзяг, вы павінны пачуць адно цікавае выказванне прапаведніка, тое самае, якое стала асноўнай тэмай прамовы. Выказванне магло быць нанесена на белыя палотны і распаўсюджана па ўсім свеце.

«Ад віскі, купленага на пяць цэнтаў, ніхто яшчэ не стаў п'яніцам».

Падумай аб гэтым, п'янчуга. Гэтым поўніцца зямля ад залатой іржы да магілак для беднякоў.

Малады чалавек з вытачаным профілем ды прамой выпраўкай стаяў у заднім шэрагу бяздомных і, нібы чарапаха, хаваў непакрытую галаву ў каўнер пінжака. Цвідавы пінжак быў добрага крою, па штанах з роўнымі стрэлкамі, відаць, некалі прайшліся прасам. Але я павінен папярэдзіць якога-небудзь вучня мадысткі, які зараз чытае мой аповед і чакае гісторыю Рэджынальда Мантрэсора ў бядотным становішчы: можаце не працягваць. Юнак — не хто іншы, як Томас МакКвэйд, былы вазніца, якога месяц таму звольнілі за п'янства, і ён быў вымушаны далучыцца да шэрагаў мурзатых ахвотнікаў да начлегу.

Калі б вы жылі ў прыгарадзе Нью-Ёрка, вы б дакладна ведалі экіпаж сям'і Ван Сміт, які цягнулі два гнядыя кані, кожны важыў паўтары тысячы фунтаў. Па форме вазок нагадваў ванну. На заднім сядзенні — лэдзі Ван Сміт, трымаючы чорны парасон ад сонца памерам з калядны пёравы венік.

Перад тым, як пасці так нізка, Томас МакКвэйд упраўляўся з вансмітаўскімі гнядымі, а з ім самім упраўлялася Эні, вансмітаўская пакаёўка. Шкада, але занадта вузкія чаравікі, пустыя прылаўкі ці хворы зуб здольныя

з любога рамантыка на час зрабіць ерэтыка. А Томасу мала што не балела. Такім чынам, страта каханай пакаёўкі турбавала яго менш, чым уяўная прысутнасць нейкіх неверагодных істот, якія (у чым амаль што ўпэўнілі яго змардаваныя нервы) кішэлі ў паветры і мітусіліся, круціліся, поўзалі пад нагамі безлічы маркотных людзей, што шукалі прытулак на ноч. Калі ледзь не чатыры тыдні п'еш чысты віскі і ясі толькі сухары з варанай каўбасой ды салёнымі гуркамі, то пазбегнуць такіх псіха-заалагічных вынікаў немагчыма. Так яму, роспачнаму, скалеламу, сярдзітаму, апанаванаму прывідамі, патрэбна было, каб з ім пагаварылі і паспачувалі.

Справа ад Томаса ў чарзе стаяў хлопец, прыблізна яго аднагодак, у паношанай, але ахайнай вопратцы.

— А ў цябе што за дыягназ, Фрэдзі? — пацікавіўся ў яго Томас з развязнасцю, звычайнай паміж адрынутымі жыццём. — Ці не гарэлка? Бо гэта якраз пра мяне. Але ты нешта не падобны да сапраўднага галяка. Ды я таксама не з такіх. Яшчэ месяц таму падганяў лепшую запрэжку, якая імчалася ўніз па Пятай авеню так, што ажно вецер свістаў у вушах. Але паглядзі на мяне цяпер! Слухай, як жа цябе занесла на гэты нікчэмны распродаж ложка-месцаў?

Хлопец, відавочна, быў не супраць пагаварыць з балбатлівым былым вазніцам. Ён адказаў:

— Не, нельга сказаць, што я тут апынуўся, бо піў. Хіба што любоў мяне ап'яніла. Я ажаніўся няўдала, на погляд маёй няўмольнай сям'і. Цэлы год нідзе не працаваў, бо працаваць не навучыўся. Вельмі доўга лячыўся ў бальніцах. Жонка з дзіцём была вымушана вярнуцца да маці. З бальніцы мяне ўчора вытурылі. У кішэнях пуста. Вось і ўся мая сумная гісторыя.

— Але ж ты і нацярпеўся, — адказаў Томас. — Мужчына, калі ён адзін, усё можа адужаць. Але жанчын з дзецьмі шкада.

І тут па Пятай авеню прастракатала чырвоная машына. Ішла яна так плаўна і хутка, так бессаромна парушаючы правілы вулічнага руху, што нават абыякавыя да ўсяго начлежнікі паднялі галовы. Да левага боку машыны было прымацавана запаснае кола.

У тую хвіліну, калі машына параўнялася з чаргой, мацаванні на коле не вытрымалі, і яно ўпала на асфальт, падскочыла і пакацілася следам за імклівым аўтамабілем.

Томас МакКвэйд, прадчуваючы зручны момант, ірвануў са свайго месца сярод паствы. Ён мігам нагнаў кола, закінуў яго на плячо і шпарка прыпусціў услед за машынай. Людзі на тратуарах крычалі, свісталі і махалі палкамі, каб растаропнага Томаса заўважылі пасажыры.

А той падлічыў ужо, што долар — найменшае, чым можа аддзячыць такі салідны аўтамабіліст, бо сорамна будзе даць менш.

Праз два кварталы машына спынілася. Вёў яе нізенькі смуглы шафёр, захутаны з галавы да ног. Ззаду сядзеў паважны джэнтльмен у футравым паліто і цыліндры.

З лепшымі манерамі былога вазніцы Томас працягнуў выратаванае кола. Яго вока, тое, што было не такое чырвонае, блішчала, як блішчыць срэбная манета ці нават дзве, але можна, канешне, заплаціць і больш.

Але яго позірк быў інакш растлумачаны. Джэнтльмен у футравым паліто атрымаў пакрышку, паклаў яе ў машыну, пільна паглядзеў на былога вазніцу і прамармытаў сабе пад нос загадкавыя словы.

— Дзіўна, вельмі дзіўна! — сказаў ён. — Калі-нікалі нават я сам пачынаю верыць у тое, што з халдзейскага хіраскопа ёсць карысць. Ці гэта магчыма?

Затым ён звярнуўся з больш зразумелымі словамі да Томаса, які спадзяваўся і цярпліва чакаў:

— Спадар, дзякую за выратаванне маёй пакрышкі. Я, калі дазволіце, хацеў спытаць, ці ведаеце вы Ван Смітаў, што пражываюць каля парка на Вашынгтон Сквер?

— Так, — адказаў Томас, — не толькі ведаю, але і пражываў там таксама. Шкада толькі, што больш не пражываю.

Джэнтльмен у паліто адчыніў дзверы.

— Калі ласка, сядайце, — сказаў ён. — Вас ужо чакаюць.

Томас МакКвэйд, хоць і здзівіўся, але палез у машыну. Сядзець у машыне, здаецца, лепей, чым стаяць у чарзе. Яго накрылі коўдрай, аўтамабіль рушыў з месца, і тут ён прызадумаўся пра выключнасць запрашэння.

«Можа, у яго няма дробных грошай, — вырашыў Томас. — Амаль ніхто з гэтых фарсістых гультаёў не трымае паперкі ў кішэнях. Няйначай, як толькі дабярэцца да якой-небудзь канторы, дзе атрымае свае грошыкі, так і вышпурне мяне прэч. Але няма сумненняў, што на сёння дабрачыннае спанне пад зоркамі не для мяне».

Але і загадкавы аўтамабіліст, напэўна, дзесьці ў нетрах свайго паліто дзівіўся з праяў жыцця. «Цудоўна! Дзіўна! Неверагодна!» — бесперапынна паўтараў ён.

Калі машына ўжо значна паглыбілася ў раён Сямідзясятых вуліц, яны павярнулі на ўсход і, праехаўшы паўквартала, спыніліся перад адным з багатых асабнякоў, да дзвярэй якога вяла высокая лесвіца.

— Калі ласка, заходзьце, — сказаў джэнтльмен у футры, калі яны зноў адчулі зямлю пад нагамі.

«Ён раскашэліцца, як піць даць», — вырашыў Томас, пераступаючы парог.

Лямпы ў калідоры ледзь свяціліся. Гаспадар разам з Томасам прайшоў праз дзверы налева, зачыніў іх, і яны апынуліся ў цемры. Раптам незвычайна аздобленая сфера мякка зазззяла ўсярэдзіне вялізнага пакоя. Убранне падалося Томасу багацейшым за ўсё, што яму давялося бачыць і ў тэатры, і на малюнках у кніжках.

Сцены хаваліся за раскошнымі чырвонымі габеленамі, на якіх золатам былі вышыты фантастычныя фігуры. На другім канцы пакоя вісела заслона, цьмяна-залатая, шчыльна пакрытая срэбнымі месяцамі і зоркамі. Мэбля была каштоўная і незвычайная. У мягкіх дыванах ногі былога вазніцы танулі, як у глыбокіх гурбах. Таксама тут былі тры ці чатыры дзіўнай формы столікі ці падстаўкі, накрытыя чорным аксамітам.

Томас МакКвэйд адным вокам акінуў шыкоўнае ўбранне пакоя, а другім пашукаў свайго паважнага праваднíка — але той некуды знік.

— Вось табе і на, — здзіўлена прамармытаў Томас, — трапіў у лаўку з прывідамі. Як быццам пачынаюцца прыгоды з тых кніжак пра Алі-Бабу. Цікава, што сталася з тым пухнатым спадаром.

Раптам савінае чучала, уладкаванае на жэрдачцы каля зіхатлівай сферы, павольна прыўзняло крылы, і з вачэй яго хлынула яркае іскрыстае святло.

Ад страху вылаяўшыся, Томас схапіў бронзавую фігурку Гебы з шафы і, што было моцы, шпурнуў яе ў неверагоднае пудзіла. Сава з грукатам перакуліліся. Тут жа нешта пстрыкнула, і пакой заліло святлом тузіна матавых шароў, якія віселі ўздоўж сцен і пад столлю. Палавінкі залатой заслоны рассунуліся і вярнуліся на месца. Увайшоў загадкавы аўтамабіліст. Ён быў высокі, апрануты ў густоўна выбраны і ідэальна пашыты фрак, насіў бліскучыя залаціста-карычневыя вусы і бародку. Яго даволі доўгія кучаравыя

валасы былі роўна падзелены праборам. Позірк вялікіх міндалевідных вачэй завяршаў яго выразнае аблічча. Уявіце сабе рускага царэвіча, які выходзіць наперад, каб у троннай зале прывітаць заезджага імператара, і тады вы трохі зразумееце, якая велічнасць была ў паводзінах гэтага чалавека. Але Томас МакКвэйд быў занадта блізка да белай гарачкі, каб прыгадаць усё гэта. Выглянцаваны гаспадар нагадаў яму зубнога ўрача.

— Слухайце, док, — сказаў абурана Томас, — «добрую» ж птушку вы трымаеце пад бокам. Спадзяюся, я не звярнуў ёй шыю. Але ж можна з глузду з'ехаць, калі яна ўтаропліваецца гэтымі сваімі лямпачкамі. Вось і сам засвяціў ёй той маленькай жалезнай прыгажуняй, што стаяла на шафе.

— Гэта ўсяго толькі механічная цацка, — адмахнуўся джэнтльмен. — Сядайце, калі ласка, пакуль я растлумачу, чаму прывёў вас у свой дом. Магчыма, вы не зразумееце, ці вам не да спадобы будуць псіхалагічныя матывы маіх учынкаў. Спачатку адважуся яшчэ раз нагадаць пра тое, што вы прызналі знаёмства з сям'ёй Ван Смітаў, якія пражываюць каля парка на Вашынгтон Сквер.

— Знікла ў іх што са срэбра, га? — з'едліва спытаўся Томас. — Недалічыліся залатых пярсцёнкаў? Кане-е-ешне, я іх ведаю. Ці, можа, прапалі парасоны лэдзі? Ну, ведаю я іх. І што з гэтага?

Велічавы гаспадар ціхенька пацёр белыя рукі.

— Цудоўна, — прамармытаў ён, — цудоўна! Можа, і сам я пачну верыць у халдзейскі хіраскоп? Не сумнявайцеся, — працягваў ён ужо больш гучна, — вам нічога не пагражае. Наадварот, здаецца мне, вас абавязкова чакае вялікі поспех. Паглядзім.

— Яны хочуць мяне вярнуць? — спытаў Томас, і штосьці накшталт былога прафесійнага гонару з'явілася ў яго голасе. — Я тады паабяцаю, што выпраўлюся, і што больш аніякай гарэлкі, калі толькі яны дадуць мне яшчэ адзін шанец. Але як вы дазналіся, док? Далібог, ніколі не бачыў такога шыкоўнага агенцтва па найме, ды яшчэ з бліскучымі совамі, і наогул, чаго тут толькі няма.

З далікатнай усмешкай гаспадар папрасіў прабачэння і выйшаў. Ён накіраваўся на вуліцу і загадаў нешта шафёру, які яшчэ чакаў у машыне. Затым ён вярнуўся ў загадкавы пакой, прысеў побач з госцем і пачаў забаўляць яго такой дасціпнай размовай, што небарака Томас часткова забыўся на холад вуліц, адкуль яго не так даўно вельмі дзіўна выратавалі. Слуга прынес крыху халоднай дзічыны, печыва да чаю і келіх цудоўнага віна. Томас адчуў, як яго ахутвае магія арабскіх казак. Так праляцелі паўгадзіны, а затым гучна прасігналіў аўтамабіль. Гэта прымусіла гаспадара раптоўна ўстаць і зноў далікатна прасіць прабачэння за тое, што яму даводзіцца пакінуць госця яшчэ на хвілінку.

Праз парадныя дзверы ўвайшлі дзве ўхутаныя дамы, якіх гаспадар ветліва правёў праз калідор налева ў іншы пакойчык, аддзелены ад большага пакоя шчыльнай заслонай. Гэты пакойчык быў абстаўлены з большым густам, чым той. На інкруставаным золатам століку з ружовага дрэва былі раскіданы лісты белай паперы і стаяў на маленькіх колцах трохвугольны прыбор ці цацка, відавочна залаты.

Вышэйшая жанчына адкінула чорны вэлюм і расшпіліла паліто. Ёй было гадоў пяцьдзясят, а твар пакрыты зморшчынамі. Другая, маладая і поўная, прысела на стул трохі наводдаль, як зрабіла б на яе месцы служка ці кампаньёнка.

— Вы пасылалі па мяне, прафесар Чэрабаска, — сказала старэйшая жанчына стомлена. — Спадзяюся, вы паведаміце мне штосьці істотнае, а не як

звычайна. Я ўжо амаль зняверылася ў вашым мастацтве. І зусім не прыехала да вас сёння, калі б мая сястра не настаяла на гэтай сустрэчы.

— Мадам, — адказаў ёй прафесар з чароўнай усмешкай, — сапраўднае Мастацтва не можа памыліцца. Іншым разам, каб знайсці сапраўдны звышадчувальны канал, патрэбны час. Так, гэта праўда, што ні карты, ні магічны крышталь, ні гаданне па зорках, ні формула Сарацына, ні аракул По, нам не дапамаглі. Але нарэшце мы знайшлі сапраўдны звышадчувальны канал. У нашых пошуках нам садзейнічаў халдзейскі хіраскоп.

Голас прафесара звінеў, адчувалася, што гаспадар і сам верыць сваім словам. Старэйшая жанчына зірнула на яго больш зацікаўлена.

— Але словы, якія хіраскоп напісаў, калі я дакранулася да яго, не мелі сэнсу, — прамовіла яна. — Пра што вы гаворыце?

— Словы былі такія, — сказаў прафесар Чэрабаска і выпраміўся ва ўвесь свой значны рост. — «І прыйдзе ён у калясніцы а пятым коле».

— Я няшмат бачыла калясніц, — адказала яму жанчына, — але ніводнай з пяццю коламі.

— Прагрэс, — сказаў прафесар, — уся справа ў развіцці навукі і тэхнікі. Хоць у нашым выпадку цудоўным дасягненнем прагрэсу стала ўсяго толькі запаснае кола. Але і патаемнае мастацтва таксама не стаяла на месцы. Мадам, я паўтараю, што халдзейскі хіраскоп нам дапамог. Я магу не толькі даць адказ на пытанне, якое было вамі пастаўлена, але і прад'явіць рэчавы доказ.

Цяпер праз недаверлівы спакой жанчыны прабілася сумненне.

— Ах, прафесар! — расхвалявалася яна. — Дзе? Калі? Ён знайшоўся? Не мучайце мяне.

— Я папрасіў бы даць мне некалькі хвілін, — сказаў прафесар Чэрабаска, — і я думаю, што змог бы прадэманстраваць вам эфектыўнасць сапраўднага мастацтва.

Томас задаволена жаваў апошнія драбкі хлеба, калі ля яго нечакана з'явіўся чараўнік.

— Ці гатовы вы вярнуцца ў свой стары дом, калі будзеце ўпэўнены ў прыёме і вяртанні павагі? — спытаў ён з ветлівай усмешкай.

— Я што вар'ят? — адказаў Томас. — Хопіць з мяне гэтага пешага жыцця. Але ці возьмуць яны мяне? Старая пані ўпартая.

— Хлопча мой, — быў адказ, — яна паўсюль шукае вас.

— Выдатна! — усклікнуў Томас. — Месца маё. Іхнія драмадзёры, якіх яны называюць конямі, псуюць такога першакласнага фурмана як я, але я, вядома, вярнуся да іх, док. Яны неблагія людзі.

А цяпер надышоў час для перамен з пачцівай асобай Багдадскага халіфа. Ён востра і падазронна паглядзеў на былога фурмана.

— Ці магу я даведацца ваша імя? — запытаў ён.

— Вы шукалі мяне, — сказаў Томас, — але не ведаеце майго імя? А вы той яшчэ шпік, верагодна, з цэнтральнага бюро. Я, Томас МакКвэйд, быў шафёрам у Ван Смітаў на працягу года. Мяне звольнілі месяц таму… Ну, док, вы бычылі, што я зрабіў з вашай старой савой… Я ўшчэнт усё прапіў, а калі ўбачыў, як ваша кола ўпала, я стаяў у чарзе з валацугамі ля помніка Уорту ў чаканні вольнага ложка.

На яго здзіўленне, Томас адчуў, што яго паднялі за каўнер і без тлумачэнняў пацягнулі да выхада. Дзверы былі адчынены, і яго гвалтам скінулі ўніз па прыступках з дапамогай адной з халіфскіх туфляў.

Як толькі былы фурман падняўся на ногі і сабраўся з думкамі, ён з усіх ног пабег назад на Брадвей.

— Во вар'ят, — была яго адзнака таямнічаму аўтамабілісту. — Ён жа проста хацеў павесяліцца. А мог бы і адкапаць які долар. Цяпер трэба спяшацца да той хеўры паляўнічых на ложкі.

Калі Томас скончыў свой шпацыр, ён выявіў, што шэрагі бяздомных падзяліліся на групы па восем-дзесяць чалавек. Ён заняў месца ў левай частцы. Перад ім апынуўся той малады чалавек, які распавядаў пра шпіталь, жонку і дзіця.

— Шкада бачыць вас зноў тут, — звярнуўся да яго малады чалавек. — Я спадзяваўся, вы знойдзеце нешта лепшае.

— Я? О, я проста прабегся па квартале каб сагрэцца, — адказаў Томас. — А грамадскасць, гляджу, не вельмі спяшаецца сёння з богаўгоднай справай.

— І ў такое надвор'е, — адказаў малады чалавек, — дабрачыннасць і пачынаецца, і канчаецца дома.

А прапаведнік і яго памочнікі ў гэты час зацягнулі апошні гімн Наканаванню і людзям. Тыя з ахвочых на ложкі, хто быў яшчэ годнай для чалавека тэмпературы, далучыліся да іх.

У сярэдзіне другога куплета Томас пабачыў дзяўчыну, якая накіроўвалася да яго з процілеглага боку дарогі.

— Эні! — закрычаў ён і пабег да яе.

— Дурань ты, дурань! — усклікнула яна, кінуўшыся яму на шыю. — Навошта ты гэта зрабіў?

— Ты ж ведаеш, *беленькая*, — патлумачыў Томас. — Але больш ні кроплі, — ён адвёў яе да абочыны. — Як ты заўважыла мяне?

— Я прыйшла, каб знайсці цябе, — адказала Эні, моцна трымаючы яго за рукаў. — Ты такі дурань! Прафесар Чэрабаска сказаў, што мы знойдзем цябе тут.

— Прафесар Чэ… Не ведаю гэтага хлопца. У якім бары ён працуе?

— Ён празорца, Томас, самы вялікі ў Свеце. Ён знайшоў цябе з дапамогай халдзейскага хіраскопа.

— Ён хлус, — сказаў Томас. — У мяне яго ніколі не было. І ён ніколі мяне не бачыў раней.

— І яшчэ ён сказаў, што ты прыйшоў у калясніцы з пяццю коламі… Ці неяк так.

— Эні, — сказаў Томас клапатліва. — Калі б у мяне была калясніца, я б даўно пайшоў у яе спаць. Ды без спеваў, пропаведзі і начнога каўпака.

— Ды паслухай, дурань. Місіс кажа, што возьме цябе назад. Я маліла яе. Але ты мусіш добра паводзіць сябе. І тады можаш сёння ж пайсці дадому, твой стары пакой на стайні гатовы.

— Выдатна! — усклікнуў Томас. — Ты лепшая, Эні. Але калі гэта ўсё здарылася?

— Сёння ў прафесара Чэрабаска. Ён паслаў аўтамабіль за Місіс, а яна ўзяла мяне з сабой. Я і раней там бывала.

— А што ён за прафесар?

— Ён празорца і чараўнік. Місіс раіцца з ім. Ён ведае ўсё на свеце. Праўда, ён пакуль не зрабіў для Місіс амаль нічога, не гледзячы на сотні долараў, што яна плаціць яму. Але зоркі падказалі яму, што мы можам знайсці вас тут.

— А што бабуля хоча ад гэтага Чарапуза?

— Гэта сямейная таямніца, — сказала Эні. — Але хопіць з цябе пытанняў. Хадзем дадому, дурань.

Яны прайшліся трохі ўверх па вуліцы, калі Томас спыніўся.

— Ці маеш ты якіх грошай з сабою, Эні?

Яна пільна паглядзела на яго.

— О, я ведаю, што значыць гэты погляд, — сказаў Томас. — Ты памыляешся. Нічога такога. Але там быў хлопец, ён стаяў за мной у чарзе. Ён добры малы, але хворы. Ніякай выпіўкі. Калі б ты адшукала паўдолара для яго, ён мог бы атрымаць годны ложак. А я хацеў бы гэтага.

Эніны пальцы пачалі варушыцца ў гаманцы.

— Вядома, я маю грошы, — сказала яна. — Шмат — дванаццаць долараў, — а пасля з жаночай падазроннасцю да добразычлівасці за чужы рахунак, дадала: — Прывядзі яго сюды і дазволь спачатку глянуць.

Томас пайшоў выконваць загад. Бледны хлопец даволі лёгка згадзіўся выйсці. Калі двое наблізіліся, Эні зірнула на іх і закрычала:

— Містар Уолтэр! О, містар Уолтэр!

— Гэта ты, Эні? — спытаўся малады чалавек.

— О, містар Уолтэр! Дзе Місіс вас толькі не шукала!

— Маці хоча мяне бачыць? — спытаўся ён і яго бледныя шчокі паружавелі.

— Яна паўсюль шукае вас. Вядома, хоча вас бачыць. Яна хоча, каб вы вярнуліся дадому. Яна звярталася ўжо і ў паліцыю, і ў моргі, і да адвакатаў, давала аб'явы і абяцала ўзнагароду… Нават пайшла да празорцы. Вы пойдзеце зараз дадому, Містар Уолтэр?

— З задавальненнем, калі яна хоча бачыць мяне, — сказаў хлопец. — Тры гады — доўгі перыяд. Але мне давядзецца прайсціся пешшу, калі толькі трамваі не падвязуць мяне бясплатна. Раней я абганяў коней, якіх мы запрагалі ў вазок. А ці жывыя яны зараз?

— Жывыя-жывыя! — з пачуццём адказаў Томас. — І будуць такімі яшчэ гадоў дзесяць. Я фурман. Пяць хвілін таму атрымаў сваю пасаду наноў. Едзем усе на трамваі, калі Эні аплоціць праезд.

У трамваі дзяўчына выдала кожнаму з марнатраўцаў па пятаку на квіток.

— Мне здаецца, ты дарэмна марнуеш столькі грошай, — саркастычна сказаў Томас.

— У гэтым гаманцы, — рашуча сказала Эні, — роўна 11.85$. Я вазьму кожны цэнт і адвязу заўтра прафесару Чэрабаска — найвялікшаму чалавеку ў свеце.

— Ну, — сказаў Томас, — мусіць, ён неблагі хлопец, калі робіць такое. Я рады, што яго шпіёны сказалі, дзе можна знайсці мяне. Калі ты дасі яго адрас, я б заехаў паціснуць яму руку.

Томас уладкаваўся на трамвайным сядзенні і задуменна паглядзеў на ранкі на калене ды лакцях.

— Слухай, Эні, — задуменна сказаў ён, — мабыць гэта вінная пары, але мне здаецца, я прыгадваю паездку на аўтамабілі з нейкім тыпам, які прывёз мяне ў дом, поўны арлоў ды электрычнасці, накарміў печывам, а пасля спусціў з лесвіцы.

— Замоўкні, дурань, — сказала Эні.

— Калі б я ведаў, дзе жыве гэты жартаўнік, — сказаў Томас, — я б неяк заехаў набіць яму твар.

***Пераклад з англійскай: Ганна ГАВОРСКАЯ, Ганна КАСТУНОВА, Елізавета ВАСІЛЕВІЧ, Мацей БЕНЬКО, Дар'я СТАНЦЭЛЬ, Марына ЯНГІРАВА, Любоў КІСЕЛЬ, Іаанна ВЛАДЫКА.***

***Падрыхтоўка да друку Вольгі МАРОЗАВАЙ, Кацярыны ГОЛУБ***

*Руслан КАЗЛОЎСКІ*

# ДА СКОНУ ДЗЁН НАД РОДНЫМ КРАЕМ ДУША НЕ СТОМІЦЦА ЛУНАЦЬ...

Музычны педагог па адукацыі і дзейнасці, чалавек чуйнай душы, Людміла Кебіч тонка ловіць павевы часу, успрымае адмоўныя і станоўчыя бакі жыцця, каханне і здраду, дабро і зло, глядзіць на свет эмацыйнымі вачыма паэткі, якая ўспрымае рэчаіснасць у фарбах, гуках і рытмах.

Людміла Кебіч спрабавала сябе ў розных жанрах: пісала лірычныя вершы, санеты, паэмы, не абыходзіла ўвагай прозу. Вынікам сталі зборнікі беларускамоўнай паэзіі «Па музычных законах» (1996), «Зялёная рутвіца» (2001), «На беразе белай ракі» (2003), «Ключы ад неба» (2005), «Непераможны колер охры» (2008), кніга паэзіі і аўтабіяграфічнай прозы на беларускай і рускай мовах «Фіялетавы дракоша» (2007), аповесці «До, рэ, мі, фа, соль, ля, сі...», «Дамінанты лёсу» (2014) і іншыя. Яе паэмы і вершы малююць панараму душэўнага жыцця лірычнай гераіні, у многім тоеснай аўтару. Гэты вобраз — багаты, шматгранны — праходзіць пэўную эвалюцыю ад «проста жанчыны», маці, грамадзянкі да філосафа, патрыёта, чалавека высокай маралі і моцы духу.

Для паэзіі Людмілы Кебіч характэрна выяўленне эмацыйных уражанняў, эстэтычна афарбаваных роздумаў, пазарацыянальных адчуванняў і памкненняў. Хаця ў некаторых вершах і заўважаюцца элементы падзейнага раду, але без дэталізацыі. Сістэма мастацка-выяўленчых сродкаў скіравана на раскрыццё цэльнай асобы лірычнага героя (гераіні), рухаў чалавечай душы. Ствараецца адзіная філасофская канцэпцыя творчасці, ідэйна-сэнсавымі дамінантамі якой з'яўляюцца вечныя праблемы і тэмы: сэнсу чалавечага існавання, жыцця і смерці, любові і нянавісці, суадносін духоўнага і цялеснага, боскага і людскога.

Многія зямныя рэчы, справы, падзеі, учынкі вымяраюцца ў творчасці паэткі катэгорыямі хрысціянскага светапогляду і маралі. Назіраецца супрацьстаянне святла і цемры, высокага і нізкага, святога і грэшнага (вершы «Еўфрасіння», «Шукайце Бога», «Пакінь любоў» і інш.). У творах нярэдка выкарыстоўваецца паэтыка малітвы, напрыклад, са зваротам да Маці Божай альбо да Бога, з просьбамі аб заступніцтве, адпаведна ўжываюцца дзеясловы загаднага ладу. Лірычны герой выступае як рахманы просьбіт, згодны з воляй вышэйшых сіл (вершы «Заступіся», «Маці Божая!..» і інш.).

Большасць вершаў на рэлігійную тэматыку была змешчана ў зборніку «Ключы ад неба» (2005). Канцэпцыя кнігі грунтуецца вакол трох узаемазвязаных філасафем: неба — шлях выратавання — чалавек. Кожная напаўняецца зместава-ёмістымі паняццямі Бога, святых, анёлаў, хрысціянскіх свят, душэўных якасцей чалавека і яго ўчынкаў. Усё гэта абрамляецца паняццем веры, якая рухае надзею на выратаванне.

Няхай зласловяць —
свет распусны,
а вы не верце,
у надзеі, веры і любові
трымайце сэрца [2, с. 48].

У разуменні лірычнай гераіні «чыстая» душа павінна «зіхцець», яна «прамяністая», свеціцца «ўсмешкаю гаючай». Але душа можа плакаць перад адчуваннем «пякельнай цемры вечнай» (вершы «Душа», «Плач душы»). Супрацьпастаўляюцца душа і цела, «патрэбы сваёй плоці», задавальненне якіх не дае «збавення».

Божа мілы! Адамкні нам,
грэшным, вушы,
каб маглі пачуць, як плачуць
нашы душы [2, с. 43].

Рэлігійныя па характары вершы сталі мастацкім асваеннем станаў свядомасці,

рэлігійныя пачуцці ў іх звязваюцца з фактамі біяграфіі, учынкамі, гісторыяй, сучаснасцю. Біблейскія матывы ў лірыцы Людмілы Кебіч вельмі «настойлівыя», адлюстроўваюць роздумы аб існасці, аб вышэйшых сілах, узаемадачыненнях з Богам. Зборнік «Ключы ад неба» сцвярджае ўсё пазітыўна значнае, усё тое, што валодае духоўнай каштоўнасцю і эстэтычнай важкасцю. Тут няма характэрнага для традыцыйнай хрысціянскай літаратуры скептыцызму ў дачыненні да чалавецтва, яго татальнай грэшнасці, няма светаадчужэння. Перад чытачом разгортваецца дыялог аб прыгожым, узвышаным. Лірычная гераіня раскрывае свае жыццёвыя каштоўнасці і ідэалы.

У згодзе жыць з Прыродаю і з Богам —
Вось наш адзіны шлях выратавання [2, с. 45].

Рэфлексійнасць, спавядальнасць маналогаў спрыяе найбольш поўнай перадачы ідэйнага зместу, філасофскіх уяўленняў паэткі, яе ўласнай жыццёвай пазіцыі. Медытатыўны пачатак надае роздумам псіхалагічнае напружанне і багаты асацыятыўны падтэкст. Вузкаасабістае шчыльна звязана з агульначалавечым, мікракосм героя з'яўляецца часткай макракосму чалавецтва. Жыццё ў творах не паказваецца ідылічным, ціхамірным — як ва ўнутраным плане, характарным, так і ў вонкавым, у сувязях з грамадствам, яно неспакойнае, патрабуе пачуццёвай напружанасці і актыўнасці.

Лірычная гераіня паэтычных твораў розных гадоў — гэта жанчына, якая нарадзілася і жыве на беларускай зямлі, патрыётка, для якой характэрны пэўны тып свядомасці і рэагавання, што дыктуецца нацыянальным светапоглядам. Малая радзіма асацыюецца з «астуджаным парогам» бацькоўскай хаты, «дзе так любіў сядзець мой тата», з вішнямі і малінамі ў садзе, з успамінамі аб дзяцінстве (верш «Адна з дарог»). Гэта таксама вобразы-пейзажы, поўныя моўнай экспрэсіі, нечаканага ўжывання мастацкіх тропаў (параўнанняў):

Там азерца, нібыта люстэрка,
на ім лебедзяў белым-бела,
быццам з неба не ў час зляцела
разняволеная завейка [3, с. 102].

**У разуменні лірычнай гераіні «чыстая» душа павінна «зіхцець», яна «прамяністая», свеціцца «ўсмешкаю гаючай». Але душа можа плакаць перад адчуваннем «пякельнай цемры вечнай»**

Асобная ўвага надаецца гораду Гродна (вершы «Зімовая вандроўка», «Прывакзальная плошча», «Песні над Нёманам», «Па зімовым горадзе» і інш.), гераічным старонкам яго гісторыі, знакамітым імёнам («Балада пра Давыда Гарадзенскага»).

«Сучаснасць» пісьменніцы выяўляецца ва ўменні ўхапіць пафас гістарычнага моманту яе жыцця, памкненняў сучаснікаў, іх мар і перажыванняў. Сэнсаваапорная фраза, радок могуць шматкроць паўтарацца, што дапамагае чытачу не толькі настроіцца на лад верша, але і спасцігнуць грамадзянскую пазіцыю аўтара («Не засынай, мой любы Край…» у вершы «Не засынай» і інш.). Лексічная і сінтаксічная анафары — распаўсюджаныя прыёмы ў паэзіі Людмілы Кебіч — нярэдка ўжываюцца ва ўсіх строфах вершаванага тэксту. Найбольшы мастацкі эфект яны маюць у грамадзянскай лірыцы, багатай на асацыятыўны змест, які закранае надзённыя праблемы сучаснага грамадскага жыцця, раскрывае пісьменніцкі клопат аб лёсе і шчасці свайго народа:

*Скажыце мне, што* Беларусь не згіне
ад войнаў, ад пажараў, ад вады…
І я спакойна гэты свет пакіну,
заплюшчу ціха вочы назаўжды.
*Скажыце мне, што* мову не забудзе
мой сын, унук, а потым праўнук мой,
і лёгка гэтак у надхмар'і будзе
мне назаўсёды сцішыць голас свой [3, с. 25].

У творчасці Людмілы Кебіч выразна адчуваюцца менталітэт часу і месца стварэння вершаў, побытавыя і пэўныя гістарычныя абставіны. Як зазначае даследчык В. Халізеў, «культурна-гістарычны аспект тэматыкі мастацкіх твораў у многім вызначае іх цэласнае аблічча, фармальную арга-

нізацыю, структуру, а таму варты самага пільнага літаратуразнаўчага разгляду» [5, с. 48]. У паэзіі ўніверсальнай дамінантай становіцца менталітэт і характар лірычнага героя, асобы незвычайнай і чуйнай, якая не можа быць абыякавай да ладу навакольнага жыцця, да рэчаіснасці. Вобраз лірычнага героя паўстае шматпланавым і ва ўзаемасувязі ўсіх сваіх рыс, свет яго падаецца як індывідуальна асобасны. Сапраўдны паэт духоўна едны з існасцю і ў той жа час незалежны ад псіхалагічных і сацыяльных установак агульнай шэрай масы. Чалавек жыве ў нейкім урэгуляваным свеце, яго станаўленне ідзе на працягу ўсяго жыцця, яно бясконцае. Калі ў гэтым урэгуляваным свеце не ўсё лагічна, правільна, ёсць недахопы і перакосы — чуйная паэтычная душа імгненна рэагуе вершам. Калі навакольны свет няўтульны, «злосны», то паэзія становіцца формай своеасаблівай унутранай эміграцыі, уцёкаў з рэчаіснасці. Сюды шчыльна далучаецца дамінанта трагізму асабістага жыцця. Сувязі разнастайных кампанентаў творчасці з асобай аўтаркі, яе лёсам праяўляюцца ў зместавым і фармальным плане творчасці. Аўтар у творы і рэальны аўтар (Л. Кебіч) у многім тоесныя, хаця ў паэзіі раскрываюцца тыя гранкі, якія ў паўсядзённым жыцці прыхаваны. Драма асабістага жыцця ў вершаваных радках нярэдка набывае трагічныя матывы:

Аказваецца, некаханай
на белым свеце я жыла,
звычайным восеньскім туманам
па лёсе любага прайшла.
Аказваецца, то не сэрца
ў халодных ёкала грудзях,
а віла ніткі верацёнца
на чорны кужаль — здрады жах [3, с. 46].

Асабістая драма змяняе колеры сусвету лірычнай гераіні, успрыманне побытавых рэчаў, прадметаў, роднага горада, навакольнай прыроды — фактычна ўсяго. Мастацкая

**Калі навакольны свет няўтульны, «злосны», то паэзія становіцца формай своеасаблівай унутранай эміграцыі, уцёкаў з рэчаіснасці**

тканіна вершаў насычана су- і супрацьпастаўленнямі, кантраснымі паводле эстэтычнай афарбоўкі эпітэтамі, параўнаннямі і іншымі мастацкімі тропамі.

Ну чаму так Бог не роўна дзеліць:
зверху — мёд, а знізу — бруд і золь?
Паўжыцця каханне голаў хмеліць,
Паўжыцця — расчараванняў боль [3, с. 79].

Пры пабудове мастацкага вобраза паэтка нярэдка выкарыстоўвае прыём мантажу з'яў розных (радзей аднаго) эстэтычных узроўняў, калі высокае супастаўляецца з нізкім, станоўчае з адмоўным, прыгожае з пачварным і г.д. Дадзены прыём эфектыўны ў паэтаў з багатай колеравай, эмацыйна-пачуццёвай палітрай і шырокім эстэтычным полем мастацкай творчасці. У выніку мантажу высокае становіцца нізкім, прыгожае пачварным і г.д. (альбо наадварот), а прадметы, з'явы, рэчы набываюць незвычайнае адценне, паварочваюцца да чытача альбо слухача новым бокам. Напрыклад, у радку «задрыжалі срэбрам струны…» (верш «Луна») «струны» — слова сярэдняга эстэтычнага ўзроўню, дастаткова звычайная рэч, «срэбра» — высокага эстэтычнага ўзроўню, нешта каштоўнае. У выніку збліжэння і мантажу слова «струны», ужо і як крыніца мастацкай творчасці, каштоўнае, пераходзіць на высокі ўзровень, эстэтызуецца. У вершы пра прыгожы твар і гнуткае цела індыянкі-танцоркі Луны на высокі ўзровень узводзяцца стан і вусны:

Стан, падобны кіпарысу,
і вільготны жэмчуг вуснаў…[3, с. 68]

Моцны ўплыў на паэзію Людмілы Кебіч аказаў такі фактар, як наяўнасць музычнай адукацыі і праца ў каледжы мастацтваў. Вершы быццам прасякнуты мелодыяй, лёгка кладуцца на музыку, у некаторых прагладаюцца асаблівасці беларускай фальклорнай лірыкі. У паэтычных творах сярод вобразаў сустракаюцца музычныя інструменты, ужываецца музычная тэрміналогія. Нярэдка такое ўжыванне настолькі нечаканае, незвычайнае, што ствараецца ўражанне казачнасці, у іншых выпадках такім спосабам значна эмацыянальней могуць перадавацца пачуцці і настроі.

Заскуголіла ноч
адзінотаю,
*контрактаўнаю*
*нізкаю нотаю*,
пахіснуўшы душу
*абертонамі*,
ёй да гэтай пары
невядомымі [3, с. 70].

Як зазначае даследчык А. Пяткевіч: «Вершы яе (Л. Кебіч. — **Р. К.**), многія з якіх пакладзены на музыку, зарыентаваны на народна-песенныя традыцыі. Пры гэтым застаюцца па-мастацку свежымі, эмацыянальна змястоўнымі» [4, с. 92].

Хаця гэта думка датычыцца не толькі вершаў, але і вялікіх ліра-эпічных твораў, з якіх асобнае месца належыць паэме «Запалі лучыну, маці», прысвечанай Цётцы (Алаізе Пашкевіч). Аўтарка ў паэтычнай форме паказвае станаўленне ідэйных поглядаў знакамітай паэткі, яе народна-дэмакратычных уяўленняў, нацыянальнага светапогляду. Людміла Кебіч па-майстэрску прасочвае традыцыю, папярэднікаў, ад каго Цётка вучылася творчаму рамяству:

Я на скрыпачцы зайграю —
Хтось жалейку скруціць,
Нехта ўспомніць — ліру мае,
Дудку знойдзе ў куце [3, с.116].

Францішак Багушэвіч у прадмове да другога свайго зборніка «Смык беларускі» (1894) яшчэ ў пазамінулым стагоддзі зазначыў: «Смык ёсць, а хтось скрыпку, можа, даробе, а там была “Дудка” — вот мы і зробім музыку…» [1, с. 65] Вядома, што зборнік паэзіі Цёткі называўся «Скрыпка беларуская» (1906), а першы зборнік паэзіі Янкі Купалы «Жалейка» (1908).

Асэнсаванне творчасці Алаізы Пашкевіч адбываецца пасродкам маналогаў і дыялогаў гераіні, у якіх выяўляецца яе грамадзянская пазіцыя, светапогляд, рысы жанчыныбарацьбіта за свабоду беларускага народу:

Мы жывём, нібы ў астрозе,
Вочы цямней ночы,
Толькі розум, ён цвярозы
І цямнець не хоча [3, с. 115].

Аўтарка паэмы ў многім аднадумца Цёткі («Мы падхапілі тваю песню…»), пазіцыі паэтак супадаюць («Мы не замёрлі для грамадства…»), шчасце свайго народа — найвышэйшая вартасць, за якую неабходна змагацца. Пісьменнікі нясуць адказнасць у творах за сябе, будучыя пакаленні, традыцыі, якія будуць перададзены нашчадкам. І гэтая адказнасць праглядаецца ў творчасці Людмілы Кебіч.

**«Струны» — слова сярэдняга эстэтычнага ўзроўню, дастаткова звычайная рэч, «срэбра» — высокага эстэтычнага ўзроўню, нешта каштоўнае**

Асобная старонка — дзіцячыя творы. Зборнік паэзіі і прозы «Фіялетавы дракоша» (2007) быў прысвечаны ўнукам Аляксею і Валянціне. Вершы, абразкі і мініяцюры litrознабакова паказваюць радасці і праблемы малечы. Героі вершаў — Зорачка, Маладзік, Ветрык, Хмарка, Лядзяк. Алегорыі — вельмі трапныя, лёгка ўспрымаюцца, бачны дакладны разлік на дзіцячую аўдыторыю.

Творчасць Л. Кебіч — яскравая старонка сучаснага літаратурнага жыцця Гродзеншчыны.

## СПІС ВЫКАРЫСТАНЫХ КРЫНІЦ

1. Багушэвіч, Ф. Творы: вершы, паэма, апавяданні, артыкулы, лісты / Ф. Багушэвіч. — Мн., 1991. — 309 с.

2. Кебіч, Л. Ключы ад неба: вершы / Л. Кебіч. — Мн., 2005. — 80 с.

3. Кебіч, Л. Непераможны колер охры: вершы і паэмы / Л. Кебіч. — Мн., 2008. — 128 с.

4. Пяткевіч, А. Літаратурныя постаці на турыстычных маршрутах Гродна (XIX—XX стст.) / А. Пяткевіч // Румлёўскія старонкі: Турыстычны патэнцыял нацыянальнай культурна-гістарычнай спадчыны Панямоння: матэрыялы III адкрытай рэгіян. навук.-практ. канф. па праблемах рэгіяналістыкі і краязнаўства «Румлёўскія чытанні» (Гродна, 19 лютага 2009 г.) / ГрДУ імя Я. Купалы; редкал.: Швед В. В. [і інш.]. — Гродна, 2010. — 176 с.

5. Хализев, В. Теория литературы / В. Хализев. — М., 1999. — 398 с.

*Арцём КАВАЛЕЎСКІ*
*maladost@zviazda.by*

# КАЛЕЙДАСКОПНА-ВІТРАЖНАЯ ПРОЗА ЗМІЦЕРА БАЯРОВІЧА




У маім дзяцінстве — гадоў дваццаць—дваццаць пяць таму, калі камп'ютарныя тэхналогіі ледзь набіралі моц, а паняцце віртуальнай рэальнасці падавалася адно толькі экстравагантнай выдумкай футуролагаў ды пісьменнікаў-фантастаў, цацкі былі вельмі простымі. Але побач з імі, а дакладней, разам з імі зусім не было сумна: наадварот, усе гэтыя завадныя машынкі, канструктары, электрычная чыгунка, лато і шмат што яшчэ з немудрагелістага дзіцячага «інвентару» давалі такі неверагодны выхад фантазіі малёнка, што ягоны свет быў не проста насычаны, але нават перанасычаны імкненнем ствараць сваё «сур'ёзнае» жыццё, схаванае ад пільных вачэй дарослых.

І была сярод дзіцячага скарбу адна на першы погляд вельмі простая, але разам з тым геніяльная рэч. Прыбор нават — калейдаскоп, зірнуўшы ў маленькі акуляр якога можна было бясконца разглядаць выкшталцоныя markрознакаляровыя кампазіцыі, створаныя ўнікальным спалучэннем дробных шкельцаў-аскепкаў. Гэтая забаўка і сёння зачароўвае, застаецца адной з самых улюбёных у аматараў не рукатворнай, а выпадковай і таямнічай прыгажосці.

Думаю, мае рацыю той, хто лічыць, што пісьменнікі на працягу ўсяго свайго жыцця застаюцца дзецьмі. У дадзеным меркаванні «дзіцячасць» не мае нічога супольнага з паняццем інфантылізму. Проста стаецца так, што пасталеўшы аднойчы, літаратар ніколі не страчвае здольнасці здзіўляцца кожнаму новаму эпізоду жыцця, які для іншых падаецца звычайным фрагментам шэрай паўсядзённасці. Кожны пісьменнік глядзіць на свет праз акуляр свайго чароўнага калейдаскопа, у якім рознакаляровыя шкельцы-аскепкі — гэта мінуты, гадзіны, дні і гады, што ствараюць непаўторнае вязьмо нашай экзістэнцыі. Калі хочаце, пісьменнік сам становіцца адухоўленым калейдаскопам, сам мадэлюе той іншасвет, сатканы з уласных уяўленняў, пачуццяў, адчуванняў і прадчуванняў, якія завецца літаратурай.

Свой шлях у свет прыгожага пісьменства Зміцер Баяровіч пачынае зборнікам лірычна-побытавай прозы (тэрмін аўтара) «Шалі». Жанр лірычнай прозы з'яўляецца досыць засвоеным у беларускай літаратуры (варта хаця б прыгадаць рамантычныя імпрэсіі З. Бядулі, абразкі М. Гарэцкага, мініяцюры

Я. Брыля, А. Разанава і інш.). Але, працягваючы традыцыю папярэднікаў, Баяровіч імкнецца разнастаіць, а можа, і ўзбагаціць жанр. Так, «побытавасць» успрымаецца аўтарам не як скупая тэматычная характарыстыка, але як метафізічная катэгорыя суназірання паўсядзённасці, як фіксацыя тых яе праяў, дзе чалавек балансуе паміж уласным веданнем і няведаннем, пытаннем і адказам, згодай і нязгодай з самім сабой. Для аўтара важнай і значнай робіцца тая прастора, у межах якой асоба з'яўляецца стомленай ад немажлівасці (альбо наканаванасці) выбару, прастора, у якой індывідуум у пэўнай ступені безабаронны перад заўсёднай адхланню неадназначных і часам сумнеўных маральных норм сучаснага грамадства.

Кампазіцыйна кніга складаецца з дзвюх частак. Калі ў першым раздзеле («Шалі») аўтар трапна, амаль афарыстычна фіксуе ўласныя жыццёвыя назіранні і яскравыя дзіцячыя ўспаміны, прыходзячы часам да парадаксальных, іранічных высноў, то ў другім раздзеле («Партэр партрэтаў») ён засяроджваецца на даследаваннях уласна антрапалагічных: тут у цэнтры ўвагі сябры і прыяцелі, блізкія і знаёмыя аўтара, хаця найчасцей Зміцер звяртаецца да вобраза жанчыны, такой блізкай і адначасова далёкай, характар паводзінаў якой, здавалася б, прадказальны, але разам з тым незразумелы лірычнаму герою.

Наогул, увесь зборнік Зміцера Баяровіча прасякнуты абвостранай спавядальнасцю, выключнай шчырасцю і інтымнасцю аповеду. У чытача можа скласціся ўражанне, што перад ягонымі вачыма дзённік (дарэчы, упершыню з творамі аўтара я пазнаёміўся менавіта на ягонай старонцы ў Live Journal, якая стала першым месцам, дзе Зміцер змясціў свае літаратурныя спробы). Зрэшты, так яно і ёсць: перад намі зборнік цалкам аўтабіяграфічных лірычных мініяцюр, прычым аўтар не хавае гэтага за абагульненай халоднай рэфлексіяй, наадварот, вельмі часта маналог вядзецца ад першае асобы, а формула «я+ты» робіцца адпраўным пунктам, канстантай аўтарскага самавыяўлення.

**Міжвольна ловіш сябе на думцы, што аўтарскае «я» пакладзена на шалі выбару паміж паэтычным і празаічным, высокай лірыкай і спробай абмежаваць яе сціслай, строга «геаметрычнай» формай дакументальнага выказвання**

Перагарнуўшы апошнюю старонку кнігі, міжвольна ловіш сябе на думцы, што аўтарскае «я» пакладзена на шалі выбару паміж паэтычным і празаічным, высокай лірыкай і спробай абмежаваць яе сціслай, строга «геаметрычнай» формай дакументальнага выказвання. Так, аўтар вагаецца і зрэдчас схіляецца ў бок чыстай лірыкі, увасобленай у вершаванай форме (найбольш яскравы прыклад — тэкст «Саша», які і жанрава, і фармальна з'яўляецца вершам, прычым вершам тонкім, глыбока філасофскім і надзвычай удалым). У якое царства прыгожага пісьменства прывядуць жыццёвыя і літаратурныя пуцявіны Зміцера Баяровіча, пакажа час і, хочацца верыць, расставіць правільныя акцэнты ў творчым лёсе маладога творцы. Але першы крок аўтарам зроблены, а першы крок, як вядома, — гэта заўжды пачатак шляху. Спадзяюся, што шлях гэты будзе натхнёным, няўрымслівым і паспяховым.

* * *

Нядаўна, літаральна тыдзень таму, я падарыў мой улюбёны калейдаскоп дзецям сваіх даўніх сяброў. Жывучы ў далёкай заможнай Канадзе, Даша і Поля не мелі такой простай, але разам з тым геніяльнай забаўкі. Дзяўчынкі былі ў захапленні: падарунак ім спадабаўся. І мне зусім не было шкада аддаць ім дарагую мне рэч — просты кардонны калейдаскоп. Зрэшты, дома чакаў мяне рукапіс калейдаскопна-вітражнай, светлай і пранікнёнай прозы Зміцера Баяровіча…

Віктар САЯПІН

# МОЛАДЗЕВАЯ СУБКУЛЬТУРА ГРОДНА 1960—1970-х

Трохі аправіўшыся пасля вайны, гродзенская моладзь натуральным чынам пачала праяўляць цікавасць да моды на адзенне, абутак, прычоскі, стыль поводзін. У хлопцаў канца 1950-х — пачатку 1960-х супермоднымі былі «штаны-дудачкі», завужаныя да немагчымасці, якія асобныя моднікі нацягвалі на ногі пры дапамозе мыла. Яны былі настолькі кароткімі, каб відаць былі шкарпэткі — пераважна чырвонага, чорнага або жоўтага колераў. Туфлі былі з моцна звужанымі насамі, называлі іх «вастраносыя».



*«Як Элвіс Прэслі». Мікалай Качура. 1965 год.*
*Фота з калекцыі Віктара Саяпіна.*

Прысочка павінна была быць абавязкова як у Элвіса Прэслі, а каўнер любой вопраткі — ад сарочкі да паліто — абавязкова прыўзняты. Вось такіх моднікаў тады ў народзе называлі «стылягі», і слова гэта было амаль непрыстойным.

У дзяўчат самай моднай прычоскай лічылася «бабета». У 1959 годзе французскімі кінематаграфістамі быў зняты фільм пад назвай «Бабета ідзе на вайну», галоўную ролю ў ім выканала Брыжыт Бардо. У многіх эпізодах актрыса красавалася сімпатычнай прычоскай, якую потым назвалі ў гонар галоўнай гераіні. У савецкім пракаце фільм з'явіўся ў пачатку 1960-х. А да сярэдзіны 1960-х у СССР у моду ўвайшлі спадніцы-міні, самыя адважныя савецкія дзяўчаты насілі супер-міні.

Гэты накірунак моды з цяжкасцю прарываўся скрозь славутую «жалезную заслону», як і заходнія музычныя плыні. Тым не менш, другая палова 1950-х і амаль уся першая палова 1960-х прайшлі пад знакам джаза і рок-н-рола. Пад радыёлу і рэдкія тады заходнія грампласцінкі на хатніх вечарынках танцавалі бугі-вугі, чарльстон, твіст, а потым і шэйк.

Музычныя ансамблі ў нашым горадзе былі нешматлікімі. Добры эстрадны аркестр іграў для наведвальнікаў рэстарана «Нёман», які тады месціўся на Энгельса, 20 (цяпер Гараднічанская). Пасля студзеня 1962 года рэстаран называўся «Гродна». Да адкрыцця ў 1959 годзе Палаца культуры тэкстыльшчыкаў танцавальныя вечары праходзілі пад жывое музычнае суправаджэнне ў Доме афіцэраў, Клубе чыгуначнікаў на Карла Маркса. Класічны склад эстраднага аркестра канца 1950-х: фартэпіяна, баян або акардэон, кантрабас, ударная ўстаноўка, духавая група. Магла таксама прысутнічаць і смычковая група.

У першай палове 1960-х у моладзевым асяродку адбылася «культурная» рэвалюцыя, якую ў сусветным маштабе зрабіла ліверпульская чацвёрка The Beatles. Яны зрабіліся родапачынальнікамі новай музычнай плыні.

Азы «бітлаўскай» субкультуры я пачаў спасцігаць у 1964-м. Упершыню даведаўся, хто такія «Бітлы» ў студзені таго года. Мой аднакласнік Мікалай Качура неяк расказаў пра ліверпульскую чацвёрку і даў пачытаць польскі часопіс Przyjaciółka. З фотаздымка на мяне пазірала чацвёра вясёлых хлопцаў, апранутых у строгія касцюмы і беласнежныя сарочкі з гальштукамі. Звярталі на сябе ўвагу нязвыклыя прычоскі. Я даведаўся, што песні The Beatles часам транслюе польскае тэлебачанне, магчымасць глядзець якое з'явілася ў гарадзенцаў у тыя гады. Веды пра новую музыку пашыраліся, аказалася, што гэты стыль спавядаюць і іншыя папулярныя заходнія гурты: The Rolling Stones, The Animals, The Shadows і іншыя.

Летась споўнілася роўна 50 гадоў з той пары як у Гродна здарылася падзея, што ўскалыхнула моладзь горада. Прайшло першае выступленне першага музычнага біт-гурта. Агульнапрызнаным патрыярхам біт-руху ў горадзе быў Аляксандр Саўчыц, які і стварыў гэты першы ў горадзе музычны калектыў, што выконваў рок. У складзе гурта былі Міхаіл Якімчук, Канстанцін Дрындрожык, Андрэй Анцэвіч, Міхаіл Гуленін і іншыя. Гурт граў у школах, Клубе будаўнікоў на Карла Маркса. Неўзабаве ў калектыў увайшоў Уладзімір Кандрусевіч — вядомы сёння беларускі кампазітар.

Першую самаробную электрагітару Саўчыц змайстраваў разам са сваім стрыечным братам Юрыем, а грыф для яе дапамагаў рабіць яго бацька. Музыкі пачыналі граць у школе, працягвалі ў парку. Там была цяпліца, якая на зіму ператваралася ў танцавальную залу, за якой замацавалася назва «Чорны кот». Потым быў Палац культуры тэкстыльшчыкаў.

На вялікі жаль, да леташняга юбілею музыкант Аляксандр Саўчыц не дажыў — напачатку года ціха і непрыкметна пайшоў ад нас назаўсёды. Па ўспамінах гродзенскіх старажылаў, сям'я Саўчыца ў пачатку 1960-х жыла па вуліцы Тэлеграфнай, за помнікам Элізе Ажэшка. Побач жылі Сашыны аднакласнікі, і моладзь, натуральна, збіралася ў скверы за помнікам. У тыя гады гэта быў маленькі ўтульны сквэрык, абнесены з усіх бакоў металічнай агароджай. У скверы, відавочна, і прыйшла камусьці ў галаву думка назваць групу «Дзеці Элізы». Потым былі іншыя назвы: «Марсіяне», «Гуроны», «Гарадняне».



*Аднакласніца Тоня з прычоскай «Бабета». 1960-я.*
*Фота з калекцыі Антаніны Краснасловай.*

Па ўспамінах, адзін час гурт называўся «Айсбергі», кіраваў ім Пеця Кац, а на ўдарніках «грукаў» Уладзімір Кочкін. У 1971-м у гурт уліліся дэмабілізаваныя Грыгор'еў і Казін (сола-гітара). Той самы Кочкін разам з «Сафронам», «Мінькай» і Уладзімірам Кандрусевічам зімою 1965-га гралі ў «Чорным каце», але хутка іх адтуль выправадзілі камсамольскія «аператыўнікі». Да ветэранаў біт-руху несумненна належаць Ушчапоўскі з Валчковічам, якія ў сярэдзіне 1960-х «тусілі» на гарадскім пляжы, а потым перамясціліся на Каложу.

У 1964-м старшакласнікі сярэдняй школы № 10 назаўсёды ўвайшлі ў гісторыю гродзенскай моладзевай музыкі. З вуснаў Аляксандра Саўчыца пачуць аповед пра гэта не атрымалася па ўжо згаданай прычыне. Яго ўспамін запісала дванаццаць гадоў таму журналіст Ірына Чарнаўка.

«Яны, дзевяці-дзесяцікласнікі, назвы свайму ансамблю яшчэ не прыдумалі. Першае іх выступленне ў 1964-м стала скандалам музычнага вечара ў гродзенскай школе № 10. Інструменты і апаратуру цішком прaнеслі на сцэну актавай залы падчас перапынку ў канцэрце на школьным вечары. Гэта быў фурор! Уявіце: занавес адкрываецца — і некалькі хліпкіх пацаноў як завішчаць рок-н-рол! Настаўнікі на першых радах аслупянелі, апрытомнелі толькі на другой песні, паклікалі камсамольцаў і тыя выкінулі ўсіх на двор разам з інструментамі».

Вакальна-інструментальныя ансамблі (ВІА) — гэта неардынарная з'ява 1960-х. У пачатку свайго існавання яны пераймалі суперпапулярных «Бітлоў», але потым набылі індывідуальнасць. У тыя гады біт-гурт Саўчыца быў бяспройгрышным лідарам у Гродне. Канкурэнцыю ім маглі скласці хіба што ВІА Ігара Пармоніка з Клуба будаўнікоў ды яшчэ гурт «Ліра» з музпедвучылішча. Студэнтам, праўда, даводзілася трымаць свой рэпертуар у «яжовых рукавіцах». Выступалі ж яны, у асноўным, на танцавальных вечарах у сваім вучылішчы. І толькі на рэпетыцыях маглі «адарвацца».

Успамінае адзін з удзельнікаў гродзенскага біт-руху Валерый Румянцаў: «Калі я вучыўся ў 8-м класе, мы з аднакласнікам Андрэем Круцько зрабілі электрагітару. Я бегаў да Андрэя, мы гадзінамі сядзелі ў яго маленькім пакоі, працавалі стамескамі… І вось нарэшце зрабілі гітару і яе выпрабавалі, але яна не гучала. Тым не менш, мы так ганарыліся гэтай гітарай! Я пачынаў граць у “будоўлі” на Карла Маркса (Клуб будаўнікоў. — **В. С.**) у гурце з Андрэем Круцько, Юрам “Сомам”



*Аркестр рэстарана «Нёман». 1960-я.*

*Фота з калекцыі Антаніны Краснасловай.*

і Валікам "Чайнікам", які потым граў у рэстаране "Беларусь"».

Самадзейныя біт-гурты, як грыбы пасля дажджу, пачалі «прарастаць» у школах, вучылішчах і тэхнікумах. Рэпетыравалі дамарошчаныя музыкі дзе давядзецца: у дварах, кватэрых, на гарышчах і г.д. Гітары рабілі з дошак — «рагатыя», трохкутныя і квадратныя.

Біт-гурты насілі самыя розныя назвы, як англамоўныя (The Rhythms, Santo de Grodno), так і рускамоўныя: «Марсиане», «Меридиан», «Лира», «Кон-Тики». Некаторыя з іх так і засталіся малавядомымі, іншыя ж зрабіліся папулярнымі ў горадзе. У асяродку гродзенскіх музыкантаў існавала такая прымаўка:

Гитаристы ныне в моде
И играют от души.
И хоть «Битлз» сейчас в почете,
Чем же мы не хороши!



*Аляксандр Саўчыц. 1974 год.*
*Фота з калекцыі Яўгена Сачко.*

Другая палова 1960-х — пачатак 1970-х — час вяршыні папулярнасці магнітафонаў. Пры іх дапамозе запісваліся з пласцінак і шматкроць перапісваліся хіты замежных гуртоў і песні Высоцкага. У кожнага маладога чалавека магнітафон павінен быў быць абавязкова. А яшчэ радыёпрыёмнік, які прымаў на доўгіх хвалях першую праграму польскага радыё. Штогод з пачаткам лета большую частку дня гэты радыёканал трансліраваў звышпапулярную праграму «Лета з радыёпрыёмнікам». Усе нецярпліва чакалі, калі вядучыя пачнуць расказваць пра найбольш папулярныя заходнія хіты, прадстаўляць штотыднёвы рэйтынг. Але самае галоўнае — кожны дзень можна было не толькі слухаць, але і запісваць на магнітафон любімыя песні! А яшчэ ўсе вельмі чакалі, калі надыдзе каталіцкае Ражаство — польскі тэлевізійны канал абавязкова паказваў якую-небудзь забаўляльную праграму з удзелам вядомых заходніх біт-гуртоў і салістаў. Некаторыя фанаты біт-музыкі нават спрабавалі рабіць фотаздымкі сваіх куміраў з тэлеэкрана.

Паступова захапленне «Бітламі» ў горадзе стала павальным, нягледзячы на тое, што афіцыйна яны і іх музыка былі забаронены як чужыя сацыялістычнаму ладу жыцця. Моладзь пачала капіраваць адзенне, прычоскі, горад ахапіў гітарны бум. З усім гэтым змагаліся і ўлады, і бацькі, і школа, і камсамол. Але, як вядома, забаронены плод заўсёды саладзейшы.

Памятаю, як змайстраваў самастойна пінжак-бітлоўку (без каўняра) і першую электрагітару. Яе мы з аднакласнікам і сябрам дзяцінства Юрыем Побалем зрабілі ў 1966-м. Да сярэдзіны 1960-х гітарная хвароба ў горадзе набыла маштаб эпідэміі. А паколькі праблема пакупкі электрагітар была невырашальнай з-за іх дарагавізны і адсутнасці ў продажы, музыканты-пачаткоўцы пачалі праяўляць цуды вынаходлівасці ў імкненні зрабіць такі інструмент. Майстравалі, выкарыстоўваючы ў якасці гуказдымальнікаў пад кожнай струной электрамагнітныя катушкі з тэлефонных трубак (адкуль браліся трубкі, чытач, верагодна, здагадваецца). І вось наша гітара была гатовая, трэба было яе выпрабаваць.

Пайшлі мы з Юрам у школу да нашага настаўніка фізікі Іосіфа Рафаілавіча Дзюрбейкі і папрасілі дазволу пазаймацца ў кабінеце фізікі. Там мы падключылі гітару да ўзмацняльніка перасоўнай вузкаплёначнай кінаўстаноўкі «Украина». З вялізнай акустычнай калонкі паліліся чароўныя гукі! Нашай



*Аляксандр Саўчыц (злева) з сябрамі. Канец 1960-х.*

*Фота з калекцыі Аляксандра Яршова.*

радасці не было межаў! З гэтай гітарай Юру пасля нават узялі ў ВІА культпрасветвучылішча. А праз год ён ужо быў вядучым гітарыстам ВІА ваеннага лётнага вучылішча, куды паступіў па заканчэнні школы.

З пасляваенных гадоў асноўным месцам прыцягнення моладзі Гродна ў летні час быў гарадскі парк, і ў першую чаргу танцавальная пляцоўка ў ім. Яна знаходзілася паміж цяперашнім тэатрам лялек і рэстаранам «Стары лямус» (тады гэта быў жылы дом. — **В. С.**). У пачатку 1960-х яе тэрыторыю пашырылі, для чаго з боку парка паставілі дадатковую металічную агароджу, і яна з круглай ператварылася ў прастакутную. На ўтворанай пляцоўцы зрабілі драўлянае машчэнне, утварылі сцэну. Злева ад увахода на тэрыторыі пляцоўкі была ўсталявана прымітыўная прыбіральня з прасвідраванымі ў асфальце адтулінамі, а справа пад навесам, побач са сцяною «лямуса» — буфет.

Атрымалася новая танцавальная пляцоўка, за якой замацавалася назва «Клетка». Чаму «Клетка»? Пляцоўка была абгароджана металічнай кратападобнай сеткай і нагадвала вялізную клетку, у якой весялілася моладзь. А тыя, каму не хапала ўваходных білетаў, назіралі з парка, як весяляцца «дзеткі ў клетцы». Пасля закрыцця кінатэатра «Летні» імя «Клетка» перайшло да клуба, які ў ім размясціўся, яго знеслі пры апошняй рэканструкцыі парка.

Уваходныя білеты прадаваліся ў касе злева ад танцпляцоўкі, там, дзе цяпер новы адміністрацыйны будынак тэатра лялек. У левай частцы гэтай аднапавярховай прыбудовы да тэатра размяшчалася каса, а справа — памяшканне камсамольскага аператыўнага атрада. У 1960—1970-я пры абласным камітэце камсамола былі створаны і дзейнічалі «аператрады» накшталт дабравольных народных дружын дарослых, якія былі прызваны сачыць за грамадскім парадкам, не дапускаючы яго парушэння камсамольцамі і моладдзю. «Аператрады» прымалі ўдзел не толькі ў падтрыманні парадку на ўсіх мерапрыемствах, але і своеасабліва фарміравалі ў моладзі густ да накірункаў моды.

У другой палове 1960-х — пачатку 1970-х у модзе былі доўгія валасы, штаны клёш, шырокія паясныя рамяні. Штаны некаторых моднікаў дасягалі шырыні 40 см і нават болей, а ўнізе ў клёш яшчэ ўстаўляліся каляровыя кліны і навешваліся ланцужкі. Самі штаны падпаясваліся шырокім рэменем, у асноўным выкарыстоўваліся афіцэрскія партупеі. Сарочка абавязкова павінна была быць рознакаляровай. Уладальнік такога «прыкіду», ды яшчэ пры наяўнасці доўгіх валасоў, абавязкова трапляў у поле зроку камсамольскіх аператыўнікаў. У пакоі побач з касай яму вельмі пераканаўча прапаноўвалася зняць рэмень (здымалі бесцырымонна) і пакінуць танцы. Штаны, канешне, не здымалі, толькі ланцугі, але кліны штаноў маглі парэзаць на шматкі.

Успамінае Валерый Румянцаў: «Калі з’явіліся першыя клёшы, мы з Андрэем Круцько вырашылі пайсці на танцы. Гэта быў 1966 год. А ў яго тады ўжо былі дзве пары шырачэнных штаноў-клёшаў, якія мама Андрэя выкраіла і пашыла сама. Вось такія штаны мне Андрэй і падарыў. А я яшчэ ўставіў у іх аксамітныя кліны чырвонага колеру, прычапіў алюмініевыя ланцужкі. Затым купіў дзве пляскатыя батарэйкі па 17 капеек, вывеў у штаны правады і ў кліны ўставіў лямпачкі. Націсну ў кішэні кнопку — лямпачкі запальваюцца!

І вось мы пайшлі з Андрэем на танцы. Прыгажуны — штаны-клёш шырынёй 45 см з ліхтарыкамі, ланцужкамі і аксамітнымі клінамі! Калі мы з'явіліся на танцпляцоўцы ў такім выглядзе, ды яшчэ і "патлатыя", на нас хуценька звярнулі ўвагу камсамольскія "аператыўнікі". У іх у парку быў дамок, туды яны нас і правялі. Узялі мяне за мае шыкоўныя клёшы, ірванулі іх і адарвалі да каленяў, а яшчэ разарвалі электрычны ланцуг з лямпачкамі. Дамоў я ішоў з тых танцаў з голымі нагамі…»

Аўтару гэтых радкоў двойчы давялося вельмі «шчыльна» стасункавацца з «аператыўнікамі». Аднаго разу ў Палацы культуры тэкстыльшчыкаў (скончылася «фінгалам» пад вокам), другі раз — летам на танцах у парку. Апрануты я быў гэтаксама як мой сябра Румянцаў — у расклёшаныя штаны, але яны былі без кліноў, таму, відаць, па гэтай прычыне я вярнуўся дамоў не з голымі нагамі. Пытанне было ў іншым — мае штаны былі падпаясаны шырокім афіцэрскім рэменем які я літаральна напярэдадні з вялікай цяжкасцю здабыў. І вось падчас танцаў маладыя людзі з «аператрада» ненавязліва прапанавалі прайсці ў іх дзяжурны пакой. Там «папрасілі» зняць рэмень. Супраціўленне было бессэнсоўным, таму давялося выканаць «просьбу». Да слёз было шкада таго рэменя — я ж не паспеў у ім фарсануць. Але, як кажуць, не бывае безвыходных сітуацый. Сярод тых, хто прапаноўваў расстацца з рэменем, быў мой аднакласнік. З яго дапамогай праз пару дзён я вярнуў сабе прадмет гонару. Рэмень і дагэтуль у мяне захоўваецца, як рэліквія з таго часу.

Стары ўтульны парк сапраўды быў цэнтральным месцам адпачынку гараджан. Па вечарах, асабліва ў выхадныя дні, прайсціся па галоўных алеях парка можна было толькі добра працуючы локцямі. Атрымліваць асалоду ад цішыні, гуляючы па цяністых алеях, — гэта было справай дзённай. Вечарам выходзіла моладзь, і многія юнакі неслі ў руках пераносныя транзістарныя радыёпрыёмнікі «Селга» або «Спідола» вытворчасці рыжскага радыёзавода з высунутымі антэнамі. З усіх гэтых шматлікіх радыёпрыстасаванняў несліся мелодыі папулярных песень заходніх ВІА.



*Гурт Ігаря Пармоніка (злева). За ўдарнай устаноўкай Аляксандр Яршоў. 1973 год. Фота з калекцыі Аляксандра Яршова.*

Танцы пад жывую музыку з восені да вясны праводзіліся ў Палацы культуры тэкстыльшчыкаў («Тэкстыльшчыкі»), клубе будаўнікоў («Будоўля»), Доме афіцэраў («Афіцэры») і клубе чыгуначнікаў («Чыгуначнікі»), якія знаходзіўся на вуліцы Будзённага побач з чыгуначным вакзалам, там, дзе цяпер будынак пошты. Часам танцы арганізоўваліся ў РДК — раённым доме культуры на вуліцы 17 верасня і Клубе камбіната будматэрыялаў («Будматэрыялы») на вуліцы Дзяржынскага. Прычым, у укожнай установы быў свой кантынгент наведвальнікаў.

Палац культуры тэкстыльшчыкаў, у народзе празваны «Тэкстыльшчыкі», быў, можна сказаць, элітным. Там збіралася моладзь гродзенскага «свету», і манеры «залатой моладзі» былі адпаведнымі. Тут у пачатку 1970-х Генадзем Лятынскім быў створаны дзявочы вакальна-інструментальны ансамбль «Чараўніцы». У ансамблі, акрамя традыцыйных гітар, ударных інструментаў і клавішных, была духавая група — труба, трамбон і саксафон. У 1974 годзе ВІА «Чараўніцы» стаў прафесійным калектываім і быў залічаны ў штат Белдзяржфілармоніі.

Як успамінае ветэран біт-руху Аляксандр Яршоў, у 1963 годзе ва ўзросце 15 гадоў ён прыйшоў у Палац культуры тэкстыльшчыкаў у эстрадны аркестр, якім кіраваў Анатоль Асіпюк. Рэпетыравалі практычна штодзень. Склад аркестра быў даволі вялікі. Амаль усе з музычнай адукацыяй, хоць былі і самавучкі. Міша Лысёнак віртуозна граў на ўдарніках. Яго бацька працаваў майстрам па рамонце музычных інструментаў і, адпаведна, Міша граў на ўсім. Акрамя яго ў складзе былі: Чарапанаў Алік, Максімаў Валодзя, Лятынскі Гена, Нарэйка Анатоль і іншыя.

У Клубе будаўнікоў, названым «Будоўля», збіралася публіка прасцей, і норавы там панавалі больш дэмакратычныя. Дом афіцэраў быў прычалам для тых, пра каго казалі «ім за трыццаць». Відавочна, па гэтай прычыне за вельмі саліднай у тыя гады клуб-



*ВІА «Ліра». 1960-я.*

*Фота з калекцыі Аляксандра Яршова.*

най установай і замацавалася назва «Дом апошніх надзей». А самая неабцяжараная выхаваннем і інтэлектам публіка збіралася ў «Чыгуначніках» і «Будматэрыялах».

Па завяршэнні будаўніцтва ў канцы 1960-х Дома палітычнай асветы абкама партыі па вуліцы Леніна, 32 (цяпер адзін з карпусоў Дзяржуніверсітэта імя Янкі Купалы) вызвалілася памяшканне па вуліцы Дзяржынскага, якое заняў Гарадскі дом культуры (ГДК). У ім таксама пачалі арганізоўваць танцавальныя вечары і ГДК стварыў сур'ёзную канкурэнцыю «Тэкстыльшчыкам».

Практычна ва ўсіх установах культуры працавалі буфеты, дзе прадаваліся піва, віно, часам напоі крапчэй. Гэтыя напоі аказвалі на гарачыя галовы адпаведнае ўздзеянне і вельмі часта ў Клубе будаўнікоў, а часам нават у элітных «Тэкстыльшчыках» завязваліся бойкі. Былі ў горадзе яшчэ два «ачагі культуры», дзе бойкі былі звычайнай з'явай. Гэта Раённы дом Культуры і Клуб камбіната будматэрыялаў.

У вышэйшых навучальных установах і тэхнікумах горада па суботах таксама былі танцы, але трапіць на іх маглі толькі «свае». З завяршэннем будаўніцтва ў 1964-м новага корпуса педінстытута, на другім паверсе якога размясціўся вялікі актавы зал, культурнае жыццё не толькі студэнтаў, але і ўсіх гараджан перайшло на новы ўзровень. Па-першае, новы зал, а следам за ім і адкрыты ў 1968-м зал Дома палітычнай асветы, стаў самым умяшчальным у горадзе, і ўсе выступленні гастралюючых музычных калектываў перанеслі туды. Па-другое, у інстытуце быў створаны эстрадны аркестр, які складаўся толькі са студэнтаў і выкладчыкаў. Салістамі аркестра былі Леанід Гофмеклер, Аляксей Петрыкевіч, а таксама чароўная Валянціна Вялітчанка — зорка студэнцкай эстрады. На музычных інструментах гралі гітарысты Юрый Луняшын, Мікалай Раманаў, Рыгор Карпіцкі, саксафаніст Анатоль Лукашэня і іншыя. Кіраваў аркестрам Мікалай Семянцоў. Папулярнасць выканаўцаў была вялізнай не толькі ў сценах інстытута, але і ў горадзе.

У тагачасным сяльгасінстытуце, цяпер аграрным універсітэце, танцавальныя вечары праходзілі пад суправаджэннем студэнцкага вакальна-інструментальнага ансамбля, дзе салістам блістаў Аляксандр Малібошка.



*Андрэй Круцько і Мікалай Панькоўскі. 1968 год.*

*Фота з калекцыі Валерыя Румянцава.*

Нядрэнны музычны калектыў быў у культпрасветвучылішчы (цяпер каледж мастацтваў), што месціўся ў двухпавярховым будынку на Дзяржынскага, 28 насупраць цяперашняга ўніверсама «Гродненский». У гарадскім доме культуры танцы суправаджаліся цудоўным выкананнем песень салістам мясцовага ВІА Аляксандрам Качаішвілі.

Не адставала і моладзь прадпрыемстваў. Цікавыя і самабытныя ВІА існавалі на камбінаце будматэрыялаў, заводзе «Радыёпрыбор». Варта адзначыць, што сваю бліскучую музычную кар'еру сусветна вядомы гітарыст Віктар Дзідзюля пачынаў у радыёпрыбораўскім ВІА «Алыя зоры».

Успамінае Аляксандр Яршоў: «У тыя гады сярод ВІА існавала канкурэнцыя. Мы хавалі свой рэпертуар, імкнуліся яго не паказваць, але самі праглі адно да аднаго на рэпетыцыі трапляць. Я памятаю такі выпадак, калі мы ў Клубе будаўнікоў на сцэне рэпетыравалі. Раптам дзверы адчыняюцца і заходзяць удзельнікі з канкурэнтнага гурта паслухаць наш рэпертуар. Выгнаць іх не было прычыны, адмовіць ім груба таксама было нельга, а паказваць свой рэпертуар мы не хацелі. Тады Ігар Пармонік кажа: "Ну, мужыкі, давай!" І наш клавішнік Гена зайграў "Постой паровоз, не стучите колеса". Мы сыгралі адну такую песню, потым яшчэ адну. Яны зразумелі, у чым справа, усталі і пайшлі, а мы працягвалі рэпетыцыю ўжо як трэба.



*«Бітнікі» Андрэй Круцько і Валерый Румянцаў. 1965 год.*

*Фота з калекцыі Валерыя Румянцава.*

Іграць і пець хацелася не толькі дзеля ўласнага задавальнення, але, у першую чаргу, для людзей, і вось мы ўладкаваліся іграць на танцах у Клубе будаўнікоў. Тады ў нас з'явілася магчымасць рэпетыраваць на сцэне, а галоўнае — іграць "на людзях". Праўда, трэба было сачыць за рэпертуарам, бо ці мала хто мог з'явіцца на вечары танцаў. Рэпертуар вызначаў Ігар Пармонік, ён пісаў партыі, рабіў аранжыроўку, падбіраў песні так, каб "і ваўкі былі сытыя, і авечкі цэлыя".

Трэба сказаць, што час той быў складаным, але і цікавым. Займаючыся музыкай на электраінструментах, трэба было мець самае малое — гэтыя інструменты. А дзе іх браць? У краме "Мелодыя" і ўнівермагу ў продажы была пара электрагітар. Звычайная гітара з провадам, пад струнамі гуказдымальнік у выглядзе маленькай белай скрыначкі, а кошт — 140 рублёў. Больш, чым можна было зарабіць за месяц.

А мы ў той час ужо глядзелі па тэлебачанні Польшчы заходнія біт-гурты, бачылі гітары — пляскатыя, рагатыя, розныя. Нам хацелася такія самыя, і мы пачалі рабіць іх. Сваімі рукамі рабілі ўсё, куплялі толькі крапёж для струн. Карпусы — наколькі хапала фантазіі, колер — па гусце, з кантамі і без, рагатыя, трохкутныя, квадратныя і іншых недарэчных форм. Дамагаліся нядрэннага гучання. У горадзе пачалі з'яўляцца майстры гэтай справы, хоць мала хто сябе тады не спрабаваў. Добрыя інструменты рабілі Купцоў Слава і Яршоў Валодзя. Купіць інструменты рэдка каму ўдавалася. Група Сашы Саўчыца аднойчы набыла ўдарную ўстаноўку — на той час гэта была проста казка.

Маладосць ёсць маладосць, а моладзь ёсць моладзь. Заўсёды хацелася нечага асаблівага, "вастранькага". Можаце сабе ўявіць: спёка, лета, гарадскі пляж, мітусня купальная. Нехта плешчацца ў вадзе, нехта гуляе ў валейбол, нехта загарае, выратавальнікі ў мегафон папярэджваюць купальнікаў. Нехта, канешне, гуляе ў карты. І раптам аднекуль на поўную моц гукавых калонак разносіцца Hippy Hippy Shake з рэпертуару The Beatles. Усе пазіраюць наверх. На самай верхняй тэрасе пляжа каля драўлянага дамка выратавальнікаў у адных плаўках, але з гальштукамі і гітарамі — Саша Саўчыц з сябрамі. У такім пляжным выглядзе яны выканалі дзве ці тры песні. Затым згарнулі правады і дынамікі, усё пагрузілі ў машыну і зніклі так хутка, як з'явіліся. Гэта стварыла на пляжы эфект разарванай бомбы. Падрабязнасці гэтага "канцэрта" шмат дзён абмяркоўвалі на гродзенскім Брадвеі (вуліца Савецкая), самым тусовачным месцы ў горадзе…»

Асаблівае месца ў моладзевай культуры горада займалі ВІА, што гралі ў рэстаранах. У такіх калектывах выступалі таленавітыя хлопцы. Напачатку 1970-х вакальна-інструментальныя ансамблі рэстаранаў «Беларусь» і «Беласток» атрымалі права на прафесійную дзейнасць і пачалі выступаць як калектывы гастрольна-канцэртнага аддзялення Белдзяржфілармоніі. У рэстаране «Беларусь», які адкрыўся ў канцы 1960-х на вуліцы Горкага, безумоўным лідарам ВІА быў Віктар Маркаў. Спявак і музыкант, кар'ера якога пачыналася ў Гродне, стаў потым вядомым расійскім музычным прадзюсарам (у прыватнасці, прадзюсарам сваёй жонкі, вядомай спявачкі Таццяны Маркавай), кіраўніком гурта «Альфа».

По ўспамінах Валерыя Руманцава, Віктар Маркаў пачынаў у сярэдзіне 1960-х у аркестры рэстарана «Гродна» на Энгельса, 20 і быў вядомы як лепшы саксафаніст горада. Потым, з адкрыццём рэстарана «Беларусь», перайшоў туды. З ім разам гралі Аляксандр і Барыс Хоціны, Міхаіл Падалінскі, Сяргей Падгайчанка, Анатоль Вараб'ёў. Часам там іграў і Аляксандр Саўчыц.

Працягвае Аляксандр Яршоў: «Ніводзін з гэтых хлопцаў, акрамя Віктара Маркава, не атрымаў ніякага прасоўвання ў музыцы. Але калі б нехта ўзяў іх пад сваё крыло і развіў у іх музычныя здольнасці, яны сталі б зоркамі. Анатоль Вараб'ёў — музыкант-віртуоз, талент! Але і ён не пайшоў далёка, застаўся на ўзроўні вясельна-рэстараннага выканаўцы. У рэстаране "Беларусь" у першай палове 1970-х іграў таксама саксафаніст Анатоль Пуха. Ён граў разам з Маркавым, абодва тэнары. Адзін час Пуха нават быў кіраўніком ансамбля ў "Беларусі". А Саша Пятроўскі выдатна граў на баяне — выключны быў музыкант!»

Пасля адкрыцця ў Гродне рэстарана «Беласток» на вуліцы Савецкай, створаны там вакальна-інструментальны ансамбль таксама ўзяла пад сваю апеку Белдзяржфілармонія. У першым складзе музыкантаў іграў Сяргей Падгайчанка, які перайшоў з «Беларусі». Разам з ім выдатна выконваў песні з рэпертуару The Beatles Ігар Шаляпенка. Кажуць, выступаў і Саша Саўчыц, які на той час жыў у Мінску. Папулярная песня Сяргея Падгайчанкі падчас яго працы ў «Беластоку» была «Пора, пора, порадуемся на своём веку…» Але аснову яго рэпертуару складалі песні легендарных «Бітлоў». Любіў ён таксама выконваць і Сціві Уандэра.

Сяргея Падгайчанку, майго аднакласніка, звалі не іначай як «Граф». Гэта быў адзін з пачынальнікаў біт-руху ў нашым горадзе. Да сярэдзіны 1960-х ён з аднадумцамі стварыў ВІА бітлоўскага тыпу. Назвалі яго «Мерыдыян». Спачатку гралі на звычайных гітарах, потым — на саматужных «рагатых», а ў 1969-м набылі спецыяльныя. З легалізацыяй бітлоўскай музыкі хлопцаў пачалі



*ВІА «Алыя зоры» завода «Радыёпрыбор». Канец 1970-х.*

*Фота з калекцыі Галіны Валуйскавай.*

запрашаць нават на камсамольска-моладзевыя мерапрыемствы.

Тады ж, на зломе 1960—1970-х у Гродне пачалі з'яўляцца «хіпі». Моладзь тады выступала супраць сацыяльнай і класавай розніцы, расавай дыскрымінацыі і вайны. Найбольш яскрава гэтыя ідэі праявіліся ў асяродку «хіпі» — прадстаўнікоў моладзевай субкультуры, створанай інтэлігенцыяй і сярэднім класам. Пратэст супраць несправядлівасцей выказваўся пасіўным супрацівам грамадству — своеасаблівым адыходам ад рэальнасці і адмовай ад дабротаў цывілізацыі. Хіпі імкнуліся выбудаваць новую сістэму чалавечых стасункаў, лічачы, што шлях да лепшага — любоў. Самы знакаміты лозунг хіпі — «займайцеся каханнем, а не вайной».

Хіпі прапаведавалі беднасць і асуджалі «грамадства спажыўцоў». Сваім выглядам яны падкрэслівалі адпрэчванне афіцыйных нормаў культуры. Іх вопратка была неахайнай. Паркалёвая торба за плячыма, доўгія валасы — сімвал свабоды, рваныя джынсы, бісерныя бранзалеты.

Як згадвае Міхаіл Гуленін, моладзь часта збіраліся ў лесапарку Пышкі на эстрадзе, дзе можна было падключыць апаратуру, паіграць і паспяваць. Але аднойчы там з'явіліся «апер-атрадаўцы» і ўсіх падстрыглі. Пасля такога вырашана было правесці акцыю пратэсту. Да рашэння далучыліся хіпі Вільнюса, Таліна, Рыгі. І вось у жніўні 1971-га па цэнтральных вуліцах Гродна прайшла дэманстрацыя хіпі. Чаму ў Гродне?

Успамінае Міхаіл Гуленін: «Гродзенскім хіпі няпроста было з-за фінансавых праблем паехаць у адзін з прыбалтыйскіх гарадоў, а ў хіпі тых гарадоў з фінансамі на той час было прасцей: некаторыя музыканты гралі ў прафесійных калектывах. Прыехалі прыбалты да нас, усю падрыхтоўчую працу мы правялі вельмі хутка, зрабілі плакаты і ўсё астатняе. На плакатах напісалі: "Рукі прэч ад нашых валасоў!", The Beatles forever!, All you need is love і інш. Сябры сабраліся ў маім двары (на Сацыялістычнай), там у нас былі высокія старыя вароты і можна было зачыніцца. Плакаты хавалі ў мяне ў дрывотні — мы ж дровамі ацяпляліся, брыкетам. Адтуль усё ўзялі і пайшлі ўніз па Сацыялістычнай у бок Савецкай. Па дарозе да нас далучыліся і блатныя, і п'яніцы. Сабралася не менш трох соцень чалавек, пачаліся бойкі і іншыя эксцэсы. Так дайшлі мы да Савецкай плошчы. Але як толькі на яе ступілі, плошчу адразу перакрылі аўтобусамі. У скверы са старым



*Музыканты рэстарана «Беларусь» з гасцямі горада. Стаіць злева Віктар Маркаў, справа — Анатоль Вараб'ёў. 1970-я.*

*Фота з калекцыі Сяргея Падгайчанкі.*



Гродзенскі Abbey Road. Пачатак 1970-х.

*Фота з калекцыі Міхаіла Гуленіна.*

фантанам мы пачалі тлумачыць, дзеля чаго сабраліся, а нас — сарціраваць і ў машыны "пакаваць". Палова маіх сяброў была з блізкіх да горада Путрышак і Верцялішак, дык іх вывезлі за горад і адпусцілі — пехатой, маўляў, трошкі прайдзіце, мазгі правятрыце. Нам вельмі тады дапамог генерал Судзілоўскі — яго сын Слава прымаў удзел у гэтым шэсці. Калі б не ён, мы б дакладна ў псіхіятрычнай бальніцы апынуліся…

А цяпер пра пеўня, якога вадзілі на ланцужку. Яго гаспадаром быў хлопец з Таліна, Віру яго звалі. Бацька Віру хадзіў у мора і прывёз баявога пеўня. Ён быў невялічкі, са шпорамі, я такога ніколі не бачыў. Спачатку падумаў, што яго пафарбавалі, аказалася — такі колер. Тады ў нас такіх пеўняў можна было хіба ў заапарку пабачыць. Здымае Віру каўпачок з галавы пеўня і есці яму дае. А вадзічку для яго, як памятаю, ён з сабой вазіў. Певень той простую ваду не піў, любіў з лімончыкам!

У той час насілі клёшы, Віру паставіць пеўня на зямлю, а той — раз — і пад тыя клёшы! Такія тады былі клёшы, што певень свабодна хаваўся. Віру вадзіў яго на ланцужку, гэта нам было асабліва дзіўна. Мінакі шарахаліся. Шкадавалі, што фотаапаратаў з сабой няма! Эстонца з пеўнем таксама забралі. Мы з ім пасля ў Вільнюсе сустрэліся, калі я там жыў — яго потым адпусцілі. Дарэчы, адзін з прыбалтаў — удзельнік гродзенскай дэманстрацыі хіпі — пасля стаў міністрам культуры сваёй краіны.

Некаторыя з нас мелі потым праблемы. Мне давялося з'ехаць. Далі не 24 гадзіны, а сказалі: "4 гадзіны — і каб цябе тут не было". Спачатку паехаў у Маскву да бацькі, потым год жыў у Вільнюсе, затым паехаў у Караганду паступаць у металургічны інстытут. Мой дзядзька там выкладаў, але яму сказалі: "Выбірай — або праца, або пляменнік". Некаторыя трапілі ў псіхіятрычную бальніцу, потым захварэлі. Праз нейкі час усё сціхла, памянялася, і калі я вярнуўся дадому, то ўжо мяне не прыцяснялі, можна было працаваць».

Савецкія праваахоўныя органы строга стаялі на стражы сацыялістычнай законнасці і, канешне, перапынялі ўсе спробы парушэння грамадскага парадку. А чутка пра дэманстрацыю хіпі ў Гродне хутка разышлася за межы нашага горада…

***Пераклад з рускай Святланы ДЗЯНІСАВАЙ***

Рубрыка гістарычных факультэтаў краіны

АЛЕСЬ ПЕРАГУДАЎ,
МІКІТА КАРАНКЕВІЧ

# ВАНДРОЎКА Ў ГІСТОРЫЮ КАЛОЖЫ



*Алесь Перагудаў нарадзіўся 6 снежня 1994 года ў Гродне. У 2012 годзе паступіў на факультэт гісторыі, камунікацыі і турызму Гродзенскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя Я. Купалы. Цікавіцца гісторыяй Сярэднявечча, вайсковай гісторыяй, краязнаўствам. Захапляецца падарожжамі і фатаграфіяй.*



*Мікіта Каранкевіч нарадзіўся 19 чэрвеня 1994 года ў Гродне. У 2012 годзе паступіў на факультэт гісторыі, камунікацыі і турызму Гродзенскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя Я. Купалы. Цікавіцца гісторыяй Новага Часу. Піша вершы і трошкі прозу.*

Гісторыяй Каложы мы цікавімся здаўна, бо з дзяцінства з'яўляемся яе прыхаджанамі. Наогул, любім краязнаўства і гісторыю, таму і навучаемся там, дзе навучаемся.

Яшчэ ў школьныя гады нашу ўвагу прыцягнула арыгінальнае аздабленне сцен царквы і знакі на старыжытных цаглінах. Потым мы пачалі знаёміцца з працамі гісторыкаў і краязнаўцаў, прысвечаных Каложскай царкве. Існавалі розныя пункты гледжання, як можна растлумачыць гэтыя знакі. Адны аўтары сцвярджалі, што гэта нейкія магічныя сімвалы, другія — што гэта гербы княжацкіх родаў. Былі і такія думкі, што гэта клеймы майстроў, якія выраблялі цэглу.

Даведаўшыся пра нашу зацікаўленасць гэтай тэмай, гродзенскі гісторык і краязнаўца Андрэй Вашкевіч прапанаваў зрабіць больш дасканалы ўлік насценных знакаў, сфатаграфаваўшы іх і адзначыўшы на спецыяльнай мапе каложскіх сцен.

І вось у жніўні 2014 года распачаўся сістэматычны пошук. Алесь Перагудаў пачаў даследаванне сцен звонку, потым унутры. Былі зафіксаваны знакі на сценах і калонах, а таксама даследаваны праход у паўночнай сцяне, які вядзе з алтара на хоры. Ён вельмі вузкі, прыкладна 60—70 сантыметраў. У ходзе няма электрычнасці, таму мы асвятлялі шлях пры дапамозе лямпы. Здавалася, што межы паміж старажытнасцю і сучаснасцю зніклі, і прамень нашага ліхтара свеціць у цемру стагоддзяў…

Акрамя знакаў на плінфе, звярнулі на сябе ўвагу і больш познія надпісы прыватнага характару, нанесеныя алоўкам ці выцарапаныя цвікам, прыкладна канца XIX стагоддзя, нешта накшталт: «Тут быў Васіль…» Іх пакінулі выпадковыя наведвальнікі, калі храм стаяў у руінах пасля двух абвалаў і набажэнствы ў ім не праводзіліся.

Што датычыцца знакаў на цэгле, то існуе некалькі версій пра тое, што яны азначалі. Пераважная большасць навукоўцаў схіляецца да пункту гледжання, што гэта клеймы майстроў ці будаўнічых арцелей, якія рабілі цэглу і такім чынам пазначалі партыі плінфы. Выбітны беларускі гісторык Алесь Краўцэвіч гэтую версію лічыць найбольш верагоднай. Але ёсць іншыя меркаванні. Напрыклад, што знакі маюць магічны сэнс, бо паганскія традыцыі суіснавалі на нашых землях разам з хрысціянствам яшчэ некалькі стагоддзяў пасля хрышчэння Кіеўскай Русі. Згодна з вынікамі даследаванняў навукоўцаў, клеймы былі нанесены на цэглу яшчэ да яе абпалу ў печы.









Знакі знаходзяцца ў несістэмным парадку, некаторыя перавернуты «дагары нагамі». Месцамі цагліна зрэзана акурат па знаку. Некаторыя знакі паўтараюцца неаднаразова. Узнікае пытанне: чаму адны знакі паўтараюцца не болей чым два разы, а іншыя — больш за дзесяць?.. У асноўным, гэта літары кірылічнага алфавіту ці піктаграмы, рунападобныя надпісы ды сімвалы. Некаторыя з іх нешта нагадваюць: рыбку — сімвал першых хрысціян, ключык і іншае.

Усяго знойдзена сто дзесяць знакаў рознай ступені захаванасці звонку і ўнутры храма.

Падчас даследвання паўночнай сцяны ў адной з яе ніш мы звярнулі ўвагу на сярэднявечнае графіці — іканаграфічную выяву «Стрэчанне Гасподне». Колькі яму стагоддзяў, сказаць цяжка. Побач са Святымі захавалася некалькі радкоў на царкоўнаславянскай мове. На жаль, зрабіць расшыфроўку надпісу цалкам пакуль не ўдаецца. Першыя два словы падобныя на словазлучэнне «Святы Спасіцель», апошняе — на слова «грэшнаму». Наогул, каложскае графіці ў навуковай літаратуры амаль не ўзгадваецца і патрабуе поўнай расшыфроўкі.

Колькі слоў пра арганізацыйныя моманты. Як вышэй сказана, мы з'яўляемся прыхаджанамі Каложы, таму духавенства ўсяляк садзейнічала нам у ажыццяўленні праекта. Мы нават атрымалі дазвол на правядзенне даследавання алтарнай часткі храма і хода ў паўночнай сцяне. Святары прапанавалі размясціць каложскія «мапы» з інфармацыяй пра знакі з плінфы на стэндах, прысвечаных гісторыі Каложы. Але гэты праект пакуль яшчэ ў распрацоўцы.

Праект са знакамі носіць некамерцыйны характар, бо мы лічым, што гісторыя і культура Беларусі — гэта каштоўнасць усяго беларускага народа, яго духоўны скарб, і ніякай размовы пра грошы быць не можа. Таму трэба папулярызаваць усімі сродкамі падобныя рэчы. Мы не зрабілі навуковага адкрыцця, а проста дасягнулі большай адкрытасці інфармацыі пра знакі на Каложскай царкве, надалі ёй візуальны характар, каб кожны зацікаўлены чалавек меў свабодны доступ да такіх звестак. Безумоўна, пэўная прадукцыя — сістэматычны ўлікавы каталог знакаў, брашуры, ці, напрыклад, фотакарткі садзейнічалі б гэтаму працэсу. А нейкія навуковыя высновы няхай робяць спецыялісты сваёй справы, бо пакуль мы не маем адпаведнага досведу.

Аб працягу працы і фіксацыі яе вынікаў казаць рана. Калі знойдуцца зацікаўленыя людзі, якія дапамогуць рэалізаваць праект у гэтым накірунку, будзем працягваць працу.

Андрэй ВАШКЕВІЧ,
Яўген МАХНАЧ

# У ЦІШЫНІ МУЗЕЙНАЙ ЗАЛЫ

Гродзенскі дзяржаўны гісторыка-археалагічны музей, адна з самых старых музейных устаноў рэспублікі, у 2020 годзе будзе святкаваць сваё стагоддзе. Сёння музей размешчаны адразу ў двух гродзенскіх каралеўскіх замках, фонды яго налічваюць каля 200 тысяч адзінак захоўвання, самыя каштоўныя — прадстаўлены ў экспазіцыйных залах.

Асноўная экспазіцыя музея размешчана ў гродзенскім Старым Замку і з'яўляецца прыкладам традыцыйнай музейнай экспазіцыі — у прахалодзе і цішы музейных залаў можна пабачыць шыкоўныя археалагічныя знаходкі, старажытную зброю, манетныя клады, прадметы дэкаратыўна-прыкладнога значэння. Сёння музей чакае перамен, і не выключана, што ў бліжэйшыя гады будзе зачынены на досыць доўгі рамонт-рэстаўрацыю. Таму запрашаем усіх гасцей горада — не абмінайце стары музей, ён падорыць вам сустрэчу з сапраўдным мінулым. Кожны экспанат — гэта эпоха, людзі, сімвалы, якія мы руплівa захоўваем, каб перадаць наступным пакаленням. Раскажам пра некаторае.

Значная частка экспазіцыі прысвечана дзейнасці гродзенскіх рамесніцкіх цэхаў. Тут і рыба са сцяны цэха рыбакоў, які да 1970-х стаяў на Замкавай вуліцы, і харугва млынарскага цэха (экспанат асабліва каштоўны, бо са сваёй харугвай рамеснікі абавязкова ўдзельнічалі ў гарадскіх урачыстасцях і рэлігійных святах). Але найбольш увагі прыцягвае да сябе вялікая кованая скрыня — ляда, зробленая ў Гродне ў 1797 годзе. У такіх скрынях захоўваліся грошы цэха, сімвалы ўлады цэхмайстра і каралеўскія прывілеі. Унікальны ўнутраны замочны механізм скрыні працуе дасюль і можа быць прыведзены ў дзеянне толькі двума ключамі адначасова (замочныя адтуліны ёсць у вечцы скрыні і ў бакавой сценцы). Ключы ад скрыні звычайна захоўваліся ў двух цэхавых майстроў і толькі разам яны маглі яе адчыніць. Можна было павесіць і два дадатковыя навясныя замкі. Цяперашнія наведвальнікі музея падоўгу разглядаюць замочны механізм гэтай скрыні, але дзвесце гадоў таму ён быў прыкрыты карункавай кованай рашоткай з выявамі анёлаў.

Не менш цікавыя і акалічнасці, дзякуючы якім яна трапіла ў музей. У канцы XIX стагоддзя рамесныя цэхі па Расійскай імперыі аджывалі сваё. На змену ім прыходзілі вялікія капіталістычныя прадпрыемствы, уласнікі якіх прымушалі рабочых працаваць па 12 і нават па 14 гадзін на суткі. Аднак у 1892 годзе настаўнік-сацыяліст С. Гажанскі раскапаў у «Зводзе Законаў Расійскай Імперыі» ўказ імператрыцы Кацярыны II ад 1785 года, дзе было напісана, што рамеснікі павінны працаваць ад «6 гадзін раніцы да 6 гадзін вечара» з двухгадзінным перапынкам на абед. Выходзіла, рабочы дзень павінен быў працягвацца максімум дзесяць гадзін. Так не адменены ўказ стагадовай даўніны, сэнс якога быў у тым, каб не дазволіць рамеснікам вырабляць зашмат прадукцыі, стаў юрыдычнай падставай, каб выратавацца ад засілля капіталістаў.

Царскія ўлады адрэагавалі досыць хутка і пачалі афіцыйную ліквідацыю цэхаў. Віленскі генерал-губернатар у сакавіку 1893 года ліквідаваў цэхі і ўвёў у Вільне, Коўне, Гродне і Беластоку «спрошчаныя рамесленыя правілы». Кіраўнікам цэхаў загадвалі здаць пячаткі і каралеўскія прывілеі. Трэба было здаць і сімвалічныя рэчы — цэхавыя скрыні-скарбцы, таблічкі з выявай прылад працы. Такія таблічкі на ланцугу вешаў на сябе падчас свят цэхмайстар. Большасць цэхавых атрыбутаў была здадзена ўладам або прымусова канфіскавана, аднак некаторыя патрыятычна настроеныя цэхмайстры пахавалі каштоўныя рэчы на гарышчах гродзенскіх камяніц.

Толькі ў сярэдзіне 1920-х, калі паўстаў Гродзенскі музей, гэтыя рэчы пачалі вандраваць у музейныя сховішчы. Нашчадкі цэхмістра злучанага цэха ганчароў, муляроў, бандароў і цесляроў Сымон і Міхаліна Навіцкія перадалі Юзафу Ядкоўскаму гэтую скрыню разам з прывілеямі каралёў Яна III Сабескага і Аўгуста II Моцнага і цэхавымі сімваламі.

Сёння ў экспазіцыях беларускіх музеяў можна пабачыць яшчэ адну падобнага кшталту і ўзроўню выканання скрыню. Яна захоўваецца ў Мірскім замку, але таксама паходзіць з Гродна, дакладней, з недалёкага ад нашага горада маёнтка Гожа. Гэта скрыня, вырабленая ў 1710-х, таксама трапіла ў Гродзенскі музей у міжваенны час, але пасля яе перадалі ў адзін са сталічных музеяў.

Яшчэ адзін прадмет з той эпохі — сонечны гадзіннік, выкананы Янам Ігнатам Манувірам. Ян Ігнат Манувір — адна з найменш вядомых асоб беларускай гісторыі, вывучэнне жыцця якога яшчэ толькі пачынаецца. З 1784 года ён быў каморнікам Вялікага Княства Літоўскага, насіў тытул геаметра Яго Каралеўскай Міласці. У музеях Беларусі (Мінск, Гродна), Літвы і Польшчы захавалася 7 сонечных гадзіннікаў Манувіра, вырабленых па заказе высокапастаўленых асоб Рэчы Паспалітай: рэчыцкага старасты Альбрыхта Радзівіла (1776), мінскага абознага Францішка Аборскага (1777), надворнага падкаморыя Францішка Валадковіча (1781), ашмянскага крайчага, бабінавіцкага маршалка Тадэвуша Бучынскага (1781), Ігнацыя Мараўскага і яго жонкі Тэафіліі Канстанцыі з Радзівілаў (1785). Гадзіннікі вырабляліся Манувірам са свінцу, латуні, волава, некаторыя экзэмпляры былі распісаны і вызалачаны. У 1782 годзе Манувір паднёс каралю Станіславу Аўгусту Панятоўскаму сваю працу па вымярэнні часу па сонцы.

Наш гадзіннік трапіў у музей у даваенныя гады, але быў узяты на ўлік у 1953 годзе.

Крайчы Аршанскі Тадэвуш Бучынскі згадваецца ў гербоўніку Каспара Нясецкага як адзін з прадстаўнікоў шляхты, які ў пачатку 1760-х быў запісаны на выбары караля Польшчы Станіслава Аўгуста Панятоўскага. Бучынскія паходзілі з Кракаўшчыны і мелі герб Стрэмя. Згаданая на гадзінніку мясцовасць Бабінова, магчыма, называецца сёння Бабіна і знаходзіцца ў Смаленскай вобласці Расійскай Федэрацыі. У часы Рэчы Паспалітай там існавала Бабінаўская воласць.



*Наведвальнікі музея падоўгу разглядаюць замочны механізм гэтай скрыні. Дзвесце гадоў таму ён быў прыкрыты карункавай кованай рашоткай з выявамі анёлаў.*

Гадзіннік з нашага музея складаецца з квадратнай пласціны і гномана, які прымацаваны да пласціны дротам. Гадзіннік вешаўся на вертыкальную паверхню, таму па краях у ім чатыры невялікія адтуліны. У цэнтры пласціны выява цыферблата, які мае форму сімвалічнага стрэмя — герба Бучынскіх. Над выявай стрэмя карона з верхняй часткай гербавага шчыта. Тэкст падзелены на тры часткі і складае невялікі панегірык:

*Slawne Mestwo BUCZYNSKICH z Strzemia tryumfuje, Dowod jasny gdy samo w herbie im holduje*

*W tym kompasowym strzemiu kwadranse godziny, niechaj skaza KRAYCZEMU sukcesow nowiny*

*Masz wiec zaszczyt Oyczyzno kiedy z twojej ziemie tak przeslawnych rycerzow zawielbia sie Plemie*



*Разьба на крэсле выканана пад уплывам барочных форм, якія пачалі актыўна распаўсюджвацца ў аздабленні мэблі з сярэдзіны XVII стагоддзя.*

Ніжэй змешчана інфармацыя пра крайчага Аршанскага Тадэвуша Бучынскага і дата, якую можна прачытаць як «1781 год».

Па краях пласціны змешчаны табліцы з дадатковай інфармацыяй: аб планетах сонечнай сістэмы і адлегласці да іх, траекторыі руху, якія былі складзены астраномам Ціха Браге ў XVII стагоддзі.

Недалёка ад гадзінніка ў спецыяльнай вітрыне знаходзяцца два крэслы, якія з’яўляюцца самымі старымі прадметамі мэблі, што ўпрыгожвалі гродзенскія каралеўскія замкі ў XVIII стагоддзі.

Крэслы маюць традыцыйную форму (спінка, сядзенне і чатыры ножкі без падлакотнікаў). Верхняя частка спінкі дэкаратыўная, уяўляе сабой выкананы ў тэхніцы разьбы арнамент, які накшталт франтона завяршае крэсла. З правага і левага бакоў арнаменту размяшчаюцца два С-падобныя завіткі ў выглядзе загнутых лісцікаў аканта. Паміж завіткамі ў цэнтры выява каралеўскай геральдычнай кароны, ніжэй — моцна стылізаваная выява створкі ракавіны. Асноўную частку спінкі складаюць дзве разныя дошчачкі ў цэнтры і два тачоныя фігурныя брускі, якія па вертыкалі злучаюць ножкі і сядзенне крэсла з верхняй дэкаратыўнай часткай спінкі.

Сядзенне трапецыяпадобнай формы, звужаецца ў накірунку да спінкі крэсла. Само сядзенне набіта конскім воласам і абцягнута тонкай, добра выробленай, хутчэй за ўсё цялячай, скурай чорнага колеру. Скура прымацавана да каркаса крэсла дэкаратыўнымі цвічкамі з вялікімі плешкамі. Ніжняя аснова сядзення з тканіны і моцных тканых льняных палосаў.

Пярэднія ножкі тачоныя, фігурныя, выкананы ў форме птушыных лап. Перамычка паміж пярэднімі ножкамі амаль дакладна капіруе разны арнамент, які завяршае верхнюю частку спінкі (карона, С-падобныя завіткі і ракавіна). Разьба на крэсле (асабліва на спінцы) выканана пад уплывам барочных форм (асабліва ракавіна і С-падбныя завіткі), якія пачалі актыўна распаўсюджвацца ў аздабленні мэблі з сярэдзіны XVII стагоддзя.

Паводле Ю. Ядкоўскага крэслы адносіцца да эпохі Сасаў (часу кіравання саксонскай дынастыі Віцінаў у Рэчы Паспалітай — 1697—1763 гады).

Крэслы выяўлены Ю. Ядкоўскім у 1910 годзе ў Румянцаўскім музеі Масквы разам з бюро караля Станіслава Аўгуста Панятоўскага (сёння захоўваецца ў фондах музея). Абодва крэслы і бюро былі вывезены з гродзенскіх замкаў расійскімі ўладамі ў канцы XVIII або пачатку XIX стагоддзя ў Вільню, магчыма, прададзены віленскаму біскупу разам з іншай мэбляй з замкаў. У 1855—1864 гадах яны знаходзіліся ў віленскім музеі старажытнасцей Я. Тышкевіча, адкуль пасля ліквідацыі музея былі вывезены ў Маскву. Пачынаючы з 1924 года Ю. Ядкоўскі дамагаўся вяртання крэслаў і бюро з Масквы ў Гродна. Крэслы і бюро былі рэпатрыяваны ў красавіку 1931-га ў Варшаву, адкуль вярнуліся ў Гродна і 15 красавіка 1931-га паступілі ў фонды музея.

Сапраўдным аздабленнем экспазіцыі музея з’яўляецца тканы пояс тыпу слуцкага. Слуцкія паясы вядомыя па ўсім свеце як адзін з адметных сімвалаў Беларускай культуры і ўнікальны прыклад ручнога ткацтва. Слуцкая

мануфактура па вырабе каштоўных тканых паясоў была адной з самых уплывовых у Рэчы Паспалітай, таму падобныя вырабы іншых мануфактур таксама атрымалі назву «слуцкія». На жаль, дакладная колькасць слуцкіх паясоў, якія захоўваліся ў музеях Беларусі ў даваенны перыяд, на сёння не вядомая. Вельмі шмат іх было вывезена з краіны напярэдадні Першай сусветнай вайны і ў гады пасляваенных перадзелаў яе тэрыторыі. Пэўная колькасць паясоў без вестак знікла ў гады Другой сусветнай вайны. Казаць пра маштабы страт культурнай спадчыны можна на прыкладзе Варшаўскага музея, у якім са 124 слуцкіх паясоў пасля вайны налічвалася толькі 28. У сучаснай Беларусі нешматлікія паясы работы Слуцкай персіярні альбо выкананыя на іх узор іншымі ткацкімі цэнтрамі другой паловы XVIII стагоддзя знаходзяцца ў зборах сямі музеяў. Большасць з іх ці захавалася фрагментарна, ці сшыта з кавалкаў некалькіх паясоў. І толькі адзінкі захаваліся цалкам. Адзін з такіх мае гонар экспанаваць наш музей.

Гісторыя слуцкіх паясоў сягае ў сярэдзіну XVII стагоддзя, калі ў Рэчы Паспалітай пачынае складвацца вобраз «польскага», альбо «сармацкага» мужчынскага касцюма, неад’емнай часткай якога становіцца шырокі ўзорысты шаўковы пас. Ён, апрача сваёй утылітарнай функцыі, падкрэсліваў сацыяльны статус і багацце ўладальніка. Гэта быў уплыў моды з усходу, калі вырабы майстроў з Асманскай Імперыі, Персіі і Кітая набылі вялікую папулярнасць. Паясы, якія прызначаліся для вышэйшага саслоўя, вырабляліся з шаўковых, сярэбраных, залатых ніцей і, адпаведна, каштавалі вельмі дорага. Кошт тавару надаваў і працэс яго імпарту з далёкіх краін, таму ў хуткім часе вынікла неабходнасць стварэння мясцовай вытворчасці паясоў.

У 1740 годзе ў горадзе Слуцку князь Міхал Казімір Радзівіл Рыбанька засноўвае мануфактуру шаўковых паясоў. Пазней сюды быў запрошаны майстар са славутай Станіславаўскай (сёння Івана-Франкоўск) персіярні — Ян Маджарскі. Справа ў тым, што па заканадаўстве Рэчы Паспалітай да 1791 года прадстаўнікам шляхты было забаронена займацца гандлёвай і прадпрымальніцкай дзейнасцю пад пагрозай пазбаўлення шляхецтва, таму і кіраванне мануфактурамі фармальна перадавалася іншым асобам.

Спачатку беларускія майстры падчас вытворчасі «ўсходніх», ці, як іх тады яшчэ называлі, «стамбульскіх» альбо «персідскіх» паясоў выкарыстоўвалі традыцыйныя ўсходнія матывы. Але ў хуткім часе персідскія ўзоры сталі спалучацца з мясцовым стылем і каларытам, за аснову якіх браліся выявы рамонкаў, валошак, гваздзікоў і г. д.

Слуцкія паясы падзяляюцца на «простыя», «паўлітыя» і «літыя». «Простыя» вырабляліся з шаўковых нітак, у арнаменце «паўлітых» меліся каштоўныя залатыя і сярэбраныя ніткі, у «літых» золата і серабро прысутнічала не толькі ў арнаменце, але і ў фоне. За год буйная персіярня магла выпусціць адных толькі залаталітых паясоў каля 200 штук. Найкаштоўнейшыя з іх утрымлівалі да 2 фунтаў (амаль 1 кг) золата. Даўжыня слуцкіх паясоў магла дасягаць 4,5 метраў, шырыня — 45см.

Поспех і папулярнасць прадукцыі слуцкай персіярні спрыялі ўтварэнню новых мануфактур у іншых гарадах Рэчы Паспалітай. Былі заснаваны майстэрні ў Ружанах, Гродне, Ласосна. Буйнейшай на тэрыторыі Каралеўства Польскага была персіярня ў Ліпках, непадалёк ад Варшавы. На ёй і быў сатканы пояс, які зараз упрыгожвае экспазіцыю гродзенскага музея.

Папоўніў ён музейныя фонды ў ліпені 1994 года. Даўжыня пояса складае 410,5 см, шырыня — 43,5 см. Вага — 820,7 г — абумоўліваецца шчодрым выкарыстаннем залатых і сярэбраных нітак у спалучэнні з шаўковымі. Сам пояс можна падзяліць на наступныя часткі: дзве «галавы», сярэднік, аблямаванне (бардзюр) і махры.

У галавах нашага пояса вытканы па тры гваздзікі, ад сцябла якіх адыходзяць галінкі з белымі ды блакітнымі кветкамі і ягадкамі карміннага колеру. Такі тып арнаменту называецца «карумфіль», што ў перакладзе з турэцкай абазначае «гваздзік». Пры аздабленні паясоў «карумфілем» менавіта на слуцкай персіярні выкарыстоўваліся выявы двух гваздзікоў. Тут жа мы бачым індывідуальную разнавіднасць распрацоўкі арнаменту: узятыя за аснову структура і чляненне

арнаменту распрацаваны ў Слуцку, але ў самастойнай трактоўцы, з уласным характарам і каларытам. Такую разнавіднасць можна назваць «польскім тыпам», які бярэ свой пачатак з гродзенскай персіярні.

Срэднік пояса ўкладаюць 127 арнаментаваных полак (папярэчныя палосы) памерам 2х35,8 см. Адна з двух полак падзелена напалам па колерах: палова — колеру сланавай косці, другая палова — карміннага колеру. На полцы вытканы раслінна-геаметрычны арнамент. Склаўшы пояс пэўным чынам, гаспадар мог падпяразацца, абраўшы колер адпаведна жыццёвым абставінам, і тады пояс мог гарманіраваць з



*У сховішчы старажытнасцей на старых хорах Барыса-Глебскага манастыра гэтыя саламяныя царскія вароты праляжалі ажно да 1924 года, калі праваслаўны кансісторый па просьбе Ядкоўскага перадаў іх у музей.*

іншымі дэталямі касцюма. Адваротны бок пояса мае цёмную, карычневую афарбоўку і мог выкарыстоўвацца ў сувязі з падзеямі жалобнага характару. Другая полка мае залаты фон, на якім вытканы ланцужок з блакітных і кармінных кветак, злучаных зялёнымі галінкамі. Асноўныя полкі падзяляе паміж сабой вузкая палоска з залатымі ромбамі.

Па перыметры пояса ідзе аблямаване, арнаментаванае галінкамі з блакітнымі і кармiннымі кветкамі, на якіх размясціліся птушкі, што па знешнім выглядзе нагадваюць папугаў з белымі грудкамі, кармiннымі клювамі і крыламі. На канцах пояс абшыты залатымі махрамі, якія зроблены з шаўковай ніці, перавітай залатой. У вуглу ў 2 радкі вытканa імя ўладальніка майстэрні: «Pascha / lis» на лацінскай мове — своеасаблівы знак якасці.

Якаў Пасхаліс (армянін, родам з Такату ў Малой Азіі) з 1761 года жыў у Рэчы Паспалітай. Ён быў купцом, гандляваў у Варшаве ўсходнімі таварамі і заснаваў персіярню ў Ліпках, дзе з 1789 года вытворчасцю кіраваў Франсуа Селіманд — ткач, запрошаны з Ліёна.

Адзін немалаважны факт дазваляе акрэсліць час стварэння нашага пояса. У 1791 годзе Якаў Пасхаліс атрымаў шляхецтва і прозвішча Якубовіч. З гэтага моманту маркаю на паясах стаў яго герб у выглядзе ягняці з чырвоным сцяжком на зялёным полі і ініцыяламі «J.P».

Яшчэ адной адметнасцю Беларусі з'яўляюцца вырабы з саломкі, якія сваім залацістым бляскам знаёмыя кожнаму, хто хаця б аднойчы наведваў нашу краіну. Гэта могуць быць як дэкаратыўныя цацкі, знакамітыя капелюшы-брылі, саламяны посуд, так і ўнікальныя творы народных майстроў, якія не саступаюць у прыгажосці лепшым узорам народнага мастацтва з больш даўгавечных і дарагіх матэрыялаў.

Адным з такіх — знакамітымі саламянымі царскімі варотамі — можа пахваліцца музей у Гродне. Гэта адзін з тых экспанатаў, якія «жыве» ў музеі амаль з самага пачатку яго заснавання.

У 1904—1915 гадах у Гродне дзейнічаў Царкоўна-археалагічны камітэт — арганізацыя, якая займалася зборам і вывучэннем

помнікаў пісьмовай і матэрыяльнай царкоўнай культуры. З адным з сяброў камітэта, Уладзімірам Манасеінам, Юзаф Ядкоўскі падтрымліваў творчыя сувязі. Часам яны праводзілі агульныя даследаванні, і Манасеін нават дзяліўся з Ядкоўскім археалагічнымі знаходкамі. Царкоўна-археалагічным камітэтам быў створаны своеасаблівы музей, або «сховішча старажытнасцей», які месціўся ў Барыса-Глебскім манастыры. Сюды і патрапілі ў 1904 годзе з вёскі Лясковічы Іванаўскага раёна Брэсцкай вобласці саламяныя царскія вароты. У сховішчы старажытнасцей на старых хорах Барыса-Глебскага манастыра гэтыя вароты праляжалі ажно да 1924 года, калі праваслаўны кансісторый па просьбе Ядкоўскага перадаў іх у музей. Па меркаванні навукоўца царскія вароты раней належалі адной з вясковых уніяцкіх парафіяў. Час іх стварэння прыпадае на канец XVIII — пачатак XIX стагоддзя, калі саломапляценне дасягнула найвялікшага росквіту і разам з разьбой па дрэве і жывапісам пачало выкарыстоўвацца ва ўнутраным аздабленні цэркваў.

Іканастасныя вароты цалкам сплецены з саломы і замацаваны на драўляным каркасе пры дапамозе ільняных нітак. Аснова дэкору — складанае аб'ёмнае пляценне. Традыцыйная вітая плячёнка інкруставана рамбічнымі ўстаўкамі з кавалачкаў тканіны чырвонага, блакітнага, сіняга колераў, якія быццам імітуюць каштоўныя камяні на фоне золата саломкі.

Вароты маюць кампазіцыю з дзвюх створак, кожная з якіх кампазіцыйна падзелена на тры квадраты. У кожны квадрат укампанаваны плецены круг, у якім змешчана ўстаўка-медальён. Жывапісныя вобразы выяўляюць чатырох евангелістаў з традыцыйнымі для іх сімваламі: Матфей — з анёлам, Марк — з ільвом, Лука — з быкам, Іаан — з арлом. У сярэднія вякі ў гэтых апакаліпсічных жывёлах бачылі сімвал Хрыста і тлумачылі гэта наступным чынам: будучы ад прыроды анёлам, Хрыстос памёр як ахвярная жывёла (бык), потым паўстаў як леў і ўзнёсся на нябёсы накшталт арла. У верхняй частцы варот сюжэт Благавешчання найсвяцейшай Дзевы Марыі: злева жывапісная выява архангела Гаўрыіла, які благавестваваў Прасвятой Дзеве Марыі (выява справа) нараджэнне Збавіцеля. Медальёны напісаны маслам па дрэве.

Верхняя частка варот уяўляе сабой арку, увенчаную каронай, над якой узвышаецца колападобная дэталь. Геаметрычныя фігуры, якія выкарыстоўваюцца пры пляценні варот, наступныя: круг, ромб, квадрат сімвалізуюць сонца, а хвалістыя лініі вітой плячёнкі — ваду.

Час не шкадуе нічога, а тым больш такі матэрыял, як саломка. За шмат гадоў вароты пацямнелі, страцілі бляск, часткова спарахнелі. Пасля вайны была значна пашкоджана іх верхняя карункавая частка.

У 1970-х гадах для правядзення рэстаўрацыйных работ у Гродна быў накіраваны спецыяліст — Ларыса Мікалаеўна Лось. Разам са сваёй дачкой Аленай яна пачала паспяхова аднаўляць унікальны экспанат.

У адным з інтэрв'ю Ларыса Мікалаеўна дзялілася ўспамінамі аб няпростай справе: «Вароты і сапраўды былі ў вельмі дрэнным стане, іх дэталі, сшытыя льнянымі ніткамі, літаральна рассыпаліся ў руках. Прыходзілася практычна перарабляць народны твор мастацтва, на месцы вучыцца ідэнтычна паўтараць народныя тэхналогіі і кампазіцыі. Дзень за днём па кавалачку, прыкладна 15х15 см».

Побач з варотамі экспануецца саламяная калядная зорка, выкананая ў падобнай тэхніцы. Перад прыездам рэстаўратара ў музей стан зоркі лічылі безнадзейным і збіраліся яе спісваць, але Ларыса Мікалаеўна здолела выратаваць і яе. Сёння абодва прадметы займаюць пачэснае месца ў музейнай зале і радуюць наведвальнікаў.

Такім унікальным помнікам народнай творчасці, як саламяныя вароты, валодае толькі Беларусь. Вароты сведчаць пра дасканаласць мастацтва саломапляцення мінулага, пра высокае майстэрства беларускіх майстроў.

У прынцыпе, сказаныя вышэй словы датычацца не толькі царскіх варот з экспазіцыі Гродзенскага дзяржаўнага гісторыка-археалагічнага музея, але і іншых экспанатаў, пра якія мы распавялі. Кожная рэч з нашай экспазіцыі вартая асобнага даследавання ці нават кнігі.

Юрый ГАРДЗЕЕЎ

# ВУЛІЦАМІ ГОРАДА, ЯКОГА НЯМА

Знаёмства з горадам, тым больш, калі ён наведваецца ўпершыню, пачынаецца, як бы банальна гэта ні гучала, з візуальнага кантакту. Зрокавае заглыбленне ў архітэктурнае асяроддзе, сутыкненне з паасобнымі помнікамі даўніны ды блытанінай вулічнага павуціння, узбагачанага спецыфічнымі формамі ландшафту абуджае і ажыўляе пачуцці, змушае да роздуму і захаплення. Не дзіўна, што вобразы новага горада, а калі дакладней, то іх непаўторнасць надоўга трапляюць у думкі, падказваючы жаданне вярнуцца ў тыя мясціны, каб яшчэ раз задаволіць культурнае эга, атрымаць асалоду ад убачанага, урэшце, зразумець яго.

Труізм аб тым, што кожны горад збудаваў нейкую ўласцівую толькі яму філасофію мінулага, з’яўляецца, нягледзячы на збітасць, ісцінай. Зрэшты, культурны міф горада фарміруецца не толькі дзякуючы знаходкам у запыленых архіўных сховішчах, маніфестам паэтаў ці пісьменнікаў, што ўзнёсла ўсхвалялі горад як пампезны твор з безліччу рознастылёвых помнікаў і праслаўленнем гістарычных постацей. Міф горада, з’яўляючыся сукупнасцю разнастайных вобразных уяўленняў, складаецца са схаваных сімвалаў і сэнсаў, нябачных для няспрактыкаванага вока. За эмацыянальна-эстэтычным фонам успрымання прасторы горада, запоўненага архітэктурнымі здабыткамі, хаваюцца іншыя, неабавязкова рацыянальныя ключы яго спасціжэння, якія не абмяжоўваюцца матэрыяльнымі формамі.

Зразумець горад, яго культурныя коды, сімвалічна-знакавыя значэнні — магчыма. Адзінае, што не дае спакою, — пытанне: як пазбегнуць пасткі акадэмізму ці хрэстаматыйнасці? Еўропа складаецца са шматлікіх гарадскіх мікракосмасаў. Сярэднявечны Бругэ, адзін з найбольш заможных гарадоў Фландрыі, вылучаўся маштабамі сваёй гандлёвай дзейнасці і рамеснай вытворчасці. Аб яго мінулым, заможнасці і гаспадарлівасці жыхароў нагадвае велізарная прастора, як вулічная, так і водная. Бругэ — горад каналаў і мастоў. Вуліцы Венецыі Поўначы шчыльна ўсеяны тысячамі двух- ці трохпавярховых нетынкаваных камяніц з чырвонай цэглы, што раз-пораз чаргуюцца з дамамі з атынкаванымі белымі фасадамі, з высокімі комінамі і стромкімі чарапічнымі дахамі. Горад зросся з воднай прасторай. Яго фасады, што «глядзяць» на каналы, адбіваюцца ў іх люстры.

У абліччы велічнай андалузійскай Гранады, што размясцілася на высокіх узгорках, пераплятаюцца лаканічная архітэктура арабскага замка Альгамбра з вытанчанай Каралеўскай капэлай (Capilla Real), узведзенай у мудрагелістым познагатычным ізабэлінскім стылі. Гранада — горад арабскіх эміраў і іспанскіх каралёў, горад, ахутаны подыхам гісторыі і вялікіх падзей.

Вандроўка па гарадскім павуцінні з’яўляецца своеасаблівам падарожжам у часе і прасторы. Пачуццё часу губляецца. Захапляючыся спадчынай, пакінутай нашчадкам, узнікае адчуванне сплеценасці двух прасторавых вымярэнняў, сучаснага і мінулага, часу, які ёсць, і часу, які вярнуць немагчыма. Час — непераадольная перашкода. Гэта мяжа, якую немагчыма перайсці. Стан часовасці і стан безупыннасці — парадоксы гарадской гісторыі. За гэтай жыццёвай несувымернасцю, бясконцасцю існага і разам з тым абмежаванасцю часу і прасторы хаваецца горад, які існуе, і горад, якога няма...

Лёсы Бругэ і Гранады ў нечым падобныя і супярэчлівыя. Недзе ў XV стагоддзі ў выніку абмялення заліва Звін Бругэ згубіў непасрэдны доступ да мора[1]. У гэты ж час, у канцы таго ж стагоддзя, надыходзіць канец арабскага панавання на поўдні

Іспаніі. 1492 год — час развітання Махамеда XII з горадам і горада з дынастыяй Насрыдаў, якія пакінулі гэты ўжо іспанскі куток. І ўсё ж Гранада каталіцкіх каралёў Ізабэлы І Кастыльскай і Фердынанда ІІ Арагонскага (Los Reyes Católicos), якія далучылі гэты рэгіён да аб'яднанага каралеўства, была працягам сталіцы Гранадскага эмірата. Гэтыя гарады суіснуюць і надалей. Ці не чарговы парадокс гарадской гісторыі?

Сцвярджэнне, што Санкт-Пецярбург — гэта горада Пятра І, не будзе выклікаць ні здзіўлення, ні пярэчання. Як і тое, што пятроўская ідэальная «рацыянальная ўтопія» была здзейснена на «новым» месцы, на балотах[2]. Мабыць, і на балотах, але ці на «новым» месцы? Міфалогія расійскага «акна ў Еўропу» на Няве даволі падманлівая. Міф заснавання горада па сваёй сутнасці касмаганічны. Усё пачынаецца з хаосу, амаль што на пустым месцы. Заснаванне шведамі Ніеншанца ў пачатку XVII стагоддзя ў месцы зліцця Нявы і Охты, ці іжорская назва вострава Хірвісаары (Васільеўскі востраў)[3] аддадзены забыццю. Не кажучы ўжо пра сярэднявечную шведскую Ландскрону. Гэта, канешне, няпоўны тапанімічны зрэз.

Горад — гэта яшчэ і памяць аб заснавальніках ці дабрачынцах. Культурны міф Санкт-Петярбурга ўвасабляе Медны коннік на Сенацкай плошчы, які, што цікава, быў першым свецкім помнікам у Расійскай імперыі[4]. За гэтым манументальным сімвалам неяк хаваюцца манументы Пятру І і Паўлу І, інтэгральна звязаныя з Міхайлаўскім замкам. На Неўскі праспект глядзіць Кацярына ІІ, а на Ісакіеўскую плошчу пазірае Мікалай ІІ. Канешне, гаворка ідзе аб горадзе-сталіцы, да таго ж сталіцы імперыі.

Культурная прастора горада захоўвае памяць не толькі пра манаршых асоб, але і пра важныя падзеі. Над гранадскай плошчай Ізабэлы Каталіцкай (Plaza Isabel La Catolica) узвышаецца помнік каралевы Ізабэлы і… тут хацелася б працягнуць так: «і караля Фердынанда», і гэта было б цалкам лагічным, але… Над тронам Ізабэлы схіляецца Хрыстафор Калумб, які, відаць, пераконвае яе ў неабходнасці далёкіх падарожжаў. Помнік утрымлівае глыбокую наўмыснасць, спалучаючы ідэю завяршэння рэканкісты і трыумф хрысціянства на Пірэнейскім паўвостраве з заморскімі, «індыйскімі» экспедыцыямі.

**Зразумець горад, яго культурныя коды, сімвалічна-знакавыя значэнні — магчыма. Адзінае, што не дае спакою, — пытанне: як пазбегнуць пасткі акадэмізму ці хрэстаматыйнасці?**

Гародня губляецца ў віры разнастайнасці соцень гарадскіх сусветаў. Яе культурны міф увасабляе матэрыяльную прастору, яе здабыткі. Трэба прызнаць, што прастора горада XXI стагоддзя ўжо не валодае такімі матэрыяльнымі атрыбутамі, як ратуша з комплексам крам, фахверкавыя мяшчанскія камяніцы ці драўляныя магнацкія палацы. Перапляценне матэрыяльнага і сімвалічнага сведчыць пра тое, што сучасная Гародня — горад неіснуючых сімвалаў. Міф караля Стэфана Батрыя ці князя Вітаўта лунаюць над замкам, а на Гарадніцы мроіцца Антоні Тызенгауз. Толькі дзе яны? Дзе іх месца?

Міф гарадской культуры складаецца з розных сэнсаў, якія неабавязкова высякаліся ў камені, але крэсліцца словамі. Горад — гэта не толькі матэрыяльная прастора, але і соцыум з уласцівым яму светам уласных імёнаў. Даўней даволі часта найменні гарадскіх аб'ектаў былі сугучнымі з формамі гарадской прасторы, асвоенай гараджанамі, з яе «ўтаймаваным» ландшафтам, плынямі водных стыхій, культурай ды паўсядзённасцю.

Імёны горада ствараюць і дапаўняюць міф горада. Яны — падказка для спасціжэння светапогляду жыхароў даўняй Гародні, яе афіцыйнага і народна-гутарковага разнамоўя.

Спазнаць недасягальнае і расшыфраваць забытае — задача невыканальная. Застаецца зазірнуць у гэты свет, парушаючы фабулу гістарычных падзей і здарэнняў.

15 лютага 1864 года паліцмайстар Васілій Змееў накіраваў у Гродзенскае губернскае праўленне рапарт, у якім выказваў «занепакоенасць» неўпарадкаванасцю вулічных назваў, іх неадпаведнасцю «местностям» ці ўвогуле адсутнасцю гэтакіх. Да рапарта ім быў далучаны падрабязны спіс папярэдніх існуючых і новых найменняў. Праз дзевяць

**Для жыхара Гародні XVIII стагоддзя назва «вуліца з Нямецкага рынка, што ідзе да Гараданіцы» была падказкай, якая сведчыла, што артэрыя злучала старадаўні Нямецкі рынак з ракой Гарадніцай ці каралеўскім дваром Гарадніца**

дзён прапановы начальніка гарадской паліцыі былі ўхвалены. Замена шыльд на вуліцах была даручана магістрату. Дзеля справы ўлады не паскупіліся, выдаткоўваючы на выраб новых вулічных таблічак блакітнага колеру з белымі надпісамі 253 рублі і 90 капеек[5]. Факт, канешне, немалаважны. Зрэшты, не меншую цікавасць уяўляе высвятленне наступнага пытання: якія ж вуліцы былі «ўпарадкаваны»?

Не ўсім вуліцам было наканавана пазбавіцца свайго сімвалізму. Улады перайменавалі большасць вуліц, не кранаючы, напрыклад, Замкавую ці Маставую. Разам з тым Дамініканская стала Саборнай[6], Бернардзінская — Мяшчанскай[7], Брыгідская — Купецкай[8], Баніфратэрская — Татарскай[9], Раскоша — Садовай[10]. На карце горада з'явіліся Палатная, якая замяніла Златарскую, і Паліцэйская (Рэзніцкую). Паўстае пытанне: што ж у сапраўднасці адбылося ў горадзе?

Не выклікае аніякага сумнення, што тапанімічны фонд горада пачаў разглядацца царскімі ўладамі праз прызму супрацьстаяння гісторыка-культурных каштоўнасцей. Непасрэдна ж перафарматаванне традыцыйнай, гістарычна складзенай мадэлі наймення вуліц падштурхнула паўстанне 1863—1864 гадоў. Таму 1864-ы трэба лічыць першым выпадкам свядомага, мэтанакіраванага ўмяшальніцтва расійскіх улад у свет уласных імёнаў горада[11].

У XX стагоддзі вулічныя назвы шматкроць мяняліся: у часы Першай і Другой сусветных войнаў, у 1919-м і 1923-м. У 1930-я на карце горада з'яўляліся новыя вуліцы, а за імі і новыя назвы. Аднак у 1940-м, а потым у 1952-м, відаць, «па просьбе працоўных»[12], былі знойдзены сродкі на чарговыя, масавыя перайменаванні тапанімічнага фонду цэнтра горада. З гэтага часу Дамініканская стала Савецкай, Брыгідская — Карла Маркса, Баніфратэрская — Свярдлова. Дух сацыялізму ўмацоўвалі прозвішчы Леніна, гістарычных постацей расійскай арміі (Суворава ці Кутузава), уласна назва вуліцы Сацыялістычнай... Мабыць, з гэтай прычыны тапанімічнае дэжавю не можа не пераследаваць кожнага, хто прыязджае ў горад над Нёманам.

Гістарычная крыніца — рэч упартая. Яе можна аналізаваць, інтэрпрэтаваць, ставіцца да яе скептычна, сумнявацца ў яе праўдзівасці... Між тым гісторыя не любіць пустых, нічым не абгрунтаваных домыслаў. Таму хацелася б адказаць на пытанне пра тое, калі ў горадзе пачалі ўзнікаць тапонімы.

Вуліцы ў горадзе з'явіліся ў раннім сярэднявеччы, але першыя згадкі пра іх назвы пачалі натавацца на пачатку XVI стагоддзя. Хаця цалкам верагодна, што першыя тапонімы сфарміраваліся раней, у вуснай форме, ад гараджан, паступова замацоўваючыся за той ці іншай вуліцай[13]. Працэс наймення вуліц меў, такім чынам, стыхійны, натуральны характар. Гарадскія, тым больш дзяржаўныя ўлады гэты працэс не рэгулявалі і не імкнуліся гэта рабіць.

Трэба ўлічыць яшчэ адну важную акалічнасць. У даўнія часы вулічная назва выконвала адрасна-ідэнтыфікацыйную функцыю. Нумарацыя дамоў адсутнічала, таму звесткі, змешчаныя ў імёнах унутрыгарадскіх аб'ектаў, дадаткова дапамагалі перасоўвацца па гарадской прасторы. Мабыць, таму назва кожнай вуліцы ўяўляла кароткі расповед. Для жыхара Гародні XVIII стагоддзя назва «вуліца з Нямецкага рынка, што ідзе да Гарадніцы» была падказкай, якая сведчыла, што артэрыя злучала старадаўні Нямецкі рынак з ракой Гарадніцай ці каралеўскім дваром Гарадніца. Ці найменне «вуліца Вялікая з мастка на Падоле», якое фігуравала ў крыніцах, выразна паказваючы, адкуль і куды вядзе. Канешне, сёння не кожны гарадзенец змог бы адказаць на пытанне, пра якія вуліцы ідзе гаворка. Дык якім быў свет уласных імёнаў вуліц даўняй Гародні?

Жыхару даўняга горада свет абстрактных імёнаў быў не ўласцівы. Таму вулічныя назвы суадносіліся з імёнамі жыхароў горада. У іх можна было прачытаць пра назвы населеных пунктаў, святыні і аб'екты грамадскага прызначэння. Тапонімы былі своеасаблівым люстэркам, у якім адбівалася тапаграфія горада з яго ўзгоркамі, рэкамі, ірвамі.

На адной з вуліц горада ў сярэдзіне XVI стагоддзя стаяў двор шляхціца Калюціна, таму з цягам часу за ёй замацавалася назва — вуліца Калюцінская. Імя шляхціца Рабея легла ў аснову вуліцы Рабяёўскай на занёманскім прадмесці. Ад антрапонімаў паходзяць назвы вуліц Навікоўскай, Аліскоўскай, Дзям'янаўскай. А на Падоле, над Нёманам, складальнікі валочнай памеры ў XVI стагоддзі адзначылі «вуліцу ад Хілімона» ці «вуліцу за Вараб'ём».

Сталыя гандлёвыя кантакты з іншымі гарадамі ці мястэчкамі таксама знайшлі сваё адлюстраванне на карце. Адной з галоўных артэрый горада лічылася вуліца Віленская, якая ішла ад Рынка ў паўночным накірунку і на ўскрайках горада пераходзіла ў Віленскі тракт. Азёрская вуліца з'яўлялася галоўнай воссю ўсходняй часткі горада. Згаданыя назвы знаходзіліся ў паўсядзённым і афіцыйным ужытку на працягу трохсот гадоў. Разам з тым у кнігах гарадзенскага магістрата ў другой палове XVIII стагоддзя пачынае фіксавацца паралельная назва вуліцы Віленскай — Дамініканская. Пісары ўводзілі ў абарот новую назву не таму, што такое рашэнне зацвердзілі гарадскія ўлады, а ў выніку шырокага, відаць, вуснага ўжытку новага наймення: яно выкарыстоўвалася жыхарамі горада і паступова замацавалася за вуліцай. Зрэшты, у гэты ж час назва Азёрская пачынае саступаць Брыгідскай. Чаму адбыліся такія змены? Адказ вельмі просты. У XVII стагоддзі ў горадзе былі ўзведзены кляштары дамініканцаў (на Віленскай вуліцы) і жаночы брыгідскі (на Азёрскай). Відаць, місіянерска-прапаведніцкая і адукацыйная дзейнасць кляштараў, іх кантакты з гараджанамі, а таксама размяшчэнне іх сядзіб, якія ўзвышаліся над рэгулярнай забудовай вуліц, адыгралі не апошнюю ролю ў з'яўленні новых назваў[14].

Адной з загадак гарадзенскай тапаніміі можна палічыць назву вуліцы Траецкай. Дакладна вядома, што гэта артэрыя існавала ўжо ў XVI стагоддзі. На працягу трох стагоддзяў яна мела розныя паралельныя назвы. Прычым назвы былі традыцыйна апісальныя: «вуліцай з Нямецкага рынка [да] рэчкі Гараднічанкі», «вулачка ў бок Тройцы ад Віленскага гасцінца», урэшце «вуліца з Нямецкага рынку, ідучы да Гарадніцы». У 1726 годзе ў Гародні быў праведзены перапіс уладальнікаў нерухомай маёмасці, што было абумоўлена высвятленнем магчымасці пасялення паслоў сойма, які меў адбыцца ў горадзе. Менавіта ў гэтым дакуменце ўпершыню было выкарыстана акрэсленне Траецкая вуліца («*Ulica Trojecka*»). З вялікай доляй упэўненасці можна сцвярджаць, што з-за адсутнасці афіцыйнага тапанімічнага канона складальнік засведчыў у сваім дакуменце назву, пачутую ў вуснай форме. Такім чынам, на пачатку XVIII стагоддзя адбылася пісьмовая фіксацыя назвы, якая выкарыстоўвалася ў штодзённым побыце ў ранейшы час.

У перыяд Расійскай імперыі рабіліся спробы звязаць назву вуліцы з праваслаўнай Траецкай царквой. Доўгі час пытанне лічылася вырашаным, а таму справа гэтая неяк абыходзілася. Аднак, нягледзячы на абмежаванае кола захаваных крыніц, таямніцу гэтага вулічнага імя ўдалося раскрыць. Як аказалася, у канцы XV стагоддзя на Нямецкім рынку, непадалёк ад паўночных ускрайкаў горада, сваю сядзібы заснавалі аўгусцінцы. Манахі пабудавалі касцёл святой Тройцы. У 1673 годзе кляштар спыніў сваё існаванне. Але памяць аб ім і касцёле існавала надалей.

Тры разгледжаныя прыклады з'яўляюцца цікавай ілюстрацыяй эвалюцыі ўласных назваў вуліц ды яскравам сведчаннем таго, што іх стваральнікамі былі жыхары горада[15].

**Міф караля Стэфана Баторыя ці князя Вітаўта лунаюць над замкам, а на Гарадніцы мроіцца Антоні Тызенгауз. Толькі дзе яны? Дзе іх месца?**

**Пісары ўводзілі ў абарот новую назву не таму, што такое рашэнне зацвердзілі гарадскія ўлады, а ў выніку шырокага, вуснага ўжытку новага наймення: яно выкарыстоўвалася жыхарамі горада і паступова замацавалася за вуліцай**

Калі ў сярэднявеччы ўсе дарогі вялі да замака, то з цягам часу з-за пашырэння гарадскіх межаў яны пачалі весці таксама і да Рынка. Так у даўнія часы акрэсліваліся плошчы горада. Зрэшты, і ў нашы часы рынкамі называюцца плошчы ў Польшчы ці на Украіне. Можна меркаваць, што слова гэта трапіла ў беларускую мову з нямецкай («*Ring*» даслоўна «*пярсцёнак, кола*») за пасрэдніцтвам польскай мовы, разам з магдэбургскім правам. На Рынку гараджане ўзводзілі ратушу, ганлёвыя рады і галоўную святыню горада. Як правіла, тут свае дамы будавалі заможныя мяшчане. Адну з першых згадак пра назву фіксуе прывілей караля Жыгімонта Старога ў 1507 годзе: «*на рынку въ мѣстѣ Городеньскомъ*»[16]. Трэба заўважыць, што гэта найменне ўжывалася яшчэ ў першай палове XIX стагоддзя.

У імёнах вуліц адбіваліся ўласцівасці прыроднага рэльефу горада. Лагічна, што вуліцы, размешчаныя ва ўсходняй, узвышанай частцы, называліся Бернардзінская гара, Бернардзінскае ўзгор'е ці Курганская вуліца. А вось ніжэйшую, наднёманскую тэрасу правабярэжжа Гародні займала вуліца Падольная, якая цягнулася ўздоўж берага Нёмана. З той жа нагоды: «вуліца над ракой Гараднічай па-над ірвом» ці «Замкавы роў», «вуліца на беразе Нёмана, ідучы да замка». Пералічаныя назвы з'яўляюцца цікавымі сведчаннямі дапасоўвання назваў вуліц да гарадскога ландшафту, яго пакручыстых берагоў, наднёманскіх тэрас, прарэзаных ярамі, ці водных артэрыі.

У вулічных назвах змяшчаліся звесткі пра гарадское рамяство. Над Нёманам ляжалі вуліцы Гарбарская і Плытніцкая, г.зн. вуліца плытагонаў; Садоўніцкая, вуліца каралеўскіх садоўнікаў. А яшчэ ў горадзе былі вуліцы Рэзніцкая, Мясніцкая ды Златарская.

Тапонімы з'яўляліся сведчаннем этнаканфесійнай структуры горада. На старонках старых крыніц можна сустрэць Бернардзінскую і «Чэснахрэскую вуліцу». Аб Вітаўтавай Фары нагадвала «вулачка з Рынка міма касцёл фарскі». А яшчэ ў даўняй Гародні былі «вулачка да царквы Васкрасенскай», «вулачка, што ідзе з Замкавай вуліцы да царквы». І гэта зноў няпоўны спіс. Урэшце Нямецкі рынак і «Жидовская улица», якая ўпершыню згадваецца ў 1539 годзе.

Частковая «рэабілітацыя» гістарычных тапонімаў адбылася ў горадзе на пачатку 1990-х. Да гэтага прычыніліся як настрой думак, што панаваў у часы «перабудовы», з імкненнем да пераўтварэнняў аблічча горада, так і дзейнасць тапанімічнай камісіі. Ужо ў 1992 годзе на карце гістарычнага цэнтра горада з'явіліся вуліцы Гараднічанская, Вялікая Траецкая, Стэфана Баторыя, Калючынская, Дамініканская, «ахвярамі» якіх сталі імёны Фрыдрыха Энгельса, Алега Кашавога, Надзеі Крупскай, Далорэс Ібаруры, вядомай як Пасіянарыя, і Клары Цэткін. Гістарычная частка плошчы Леніна была перайменавана ў плошчу Антонія Тызенгауза.

Нягледзячы на рашэнне гарвыканкама аб змене назваў 12 вуліц, прынятага з жніўні 1993 года, гарадскі савет у 1994 годзе зацвердзіў яго толькі часткова. Не былі перайменаваны вуліцы Сацыялістычная, якую планавалася назваць вуліцай Вітаўта, і Урыцкага, якая мелася саступіць месца гістарычнай назве Залатарская[17].

Усе кропкі над «і» ў гісторыі тапанімічных пераўтварэнняў пачатку 1990-х не пастаўлены. Аналізуючы першыя кволыя крокі постперабудовачнага тапанімічнага руху, трэба адзначыць яго пэўную непаслядоўнасць, адсутнасць комплекснай праграмы змен, прыняцце рашэнняў па кожнай вуліцы асобна, што, пэўна, замаруджвала працэс. Некаторым вуліцам не столькі вярталіся гістарычныя, колькі надаваліся новыя назвы. Кідаецца ў вочы тое, што перайменa-

ванні закранулі толькі некаторыя другарадныя вуліцы цэнтра горада. Таццяна Маліноўская, член тапанімічнай камісіі таго часу, трапна заўважыла, што пасля прапановы вяртання вуліцы Савецкай адной з яе гістарычных назваў — Дамініканскай — гарсавет вырашыў перайменаваць вуліцу Клары Цеткін менавіта ў вуліцу Дамініканскую[18], тым самым пазбаўляючы перспектыў змены назвы галоўнай артэрыі гістарычнага цэнтра горада.

Трэба ўлічыць і тую акалічнасць, што вяртанне тапанімічнай спадчыны горада азначала знікненне з яго карты вуліц Савецкай, Сацыялістычнай, Леніна, Суворава, Кірава, Будзёнага, Талстога, Гогаля, што выклікала абурэнне камуністаў і гарадскога савета ветэранаў. Новая тапанімічная камісія гарвыканкама, сфарміраваная ў 1997 годзе, не займалася пытаннямі вяртання гістарычнай тапанімікі.

Тэма вяртання ўласных імёнаў горада, яго гістарычных назваў нагнала моцную аскоміну па прычыне сваёй тупіковасці. Праблема не ў бяспамяцтве горада. Яны ляжаць у іншай плоскасці — бяздзейнасці і пасіўнасці, за якімі хаваюцца «рацыянальныя тлумачэнні» аб тэхнічных складанасцях ці недахопах сродкаў. Васілій Змееў у 1864 годзе такіх праблем не меў. Не мелі іх абласныя ўлады, якія ўжо ў студзені 1940 года пранялі комплексную і грунтоўную праграму перайменавання вуліц.

«Мы знаходзімся на Савецкай вуліцы, хаця яна выглядае абсалютна як не савецкая», — сцвярджае заўзятарка барысаўскага клуба Яна, якая вясной гэтага года прыехала на матч сваёй каманды[19]. І, напэўна, такая заўвага амаль нікога не здзіўляе. Гэта не адзіны голас. Сапраўды, у ландшафце кожнага еўрапейскага горада адчуваецца сугучнасць архітэктуранага аблічча і тананімічнай спадчыны. Гэта гарадская традыцыя. І адно, і другое перадаецца ды замацоўваецца ў памяці гараджан. І адным, і другім можна ганарыцца.

Калі адысці ад сімвалічнага вымярэння і разумення гарадской тапаніміі, то даўнія вулічныя назвы можна разглядаць як датковую прыцягальнасць для турыстаў. Аднак, хацелася б запытацца, які горад…

...я шукаю па ўсёй зямлі,
горад, што выплыў з людской надзеі...[20]

## КАМЕНТАРЫІ


1 M. Bloch, *Apologie pour l' Histoire ou Métier d'Historien*, 1949, p. 17.

2 Лотман, Ю. *Семиотика*. — Санкт-Петербург, 2010. — С. 325, 327.

3 Кепсу, С. *Петербург до Петербурга. История устья Невы до основания города Петра*. — Санкт-Петербург, 2000. — С. 15, 19.

4 Кошман, Л. *Культурное пространство русского города XIX — начала XX вв. К вопросу о креативности исторической памяти*, http://e-notabene.ru/ca/article_639.html.

5 Семянчук, Г. Вуліцы Гродна часоў Расейскай імперыі (1795—1915 гг.) // Гарадзенскі гадавік. — 2013. — № 2. — С. 51—53.

6 Цяпер Савецкая вуліца.

7 Цяпер вуліца Баторыя.

8 Цяпер Карла Маркса.

9 Цяпер вуліца Свярдлова.

10 Цяпер вуліца Ажэшкі.

11 Гардзееў, Ю. Да пытання фарміравання гродзенскай урбанімікі // З глыбі вякоў. Наш край. — 1997. — №. 2. — С. 76.

12 Саяпін, В. *Гісторыя вуліц Гродна ў XX стагоддзі* // Гарадзенскі гадавік. — 2013. — № 2. — С. 60—91.

13 Мезенка, Г. *Беларуская анамастыка*. — Мінск, 1997. — С. 86.

14 Гардзееў, Ю. *Тапанімія старажытнай Гародні*. — Гародня, 2013. — С. 129.

15 Гардзееў, Ю. *Тапанімія старажытнай Гародні.* — Гародня, 2013. — С. 130—131.

16 *Акты, относящиеся к истории Западной России*, т. 2. — Санкт-Петербург, 1848. — С. 29—30.

17 Саяпін, В. *Гісторыя вуліц Гродна ў XX стагоддзі* // Гарадзенскі гадавік. — 2013. — № 2. — С. 76—78.

18 Маліноўская, Т. *Да пытання перайменавання назваў вуліц горада* // Гарадзенскі гадавік. — 2013. — № 2. — С. 101.

19 БАТЭ drive. Гродно, https://www.youtube.com/watch?v = 9AhwtbSKe2I.

20 Разанаў, А. Вандроўны горад. A. Razanau, Leśna droga. — Wrocław, 2006. — S. 128.

ГРОДЗЕНСКІ МЕДУНІВЕР ПРАДСТАЎЛЯЕ

Яўген ЦІШЧАНКА

# ПЕРШЫЯ КРОКІ МІЛАСЭРНАСЦІ

## З ГІСТОРЫІ ГРОДЗЕНСКАГА ТАВАРЫСТВА ЧЫРВОНАГА КРЫЖА

16 чэрвеня 1867 года з міністэрства ўнутраных спраў гродзенскаму губернатару прыйшоў цыркуляр, у якім паведамлялася, што 23 мая 1867 года надрукаваны статут Таварыства апекі над параненымі і хворымі воінамі ў ваенны час і выслана шэсць яго экзэмпляраў. 31 ліпеня 1867 года віленскі генерал-губернатар пытаўся ў гродзенскага: «Якое зроблена вамі распараджэнне па цыркуляры…» У той жа час прыйшоў указ Сената пра «раздрукоўку і рассылку статута». Вядома таксама, што 3 чэрвеня 1868 года з Гродна быў накіраваны адказ, які ўтрымліваў спіс асоб, «што прынялі на сябе званне членаў Таварыства апекі над параненымі і хворымі воінамі». У спіс уключаны: заснавальнік — стацкі саветнік Янакіеў, шэсць рэальных членаў і два спаборнікі. Арганізацыйныя дзеянні адбыліся і ў павятовых гарадах. Паведамлялася, што выказалі жаданне быць членамі таварыства: 7 студзеня 1868 года — 7 чалавек у Бельскім павеце, 10 студзеня — 10 у Слонімскім, 16 лютага — 4 у Кобрынскім, 22 сакавіка — 34 у Брэсцкім, 8 чэрвеня — 7 у Беластоцкім. Адначасова прыводзіліся дадзеныя пра збор грашовых сродкаў — дабрачынных ахвяраванняў. Так, у Брэсце было сабрана 95 рублёў, а самы распаўсюджаны ўнёсак (памер залежаў ад саслоўя) склаў 3 рублі. Цікава таксама тое, што толькі ў Брэсце сярод тых, хто запісаўся ў члены таварыства, былі медыкі — доктар Валадкевіч і назіральнік шпіталя Лявіцкі, астатнія члены ў большасці з'яўляліся прадстаўнікамі адміністрацыйнай і саслоўнай эліты. У выніку 4 лістапада 1873 года ў Галоўнае ўпраўленне Таварыства апекі над параненымі і хворымі воінамі ад Гродзенскай губерні паступіла «148 руб. 39 3/4 коп.».



*Прыезд Мікалая II у Гродзенскую крэпасць.*

Трэба адразу адзначыць, якую ролю адводзілі ўлады дзейнасці таварыства. Пра яе сведчыць тое, што ў 1903 годзе старшынёй Гродзенскага мясцовага ўпраўлення Таварыства Чырвонага Крыжа з'яўляўся гродзенскі губернатар Сталыпін, а яго жонка з'яўлялася апякункай Абшчыны сясцёр міласэрнасці.

Арганізацыйныя пераўтварэнні прайшлі ў 1877-м. Да 25 чэрвеня мясцовы камітэт Брэсцка-Граеўскай чыгункі ў Беластоку прыняў назву Беластоцкі камітэт Таварыства апекі над параненымі і хворымі воінамі (старшыня — Ангель), а 30 верасня было дазволена адкрыццё другога мясцовага камітэта Таварыства апекуноў у Беластоку. Гэты год адзначыны таксама першым выданнем справаздачы Гродзенскага мясцовага ўпраўлення (старшыня — жонка губернатара Зурава). Далей было выдадзена шэсць такіх справаздач (за гады 1879, 1880, 1881, 1903, 1904), але ўжо Гродзенскага мясцовага ўпраўлення Расійскага Таварыства Чырвонага Крыжа. Перайменаванне адбылося ў 1879 годзе.

Асаблівую значнасць таварыства набывала ў перыяд ваенных дзеянняў, а мена-

віта падчас Руска-турэцкай (1877—1878), Руска-японскай (1904—1905), Першай сусветнай (1914—1918) вайнаў. У гэтыя гады Таварыства ўдзельнічала ў арганізацыі медыцынскай дапамогі арміі, накіроўваючы падрыхтаваныя ім кадры, санітарны інвентар, правізію, вопратку, забяспечвала аказанне лячэбнай дапамогі і догляд у санітарных установах прыфрантавога боку, абсталёўваючы і ўкамплектоўваючы іх, выплочвала матэрыяльную дапамогу інвалідам вайны і сем'ям тых, хто загінуў.

У 1877—1878 гадах прадстаўнікі таварыства прымалі санітарныя цягнікі, што прыбывалі на станцыю Гродна, пераводзілі параненых на лячэнне ў медыцынскія ўстановы горада. Такія цягнікі былі прыняты 29 жніўня, 2 і 26 верасня 1877 года. 20 красавіка 1878 года з 222 дастаўленых раненых было накіравана: 9 — у Гродзенскі лазарэт Чырвонага Крыжа, 213 — у Гродзенскі ваенны шпіталь. У студзені 1879 года Кобрынскі мясцовы камітэт Таварыства атрымаў дазвол ад гродзенскага губернатара на правядзенне вечара і розыгрыш латарэі на суму 300 рублёў напярэдадні вадохрышчанскага кірмашу.

У сувязі з Руска-японскай вайной 12 лютага 1904 года Віленскае акружное ваенна-медыцынскае ўпраўленне звярнулася да гродзенскага губернскага ўрачэбнага інспектара з прапановай сфарміраваць урачэбна-санітарны атрад Чырвонага Крыжа для адпраўкі на Далёкі Усход. Меркавалася, што штат атрада складзе старшы ўрач (хірург) з акладам 500 рублёў і чатыры малодшыя ўрачы (два хірургі і два тэрапеўты) з акладам 350 рублёў. Ужо 5 сакавіка ў адказ на прапанову паведамляліся прозвішчы ўрачоў, якія выказалі жаданне



*Перавязачная дабравольнага санітарнага атрада Гродзенскай крэпасці. 1 лістапада 1914 года.*

ўвайсці ў склад атрада: Адольф, Благушэўскі, Вінаградаў, Жданаў, Жаланткоўскі, Эпштэйн. У тым жа 1904-м Гродзенскае аддзяленне Расійскага Чырвонага Крыжа накіравала лагерныя палаткі, ложкі, коўдры, бінты, вату, іншую санітарную маёмасць для разгортвання працы палявога лазарэта на 25 месцаў на станцыі Харбін. У гэтым лазарэце на працягу года працавала шэсць сясцёр міласэрнасці. Выдаткі Гродзенскага мясцовага ўпраўлення Таварыства Чырвонага Крыжа на аказанне дапамогі хворым і параненым на Далёкім Усходзе за 1904 год склалі «42248 руб. 86 1/2 коп.» (на ўтрыманне абшчыны сясцёр міласэрнасці на той самы год пайшло толькі «1444 руб. 59 1/2 коп.».

Пачатак Першай сусветнай вайны выклікаў неабходнасць шырокай дабрачыннай дзейнасці. Як дэманструе аналіз шматлікіх гістарычных дакументаў, такая дзейнасць у 1914—1915 гадах ажыццяўлялася ў Гродзенскай губерні праз збор грашовых сродкаў, прадуктаў і адзення насельніцтвам і рознымі грамадскімі аб'яднаннямі, якія тым самым аказвалі істотную падтрымку працы Таварыства Чырвонага Крыжа. Сбор грашовых сродкаў дасягаўся самымі рознымі акцыямі: ахвяраваннямі, кубкавым зборам, латарэяй, продажам білетаў на музычныя вечары, спектаклі, наведванне кінематографу, продаж нацыянальных сцяжкоў і інш. Выкладзем толькі некаторыя гістарычныя звесткі, што адлюстроўваюць разгорнутую дабрачынную дзейнасць. 4 жніўня 1914 года ў Кобрыне насельніцтва сабрала 3000 рублёў з мэтай адкрыцця лазарэта на 100 месцаў. 7 жніўня таго ж года Быценскі валасны сход Слонімскага павета ахвяраваў 50 рублёў на карысць Чырвонага Крыжа. У ліпені-жніўні 1914 года 11 дваран-землеўладальнікаў Ваўкавыскага павета выступілі з ініцыятывай адкрыць у маёнтках лякарні для параненых, што ідуць на папраўку. Як варыянт разгладалася таксама стварэнне і ўтрыманне лазарэта ў Ваўкавыску. Аднак армейскія ўлады палічылі за больш патрэбнае пашырэнне і фінансаванне харчова-перавязачнага пункта на станцыі Ваўкавыск. Для працы ў ім былі прыцягнуты сем сясцёр міласэрнасці і ўрач Крушэўскі. З 20 верасня

па 24 кастрычніка пункт абслужыў 17 цягнікоў з 6938 параненымі. Таксама ў ліпені-жніўні 1914 года жонка генерала Кайгародава прапанавала сабраць сродкі і арганізаваць дабрачынны санітарны атрад Гродзенскай крэпасці. У кастрычніку 1914 года жонка выкладчыка Жыровіцкага духоўнага вучылішча Цэбрыкава ініцыіравала дапамогу мясцоваму ваеннаму лазарэту. 24 кастрычніка 1914 года яўрэі Зэльвы перадалі 100 рублёў на патрэбы Гродзенскай абшчыны сясцёр міласэрнасці. 17 лістапада яўрэйскае насельніцтва Гродна «учредило 25 коек», для чаго быў створаны камітэт у складзе 21 чалавека, у тым ліку зубны ўрач Анцалевіч, урачы Замкоўскі, Роутэнштэйн, Хазан, Шапіра, Эпштэйн. 8 студзеня 1915 года Лідскі мясцовы камітэт Таварыства Чырвонага Крыжа (старшыня — Кабылінскі) вырашыў у сувязі з тым, што сабраных грошай («563 руб. 62 коп.») недастаткова для арганізацыі лазарэта або патраната, пусціць іх на закупкі і адпраўку закупленага на склады таварыства. К 1 красавіка 1915 года ў Брэст-Літоўскім раёне дзейнічала шэсць патранатаў на 76 месцаў для прызнання непрыгоднымі для вайсковай службы і не маючымі сродкаў для існавання прадстаўнікоў ніжэйшых чыноў. Чатыры патранаты размяшчаліся ў мястэчку Высокае і ўтрымліваліся за кошт сродкаў мясцовага камітэта (старшыня — Гутоўскі) Таварыства Чырвонага Крыжа.

Другім накірункам дзейнасці Гродзенскага аддзялення Расійскага Таварыства Чырвонага Крыжа з’яўлялася арганізацыя аказання медыцынскай і матэрыяльнай дапамогі насельніцтву, якое пацярпела ад стыхійных бедстваў. Так, 25 мая 1881 года Слонім быў ахоплены пажарам. Для дапамогі пацярпелым Гродзенскае мясцовае ўпраўленне (старшыня — Цэймерн) накіравала 200 рублёў уласных сродкаў, арганізавала збор ахвяраванняў для наступнага іх накіравання ў камітэт па аказанні дапамогі пацярпелым ад пажару. А Галоўнае ўпраўленне Расійскага Таварыства Чырвонага Крыжа ў сувязі з гэтым вылучыла 500 рублёў. Гродзенскае Таварыства ажыццяўляла збор сродкаў для пацярпелых ад землятрусу жыхароў гарадоў Вернага (1887—1889) і Шэмахі (1901), для пацярпелага ад неўраджаю насельніцтва цэнтральных губерній Расіі (1898, 1901), для пагарэльцаў у Кобрыне (1896).

Трэцім накірункам дзейнасці адзначанага таварыства ў разгледжаны перыяд трэба прызнаць выкананне ўскоснай ролі ў аказанні медыцынскай дапамогі грамадзянскаму насельніцтву ў мірны час. Для гэтага таварыства праводзіла падрыхтоўку медыцынскага персаналу і стварала свае лячэбныя ўстановы. Такім чынам, дзейнасць персаналу і ўстаноў Чырвонага Крыжа забяспечвала наяўнасць спецыфічнай формы (нароўні з дзяржаўнай, прыватнапрактыкуючай, грамадзянскай, гарадской, фабрычна-заводскай, страхавой медыцынай) арганізацыі медыцынскай дапамогі насельніцтву. Галоўнае ўпраўленне Расійскага Таварыства Чырвонага Крыжа ў 1900 годзе на адкрыццё Гродзенскай абшчыны сясцёр міласэрнасці вылучыла 2800 рублёў. Аналіз гістарычных матэрыялаў паказвае, што фінансава-арганізацыйны бок працы Гродзенскага Таварыства Чырвонага Крыжа быў дастаткова важным, яму надавалася значная ўвага, а вядзенне прыходна-расходнай дакументацыі выконвалася вельмі адказна. З фінансавай справаздачы за 1902 год вынікае, што грашовыя сродкі прыйшлі ад ахвяраванняў, членскіх узносаў, працэнтаў на капітал, а пайшлі на ўтрыманне Абшчыны сясцёр міласэрнасці, адкрыццё пры ёй амбулаторыі, аказанне дапамогі пацярпелым ад неўраджаю 1901 года, шамахінскага землятрусу, хворым і параненым на Далёкім Усходзе. Сёстры абшчыны неслі варту ў гродзенскім ваенным шпіталі і даглядалі хворых у прыватных дамах. 8 мая 1905 года Галоўнае ўпраўленне Расійскага Таварыства Чырвонага Крыжа прызнала магчымым усталяваць наступны штат для Гродзенскай Абшчыны сясцёр міласэрнасці: галоўны ўрач, пяць урачоў-спецыялістаў, пяць урачоў-выкладчыкаў. Па дадзеных Саўко (1990) ў 1910 годзе абшчына мела лазарэт на дзевяць коек і амбулаторыю, у якой за год было прынята больш як 7 000 хворых прычым, каля 25 працэнтаў — бясплатна. Апякунскі Савет абшчыны (апякунка Ушакова) 11 снежня 1913 года выбраў на пасады: галоўнага ўрача — Завадскага, старшых ардынатараў — доктара медыцыны Куркоўскага і ўрача Роутэнштэйна, малодшых ардынатараў — доктара медыцыны Энгельгарда, урача Саета, урачэй-спецыялістаў — Гаухмана і Эпштэйна. Аднак у маі 1914 года быў ужо іншы склад лячэбных устаноў абшчыны: загадчык — Куркоўскі, старшыя ардынатары — Энгельгард і Гаухман, урачы — Сает, Шапіра, Эпштэйн. У Беластоку ў пачатку XX стагоддзя таксама дзейнічала Абшчына сясцёр міласэрнасці (старшыня — Быкава), якая мела сваю амбулаторыю. У ёй з кастрычніка 1904 года ў якасці хірурга і выкладчыка «усердно» працаваў выпускнік медыцынскага факультэта (1895) Варшаўскага ўніверсітэта Разенталь.

## ШТО ТАКОЕ СТУДЭНЦКАЕ САМАКІРАВАННЕ, НАВОШТА І КАМУ ЯНО ПАТРЭБНА

### *Што*

*Гэта форма арганізаванай дзейнасці студэнтаў па рэалізацыі іх законных правоў і інтарэсаў, а таксама форма ўдзелу ў кіраванні ўніверсітэтам праз дзейнасць у яго савеце. Кіруючы орган — Савет студэнцкага самакіравання (СССК). У склад уваходзяць калегіяльныя (саветы факультэтаў) і выканаўчыя органы (камісіі). Рашэнні СССК прадстаўляюцца кіраўніцтву ўніверсітэта ў выглядзе пратаколаў пасяджэнняў і накіраваны на паляпшэнне ўмоў пражывання і баўлення вольнага часу, фарміраванне здаровага ладу жыцця і іншыя аспекты жыцця студэнтаў. Структуры самакіравання актыўна супрацоўнічаюць з уласна ўніверсітэцкімі — дэканатамі і рэктаратам, а таксама з кіраўніцтвам горада і вобласці.*

### *Навошта*

*Актыў СССК бярэ ўдзел і выступае як арганізатар у забаўляльных мерапрыемствах і конкурсах кшталту КВЗ, «Містар (і Міс) універсітэт», «Студэнт года», розных іншых акцыях — ад пасвячэння ў першакурснікі да канцэртаў і фестываляў. Гэта спрыяе рэалізацыі творчага патэнцыялу і пошуку новых талентаў, забяспечвае духоўнае і інтэлектуальнае развіццё студэнтаў-медыкаў.*

### *Для каго*

*Валанцёрскі рух — накірунак, які мае патрэбу ў асабліва імклівым развіцці і распаўсюджванні. Ён выпрацоўвае патрыятычны дух і выхоўвае лепшыя рысы характару, фарміруе асобу і вырашае праблемы актыўнага адпачынку — з карысцю для людзей, якія маюць патрэбу ў дапамозе. Студэнты ГрДМУ у дадзеным накірунку актыўнічаюць: распрацоўваюць і рэалізоўваюць арыгінальныя праекты, праяўляюць ініцыятыву ў дапамозе дзецям, інвалідам, ветэранам, наведваюць дзіцячыя дамы, праводзяць там ранішнікі, збіраюць сродкі на розныя віды дапамогі.*



*31 студзеня на моладзевым форуме ў Горках быў створаны Грамадскі рэспубліканскі студэнцкі савет (ГРСС) пры Міністэрстве адукацыі Рэспублікі Беларусь. Такое рашэнне было прынята пасля сустрэчы міністра Міхаіла Жураўкова з актывістамі. У Савет увайшлі прадстаўнікі ўсіх 54 ВНУ краіны. Галоўная мэта студэнтаў, якія выступілі з ініцыятывай стварыць такі савет, — дапамога спецыялістам у пошуку канструктыўных рашэнняў існуючых праблем праз стварэнне ўмоў для шырокага грамадскага дыялогу з уцягненнем у яго актыўнай, мыслячай моладзі. Дзейнасць савета спрыяе развіццю студэнцкага самакіравання на рэспубліканскім узроўні — з цесным супрацоўніцтвам прадстаўнікоў усіх ВНУ.*

*Адзін з нядаўна «запушчаных» праектаў у межах ГРСС — рэспубліканскі праект «Адукацыя вачыма моладзі», які дазваляе ўлічваць меркаванні ўсяго беларускага студэнцтва пры вырашэнні Міністэрствам адукацыі самых розных пытанняў.*

***Яўген КАЙМА,***
***старшыня Савета***
***студэнцкага самакіравання ГрДМУ,***
***студэнт 5 курса***

*Аксана ВАРАТНІКОВА*

# МАТЭМАТЫКА ГАРОДНІ



*Аляксандр Ларыёнаў у майстэрні, 2006 год.*



*Графіка Аляксандра Ларыёнава з цыкла, прысвечанага Арсенію і Андрэю Таркоўскім. «У імя айца і сына».*

Кубікі дамоў і трохкутнікі дахаў на партрэце горада. Лініі вуліц-тропак, арачкі мастоў — усё падпарадкавана, суадносіцца, вымерана ўзвышшам. Тут прызямляўся Хрыстос.

Пра горад…

Гарадзіць. Спачатку горад гародзіцца ад ворага дзеля спакою. Так і Гародня — вымерана здаўна, цыліндрамі Каложы дэкаравана!

Геаметрыю гэтага горада можна вывучаць па чарапках з мясцовага музея, малюнках сярэднявечнага абутку, касцяных ручках нажоў, грабеньчыках. Імя вучэльням — стары замак, новы замак. Захаваны да пары два аўтэнтычныя будынкі на нашых землях. Замкі. Іх сцены ахінаюць колкам памяці і шэптам перадаюць цішыню новага мінулага! Крок пэўнага памеру — Вітаўт, яшчэ крок — XX стагоддзе.

Праз свае акуляры разглядалі і падлічвалі жыццё даўняе Юзэф Ядкоўскі, Мікалай Воранін. Мы прачыталі ўслед за імі лінейны і хвалісты арнаменты на посудзе, перфарацыі малюнка абутку — яны скламіся ў прыгожыя тюльпаны і галінкі з завітком, зёлкі. Усё парастала, рухалася ў такт з прыродай. Кожнае дзейства для чалавека запакавана тут у форму характва-абярэгу і працуе як замова, страціўшы ўсё, акрамя маленькага зярнятка. Мы таксама кожны дзень працуем з гэтай пасадкай — круглая ямка, стромкае сцябло. Зерне наша расце. Зерне культуры аднаўляецца, як сама прырода.

Юзэф Ядкоўскі пачынаў сеткі і квадраты раскопак на Замчышчы, а Мікалай Воранін — здзівіў мяне лексіконам: знайшоў «візантыйскае смецце» тамсама!

Дапамаглі руплівцы з сайта «Veni Vici»: яны ўбачылі геаметрычны арна-

мент лесвіцы ў сучасным гарадзенскім доме. Падтрымка нашага погляду звонку.

Зігзаг
Хвалі
Крыжы

Зігзагі гісторыі ад мінулай славяншчыны, Чорнай Русі, да Літвы і дзяржаў, якія ўвесь час ў саперніцтве ператвараліся ў хвалі і накрывалі ўсіх. Ацалелых не было. Неслі крыж, стварыўшы і захаваўшых сваё.

Нечакана ўзрос на гэтай прасторы мастак Аляксандр Ларыёнаў. Аднойчы маці яго ў інтэрв'ю казала, што на дні народзінаў моцны вецер штурхаў, бура віравала!

Усё строга па палічках у «Гародні Ларыёнава»: тут кафедра на факультэце мастацтваў, дзе ён прамаўляў гісторыю сусветнага мастацтва, вышэй — майстэрня, дзе ўсё было — і графіка, і жывапіс, і акварэлі, і скульптура. Яшчэ крок — і на паліцы канферэнцыі. Было, у прыватнасці, выступленне з найцікавейшым дакладам на Міжнароднай канферэнцыі ў памяць Усера (Ігара) Давідавіча Розэнфельда. Пра парсуну XVII стагоддзя, якую ён знайшоў у Польшчы ў прыдарожнай ядальні. І абмеркаваў з літоўскімі, польскімі і расійскімі даследчыкамі. Лёгка так.

А потым яшчэ паралельны шлях, экскурс па Савецкай — як частка культурнай праграмы для нас, пра нашу гісторыю, з унікальнай прагулкай-прамоўкай Ларыёнава пра ўсё, што ведаў і любіў з мінулага Гародні. Разгляданне самага даўняга ў Еўропе гадзінніка на званіцы касцёла Францыска Ксаверыя. І вершы Адама Міцкевіча. І пра самога Міцкевіча, геаметрыя шляху якога — Гродна-Варшава-Парыж!

Яшчэ прыступка — галерэя Universum, якая была адкрыта ва ўніверсітэце з ягонай ініцыятывы. Галерэя новых поглядаў студэнтаў — у мастацкіх працах, лабірынце першых штудый і спелых пачуццяў! Потым — мастацкая галерэя «Тызенгауз», агульнагарадская. І ўсё гэта — пра аднаго чалавека, пачынальніка і насіцеля любові да горада ў барацьбе з самім сабой, атачэннем, хаосам людскім. За што людзі падзякавалі. Перада мной гэта кніга. Фаліянт у памяць мастака Ларыёнава быў выдадзены на сродкі ўніверсітэта і зацікаўленых сяброў. Усё сабралі пад адной абалонкай — папяровай,







не хапае толькі ягонай мары — не змясцілася. Трыццаць гадоў ён глядзеў і асэнсоўваў Мікалоюса Чурлёніса і пісаў ягоны творчы партрэт толькі яму вядомымі фарбамі. На жаль, не змясцілася ў яго жыцці і, мабыць, яшчэ наперадзе. Як сам Ларыёнаў пісаў у дзённіку: «Додумать!» Усё на гэтай зямлі у моцных руках часу.

Музей Старога замка захоўвае шмат таямніц, якія цяпер называюцца кодамі, шыфрамі, прыхаванымі намёкамі. Мы ўспрынялі прасліца з крыжыкам з фондаў Старога замка (раскопкі Турыйска) як магічнае колка з прароцтвам, матэматычную і адначасова духоўную адметнасць горада, перакрыжаванне з новым жыццём.

Рытміку горада не звялі наступствы нашай цывілізацыі. Яго прыгажосць — наша нацыянальнае багацце.

Уладзімір МАЗГО
neman@zviazda.by

# ВАНДРОЎКА НА КІРМАШ

## *Публіцыстычна-паэтычнае падарожжа*



*Сучасная Зэльва.*

Землякі запрасілі мяне ў Зэльву на Ганненскі кірмаш, які быў вядомы ў Еўропе яшчэ ў XVIII стагоддзі. Не паехаць я не мог. Маршрутны аўтобус «Радзіміч», набіраючы абароты, ляцеў на маю малую радзіму. Наперадзе былі абарончая царква-крэпасць у Сынкавічах і Ганненскі кірмаш у Зэльве. Падарожжа ў прасторы і часе пачыналася…

Вязе «Радзіміч» на радзіму,
Прасуе коламі шашу.
Як птушкі з выраю,
Ляцім мы,
Каб хоць паспець да кірмашу.

У нас адвечная праграма:
Ахоўваць
Продкаў карані.
Байніцы Сынкавіцкага храма
Маўкліва моляць:
«Барані!..»

Тут можна з вечнасцю сустрэцца,
Што з даўнім сябрам,
Твар у твар.
Як звон царкоўны,
Б'ецца сэрца,
Бо споведзь слухае
Абшар.

Раней —
І ў будні, і ў нядзелі —
У гонар Ганны прасвятой
У Зэльве кірмашы гудзелі
І запрашалі на пастой.
Вякі ці коні праляцелі
За далягляд на вадапой?..

* * *

Што такое царква-крэпасць? Многія з вас, напэўна, задумаюцца. Царква — гэта пабудова, дзе людзі моляцца Богу. А крэпасць — дзе бароняцца ад ворагаў. Ці маг-

чыма іх паяднаць у адно цэлае? Аказваецца, можна.

У вёсцы Сынкавічы Зэльвенскага раёна, недалёка ад шашы Зэльва — Слонім, узвышаецца царква Святога архангела Міхаіла. Яна ўзгадвалася ў пісьмовых крыніцах шэсцьсот гадоў таму. Некаторыя даследчыкі старажытнасці мяркуюць, што пабудавалі яе ў пачатку XV стагоддзя. Больш таго, адно з паданняў называе заснавальнікам Сынкавіцкага храма вялікага князя Вітаўта.

Паланёнага Вітаўта прывезлі ў Крэўскі замак і пасадзілі пад моцнай вартай. Крыху раней тут быў забіты ягоны бацька — вялікі князь Кейстут. Вітаўт разумеў: яго чакае такая ж доля, бо хітры і жорсткі Ягайла, наступнік вялікага князя Альгерда, хоча знішчыць свайго роднага дзядзьку і брата, каб завалодаць іх землямі. Князь Вітаўт пераапрануўся ў жаночае ўбранне і незаўважна пакінуў замак. Уцякаючы з палону, ён знайшоў сабе надзейны прытулак пад сялянскай страхой у ціхай лясной вёсцы на Гродзеншчыне. Перачакаўшы тут пагоню, ён сабраў войска і стаў з дапамогай яго адзіным уладаром Вялікага Княства Літоўскага — тагачаснай нашай дзяржавы.

А праз дваццаць пяць гадоў пасля свайго выратавання ад непазбежнай пагібелі — у знак удзячнасці Богу і мясцовым людзям — вялікі князь загадаў пабудаваць у той вёсцы храм. Невядомыя дойліды ўзнялі да нябёс волю Вітаўта — Сынкавіцкую царкву-крэпасць.

Так усё было ці інакш — ведае толькі Бог. Але, калі вы будзеце ў гэтых мясцінах, абавязкова наведайце крэпасць-храм. Я ўпэўнены: не пашкадуеце!..

І сёння Сынкавіцкая царква — сведка грозных падзей мінуўшчыны — зачароўвае магутнасцю і прыгажосцю. Яна ўяўляе сабой выцягнуты прамакутнік з памерамі 17,5 на 13 метраў. Сваімі паўтараметровымі цаглянымі сценамі і высокімі вежамі з байніцамі нагадвае старажытны замак. Заходнія вежы храма гранёныя, а ўсходнія — круглыя. Усярэдзіне іх знаходзяцца вінтавыя цагляныя лесвіцы, што вядуць да абарончых паясоў байніц, размешчаных у франтоне і дзвюх сценах пад дахам. Байніцы не толькі служылі дзеля абароны, але і з'яўляліся своеасаблівай аздобай знешніх сцен.

У архітэктуры храма вылучаюцца элементы розных стыляў таго часу: нішы на франтонах, круглыя вежы, высокі двухсхільны дах з вострым франтонам, стральчатыя аркі аконных праёмаў, зорчатае скляпенне... Усё гэта надае царкве яркасць і самабыт-



*Сынкавіцкая царква.*

насць як аднаму з помнікаў сусветнага значэння. Калі я гляджу на шэдэўр дойлідства, адразу прыгадваю паэтычныя радкі:

Не!..
Ворагі напіцца
Не здолеюць крыві.
Пакуль глядзяць байніцы,
Душою — не крыві.
Глуміліся падковы
Над намі
І мячы.
На вуснах з родным словам
Каналі крывічы...
Дзе жыта каласіцца
Вякамі —
Праз імжу
Маўклівыя байніцы
Ўглядаюцца ў шашу.

У кнізе наведвальнікаў храма нямала водгукаў ад турыстаў з Італіі і Францыі, Швецыі і Японіі, Галандыі і Сінгапура ды іншых краін свету. У царкву прыязджае шмат праваслаўных вернікаў з розных куткоў Беларусі, каб памаліцца Богу, душой дакрануцца да жывой гісторыі роднага краю.

Чырвоныя цагляныя сцены Сынкавіцкай царквы-крэпасці, здаецца, абпалены полымем мінулых войнаў і паліты крывёю нашых продкаў. А расплюшчаныя вочы байніц — з надзеяй глядзяць на нас, каб мы заўсёды памяталі сваю мінуўшчыну і бераглі мір на зямлі.

* * *

Аднойчы славуты Францыск Скарына сказаў: «Звяры, якія жывуць у лясах і пустынях, ад нараджэння ведаюць свае норы; птушкі, якія лятаюць у паветры, любяць свае гнёзды; рыбы, якія плаваюць у морах і рэках, чуюць свае віры; пчолы абараняюць свае вуллі; так і людзі да таго месца, дзе нарадзіліся і выраслі, вялікую ласку маюць».

Можа таму, што я нарадзіўся і вырас у Зэльве, а можа, з нейкай іншай нагоды, але да гэтага маляўнічага зялёнага гарадка на беразе хуткаплыннай Зальвянкі ласку маю сапраўды вялікую. А хіба магчыма інакш?..

Любімая зямля спакон вякоў,
Ты для мяне найлепшая на свеце.
Натхняючы сяброў і сваякоў,
Тут зоры над Зальвянкай ярка свецяць.

Табе клянуцца сейбіт і паэт:
Няма мілей нідзе кутка другога.
Дарога, што адкрыла цэлы свет,
Вяртаецца да роднага парога.

Дзе віравалі ўчора кірмашы,
Спявае сёння Зэльвенскае мора.
Расці, квітней і мары калышы,
Мой родны і любімы сэрцу горад.

Колькі гадоў Зэльве?.. Адказаць на гэта пытанне адназначна, бадай, немагчыма.

Зазірнуўшы ў кнігу беларускага археолага Л. Побаля «Древности Белоруссии в музеях Польши», можна даведацца, што ў 80-я гады XIX стагоддзя на тэрыторыі мястэчка была знойдзена «сякера з шэра-зялёнага каменю даўжынёй 6,5 см, шырынёй 4,5 см, таўшчынёй 2,5 см». Знаходка сведчыць аб існаванні жыцця на гэтай зямлі яшчэ ў эпоху неаліту.

А першая летапісная згадка Зэльвы адносіцца да 1258 года, калі князь Даніла Галіцкі ў час паходу на літоўскага князя Міндоўга ўзяў Ваўкавыск і паслаў атрад на чале з сынам Львом на Гародню, а ваяводу Міхайлу — ваяваць «по Зелеве». Пра гэта паведаміў нам Іпацьеўскі летапіс.

Ёсць меркаванне, што пачаткам Зэльвы паслужыла гара, якая ўзвышаецца над мясцовасцю на 20—25 метраў, з прыкметамі старажытнага паселішча і рэшткамі валоў. Менавіта на гэтую акалічнасць звяртае нашу ўвагу «Энцыклапедыя археалогіі і нумізматыкі Беларусі».

Дакладна вядома з пісьмовых крыніц, што ў 1470 годзе Міхаіл Начовіч заклаў у Вялікай Зэльве касцёл, пры якім у 1508 годзе быў заснаваны шпіталь. У 1477 годзе адкрыты касцёл і ў маёнтку Малая Зэльва, якім валодаў Іван Гінейтавіч. Пасля пераходу ў 1568 годзе ва ўладанне Мікалая Крыштофа Радзівіла Вялікая Зэльва стала называцца Зэльвай. У 1616 годзе пры князях Сапегах мястэчка складалася з рынка, трох вуліц — Дворнай, Мяжэрыцкай і Ваўкавыскай, сямнаццаці корчмаў і двух млыноў. У Зэльве імкліва развіваліся рамяство і гандаль. Аб росце мястэчка яскрава сведчыць і павелічэнне колькасці жыхароў: у 1701 годзе тут налічвалася 806 чалавек, а ў 1785 годзе — 1169...

Шмат вядомых людзей і важных падзей пабачыла гэта зямля. Напрыклад, у 1643 годзе князь Казімір Сапега прымаў у Зэльве караля Рэчы Паспалітай Уладзіслава IV.

Ішлі гады і вякі. Ад аднаго магната да другога пераходзіла мястэчка, але найбольшага росквіту дасягнула пры князях Сапегах, якія атрымалі прывілей 20 мая 1720 года ад вялікага князя літоўскага і польскага караля Аўгуста ІІ Моцнага на правядзенне штогадовых кірмашоў. З гэтага часу Зэльва становіцца адным з найбуйнейшых гандлёвых цэнтраў Еўропы.

Вось што піша пра гэта «Еўрабюлетэнь» (№ 5/2010): «Раней, калі праводзіўся Ганненскі кірмаш, людзі казалі: зэльвенцы адзінаццаць месяцаў на год сумуюць, а месяц жывуць. Кірмаш доўжыўся з 25 ліпеня да 25 жніўня. У XVIII стагоддзі ён быў другім па памеры кірмашом Старога Свету пасля Лейпцыгскага. На Ганненскі кірмаш, названы ў гонар святой Ганны, прыязджала да пяці тысяч купцоў, а гандлёвы абарот складаў да мільёна рублёў»...

Як бачым, Зэльва ўяўляла ў той час амаль што Лейпцыг у гандлёвых маштабах. Сюды з'язджаліся купцы з Расіі, Украіны, Польшчы, Францыі, Саксоніі, Баварыі, Нідэрландаў, Аўстрыі, Прусіі, Італіі, Даніі, Швецыі і іншых краін Еўропы. Тавары, прывезеныя на Зэльвенскі кірмаш, былі самыя разнастайныя. У расійскіх купцоў тут можна было набыць скураныя, жалезныя, медныя, бронзавыя вырабы, фаянсавы і фарфоравы посуд, футры, цукар, чай, цыгарэты, мыла, баваўняныя тканіны. Гандляры з Еўропы прапаноўвалі шаўковае, ільняное палатно, баваўняныя вырабы, швейцарскі сыр, турэцкі тытунь, напоі і бакалейныя тавары.

Як сведчыць кніга «Памяць. Зэльвенскі раён»: «Гандлявалі на Ганненскім кірмашы буйной рагатай жывёлай і коньмі. Іх прыганялі памешчыкі і гандляры Лідскага, Кобрынскага і Брэсцкага паветаў Гродзенскай губерні, часткова Валынскай і Люблінскай (Каралеўства Польскае) губерняў. Збывалі тут коней і Сапегі, якія мелі свой конны завод, дзе было каля паўтары тысячы галоў англійскай, дацкай і турэцкай парод.

Асноўным прадметам гандлю (54 %) было сукно, якое пастаўлялі са слонімскай, косаўскай, ружанскай, заблудаўскай і кнышынскай фабрык. Віленскія, гродзенскія і мінскія купцы забяспечвалі кірмаш цукрам, чаем, цыгарэтамі, тытунем, мылам, слонімскія і віленскія — галантарэяй».



Каб павесяліць народ, падчас кірмашу выступалі акрабаты, жанглёры, фокуснікі, цыгане з дрэсіраванымі мядзведзямі і тэатральныя калектывы. Аматары азартных гульняў мелі магчымасць зацугляць сваю ўдачу ў рулетцы, якую прывезлі ў Зэльву з Парыжа і празвалі «фартунай». Вялікай папулярнасцю сярод наведвальнікаў кірмашу карысталіся таксама шынок пані Валабрынскай і драўляны павільён, празваны «сабачай горкай», дзе пад музыку некалькіх скрыпачоў можна было пры жаданні танчыць ажно да раніцы.

Найбольшага свайго росквіту славуты Зэльвенскі кірмаш дасягнуў у канцы XVIII — пачатку XIX стагоддзя, калі сюды штогод прывозілася тавараў на суму да трох мільёнаў рублёў асігнацыямі. На працягу амаль 130 гадоў ён быў самым буйным у Вялікім Княстве Літоўскім.

У наш час адбываецца аднаўленне традыцыі вялікага Ганненскага кірмашу, вяртанне яго з мінулых стагоддзяў у сучасную Зэльву.

Рэальнасць,
Прагнаўшы міраж,
На змену сумненням прыходзіць:
Вяртаецца ў Зэльву кірмаш
З далёкіх мінулых стагоддзяў.

З шыкоўнай карэты сышоў,
На плошчу спяшаецца пехам,
Каб лепшы адкрыць з кірмашоў,
Што Ганненскім клічуць,
Сапега.

Дзябёлы,
Як бульбы капец,
Рахманы,
Як конь зацугляны,
Стаіць разамлелы купец
І строіць багатыя планы.

Гандляр, перагрэты,
Скрывіў
Ад спёкі асмяглыя губы —
Усмешкай сагрэў краявід
У знак паспяховай рахубы.

Віруе кірмаш і гудзе.
Шчыруюць і людзі,
І коні...
Не ўчуеш такое
Нідзе,
Не ўбачыш такога
Ніколі.

Глыбока ўзараўшы пласты
Стагоддзяў,
Там конік з разбегу
У зэльвенскім скверы застыў,
Чакаючы князя Сапегу.



Кажуць што Сапегі вельмі цанілі Зэльву і ў сваіх уладаннях называлі яе «Зэльвенскім графствам». У XVIII стагоддзі яны адкрылі тэатр, у якім ігралі прыгонныя беларускія, вольныя французскія і польскія акцёры.

Развіццю Зэльвы спрыяў не толькі Ганненскі кірмаш. Тут праходзіў важны гандлёвы шлях: Мінск—Слонім—Ваўкавыск—Гродна—Беласток. Зальвянка ў той час была суднаходнай і пераўтварала мястэчка ў дзеючы рачны порт. А ў 1886 годзе на чыгунцы Беласток — Баранавічы адкрылася станцыя «Зэльва».

Дарэчы, начальнікам зэльвенскай чыгуначнай станцыі ў 1920 годзе працаваў бацька будучага паэта Валянціна Таўлая. А шасцігадовы Валік з трапятаннем у сэрцы слухаў гудкі цягнікоў і ляскат колаў, наталяючы нястрымную прагу дарог. У Зэльве памерла і пахавана яго маці, пасля чаго Таўлаі пераехалі на Слонімшчыну.

Зэльвенская зямля ва ўсе часы была багатая на літаратурныя таленты. З ёю цесна звязаны лёсы многіх паэтаў, празаікаў, драматургаў, публіцыстаў, якія нарадзіліся, вучыліся альбо жылі і працавалі ў гэтым паэтычным кутку...

Шмат гадоў у зэльвенскай раённай газеце «Праца», якая з’яўляецца пераможцам Нацыянальнага конкурсу друкаваных сродкаў масавай інфармацыі «Залатая Ліцера», рэгулярна выходзіць літаратурная старонка «Зоры над Зальвянкай». Адпаведную назву носіць і мясцовае літаратурнае аб’яднанне. Памятаю, як у снежні 1975 года мне, дзесяцікласніку сярэдняй школы, выпаў гонар прадстаўляць Зэльвеншчыну на Рэспубліканскім семінары-нарадзе кіраўнікоў літаб’яднанняў у Мінску, бо ўжо ў той час актыўна друкаваўся ў многіх перыядычных выданнях.

Болей за два дзесяцігоддзі «Зоры...» запальваў вопытны краязнаўца Пётр Марціноўскі, які падрыхтаваў да друку зборнік вершаў паэтаў-землякоў «Зоры над Зальвянкай». Пры падтрымцы Зэльвенскага райвыканкама кніга пабачыла свет у 2008 годзе.

